Вакол Верамеек наогул багата крыніц — адны выкапаны гаспадарлівымі людзьмі, якім выпала дзе працаваць працяглы час, адчуваючы смагу, другія самі выструменілі на паверхню з сярэдзіны зямлі. Ва ўсякім разе, куды б ні ішоў з Верамеек у не лішне далёкую дарогу чалавек, ён не браў з сабою біклажку, бо заўсёды меў магчымасць напіцца [redacted] бліжкай крыніцы. Гэту крыніцу выкапаў захожы салдат, яшчэ калі быў у вёсцы прыгон, а ў войску — рэкрутчына. Салдат трапіў у Верамейкі, ідучы па дарозе з Унечы — вяртаўся з царовай службы ці то ў Маластоўку, якая была за трыццаць вёрст адсюль, ці то нават у Латоку. Пражыў ён у Верамейках... Але не. Якраз вось гэтага ніхто не захаваў у памяці. Вядома толькі, што ўпадабаў салдат сабе ў вёсцы кабету, чужую ўдаву, наняўся касіць ёй пожню, ну і, як бывае звычайна ў лагодзе ды згодзе, прыжыў малое. Але памяць аб сабе пакінуў у Верамейках не тым, а гэтай вось крыніцай. Дужа прыдалася яна верамейкаўцам, ажно пачалі з тае пары клапаціцца, каб не звёўся кволы струменьчык, вада якога была заўсёды халодная і смачная. Былі таксама спробы зрабіць крыніцу святой. Адзін год нават крыж ставілі побач мужыкі. Але нехта адгаварыў вёску — маўляў, салдат, які знайшоў гэту ваду, быў чалавек грэшны, дык навошта працу яго рук ператвараць у святую справу? Крыж занеслі назад у вёску, а крыніцу неўзабаве раскапалі шырэй і ўзялі ў дубовую кадушку, каб было яе на доўгія гады. Такім чынам, крыніца стала падобная на звычайную студню, з якой можна было ўранні чэрпаць вёдрамі ваду ўсім вясковым канцом. Але з вёдрамі сюды верамейкаўцы не хадзілі — не так блізка. З гэтай крыніцы пілі ваду тады, як касілі гарачым летам сухадол. Другім жа часам, крадком ад людзей, карысталіся ёю звяры — насельнікі недалёкага лесу. Сёння вось наталіць смагу ішлі гэтыя ласі...

Нарэшце Зазыба адвёў вочы ў бок ад вірлівага натоўпу, спыніў позірк ужо на самой крыніцы і прыгадаў нечага, як Чубар загадаў пазамінулым летам, каб калгаснікі пачысцілі дно. Яго абурыла, што крыніца заплыла пяском акурат па самае дупельца, прасвідраванае для сцёку лішняй вады, та таго ж, знутры сценкі кадушкі пабраліся травой-ліпучкай, накшталт вадарасцяў ці нават звычайнай ціны, дзе хаваліся жабы-жарлянкі. Адным словам, у наяўнасці была, на яго

думку, брыдкая безгаспадарлівасць, якая характарызавала верамейкаўцаў, самае лепшае, як дужа неахайных людзей — дзе ж гэта яшчэ дадуць, каб забрудзіўся калодзеж, і новы старшыня калгаса не прамінуў тыцкнуць Зазыбавых аднавяскоўцаў тварам у гразь. Ну, а сваволя горай нявол. Пачалі мужыкі раскопваць крыніцу, хоць і ведалі добра, што гэта небяспечна ёй: досыць няўмела патрывожыць верхні пласт намытага знізу пяску, як яна раптам пачынае чэзнуць, бо некуды прападае той пульсуючы ключ, што гоніць з глыбіні сцюдзёны струмень, і тады колькі ні шукай яго, калупаючы грунт рыдлёўкай, усё дарэмна, аж пакуль сам, праз багата часу, не выб'ецца зноў на паверхню. Гэтак здаралася з крыніцай двойчы — першы раз, калі стаўлялі дубовую кадушку, тады яна высахла на доўгае лета, толькі ўвосень неспадзявана напоўнілася вадой, спярша верамейкаўцам нават падумалася, што наліло яе дажджамі; другі раз — пасля таго, як мужыкі паспрабавалі пачысціць крыніцу,— кадушка заставалася без вады яшчэ надаўжэй, здаецца, ці не да наступнай вясны. Пазалетась верамейкаўцам таксама давялося насіць біклажкі з вадой сюды і ў касавіцу, і ў жніво. Мужыкі, вядома, пацвельваліся — і з новага, ды вельмі пryткага старшыні, і з саміх сябе, а верамейкаўскія бабы клялі, выціраючы пот, тых жа мужыкоў, што не адгаварылі Чубара...

Адлегласць да крыніцы з кожным крокам змяншалася.

Зазыбу з Брава-Жыватоўскім заставалася адно абмінуць невялічкую балацявіну, акурат сажалку ці звычайную копанку, каб трапіць на сцежку і па ёй ужо датупаць да вяскоўцаў, што стоўпіліся вакол сахатага.

Здавалася б, нізкае барвовае сонца (яно ўжо ледзь не кацілася па правым схіле верамейкаўскага кургана — бліжэй ды бліжэй к захаду), што высвечвала сухадол па ўсёй яго няроўнай, бы здзёртая звярыная шкура, шырыні, павінна было адпаведным чынам пафарбаваць і цёмна-зялёную атаву, якая недарасла да другога ўкосу, прынамсі, у самы звычайны, з надвячэрняй празалоцццю колер, але наперадзе, якраз у прасцягу паміж крыніцай і лесам, сухадол быў акурат пасярэбраны, быццам там ужо выпала на ноч раса ці, наадварот, аднекуль выпаўз рэдкі, нясмелы туман, які

цяпер, баючыся прыўзняцца і рассеяцца ў паветры, з усяе сілы чапляўся за вострыя, як у лясным змяёўніку, макаўкі кволай атавы.

Аглядаючы знаёмы краявід, Зазыба раптам адчуў шчымлівы неспакой у душы, які быў пакуль незразумелы нават самому — можа, той з'явіўся ад замілаванасці да ўсяго ўбачанага, што спярша зусім непрыкметна, бы ластаўчыным крылом, страпянула яму грудзі, а тады падступілася да сэрца нейкай амаль беспрычыннай малінавай журбой.

Перад тым як узысці нарэшце на торную сцежку, Брава-Жыватоўскі быццам спахапіўся, што не паспее сказаць усяго, і зноў пачаў гаварыць, але нават голасам даваў зразумець, што нядаўняга Зазыбавага намёку сапраўды не прымае і нічагусенькі не баіцца.

— Я разумею, ты злуешся, што я гавару гэтак, можаш не пярэчыць, усё роўна злуеш. У цябе сёння сапраўды кошкі на душы шкрабуць — калгас рушаць. Але ты думаеш, што ўва ўсіх таксама гэтыя твае кошкі на шлунку сядзяць? Памыляешся. У мяне вочы ёсць — рады верамейкаўцы, што назад бяруць усё. Здаецца ж, пажылі ў калгасе, паспыталі раю, а вось жа зноў у пекла спяшаюцца. Не глядзі, што Вяршкоў ці другі хто ва ўсім табе патрапляюць, робяць выгляд, быццам аб адным з табою дбаюць. У іх у галаве сваё, Зазыба. Яны сёння, як на тым вяселлі, аднымі вачамі на жаніха глядзяць, а другімі на нявесту, адны словы табе кажуць, а другія пры сабе трымаюць. Пра гэта сказала б табе нават зямля, каб гаварыць умела. О, колькі яна сённяшні дзень пабачыла радасных вачэй! Вунь бабы, якія схіліўшыся жнуць палосы, разумееш, зноў свае палосы,— дык якія ў іх вочы? Ты б пацікавіўся ды зірнуў. А зямля ўсё бачыць. Гэта толькі мужыкі ды бабы не хочуць перад табой радасць паказаць. Можа, шкадуюць нават цябе з павагі, а можа, гэтак хітруюць. Праўду ўчора ты сказаў на праўленні...

— Адкуль табе вядома, што я гаварыў на праўленні? — агрызнуўся Зазыба, нібыта яму і сапраўды няўцям было, што паліцэйскі яшчэ тады ж паспеў пра ўсё выведаць у Мікіты Драніцы.

— Каб мне ды не дазнацца цяпер, што ў Верамейках робіцца!

— Хіба што!

Гэтае зларадное Зазыбава «хіба што» неспадзявана збянтэжыла паліцэйскага. Мусіць, каб не выдаць сваёй збянтэжанасці, ён ад ніякаватасці нагнуўся і на хаду, амаль з-пад нагі, падхапіў плямісты, зусім падобны на птушынае яйка, дзіч, адкінуў прэч, нібыта невялікі камень стаў перашкодай у яго на шляху.

Зазыба адчуў збянтэжанасць свайго спадарожніка, усміхнуўся, здавалася, пасля гэтага Брава-Жыватоўскі альбо зусім пачне злаваць на Зазыбу, альбо перастане лезці са сваёй гаворкай у душу, але дарэмна. Ён зноў перасмыкнуў ад прыкрасці шчакой, выціраючы тым часам аб штаніну руку, якой браўся за дзіч, хоць на ім ці было што, апрача сухога пяску, а тады пачаў:

— Помніш, ты гразіўся мне, як ехалі з мястэчка,— маўляў, сам па сваёй ахвоце лезу ў пятлю? А ты вось? Думаеш, па табе асіна ўжо наперад не плача, раз такія пратаколы асмельваешся пісаць?

— Значыць, абодвум нам пятлі не мінаваць.

— А гэта яшчэ як выйдзе. Нездарма ж кажуць, бабка на двох варажыла.

— На карты?

— А што?

— А тое, што дрэнны ты гулёк на картах.

— Ды ўжо як-небудзь...

— Ну, ну...

Брава-Жыватоўскі пагардліва ўсміхнуўся.

— Яшчэ пабачым, што ты адкажаш Гуфельду, чаму распусціў калгас?

— Якому Гуфельду?

— Каменданту.

— А-а-а...

— Я ж казаў табе, не чапаць.

— Ці мала што можна казаць. Распараджэння ж я ад каменданта твайго не палучаў.

— Затое я табе гаварыў.

— Хіба што. Але ж можна і так — нічога ты мне не гаварыў.

— Значыць, адмаўляешся?

— А і адмаўляюся.

— Ну што ж, пабачым.

— Дык не адна ж мая ахвота была зрабіць гэтак з калгасам. Збіралася праўленне, на ім і рашалі. Так што...

Ужо даляталі блізкія галасы ад натоўпу. А гэта

значыць, што іхнюю гаворку мог пачуць хто-небудзь. Таму Брава-Жыватоўскі не стаў пярэчыць Зазыбу.

Мікіта Драніца, вядома, і тут не мог здрадзіць сваёй натуры, каб першаму не перастрэць верамейкаўскае начальства. Як толькі згледзеў блізка Брава-Жыватоўскага з Зазыбам, то выскачыў з натоўпу напярэймы.

— Гляньце вунь, як тэй таго, татарын аленя ўкокаў!

Мікіта, бадай, у захапленні быў, што Рахім гэтак спрытна застрэліў не бачаную дасюль у забяседдзі рагастую жывёліну, але губляўся, не ведаючы, каму з двох, Зазыбу ці Брава-Жыватоўскаму, аддаць перавагу, таму вочы яго па-сабачы вінавата блукалі паміж адным і другім і былі маленькія, мусіць, таксама з тае прычыны.

— Не аленя, а бытта лася,— пасняшаўся на дапамогу Мікіту Сілка Хрупчык,— бо ў аленя...

Але Зазыба не стаў слухаць Сілкава ўдакладненне. Пакідаючы Брава-Жыватоўскага, які дапаў да Мікітавай гаворкі, ён хуценька прайшоў па жывым калідоры, што ўтварылі перад ім, якраз уздоўж сцежкі, верамейкаўскія мужыкі і бабы. Сапраўды, на сцежцы ляжаў нежывы лось. На момант Зазыба прыгадаў, як вазіў у Бабінавічы на спасаў дзень па даручэнні сакратара райкома Маштакова і незнаёмага вайскоўца Марылю і як па дарозе, за Гарбатым мастком, прыкмеціў круглы, не бачаны дасюль у забесядскім лесе памёт. «Значыць, гэта ласі завіталі да нас аднекуль»,— падумаў цяпер чамусьці зусім без жалю па забітым прышэльцы Зазыба і пільна, як і вымагала таго сапраўднае дзіва, агледзеў сахатага. Той ужо не падаваў ніякіх адзнак жыцця. Гарбаносая галава яго, у якую трапіла куля, бездапаможна ўткнулася шэрай пысаю ў сцежку, а з ноздраў тонкімі вяроўкамі сцякала, загусаючы, скрываўленая жыжка. Куды дакладна, у якое месца на галаве пацэліла куля, Зазыба не знайшоў, бо звер пасля стрэлу паваліўся на зямлю тым, прастрэленым правым бокам; нячыстая, як забруджаная, белая поўсць на магутных грудзях была вымазана ўжо крывёй, што нацякала на сцежку з нябачнай раны. Відаць, сахаты зусім не біўся ў перадсмяротных сутаргах, бо зямля вакол была не папорканая — ні там, дзе ляжалі цяжкія рогі, што яшчэ не паспелі як трэба адрасці ў гэтым годзе, і пасынкі тырчалі, бы чортавы пальцы, ні суп-

раць капытоў, вузкіх і раздвоеных, як у звычайнага вала. Лёгкая смерць зусім не абязвечыла ляснога волата. І калі б не кроў на сцежцы ды гэтая бездыханная нерухомасць яго, то льга было падумаць, што звер раптам нечага забавіўся тут і заснуў, адно няўдала месца сабе выбраў, а людзі, якія стоўпіліся вакол, ішлі аднекуль па сцежцы ды прыпыніліся, каб падзівіцца, злашча дзівіцца і праўда было з чаго: лось вырас на волі прыгожы — з цяжкімі грудзямі і лёгкім, быццам для палёту, коса адсечаным азадкам, з тонкімі, акурат вытачанымі нагамі, светлая поўсць на якіх заходзіла вышэй каленак, з сухарлявым, як ніколі не кормленым, жыватом, праз які ледзь не ад завушніцы бялела шырокая паласа... Зазыба спакваля, як у ціхмянай задуманасці, абышоў кругом сахатага — упершыню ж даводзілася бачыць гэтак блізка, тады зноў вярнуўся да ўзгалоўя. Мінаючы тое месца, дзе ляжалі, бы паваленае царскае крэсла, разгалістыя рогі, ён неасцярожна зачапіўся левай нагой за крайні пасынак, самы даўжэйшы [redacted] усіх, але ласёва галава ад гэтага, здаецца, нават не зварухнулася, толькі балюча засадніла вялікая бярцовая косць, якой Зазыба выцяўся.

Пакуль Зазыба з непадробнай цікавасцю аглядаў забітую жывёліну, адбылося нечаканае — нават не столькі нечаканае, колькі непрадбачанае, прынамсі сёння, бо найважнейшыя падзеі гэтага дня ўжо пэўна што адбыліся: зранку верамейкаўцы ўзяліся за падзел калгаса (хіба не падзея?), а цяпер вось татарын застрэліў сахатага (таксама мужыкам размоў на цэлыя гады!). Такім чынам, дзень і так ужо быў поўны адметнымі падзеямі, быццам укоптарак. Здавалася б, якога ражна яшчэ трэба? Але здарылася менавіта тое, чаго ў Верамейках, хоць і са страхам, аднак чакалі. Па адным ужо тым, як раптам аціхлі вакол галасы, Зазыба мог даўмецца, што людзей нешта насцярожыла. Але ён яшчэ патупаў трохі, быццам цяпер толькі ўсведамляючы, якая недарэчнасць выйшла з гэтым забойствам; ён ужо гатовы быў апякчы вачамі і самога стральца, ажно пачуў гарачы шэпт, няйначай, хтосьці ўспомніў маліцца, хоць для малітвы ў голасе было залішне трывогі і плаксівай разгубленасці. Між тым адгадка была простая — да сухадолу імчалі, гарцуючы ў сёдлах, нямецкія коннікі. І ўсе ўжо, акрамя Зазыбы, бачылі іх — і Чубар, які баяўся выйсці на луг з-за

кустоў ядлоўцу, і тыя кабеты, што не пабеглі разам з іншымі да крыніцы, а па-ранейшаму хапаліся жаць у Паддубішчы, і, вядома, усе на сухадоле. Зазыба падняў галаву ўжо на выразны тупат конскіх ног. Рассыпаўшыся паўкругам па схіле, коннікі, якія таксама чулі стрэл, відаць што мелі праз гэта намер захапіць натоўп знячэўку, каб ніхто не здолеў уцячы ў лес, да якога рукой падаць. Той-сёй з верамейкаўцаў, падпарадкоўваючыся інстынкту самазахавання, пачаў неўпрыкмет адступацца назад, патрапляючы стаць суседу за спіну. Следам за коннікамі, калываючыся на выбоінах, выпаўз з-за пагорка і пакаціўся па ўзмежку лёгкі бронеаўтамабіль «Хорх».

Зазыба другі раз бачыў немцаў — тады, як вазіў у мястэчка Марылю, і вось цяпер. Але ў адрозненне ад першага разу сёння ён нават не спалохаўся, згледзеўшы іх. Здаецца, ні адна жылка не здрадзіла і не страпянулася ў ім. Халоднымі вачамі абвёў ён на захадзе па самым грэбні пазлацанае ўзвышша і са спакойным клопатам, як толькі здольны рабіць спрактыкаваны пастух са збродлівым статкам, пералічыў коннікаў. Немцаў было дзевяць, вядома, апрача тых, што ехалі ў бронеаўтамабілі. Але праз коўраты ўжо на гуцянскую дарогу выступала з вёскі цэлая вайсковая часць...

Зазыба чакаў, пакуль наблізяцца немцы, усё больш пранікаючыся тым, што адбывалася на яго вачах; ураўнаважанасць, можа, нават і сапраўды спакойнасць, з якой ён адкрыў для сябе блізкую прысутнасць немцаў, паступова пакідала яго, і ён самым звычайным чынам пачынаў хваляваецца: мусіць, настрой аднавяскоўцаў паступова перадаўся і яму. Як перад вялікім выпрабаваннем, Зазыба глянуў з невыразнай надзеяй па два бакі ад сябе. Справа, амаль прыхінуўшыся да яго пляча, стаяў і таксама не зводзіў палахліва здзіўленых вачэй з немцаў Парфён Вяршкоў. Ад таго, што поруч апынуўся менавіта гэты чалавек, зрабілася хораша на душы ў Зазыбы, вядома, у такой ступені, якую дазвалялі час і акалічнасці, але Зазыба схільны быў прызнаць, што якраз Вяршкова і спадзяваўся ён убачыць бліжэй за ўсіх. Прыкмеціў Зазыба ў натоўпе сярод баб і Марфу сваю. Гэта здзівіла ажно—не думалася, што і яна тут. Марфа стаяла трохі наўскасок і ззаду, але, здавалася, зусім не талопіла вочы, як іншыя, на немцаў, якія ўжо міналі крыніцу, нібыта ў душы яе

перад імі не было страху. Позірк яе бліскучых вачэй быў скіраваны на мужа. У ім Зазыба прачытаў недаўменне, усё роўна як Марфа не разумела чагосьці і вось лавіла момант, каб дазнацца пра тое ад мужа. І яшчэ Зазыба ўбачыў — і гэта выклікала ўсмешку, якая хоць і не паспела адбіцца на твары, але пэўна што была недарэчнай: як хаваюць пад сябе квочкі ад спорнага дажджу ці небяспечнага коршуна куранят, так і верамейкаўскія бабы, жагнаючыся ў роспачы, гатовы былі ратаваць цяпер сваіх дачок, адно ставала б на тое андаракоў ды спадніц...

Мала не наскочыўшы на ўтрапёны натоўп, коннікі раптам асадзілі скакуноў. Васьмёра з іх трымалі напагатове кароткія, быццам урэзаныя, карабіны. Дзевяты быў афіцэр. Пра гэта можна было здагадацца нават па шапцы з высокай тулляй, на аколышку якой блішчала вакол чырвонага, быццам запаленага з сярэдзіны, вочка дубовае лісце кукарды з шасцю маленькімі жалудамі. Выгінаючы шыі, рысістыя коні з закручанымі ў куксы хвастамі струнілі нагамі, ледзь не становячыся на дыбкі ад напятых павадоў, і моцна секлі падковамі набрынялую атаву. Здавалася, адно паслаб хто з коннікаў повад, як разгарачаны конь ірванецца з пенай на зубах далей у натоўп і пачне ўтоптваць у зямлю безабаронных людзей. І ўжо не дай бог, калі гэта зробяць усе разам...

Насупленыя коннікі агледзелі зверху натоўп і, не вылучыўшы ў ім нічога вартага ўвагі альбо проста падазронага (гэта найперш, бо сярод мужыкоў стаялі нават два паліцэйскія з павязкамі на рукавах), пачалі раптам выскаляцца адзін да другога: мусіць, недарэчнымі і смешнымі ў сваім утрапенні здаліся ім вясковыя людзі, што стаялі насупраць забітага лася, але ні адзін з іх не памкнуўся павесіць — няйначай, без каманды — карабін на плячо. Тым не менш гэтыя дурнаватыя салдацкія ўсмешкі ўжо як не пачыналі здымаць тое ўтрапенне з верамейкаўцаў, бо той-сёй ажно стаў разяўляць — і, пэўна ж, па-дурному, зусім неўсвядомлена — рот, паказваючы па прыкладу коннікаў зубы і пераглядваючыся. Але маўклівасць не знікала аж да таго моманту, пакуль не зачмыхаў блізка запылены «Хорх», прывёзшы на ўхаладзелы сухадол смурод адпрацаванага бензіну, выпушчанага вонкі дыму і пах нагрэтай фарбы, што ільснілася, быццам спацелая, на

нізкай шасцікутнай вежцы, спераду якой кратаўся кулямёт. Тады нібыта пасмялеў афіцэр. Выпрастаўшы калена і стаўшы на левае стрэмя, ён гопнуўся на рыпучым жоўтым сядле, спрытна перанёс цераз канёў крыж правую нагу ў глянцаваным, цалкам кавалерыйскім боце, на абцасе якога бліснула ў вочы сялянам серабром звонкая шпора. Калі афіцэр, ужо стоячы абедзвюма нагамі на зямлі, аддаў другому конніку, што трапіўся бліжэй да яго, повад свайго мышастага, але трохі цяжкаватага на выгляд скакуна і рушыў да верамейкаўцаў, знарок ляпаючы па левай далоні, быццам шпіцрутэнам, плёткай-валасянкай, усе ўбачылі, што гэта быў цыбаты чалавек з кароткім тулавам, якое пачынала тлусцець, можа, якраз на вольных акупацыйных харчах, бо з куртатага кавалерыйскага фрэнча шэрага колеру неяк па-качынаму выпіраў жывот, нават не жывот, а пакуль усяго рахітычнае пузца; галава ў афіцэра была вушастая, з кароткай, да самай чырвонай скуры, стрыжкай і дробная, акурат у падлетка, таму і вуграваты твар яго з невыразнымі рысамі здаваўся па-дзіцячы маленькім і нязлосным; прынамсі, гэты нямецкі афіцэр выглядам сваім нават і трохі не нагадваў таго дабрароднага тыпу, які належаў па «сістэме прыроды» да германскай расы. Праўда, апошняя акалічнасць зусім абыходзіла верамейкаўцам. Тыя не толькі не мелі магчымасці займацца цяпер такімі антрапаграфічнымі назіраннямі, але і няздольныя былі наогул па сваёй недасведчанасці, можа, за выключэннем аднаго Брава-Жыватоўскага, які ў адрозненне ад іншых аднавяскоўцаў, што прысутнічалі тут, з большай зацікаўленасцю, а дакладней, ужо амаль свядома ставіўся да ўсяго прачытанага і пачутага. Але ў Брава-Жыватоўскага галава была занята другім. Скеміўшы, што афіцэра, няйначай, прывабіў застрэлены лось, паліцэйскі, як прадстаўнік аховы парадку ў вёсцы, кінуўся праз натоўп мужыкоў ды баб расчышчаць шлях, быццам не спадзяваўся, што тыя самі не здагадаюцца альбо, яшчэ горш, не захочуць расступіцца перад немцам. Аднак дарэмна — мужыкоў гэтаму вучыць не трэба. Не паспеў афіцэр зрабіць першыя крокі, а вяскоўцы ўжо заклапочана заварушыліся. Папіхаючы задамі адзін аднаго, яны адхіснуліся на бакі, утвараючы праход да лася. Ды так шырока, каб афіцэр не толькі не зачапіўся ненарокам за каго-небудзь, а і не да-

стаў плёткай. І пакуль ён няспешна, па-буслінаму, тупаў па гэтым праходзе, чыркаючы шпорамі па мурагу і не перастаючы ляпаць па далоні распушанай на канцы, быццам хвост нейчы, плёткай, з яго няскладнай постаці не зводзілі позіркаў багата сялянскіх вачэй, насцярожана-недаверлівых і ліслівых, спалоханых і хітравата-пагардлівых — гэта ўжо цалкам залежала ад таго, як хто разумеў сваю грамадзянскую годнасць ці нават, калі хочаце, сваю ўяўную вінаватасць перад акупантамі: урэшце, не маглі ж аднолькава глядзець на гэтага афіцэра, напрыклад, савецкі патрыёт Зазыба альбо перакідлівы і беспрынцыповы абібок Драніца, добраахвотны паліцэйскі Брава-Жыватоўскі альбо мнагадзетная старшыніха Гаўрыліха... Нарэшце афіцэр дакрочыў да забітага звера і спыніўся блізка ля ўзгалоўя. Тады зноў кінуўся дагаджаць яму Брава-Жыватоўскі.

— Пан афіцэр,— пачаў ён як не сваім голасам, ажно было з чаго падзівіцца верамейкаўцам,— гэта вам... вам ад нас вось... Гэта прэзент доблеснай германскай арміі ад сялян...

Брава-Жыватоўскі акурат выбраў, з чым найперш звярнуцца да нямецкага афіцэра, шчыра думаючы, што сваім паднашэннем выкліча, як у таго міфічнага бога, прыхільнасць, але ён не мог улічыць, што ў гэтага даўганогага і вугратага заваёўніка апрача пагарды, прасякнутай усведамленнем сваёй вышэйшасці, раптам зварухнулася ў душы звычайная паляўнічая зайздрасць, нездарма ж ён з'яўляўся да вайны раённым кіраўніком прускага таварыства аматараў прыроды і палявання. Калі загаварыў Брава-Жыватоўскі, паказваючы на нежывога лася, афіцэр зрабіў пакутлівы твар, усё роўна як недавольны стаў, што раптам адарвалі ад прыемнага сузірання; вочы яго нібы патанулі ў прадонні арбіт, схаваліся па самыя зрэнкі пад вадзяністымі павекамі. Афіцэр яўна пачаў злавацъ, бо, мусіць, дужа лёгкі, акурат недарослы, быў на злосць, а там ужо, такім чынам, і на ўсё астатняе. Але Брава-Жыватоўскаму пакуль было няўцям. Паліцэйскі толькі падумаў, што немец не разумее ягоных слоў, таму ён адразу павярнуўся да верамейкаўцаў, каб адшукаць у натоўпе Мікіту Драніцу і ўжо з дапамогай таго даводзіць перад афіцэрам свой дабрачынны намер. Мікіта нагадзіўся на вочы хутка — яны з Сілкам Хруп-

чыкам стаялі амаль на праходзе, быццам вартавалі парадак, каб ніхто не заступіў дарогі назад.

— Растлумач па-іхняму пану афіцэру!

— Дык што, як тэй таго, тлумачыць трэба?

— Ну, што я гэта ім... што мы ўсе вось, хто тут ёсць, гэтага лася...

Можа, дзеля таго каб пачуць Брава-Жыватоўскага дакладна, верамейкаўцы раптам заварушыліся ўсім натоўпам і зноў, бы авечкі ў статку, пачалі цясніць адзін аднаго, прапускаючы смялейшых бліжэй да гамонкі.

— От жа народ! — незалюбіў гэтай цікаўнасці Брава-Жыватоўскі і апёк вачамі вяскоўцаў, каб неяк асадзіць тых.

А Мікіта тым часам стаяў побач як апараны: па-першае, ён так і не пачуў усяго ад Брава-Жыватоўскага, што павінен быў сказаць афіцэру, па-другое, раптам вылецелі з галавы патрэбныя нямецкія словы. Небарака сіліўся хоць трохі прасеяць іх праз сваю думку, але дарэмна. Кожны раз чамусьці на памяць прыходзіла адна і тая ж напаўзабытая прыпеўка, у якой невядома чаму з'явілася чужое слова «варум» *. «...Варум ты не прыйшоў?» — пыталася ў хлопца дзяўчына і чула ў адказ: «Матка лямпу патушыла, а я лапці не знайшоў». Раптоўнае выгасанне памяці пагражала кепска абярнуцца для Мікіты Драніцы. Але як напраўду, то гэтае выгасанне не стала б прычынай, бо ўсё роўна Мікіта няздольны быў ператалумачыць на нямецкую мову тое, чаго жадаў Брава-Жыватоўскі: хоць і нахапаўся некалі чалавек слоў ад свайго цесця, аднак звязаць адно з адным ён не ўмеў, проста яны запаміналіся яму без усялякай прычыннай сувязі. Між тым, Брава-Жыватоўскі не разумеў, чаму Драніца стаў кешкацца, і гэта ўкалола яго нядобрым адчуваннем. Ён неяк няверліва пераводзіў позірк з Мікіты на афіцэра і наадварот, і ад яго не магло схавацца, як цень клаўся на вочы ў таго, і яны ўжо былі не толькі прыжмураныя, але і лютыя. Паліцэйскі бачыў: вось-вось можа сыпануцца — няйначай, на яго ж, а не на каго іншага — уся афіцэрава помста... Тады ён кінуўся ратаваць становішча.

— Гэты чалавек ведае па-вашаму,— пачаў даво-

* Чаму *(ням.)*.

дзіць ён афіцэру, ставячы паміж сабой і ім Мікіту Драніцу і паказваючы на пальцах нешта такое, чаго, бадай, і сам не разумеў.— Ну, гавары! — піхнуў ён Мікіту.

— Дык што?

— Ну, пра тое, што мы гэтага лася забілі знарок, каб сустрэць пачастункам прадстаўнікоў новай улады, словам, скажы яму, што гэта наш прэзент доблеснай германскай арміі.

Драніца кіўнуў паліцэйскаму сплюснутай галавой, быццам спалохаўся, што не ўсё запомніць з гэтага і таму папярэджвае, каб той гаварыў яму не адразу, а па частках, тады зняў шапку і скланіўся немцу. На твары яго сапраўды была адзнака пільнай заўзятасці. Але ў галаве стаяла ранейшая атупеласць, і нічога, апроч недарэчнай вясковай прыпеўкі з нямецкім словам «варум», не прыгадвалася.

— Варум, як тэй таго, варум,— пачаў паўтараць нарэшце Драніца.

— Вас? * — спытаўся нейкім віхлястым і танклявым голасам афіцэр.

— Вас, вас, як тэй таго,— пераняў адразу Драніца і ўзрадаваўся: яму край як трэба было на вачах у аднавяскоўцаў вытрымаць ролю перакладчыка — няхай абы выгляд размовы, каб унікнуць на гады наперад іхняга рогату, бо на чужы рот гузіка не нашыеш.

Але афіцэру аднаго пераймання было замала, больш таго, у вуснах вясковага ёлупа, якога падсунуў яму чырванаморды вярзіла-паліцэйскі, яно здалося здзеклівым, і наогул нібыта ўсё тут рабілася назнарок, разыгрывалася ўнасмешку; такім чынам льга было ўзбурыцца ўжо праз адно гэта, а калі ўлічыць яшчэ забітага лася, то і зусім мужыкам не варта было чакаць літасці. Урэшце, так яно і выйшла: раптам афіцэр спрытным рухам, быццам з-пад маланкі, сцебануў плёткай па карку Мікіту Драніцу, а тады навотліў і таксама неяк у адзін кароткі міг сперазаў, цаляючы цераз лоб, Брава-Жыватоўскага, уклаўшы ў гэты апошні ўдар, бадай, больш пагарды, чым нянавісці. У натоўпе, бачачы гэта, нехта віснуў, мусіць жанчына, і волкі халадок вячэрнім інеем палез за каўнер багата каму

* — Што? *(ням.)*

з верамейкаўцаў — а што, калі раз'юшаны немец не спыніцца на Драніцы з Брава-Жыватоўскім ды пачне перабіраць плёткай астатніх, дастаючы з кожнага гізунты? Але дарэмна мужыкі непакоіліся. Афіцэру хапіла двух чалавек, каб спагнаць злосць. Пад рогат коннікаў, якім відаць было зверху ўсё, што адбылося паміж іх обер-лейтэнантам і сялянамі, ён, як пакусаны дзік, рушыў па тым жа жывым калідоры назад да каня, нават не заўважаючы, што калідор за гэты час ажно пашырэў. Верамейкаўцы туліліся адзін да аднаго, кідаючы палахлівыя позіркі: ці не кожны чакаў яшчэ горшай для сябе хвіліны. Аднак афіцэр мірна дакрочыў да каня, узяўся рукой за стрэмя. Ён ужо гатовы быў скочыць на сядло, як убачыў ласяня, якое наблізілася да таго месца, дзе ляжаў на сцежцы заслонены натоўпам сахаты. Мусіць, ласяня не пакідала надзеі, што сахаты неяк стане на ногі, здолее вырвацца на волю праз людзей. Афіцэр нешта сказаў салдатам, паказваючы плёткай на ласяня. Тады адзін коннік загалёкаў раптам маладым, зычным голасам на ўвесь сухадол, аж пакуль спуджанае трапяткое ласяня не памчала, як вокам зглянуць (здавалася, яно зямлі нават не дакраналася), да лесу — гэтым шляхам ужо даводзілася ратавацца ад вясковых хлапчукоў. Верамейкаўцаў яшчэ больш злякнула — зараз немцы пагоняцца на конях за асірацелым звярком альбо ўшчануць пальбу з карабінаў наўздагон, але ні першага, ні другога тыя чамусьці не сталі рабіць, адно пагалёкалі ў хлапечым азарце з хвіліну, нечага забаўна ім было, як уцякала па сухадолу ласяня, пасля павярнулі коней і, поркаючы пад заднія пахі шпорамі, скіравалі іх наўскач па ўзмежку да гуцянскай дарогі, па якой рухалася з Верамеек у конным страі вайсковая часць. Бронеаўтамабіль таксама загурчаў, пускаючы пад гумовыя колы сіні кучомісты дым,— пакуль запылены «Хорх» стаяў ды астываў тут, з яго так і не вылез ніводзін немец.

Утрапёнасць з верамейкаўцаў пачала зыходзіць хутка, яшчэ ці паспелі дамчаць да дарогі коннікі і ўліцца ў калону, можа, якраз таму, што ўвогуле нічога жахлівага не здарылася ў выніку гэтага раптоўнага наскоку немцаў — ну, наляцелі аднекуль, ну, папалохалі трохі, нават Брава-Жыватоўскі з Драніцам адве-

далі плёткі (урэшце, так ім і трэба!), аднак ні гвалту, ні грабяжу не ўчынілі.

Праўда, ніхто з прысутных тут не ведаў, што акупанты паспелі нарабіць у самой вёсцы. Але пра тое пакуль не думалася, бо свежае і дзіўнае, ва ўсякім разе, неспадзяванае было ўражанне ад першай сустрэчы з немцамі, і нейкі час, хвіліны, можа, тры ці чатыры, усе верамейкаўцы, што сабраліся каля крыніцы, яшчэ не дыхалі на поўныя грудзі, ці то жагналіся са старой прывычкі — хвала богу, за агонь не ўхапіліся, ці то знарок гучна кашлялі, усё роўна як адхарквалі з горла дарожны пыл.

Першы падаў выразны голас Брава-Жыватоўскі — адлупцаваны паліцэйскі раптам пачаў пляваццa ды крычаць наўздагон коннікам:

— Вы яшчэ мяне папомніце! — Пры гэтым ён меў на ўвазе аднаго обер-лейтэнанта, які сперазаў яго плёткай.— Вось я дакладу каменданту, ён і пад зямлёй вас усіх знойдзе. Будзеце яшчэ адказ трымаць за самаўпраўства!

Вядома, у душы Брава-Жыватоўскі не вельмі спадзяваўся, што бабінавіцкі камендант пакарае некалі афіцэра — шукай ветру ў полі! — і тым самым дапаможа яму хоць нейкім чынам зноў стаць самім сабой у вачах аднавяскоўцаў, таму і першыя словы і апошнія крычаў ад крыўды, бездапаможнай злосці і ўсё цалкам дзеля мужыкоў ды баб, ажно Кузьма Прыбыткоў не сцярпеў, адчуўшы фальшывую і зусім недарэчную ягоную ўзбуранасць, сказаў насмешліва:

— Дак ета, Антон, яшчэ паглядзець трэба. Бачыў, колькі ў етага цыбатага, што цябе так з Мікітам, бачыў, нашывак у яго залатых ды сярэбраных колькі? Увесь жа бліпічаў, акурат як пасудзіна тая, што пяском націраюць к абеду.— Стары яўна перабольшваў — нямецкі кавалерыйскі фрэнч з бакавымі кішэнямі (нагрудныя зусім адсутнічалі) не меў асаблівага фацэту і каляровых нашывак на ім было не багата; калі не лічыць маленькіх пагонаў на плячах ды цёмна-зялёных пятліц на адкладным каўняры з сярэбранымі галунамі, дык гэта крылаты жоўты арол на грудзях, які трымаў у кіпцюрах свастыку, ды знак прыналежнасці да роду войск на рукаве ў выглядзе падаючых сярэбраных стрэл.— Дак ты думаеш, ён меншы начальнік за твайго каменданта?

Мікіта Драніца тым часам хваліўся рахункаводу Падзерыну:

— Мне, як тэй таго, ужо кія хоць і не паказвай. Я адразу бачу, што к чаму. Гавару ета з ім, як тэй таго, па-іхняму і адразу чую — недавольны немец. Ажно прышчыкі на твары гарацъ. Вось-вось, як тэй таго, пачне лупцавацъ. Ну, я і крутануўся. Затое вывернуўся, як тэй таго. А ён трошкі па мне, а то ўсё па махноўцу етаму.

— Чаму па махноўцу?

— Дак ты, як тэй таго, можа, яшчэ не чуў?

— Не.

— Дак пачуеш. Бач, як тэй таго, учора хвастаў Жыватоўшчык, што Махнову служыў.

Мікіту ўсё роўна як лягчэй было адчувацъ сябе перад людзьмі, што папала не аднаму яму. Да таго ж, ён разумеў таксама — яго ганьба сёння куды меншая, чым Брава-Жыватоўскага... Выходзіць, свой свайго не пазнаў!

Нездарма кажуць, на чужым возе едзь ды аглядайся на заднія колы.

Бабы, нібыта прысаромленыя тым, што мужыкоў немец пабіў, пачалі скоранька разыходзіцца ад крыніцы: хто спяшаўся назад у Паддубішча, дзе яшчэ да змяркання можна было ўхапіць сярпом сноп-другі, а то большасць падавалася па сцежцы ў вёску.

Мужыкі, між тым, яшчэ пастаялі колькі на месцы, як водзіцца, пагаманілі, каб болей не наганяць адзін аднаму панікі.

Парфён Вяршкоў, які ўвесь гэты час трымаўся ў натоўпе Зазыбы, неяк зусім па-будзённаму, быццам з вялікай утомы, спытаў:

— Ці можна ж яго хоць есці? — І паказаў на сахатага, пра якога, няйначай, верамейкаўцы нарэшце забылі, здавалася, яго нават абыходзіла тое, што блізка былі немцы — адно павярні галаву і ўбачыш на гуцянскай дарозе.

— Дык чаму ж не, раз звычайная жывёліна,— адказаў лагодна Зазыба, знарок патрапляючы ў тон Вяршкову.

— А раптам і ў зуб не ўвяжаш?

— Вось ты пра што! Ведаеш, як пра той мёд кажуць: будзь, мядок, ні горкі, ні салодкі: салодкі будзеш — пражруць, а горкі — праплююць. Так і ласёва

мяса. Бацька мой некалі дзіка ўходаў сякерай. Ішоў паўз возера, што ля Зацішша, а той і кінуўся на яго знянацку. Кажуць, ні воўк, ні дзік дарэмна не кідаюцца на чалавека, а гэты...

— Дык, можа, хто патрывожыў да таго?

— Можа. Але я не пра тое. Маці мая, нябожчыца, помню, моршчыцца ды мала не плюецца. Кажа, смярдзець будзе, выверне пасля вантробы, як з'ясі калі скварку. А бацька не паслухаўся, прывёз употай дзіка на саначках дамоў, абсмаліў за пуняй ды ў кубел. Хапіла пасля ўволю есці на ўсю зіму, ці не да самага другога Міколы раскашавалі. Звалі і сватоў, і браценнікаў, і кума.

— Значыць, і етага ўпарадкаваць можна?

— А чаму ж не!

— Тады загадвай во — зараз на якія драбіны ўзвалім ды на двор, злашча што лета.

— Ат,— махнуў рукой Зазыба,— не мы з табой забівалі лася гэтага, не нам і мяса яго спажываць. Шкада вось толькі малога. Мусіць жа, адзін, небарака, застаўся. Прыйшоў аднекуль да нас, ратуючыся, а цяпер будзе нудзіцца. Прападзе дарма.

— Прападзе, прападзе!

— Гэта ж трэба было ісці сюды, каб кінуцца ў вочы татарыну...

— А з таго во цяпера, як з гуся вады.

— Дык гарбатага ж да сцяны не паставіш.

— Праўду кажаш, Дзяніс,— паківаў галавой Парфён Вяршкоў і неяк светла, як у самую скруху, глянуў на Зазыбу, а тады ласкава зграб яго пад сваю лёгкую руку.

## III

Нарэшце сонца перастала сляпіць Чубару вочы — зрабілася як зімовае, у самую піліпаўку, і ён мог вольна, зусім не жмурачыся, глядзець на ўсё, што рабілася і пасярод сухадолу ля верамейкаўскай крыніцы, і на жытнёвым полі, і на дарозе, якая вяла з Верамеек у Гутку, звычайную для забяседдзя вёску двароў на пяцьдзесят, што ляжала пры так званым кацярынінскім бальшаку.

Але Чубару, тым не менш, не ўдавалася пранікнуць

зрокам у сярэдзіну людскога натоўпу, каб зразумець, што адбывалася каля забітага лася, бо верамейкаўцы засцілі ўсё там сваімі рухавымі постацямі. Ён добра бачыў толькі, як дамчалі туды, гойдаючыся ў сёдлах, нямецкія коннікі, пасля да ўтарапелага натоўпу пад'ехаў бронеаўтамабіль, а ўжо затым адзін з коннікаў гупнуўся з сядла на зямлю і рушыў праз натоўп да забітага лася... Тым часам гуцянская дарога была перад Чубаравымі вачамі як на далоні — агінаючы па самым схіле верамейкаўскі курган, яна выпроствалася паводле сухадолу і неўзабаве знікала за наступным пагоркам, нагадваючы там аб сабе ўжо аднымі прысадамі. Зусім блізка адгаліноўвалася ад яе другая дарога, шмат вузейшая і голая ў абапал; простай лініяй яна прасякала скрозь сухадол, амаль паўз самы лес, знікаючы за мысам. Гэтая вяла таксама ў недалёкую вёску, Мялёк. Дакладней, то была не сама вёска, толькі невялікі пасёлак, двароў, можа, на дваццаць, якія разам з двума іншымі такімі пасёлкамі — Гарадком і Гразіўцам — утварaў новае паселішча, што гадоў дзесяць назад, ужо за калгасам, атрымала агульную назву. Недзе з Мялька і павінен быў выйсці на сухадол бабінавіцкі Хоня з сынамі-падлеткамі. Аднак Чубаравы спадарожнікі чамусьці пазніліся, можа, селі адпачыць дзе на травяны грудок за тым зялёным мысам, калі, вядома, не павярнулі таксама, як і ён, куды на другую таемную сцежку. Якраз гэтага Чубару і хацелася цяпер, бо тады б Хоня ўжо напэўна не выйшаў на немцаў, што рухаліся па гуцянскай дарозе. Але вось натоўп ля крыніцы зноў быццам узвіхурыўся, раздаўся на бакі. З сярэдзіны яго нарэшце выйшаў той коннік, што злазіў з сядла, каб паглядзець на забітага лася. Ён яшчэ не паставіў нагу нанава ў стрэмя, як раптам пачулася — нечага загалёкалі ля крыніцы іншыя немцы, а яшчэ праз момант стала відаць, як скочыла, нібыта пырхнула панізоваю птушкай, да ўзлеску асірацелае ласяня. Імчала небарака напрасткі, нават не патрапляючы на сцежку, па якой зусім нядаўна вёў яго на вадапой лось, але, тым не менш, цаляла да таго месца, адкуль вынырала з лесу на сухадол сцежка — гэта блізка, усяго крокаў за дзесяць да Чубара. Хвалюючыся і жадаючы ўдачы звярку, Чубар адным часам не спускаў вачэй і з таго, што заставалася на другім плане, гэта значыць, з ве-

рамейкаўскага натоўпу, дзе ўсё яшчэ ўзвышаліся на конях немцы. Таму для Чубара не магло застацца незаўважаным, як той-сёй з немцаў пачаў ускідваць на ўзровень вачэй карабіны, беручы на мушку ласяня. Гэта ажно кальнула Чубару ў грудзі, спярша са страху за ласяня, якое магло загінуць ад стрэлу, а пасля і ад усведамлення небяспекі, якой падвяргаўся сам, бо страляць кожны немец мусіць адтуль — насупраць, і ядловец, за якім хаваўся Чубар, не мог стаць перашкодай, затрымаць кулі. У момант, які наўрад ці вымераць, вераемнасць небяспекі гэтай зрабілася настолькі выразнай, што Чубар нават не ўпаў у здранцвенне, якое на нейкі час, няхай самы кароткі, звычайна замаруджвае альбо яснасць думкі, альбо рухі. Інстынкт самазахавання, які за дарогу сюды абвастрыў успрыманне акаляючага, пачынаючы з людзей і канчаючы прадметамі і рэчамі, тут жа кінуў яго ніцма, як штосьці амаль нежывое і цяжкае, ажно здрыганулася тупкая тарфянікавая глеба. Але хутка здалося, што і гэтага мала для ратунку. Чакаючы стрэлаў, Чубар вобмацкам споўз у нейкую распадзіну злева, акурат у пролежань ці невялікае логава. Ды ніводнага стрэлу не пачулася. А неўзабаве і галёканне сціхла на сухадоле. Выходзіла, што дарэмна Чубар падаў на зямлю і ляжаў у гэтай распадзіне, бы напяты. Акурат прысаромлены, ён усё роўна як з неахвотаю падняўся з распадзіны, атрэпаў каленкі незанятай рукой і ўжо затым асцярожна глянуў паўзверх ядлоўцу на сухадол. Ласяня на лузе не было. Няйначай, паспела забегчы ў лес. Верамейкаўцы таксама не засталіся на месцы, памалу разыходзіліся ад крыніцы, беручыся ўгору, а коннікі дык тыя і зусім ужо гарцавалі блізка ля бальшака, маючы намер далучыцца да ўсёй калоны. Услед ім чадзіў бронеаўтамабіль.

Галава нямецкай калоны тым часам успаўзала на пагорак, за якім прападаў з вачэй бальшак. Пільна, акурат выглядваючы знаёмых, Чубар прасачыў калону з канца ў канец. Яна складалася з артылерыі, пяхоты і коннікаў. Спярша, на чале калоны, рухаліся тры лёгкія гарматы, на зарадных скрынях якіх спераду сядзелі ездавыя і кіравалі за лейцы коньмі. Затым тупалі пешыя, збіваючы з дарогі на абочыны, парослыя ўчэпістай муравой і разлеглым трыпутнікам, пыл. Кавалерыя трымалася ззаду, яна чамусьці трохі ад-

ставала, утвараючы невялікі прагал у калоне, можа, якраз таму, што лёгка магла дагнаць усіх, хто рухаўся наперадзе. У нейкім прамежку, калі наогул не ў канцы калоны, павінен быў заняць сваё месца і бронеаўтамабіль. Але гэтага навідавоку не здарылася. Раптам адбылася нейкая затрымка ў калоне, штосьці занепакоіла немцаў. Чубар заўважыў, як спынілася ўся калона і некалькі коннікаў памчалі з канца ў канец яе, ці то аддаючы каманды, ці то разносячы іх. Тады Чубар і сам насцярожана кінуў позірк вакол калоны, абвёў вачамі і сухадол, наколькі льга было адсюль бачыць па баках, і жытнёвы схіл на кургане, і дарогу з Мялька. Здавалася, нічога падазронага, што б магло ўстрывожыць немцаў, нават і блізка не было. Між тым, гэта не так. Па дарозе з Верамеек, ужо ўніз, паспяшаў конь — пад сядлом, але без чалавека. Па ўсім было відаць, што конь даганяў калону. Льга было меркаваць, вядома, па-ўсякаму: і што ён, будучы запасным, недзе адарваўся, адлучыўся ў шкоду, і што... Хоць з другога боку падобныя здагадкі не маглі мець падставы ўжо нават з тае прычыны, што конь усё-такі быў кавалерыйскі, значыць, прывучаны да пэўнага парадку. Ды і губляцца доўга ў такіх развагах не варта было, бо далей здарылася якраз тое, што само ўжо наводзіла на пэўную яснасць. Няйначай, штосьці здарылася з седаком. Але дзе? Ад калоны аддзялілася група коннікаў, можа, цалкам якое падраздзяленне, і павярнула коней назад у Верамейкі. А яшчэ адна група коннікаў, раз'ехаўшыся па полі і сухадолу, пачала зганяць адусюль к дарозе верамейкаўцаў.

Чубару з-за ядлоўцавых кустоў відаць было, як мітусіўся там разам з немцамі Брава-Жыватоўскі, памагаў ім зганяць у адно сваіх вяскоўцаў. Ад яго, здавалася, ні на крок не адставаў і той незнаёмы, што застрэліў сахатага. «Значыць, Брава-Жыватоўскі стаў паліцаем!» — нарэшце скеміў Чубар, бо іначай нельга было растлумачыць тое, што ён робіць цяпер вось, як нельга было растлумачыць іншым і тое, што Брава-Жыватоўскі адкрыта насіў пры сабе вінтоўку. «А хто ж гэты?» — кінуўся ў думках Чубар, маючы на ўвазе татарына Рахіма. Але дарэмна. Чалавек быў сапраўды незнаёмы. «Мусіць, прыцёгся аднекуль у Верамейкі разам з Брава-Жыватоўскім»,— адзначыў для сябе Чубар, памыляючыся толькі ў адным — Рахіма якраз

прывёў у вёску не Брава-Жыватоўскі, а Раман Сёмачкін. Калі б адкрыццё гэтае Чубар зрабіў другім разам, а не цяпер, то і рэагаваў бы на такую акалічнасць хутчэй за ўсё па-іншаму. Цяпер жа ён толькі адзначыў для сябе гэтую акалічнасць як факт, які трэба мець у памяці.

Каб не прамінуць чаго, Чубар ажно станавіўся на дыбачкі, высоўваючы галаву вышэй ядлоўцу, ужо не надта клапоцячыся нават, што стане для немцаў выпадковай мішэнню. Але вось калона, якая была спынілася на нейкі час, кранулася з месца і рушыла далей у ранейшым кірунку.

Праз колькі хвілін на гуцянскай дарозе ўжо стоўпіліся ледзь не ўсе верамейкаўцы — мужыкі і бабы, якія апынуліся паблізу і якіх можна было сагнаць у адзін гурт. Бронеаўтамабіль, што не паспеў далучыцца да асноўнай калоны, таксама павярнуў з сухадолу туды, да натоўпу вясковых людзей, і як толькі праехаў праз гэты натоўп, які расступіўся на абочыны, канвойныя — конныя немцы і два пешыя паліцэйскія — пагналі верамейкаўцаў да коўрат.

Але што здарылася? Чаму раптам успалашыліся гэтак немцы, убачыўшы каня з пустым сядлом? Няўжо хтосьці знайшоўся адважны ў Верамейках ды прыстукнуў адстаўшага гітлераўца? Разважаючы гэтак, Чубар нават перабраў у памяці сваёй, хто ў Верамейках здольны ёсць на такі ўчынак. Але, здаецца ж, усе верамейкаўскія мужчыны, якія заставаліся ў вёсцы ад мабілізацый, прысутнічалі тут, на сухадоле. Хоць, вядома, магло выйсці інакай. Нечага ж вось апынуўся ў Верамейках Брава-Жыватоўскі!..

Між тым, хутка гуцянская дарога апусцела з двух канцоў — нямецкая калона схавалася за пагоркам, а верамейкаўскі натоўп таксама знік з вачэй, няйначай, падыходзіў ужо недзе да коўрат. І раптам у тым баку, каля Верамеек, грымнуў вінтовачны стрэл. Хоць вялікай нечаканасці ў гэтым не было, бо не так жа сабе немцы пагналі ў вёску людзей, няйначай, была на тое прычына, аднак, пачуўшы яго, Чубар ажно здрыгануўся. Але стрэл атрымаўся адзінокі, усё роўна як выпадковы, і больш не паўтараўся. І, тым не менш, у Чубара пасля гэтага, няхай нават выпадковага, стрэлу з'явілася адчуванне, нібыта ён трапіў у іншае фізічнае асяроддзе, чым тое, у якім знаходзіўся дасюль.

На гуцянскай дарозе тым часам асядаў пыл, узняты нядаўнім рухам па ёй.

Сонца, што надта доўга, нават нязвычна доўга — ці то ў паслугу, ці то ў здраду тутэйшым людзям — ляжала на правым схіле верамейкаўскага кургана, нарэшце не ўтрымалася на ім і скацілася па той бок яго, абдаўшы небасхіл кароткімі бліскаўкамі промняў, нібыта па ім, па самым распаленым абадку, грукнуў хтосьці нябачным молатам. Неба над сухадолам пацямнела на момант. Але гэтага часу хапіла аж, каб і луг насупраць, і гарбатае поле з зялёным бульбоўнікам туды далей, за крыніцай, і жытнёвы палетак на схіле кургана, устаўлены скрозь ужо мэндлікамі, ахутаў прыцемак. Тады ўвачавідкі зноў пасвятлела. А вакол белай аблачыны, што вытыркала з-за кургана ліштвяную шапку сваю, заззяў ледзь не ўсімі колерамі вясёлкі шырокі беражок. Усё ў тым баку неба стала рэльефным, выразным, быццам толькі што праявілася пад уздзеяннем хімічных рэактываў. З поля дыхнула на пахаладнелы і заценены луг цёплым паветрам, запахла ядлоўцам, акурат тады, як паляць калючыя хваінкі яго на вогнішчы. І чамусьці толькі цяпер, ужо над самы вечар, зрабілася выразна адчувальнай таксама і спякотлівая гаркавасць, што стаяла ва ўсім вялікім тутэйшым наваколлі круглы дзень.

Лёс верамейкаўцаў, якіх раптам абступілі немцы ды пагналі пад канвоем у вёску, па-сапраўднаму ўсхваляваў Чубара. Аднак стаяць на месцы ды чакаць нечага тут ужо не мела ніякага сэнсу. Таму Чубар падаўся ў абход сухадолу. Ішоў берагам лесу, прыслухоўваўся, а ў душы было такое адчуванне і такая насцярожлівасць, усё роўна як нёс у сабе штосьці крохкае і дужа нетрывалае альбо пераходзіў над кручаю клявую кладку.

Па часе ўжо напэўна было, што немцы паспелі прагнаць захопленых верамейкаўцаў праз вясковыя коўраты. А гэта ў сваю чаргу азначала, што хутка мелася адбыцца і тое, дзеля чаго затрыманы і паведзены верамейкаўцы ў вёску.

Але з Верамеек ні стрэлу, ні дыму.

Быццам і міжволі, акурат само па сабе, аднак кіраваўся Чубар цяпер да калгаснай хаткі, што была збудавана некалі пад лупільню,— як падумалася раней пра яе, калі выйшаў на ўзлесак, так і засталося пры-

тоенае жаданне на ўвеце, ва ўсякім разе, пакуль шуканне прытулку на першую ноч знаходжання ў забяседдзі не займала галавы. Стаяла хатка не лішне далёка, на сухім грудку, скрытая ад вёскі альховымі кустамі. Выходзіла, такім чынам, што лепшага месца для начлегу і знайсці нельга.

Унураны Чубар нарэшце абышоў краем лесу сухадол. Далей шлях ляжаў праз невялікае балота, дакладней, праз звычайны ўзбалотак, адрэзаны ад асноўнага багнавага абшару глыбокай канавай. Па гэтым узбалотку да хаткі-лупільні вяла пратаптаная сцежка, але не знарок туды, бо рабіць гэтага не было патрэбы якраз тут, таму што верамейкаўцы, калі здаралася, хадзілі ці ездзілі на тую грыву проста з вёскі; сцежку ж людзі прабілі праз балота, прастуючы з сухадолу да сіўцовых лагоў, дзе звеку ў верамейкаўцаў таксама быў пакос; тым часам пракапаная ўручную канава служыла адразу дзвюм немалаважным мэтам — сушыла ад іржавай вады з абодвух бакоў багну і аддзяляла калгасны масіў ад дзяржаўнага. Чубар заглыбіўся па сцежцы ў балотны зараснік, прайшоў так крокаў з паўтараста, тады збочыў направа і, скочыўшы цераз дрэнажнамежавую канаву, рушыў уздоўж яе, падмінаючы ботамі пасохлую тарфяную крошку. Абапал канавы буялі зараслі маліны, ажынніку. З вясны і да ранняе восені тут звычайна бывае птушынае царства. Цяпер птушаняты вывеліся ўжо, пакінулі гнёзды, але ўсё яшчэ не адляталі далёка, бо дзе ў другім месцы знойдзеш столькі ягад? Таму даволі было Чубару затупаць гучна і блізка, як птушынае царства адразу ўстрывожылася, занепакоілася прысутнасцю чалавека — спярша, зляцеўшы з куста ажыны, прарэзліва крыкнула жаўна, а за ёй залапаталі крыламі нейкія іншыя вялікія і малыя птушкі, і ўміг ажыло, забілася, запырхала ўсё ў гушчары. На тым кусце, з якога зляцела жаўна, было ажно густа ажыны, і Чубар, убачыўшы цёмна-чырвоныя ягады, не ўцярпеў, стаў абіраць іх, далікатна ціскаючы шчопацем грубых пальцаў і кідаючы па адной у рот. Ягады былі разам і салодкія, і кіслыя, ажно вінныя, таму хутка наталялі смагу. Але дзіва — ягады, да якіх гэтак прагна дапаў Чубар, разбудзілі голад. Раптам ён адчуў яго востра, амаль неадольна, таму неўзабаве гатовы быў нават пашкадаваць, што не прайшоў міма. Разам з тым, не

ставала таксама духу і адмовіцца ад нечаканай спакусы, каб перастаць зрываць ажыну з куста — быццам і сапраўды ўпіўся яе даўкім, забрадзіўшым сокам.

Між тым, ужо край было па часе ісці далей, бо на балоце, пад навіссю ракітавых і альховых кустоў, упрыкмет плавала сутонне. Збіраючыся ў думках працягваць шлях, Чубар заклапочана выцер пальцы аб лісце ажынніку, усё роўна як не хацеў, каб заставаліся запэцканыя, тады, у дадатак, свядома правёў імі яшчэ па мяккім крысе сваёй плісавай «талстоўкі», якая даўно ўжо служыла не толькі аднаму прызначэнню. Зноў чамусьці прыгадаліся спадарожнікі. Тое, што Хоня Сыркін з сынамі не натрапіў пакуль на немцаў, не пакідала сумнення. Чубар жа быў сведкам, як калона прамінула дарогу, што адгаліноўвалася на Мялёк. Цяпер Чубар нарэшце зразумеў, як не стае яму былых спадарожнікаў, нягледзячы, што Хоня, пакуль яны дабіраліся сюды, часта выклікаў непрыязнасць, нават прымушаў злавацца — сваёй прыгнечанасцю, нейкім задзірлівым рабалепствам: скажа слова, якое павінна нібыта дагаджаць, а тады дае зразумець альбо выразам твару, альбо проста рухам якім, што ў яго ўсё вымушанае, дзеля аднае хітрасці і вымаўлена. Затое Чубар за дарогу ўпадабаў Хоніных хлопцаў, разумных і далікатных, якія чамусьці больш трымаліся чужога чалавека, чым бацькі. Чубару нават прыходзіла думка, што хлопцы ў нечым не даравалі бацьку матчыну смерць у тым незнаёмым млыне, дзе давялося правесці ў жахлівым чаканні нямала дзён і начэй. Як бы там ні было, але Чубар не стаў залішне цікавіцца ды распытваць, няйначай, шкадуючы ўсіх іх — дзяцей і бацьку.

Памагаючы рукамі, Чубар працярэбіўся скрозь ажынавы зараснік, зноў выйшаў да канавы. Тут, па правы бок ад яе, адкрылася вачам вялікая купіна, парослая белым мохам, шматступеньчатым парудзелым хвашчом, лапушыстымі пеўнікамі з цёмна-чырвонымі, як у цацерукоў, шышкамі і дымчатым, нібыта ў тумане, чаротам, паміж мятліцамі якога чарнелі палопаўшыя таўкачыкі. З таго ж боку, але паўз самую канаву, была выкашана ладная прагаліна асакі, якая так і засталася ляжаць нязгрэбенай — ці то махнуў хто знарок рукой, упэўніўшыся, што сёлета і без яе незабароненай травы будзе гібель, абы касіў, альбо, наадварот, чалавека, які шчытна махаў тут касой, не было

цяпер у вёсцы. Казалі, што некалі замест гэтай купіны бурчала тут балотным газам так званае чортава акно, якое ўтварылася пасля таго, як глыбока, на некалькі сажняў уніз, выгарала тарфяное нутро. Праўда, сведкаў даўняга пажару ў Верамейках ад таго часу не засталося, паўміралі ўсе, аднак пагалас жыў. Расказвалі таксама, што на купіне гэтай водзяцца сапраўдныя арлы. Чубару ажно заманулася ў адно лета пацікавацца за імі. Аднак дарэмна — прыйшоўшы ўпотай сюды, ён проста марна патраціў час, бо ніводнай вялікай птушкі, якая б хоць зводдаль нагадвала арла, не ўбачыў. Расчараваны, старшыня пасмяяўся быў з гэтага пры Кузьме Прыбытковым. Той усміхнуўся ў адказ паблажліва — маўляў, гавораць жа людзі... Але ў Верамейках наогул шмат пра якія рэчы разважалі, сказаць проста, залішне сур'ёзна. Напрыклад, папраўдзе сцвярджалі, што адсюль не лятаюць у вырай ластаўкі, нібыта яны зімуюць у нейкіх пячурках на дне Цяменскага возера, за вярсту ад вёскі... Прыгадваючы цяпер пра ўсё гэта, Чубар нечакана зразумеў, што думае ён пра верамейкаўцаў не столькі з бяскрыўднай паблажлівасцю, колькі з нейкай чуллівай любасцю — бадай, гэта было ў яго практыцы, у яго адносінах да іх зусім новае пачуццё, якога ён дасюль, вось так акрэслена, яшчэ не ведаў.

Але як яны там цяпер, у вёсцы? Чаго ад іх дамагаюцца немцы? «Канечне, я мог бы тады адцягнуць увагу немцаў на сябе, проста ўзяць ды стрэліць хоць бы па тым браневіку, што нейкі час заставаўся ля крыніцы адзін. Але ці памагло б такое заступніцтва верамейкаўцам? Хутчэй наадварот. Бадай, немцы вылучылі б з калоны яшчэ адну каманду, якая кінулася б праз сухадол прачэсваць лес. У выніку — ні шкоды немцам, ні карысці верамейкаўцам не прынёс бы сваім умяшаннем, а шуму дарэмна нарабіў бы. Ды добра яшчэ, калі б аднаго шуму!..»

Разважаючы так, Чубар раптам пачуў, як нехта скочыў зусім побач. Тупат быў слабы, акурат заечы, калі той, падняты з утульнага лежышча, спрабуе непрыкметна ўцячы ад небяспекі. Чубар крута азірнуўся — яму хапіла адно павярнуць галаву. Па гэты бок канавы, усяго крокаў за шэсць, растапырыўшы па-цялячы пярэднія ногі, стаяла ласяня. У цёмна-вішнёвых вачах яго Чубар выразна ўбачыў штосьці зусім пранік-

лівае і даверлівае, ажно ў грудзі раптам прыліла гарачая хваля, якая здараецца ў хвіліну неспадзяванай, нават нежаданай пяшчоты.

— Ах ты, беднае!..— хутчэй падумаў, чым уголас выказаў Чубар, баючыся зрабіць лішняга руху.

Ласяня і без таго намучылася сёння. Чубар сам з'яўляўся сведкам ягоных пакут, таму нават неўзнарок адпужваць шкода было. І ён нейкі час стаяў нерухома, быццам апантаны, пакуль не пачала дубець павернутая шыя. Зразумела, што нязручную паставу неабходна было мяняць, бо доўга так, каб нават і вельмі хацеў Чубар, усё роўна не прастаяў бы. З другога боку, стаяць на балоце ды чакаць змроку яму таксама ніяк не выпадала. Таму ён астудзіў у сабе гарачую хвалю і адвярнуўся. Паціху, каб не рабіць дарэмна шуму, Чубар патупаў далей уздоўж канавы з упэўненасцю, што ласяня таксама патрапляе ззаду. Адзін раз яму нават здалося, што яно расчаравалася ісці ўслед і адстала. Але калі ён азірнуўся назад, каб пераканацца ў гэтым, ласяня па-ранейшаму тупала блізка, крокаў за дзесяць. Мусіць, яно баялася застацца першы раз адно ў цёмным лесе і Чубара ўспрыняла сваім жывёльным інстынктам за ратунак сабе, адчуўшы ў ягоным паглядзе спагаду, якая выклікала ў адказ давер.

Вось і край балота. За ім пачыналіся сіўцовыя лагі, дзе па колішніх лучках, якія не кожнае лета запаўняліся вадой, рос аір. Верамейкаўцы чамусьці называлі лагі гэтыя наддаткамі, але Чубар так і не дазнаўся, чаму іменна, проста не выбраў моманту, ды і думка сама западала ў галаву звычайна выпадкова, як нешта вельмі нязначнае. Урэшце, яно і сапраўды так — і думка, калі разважыць сур'ёзна, нязначная сама па сабе, і выпадак не кожны раз бывае.

Ступіўшы з краю балота на сіўцовы кужаль, Чубар доўга і зацята соўгаў падэшвамі ўзад-уперад, вызваляючы боты ад наліплай балотнай гразі, усё роўна як меўся заходзіць праз звіліну да кагосьці ў хату. Пакуль ён мінаў паўз канаву балота, на дварэ звечарэла. Аднак змроку густога на галым прасторы не было. У небе, павіснуўшы над лесам, што выступаў няроўным грэбнем справа, ужо адбіўся невыразным, быццам яшчэ не цалкам выяўленым, абрысам месяц. Гэта ён, стаўшы на мяжы паміж днём і ноччу, паміж святлом і змрокам, не даваў згусціцца вечару, высвечваючы

наўкол даступныя яму закуткі на зямлі. Не толькі тут, на сіўцовых лагах, але і паўсюль у забяседдзі стаяла спавітая цішыня. Быццам не паверыўшы ў яе, Чубар павярнуўся тварам у той бок, дзе за пагоркавымі палеткамі былі Верамейкі. Зноў трывогай апякло яму свядомасць. Зноў усярэдзіне зварухнулася прыкрасць, і зноў яму падумалася пра тое, што ён усё яшчэ бездапаможны што-небудзь зрабіць тут. Але і адтуль, з Верамеек, не прылятала сюды ніводнага гуку.

Ласяня стаяла амаль побач — і не аддалялася, і не набліжалася, усё роўна як добра ведала тую невымерную адлегласць, на якой яму належала трымацца ад чалавека.

Да хаткі-лупільні, дзе Чубар меў намер сёння знайсці сабе спачын, заставалася яшчэ прайсці гэтыя сіўцовыя лагі, тады павярнуць бліжэй да вёскі. І Чубар пайшоў. Цяпер ён чамусьці ўпэўнены быў, што ласяня і далей пабяжыць за ім, таму нават не прыслухоўваўся і не азіраўся. Гэтая даверлівасць асірацелага звярка ўвесь час неяк ахінала пяшчотай яго і нарэшце павярнула Чубаравы думкі на самога сябе, успомнілася раптам сваё сіроцтва. Чубар нават здзівіўся, што такая акалічнасць можа выклікаць нечаканы ўспамін. Гэта ўсё ад адзіноты, падумалася Чубару, нібыта і папраўдзе трэба было штосьці тлумачыць сабе ў апраўданне... Чубар асірацеў у дзевяць гадоў. Бацькоў яго пахавалі на вясковых могілках у адзін дзень, бо памерлі яны таксама ў адзін дзень ад тыфусу — спярша, пад ранне, бацька, за ім, пражыўшы яшчэ гадзін колькі, сканала маці. Тады па ўсіх вёсках хадзіла гэтая хвароба, касіла людзей. Праз яе не пашанцавала багата каму, а дзевяцігадоваму Родзьку Чубараву дык найгорш. Жыццё сваё ў дзіцячай працоўнай камуне ён амаль не помніў, таксама як мала чаго захавалася ў памяці і з часу вучобы ў каморніцкай школе, затое хутар і яго гаспадара ніколі не забываў, хоць і працаваў там нядоўга, усяго дзве зімы, вядома, з вясною, летам і восенню паміж іх. У хутараніна не было сваіх дзяцей, і невядома дзеля чаго і каму ён капіў багацце, але з парабкаў вымаў усё, што можна было. Парабкавалі яны на хутары ўдвох — Родзька і Цімох Сачнёў, які даводзіўся гаспадару ці не стрыечным братам і які ці не на пяць гадоў старэйшы быў за Чубара. Але сваяцтва не ішло ў залік, адно што Цімох быў к таму часу збольшага ўжо

сталы чалавек і меў смеласць паказаць нораў, калі дужа насядаў гаспадар з работай. Чубар жа адчуваў сябе зусім безабаронным, таму на ім, як кажуць, і ездзілі ўсе, каму ўздумаецца, уключаючы таго ж Цімоха. Праўда, меншага парабка часам шкадавала гаспадыня, ціхая жанчына, якой праз яе бяздзетнасць таксама жылося нясоладка ў доме. Але спагада яе да Чубаравага сіроцтва часта абарочвалася гаспадаровай лютасцю — угледзеўшы, што жонка знарок выгадвае, каб малы парабак паспаў хоць крыху лішне, муж пачынаў шалець, крычаць на ўвесь хутар, пагражаючы прагнаць з двара і лайдака, і заступніцу. Яго не бянтэжылі нават жончыны слёзы: «Пабойся бога, ён жа няшчасны, адзін на ўсім свеце!» — «Цяпер адбою няма ад такіх сірот! — звычайна даваў у процівагу свой довад хутаранін, як не тупаючы ў злосці нагамі.— Дык няўжо я вінаваты, што іх так багата? А мо я сам не рву жылле на гэтай вашай рабоце?» Сапраўды, гаспадар таксама браўся за цэп ці сахор яшчэ на досвітку і потым не выпускаў з рук скрозь цэлы дзень. Гаспадыня, здаралася, казала парабку: «Што ты, дзіцятка, думаеш сабе? Уцякай куды ад нас, ці ж на адным нашым хутары свет для цябе?» Але работы ў гаспадарцы было процьма, гаспадыня паступова і сама за ёй надоўга забывалася пра чалавечую жаласць. Ды і куды было падацца Чабару, які не дужа багата чаго пабачыў у жыцці? Нават працоўная камуна і тая не навучыла яго таму, чаго звычайна другія вельмі хутка набіраюцца. Праўда, тут, у Чубаравай някемлівасці, прычынай, бадай, была тая акалічнасць, што, нягледзячы на сіроцтва, ён тым не менш не быў у поўным сэнсе беспрытульнікам, бо адразу з сялянскай хаты трапіў у дзіцячую працоўную камуну. Але ж і зразумець яго таксама можна — чаго-чаго, а харчу добрага хутаранін не шкадаваў, абы паказваў на гумне ці ў полі спрыт ды ўвішнасць. Навошта тады ад дабра ўцякаць? Урэшце, ежа таксама нямала чаго значыць у жыцці, асабліва калі чалавек досыць нагаладаўся!..

Выйшла само, што Чубар пакінуў хутар. Пад вясну ён аднаго дня выпусціў з хлява авечак, а загнаць назад у час забыўся. А тым быццам толькі і снілася ўсю зіму воля: не паспелі гаспадаровы шуткі збегчы з сонечнага двара, як на ўзлеску напалі на іх ваўкі. Ну, і не далічыўся ўвечары хутаранін у статку двух ба-

раноў і адной авечкі. Вядома, адказваць давялося Чубару, але ён усё ж неяк крутануўся ды выкаўзнуў з учэпістых гаспадаровых пальцаў. Памагло Чубару вырвацца, няйначай, тое, што хутаранін утрымліваў яго адной рукой, а другой тым часам з поцягам сцёбаў па спіне дубцом. Зразумела, што пасля такой экзекуцыі мала хто добраахвотна захоча вярнуцца назад.

Не вярнуўся і Чубар. Зноў падаўся ў працоўную камуну, яшчэ не ведаючы, што яе к таму часу паспелі распусціць. Колькі месяцаў пасля гэтага Чубару давялося жыць выпадковымі заробкамі ў навакольных вёсках, а потым нехта падказаў яму паступіць у школу каморнікаў, балазе туды набіралі навучэнцаў ледзь не такім жа чынам, як у старыя гады ў дзяржаўныя сельскагаспадарчыя школы. Доўга, вельмі доўга пасля прахопліваўся Чубар уначы на ложку, чуючы ў сне на сабе ўдары дубца...

Хоць дарогі напрасткі было не так і многа, але Чубар дабраўся да хаткі-лупільні, калі месяц на небе ўжо набраўся сталага бляску. Цяпер грудок, на якім тулілася гэтае нехлямяжае збудаванне, падобнае на звычайную сялянскую лазню, увесь быў заліты амаль шызым месяцавым святлом, а вузкі цень падаў наўскасок, даставаў акурат гатычным верхам самага краю. Сёлета нехта разводзіў тут, на грудку, вогнішча, можа, пастухі, і крокаў за дваццаць ад хаткі дасюль яшчэ чарнела лапікам папялішча, як ад згарэлага лаўжа. Побач ляжала струхлелая бярозавая калода. Яна свяцілася фосфарам, а здалёку здавалася, што там датлявала вугolle.

Дзверы ў хатку засталіся пасля кагосьці расчыненыя — значыць, наведваліся людзі і цяпер. У нясконччанай прыбудове бялела на зямлі пашматаная папера. Паколькі папера ляжала не прыбітая дажджамі, то льга было падумаць адразу, што яе пакінуў нехта тут гэтымі, ужо сухімі, днямі. Чубар узяўся за вушак, каб ступіць на парог і потым зайсці ў хату, але штосьці жывое варухнулася на парозе, раскруцілася пругкай маланкай і шмякнулася ўніз, па той бок парога. Чубар здрыгануўся ад нечаканасці, але паспеў усё ж згледзець і здагадацца, што патрывожыў соннага вужа, які абначыўся на парозе. Пазнаў ён яго па чырвоных шчочках, якія ажно бліснулі пры святле месяца. Няйначай паўзун меў тут сталае жыллё сабе, можа, нават

вывеўся пад падлогай, калі, вядома, не прыпоўз адкуль з балота. Чубар з дзяцінства не мог спакойна глядзець на такія стварэнні прыроды, як гэты вуж, яны заўсёды выклікалі ў ім непрыемны халадок, нават страх, аднак цяпер чамусьці адразу перасіліў гідлівае пачуццё і, лішне не стрымліваючы сябе, падаўся ў хатку. Скрозь зашклёнае акенца ў бакавой сцяне туды пранікала знадворку месяцава святло, кладучыся снопам на дашчанай падлозе. Зваліўшыся з парога, вуж кудысьці знік зусім, можа, паміж няшчыльных масніц. Чубар моцна патупаў для пэўнасці па падлозе, тады чыркнуў па карабку запалкай. Насупраць акенца, ля другой сцяны, у хатцы быў тапчан, акурат палок у вясковай лазні,— проста нехта паклаў на яловыя круглякі тры шырокія дошкі, на якіх хапала месца выпрастацца чалавеку на ўвесь рост. Трымаючы запалку ў руцэ, Чубар сеў на тапчан, паёрзаў задам на ім, усё роўна як прабуючы на трываласць. Запалка, між тым, дагарэла і, апёкшы пальцы, патухла. Аднак цёмна ў хатцы зрабілася толькі на момант, бо зрок даволі хутка прызвычаіўся да таго святла, што пранікала праз акенца і дзверы, якія Чубар таксама пакінуў расчыненымі. Чубар паваліўся на тапчан галавой да сцяны, паляжаў колькі хвілін на спіне, быццам у здранцвенні, тады крутануўся ўдоўж і паклаў на дошкі як не пудовыя ногі. Звычайна ён засынаў цяпер хутка, абы дапаў да чаго бокам, нягледзячы нават на волкасць, а тут чамусьці доўга не мог заплюшчыць вочы, усё роўна як замінала што зрабіць гэта.

Знадворку было чуваць, як бегала вакол хаткі неспакойнае ласяня. Але што мог сказаць яму Чубар?

Між тым, на парог неўзабаве зноў успоўз вуж і лёг там абаранкам, скруціўшыся ў колькі разоў. Блізкая прысутнасць сцішанага чалавека, які толькі і выдаваў сябе тым, што дыхаў, пэўна, зусім не трывожыла яго.

Цяпер Чубар выявіў паўзуна многа пасля, калі нечага глянуў з тапчана праз расчыненыя дзверы ў прыбудову. Але гэты раз ён паставіўся да яго з'яўлення спакойна, без гідлівай утрапёнасці, нават не падумаў, каб нейкім чынам пазбавіцца на ноч непрыемнага суседства.

* * *

У Верамейках таксама гэтым часам яшчэ ніхто не спаў, не раўнуючы, можа, дзяцей.

...Зазыба з Парфёнам Вяршковым паспелі адысціся ад крыніцы тады не лішне далёка, бо спяшацца ўжо не было куды пад канец дня: жытнёвы палетак на схіле верамейкаўскага кургана цяпер меў выгляд нядбайна пастрыжанай аўчыны; праўда, заставалася яшчэ перамераць на палосы і той клін, што паміж Мамонаўкай і Кулігаеўкай, але з жыхарамі абодвух пасёлкаў, якім дастаўся клін — Сідар Раўнягін усё-ткі дамогся свайго, адваяваў у верамейкаўцаў палетак,— была такая дамоўленасць, каб перанесці далейшы падзел на заўтра. Гэта што тычылася грамадскай справы. Але ж пра яе раптам неяк і забылася: тое, што немец нечакана высцебаў верамейкаўскага паліцая, а разам з ім і ягонага прыхвасценя, цяпер скрозь весяліла вяскоўцаў. Парфён Вяршкоў з Зазыбам таксама ўвесь час мелі на ўвеце гэты дзіўны выпадак і ўнутрана ажно свяціліся. Праўда, шкадавалі лася, якога застрэліў Рахім. Але часцей думкі чапляліся за адно.

— Дак, кажаш, свой свайго не пазнаў? — радасна плюскаючы вачамі, круціў галавой Парфён Вяршкоў.

— Як у тым старым жарце,— смяяўся Зазыба.

— Во-во!

— Але ж ці будзе Антон скардзіцца каменданту?

— Яшчэ чаго! Не такі ён дурны!

— Дак і я думаю, што не такі. Але ж цяпер яму хоць ты вочы заклей чым. Бо сечаны паліцай — усё роўна што сечаны пан.

— Але сапраўднае дзіва. Ад немца такога дак ужо ніхто і не чакаў. Бытта чорт лапаю накрыў.

— Нічога, тараватаму мужыку таксама навука патрэбна.

— Дак ета так, ета што чыя душа прымае.

— Словам, нездарма кажуць — век пражыў, а розуму не нажыў. Так гэта і Мікіта наш.

— Але ж гавораць і па-другому — вучыцца таксама не варта спяшацца.

— Ну але! Добра вучыць разумнага. Але ж гэты шаленец немец! Адкуль ён наскочыў сюды?

— Праўда, шаленец! Га-га-га! Ну да ладна. Няхай цяпер Брава-Жыватоўскі на свой хвост пабрэша.

— Няхай. Я не супраць. Я, Парфён, за тое, каб дурны з дурным заўсёды сварыўся, а разумны з разумным цешыўся.

— Хвала ўсявышняму, што з астатнімі ўсё абышлося. Здаецца, немцы паехалі далей. Мусіць, у Гутцы начаваць збіраюцца, калі іншага чаго ў галаве не маюць.

Але Парфён як сурочыў — раптам усе ўбачылі, што сярод немцаў на гуцянскай дарозе зрабілася неспакойна: спярша спынілася калона, а тады ва ўсе бакі паскакалі коннікі.

— Чаго гэта яны? — сцепануўся Зазыба.

— Няйначай, перадумалі,— цмокнуў языком Парфён Вяршкоў: у голасе было расчараванне.

А Зазыбу за адзін міг нібы ў гарачку кінула — штосьці здарылася!..

Тым часам мала хто звяртаў увагу на адзінокага каня з пустым сядлом, што трухаў уніз па гуцянскай дарозе.

Спацелы коннік падляцеў таксама па папары да Зазыбы з Вяршковым, разлучыў іх, адціснуўшы адзін ад аднаго буланым канём. Ён нешта залапатаў на сваёй мове, яўна пагражаючы, і стаў паказваць плёткай у бок гуцянскай дарогі, куды ўжо зганялі адусюль другіх верамейкаўцаў, якія за гэты час не паспелі далёка адысціся ад крыніцы.

— Што здарылася? — гукнуў уголас Зазыба, калі і яны з Парфёнам Вяршковым нарэшце апынуліся пад канвоем сярод натоўпу.

Яму не адказалі: ужо гурчаў блізка знаёмы «Хорх», і верамейкаўцы, палохаючыся, расступаліся на абочыны, вызваляючы дарогу.

Невядомасць тачыла ўсім сэрцы.

Дзіва, але Драніца таксама стаяў у натоўпе — ужо, няйначай, лічыў за лепшае трымацца ў баку ад Брава-Жыватоўскага. Ведаў, бэстыя, што б'юць іншы раз не толькі за тое, што перакруціў, але можа не менш, калі нават не больш, папасці і за тое, што недакруціў.

Тым часам Брава-Жыватоўскі хоць і пабіты, але быў без усялякае хітрасці сярод немцаў. Ды і службу паказваў шчыра — то наўздзіў скоранька, не зважаючы на сваю грузнасць, аббягаў верамейкаўцаў, нібыта баяўся, што тыя не захочуць стаяць на месцы, то спяшаўся зноў да немцаў, усё роўна як дзеля таго, каб

папытацца ў іх, атрымаць новае даручэнне, а найбольш затрымліваўся ўсё каля аднаго, які, мусіць, і быў за камандзіра — немец гэты на свой малы рост выглядаў надта затоўстым для спрытнага конніка і меў шырокі твар з вялікім носам, што выступаў ледзь не з сярэдзіны лоба.

Не хацеў заставацца без справы ў гэтай сітуацыі і татарын Рахім. Мала разумеючы, што трэба рабіць, ён тым не менш рухамі сваімі, паводзінамі нагадваў здурнелага сабаку, які ганяў на полі, ад пячуркі да пячуркі, мышэй.

Зазыба чуў, як прыглушана гаманілі вакол верамейкаўцы, найбольш кабеты, бо дзецюкі, здаецца, стаялі ў натоўпе моўчкі, але па ўсіх — і па мужчынах, і па жанках — было відно, што ранейшага страху, ранейшай утрапёнасці, якія валодалі сялянамі яшчэ зусім нядаўна, на сухадоле, цяпер не адчувалася, прынамсі, нічога такога па тварах вяскоўцаў Зазыба не прыкмеціў, быццам пасля здарэння ля крыніцы тыя не верылі, што нешта наогул можа пагражаць ім.

Начадзіўшы, бронеаўтамабіль нарэшце праехаў праз расколаты на дзве часткі натоўп і, не спыняючыся тут, пакаціўся з горкі да расчыненых коўрат.

Аказваецца, конныя немцы толькі і чакалі гэтага. Адразу загопалі на сёдлах, замахалі плёткамі.

— Шыбчэй, шыбчэй! — пачаў падганяць верамейкаўцаў Брава-Жыватоўскі.

Ужо на падыходзе к коўратам да Зазыбы ў натоўп праціснуўся Драніца.

— Дзяніс, як тэй таго...

— Што?

— Дак...— Драніца выразна шукаў моманту злавіць Зазыбаў позірк.

— Што тут здарылася ў вас? — спытаўся Зазыба.

— Дак... Конь іхні, як тэй таго, прыбег адзін з вёскі.

— Ну і што?

— Як што? Можа, хто наш, як тэй таго, прыстукнуў...

— Глупства,— сказаў упэўнена Зазыба.— Нашы ўсе былі разам. Сам жа ведаеш.

— Дак, як тэй таго...

— А ў цябе, нябось, і жылкі трымцяць? Ай ужо не спадзяешся на сябрука?

— На Жыватоўшчыка, як тэй таго? Але ж вунь як стараецца!

— Ну што ж,— спакойна сказаў на гэта Зазыба,— не хацела сабачая лапка ляжаць на лаўцы, дык трапіць некалі пад лаўку.

— Ну да, як тэй таго,— акурат не паверыў у Зазыбаву алегорыю Драніца,— Антон заўсёды сухі з вады выйдзе. Для яго ўсё роўна — ці чорнае, ці белае.

— Як бы не так,— усміхнуўся Зазыба, праганяючы з твару зацятасць.— Ты ж сам некалі ў кампаніі любіў прыгаворваць: прыйдзе коза да воза, а мы ёй пужкі. Помніш?

— Дак, як тэй таго...

— От бачыш, тыц-мыц і няма чаго гаварыць. А ўсё таму, што навуку позна пазнаеш.

Драніца цыўкнуў вачамі, сказаў, быццам заплакаўшы:

— Дак без мукі ж, як тэй таго, няма і навукі. Але што з намі будзе? Куды нас вядуць?

— Сам жа бачыш, у вёску. А, урэшце, пацікаўся ў свайго сябрука, тады і мне дакладна скажаш.

— Дак...

Зазыба пашукаў у натоўпе Парфёна Вяршкова.

— Чуў, што гавораць? — спытаўся ён цераз галавы.

— Чуў,— адказаў Вяршкоў, прабіраючыся бліжэй.

— Але я нешта не веру. Пры чым тут конь? Мы ж усе былі разам!

— Дак і я прыкідваў ужо. Выходзіць, так.

— А там... Словам, трэба, Парфён, глядзець, каб не прымусілі нас кроіць дзіравыя порткі.

Сонца заходзіла за лес чыстае. Зачапіўшыся за макушы дрэў над возерам, яно ўжо роўна дагарала там.

Раптам на дарогу, амаль пад ногі верамейкаўцам, выскачыў з бульбовых разорын сабака. То была Хрупчыкава лайка, і яе ўсе пазналі — з закручаным у абаранак хвастом, з чырвоным языком, які заўсёды хадзіў у яе зяпе ходырам, нават у самы холад. Сабака Хрупчыкаў увогуле быў бяскрыўднай жывёлінай, ён мала калі заставаўся ў вёсцы, а то ўсё бегаў безгалосы вакол, ганяў кагосьці ўдоўж і ўпоперак па засеяных палях. Ва ўсякім выпадку ні звягі, ні агрэсіўнасці яго ў Верамейках ніхто не помніў. А тут ціхоня нечакана вякнуў, быццам з пераляку, на знаёмых людзей, адскочыў на абочыну і тут жа кінуўся да канвойнага, што

ехаў па правы бок, цаляючы ўчапіцца зубамі за звешаную нагу ў стрэмі. Пры гэтым ён гучна гаўкаў, лёгка, проста мячыкам, падскокваў угору, ажно конь пад седаком захваляваўся не на жарты, пачаў касабочыць, спатыкацца ды падавацца назад.

— Сіланці,— устрывожыўся хтосьці ў натоўпе,— памані ты, далібог, сабаку свайго, а то...

Але Хрупчык у адказ і слова не паспеў вымавіць — канвойны амаль у адно імгненне сарваў з сябе карабін, што вісеў за спіной накрыж, і, нават не клацнуўшы затворам, стрэліў у раз'ятранага сабаку, які адразу тыцнуўся пысай у замуравелы прыдарожны дзірван, закалаціўся ў сутаргах, быццам хапянуў з хлебнай прынадай хуткадзеючай атруты.

Верамейкаўцы, на вачах якіх адбылося недарэчнае забойства, у жудасці ўцялі галовы, нават збіліся з роўнай хады. А нейкая жанок пры гэтым залямантавала ўголас, але тут жа спалохана здушыла ў сабе плач.

— Ну от, дажыліся,— сказаў нехта ў натоўпе,— і заступіцца няма каму.

— Хто ж ета палезе цяпера на ражно? — пачуўся другі голас, але Зазыба пазнаў — гэты, здаецца, належаў Падзерыну.— Вунь, сабака адно загаўкаў, і то...

— Шкада сабаку...

— Што тута ўжо плакаць па сабаку, калі дзень такі — адно другое даводзіць да ліха,— сказаў Сілка Хрупчык, якому, можа, пакуль аднаму было да слёз, бо за коўратамі пры дарозе застаўся ляжаць забіты яго сабака.

— Яно так,— падтрымаў Хрупчыка нечы жаночы голас,— толькі пусці першую слязу, за ёй адразу другая пацячэ, потым і не стрымаеш.

Зазыба ступаў па мяккім, бы прысакавым пяску на дарозе і, губляючыся ў здагадках, пакутліва прасейваў праз сваю разважлівую думку ўсё, што прыходзіла на памяць, аднак дапасці розумам да чагосьці пэўнага не мог: сапраўды, куды, ну куды і для чога гоняць пад канвоем верамейкаўцаў?

Раскрылася загадка адно ў вёсцы. Нават не сама загадка, а ўсяго толькі прычына, якая ўзбурыла немцаў.

Калі верамейкаўцаў нарэшце прыгналі на пляц супраць былой калгаснай канторы, там ужо стаяў знаёмы бронеаўтамабіль. Некалькі спешаных коннікаў,

якія таксама паспелі сюды наперад, пахаджвалі з карабінамі паўз штакетнік пад вокнамі. Твары ў немцаў былі як напятыя, нават разгубленыя, прынамсі, так падалося шмат каму [redacted] верамейкаўцаў. З бронеаўтамабіля адразу пры ўсіх вылез рослы, але ўсё роўна як стончаны ў поясе афіцэр з вельмі спакойнымі светлымі вачамі. На ім спраўна выглядаў зялёны кіцель з чорнымі абшлагамі на рукавах і гэткім жа чорным каўняром з зялёнай акантоўкай. На грудзях, прадзетая ў пятліцу для гузіка, чырванела малінавая стужка, а на рукаве з правага боку блішчаў значок афіцэра палявой жандармерыі — сярэбраная страла на залатым фоне.

Жандар наблізіўся да верамейкаўцаў, якія, апынуўшыся на пляцы, зусім збіліся ў цесны гурт, павадзіў па тварах вачамі, акурат шукаў паміж гэтых людзей кагосьці, хто яму край патрэбны быў, тады крута, адным кароткім рухам, павярнуўся ў процілеглы ад натоўпу бок і мерна, быццам падлічваючы крокі, пашнураваў да штакетніку. Пасля гэтак жа сама зноў павярнуўся да верамейкаўцаў і ці не па сваіх слядах, не прыспешваючы і не збаўляючы крок, вярнуўся на тое месца перад натоўпам, дзе ўжо спыняўся раз.

— У вашай вёсцы знік наш салдат,— пачаў ён паруску чыстым, бы з літой медзі, голасам, ніколечкі не павысіўшы яго, але так, каб чуваць было самым заднім.— Я аб'яўляю — калі праз дзесяць хвілін салдата не адшукаюць, абвінавачаны будзеце ўсе вы. Калі ж салдата знойдуць забітага, абвінавачаны таксама будзеце вы. Але ў гэтым выпадку, каб пазбегнуць пакарання, вы павінны назваць забойцу. Іначай — расстраляем усіх. Ніводная кропля крыві, дарэмна пралітая салдатам вялікага фюрэра, не можа застацца без адказу. Вы ўсе павінны ведаць пра гэта, ведаць сёння, заўтра, ведаць заўсёды. Хто стараста?

Адчуўшы, што менавіта яму, а не каму іншаму першым трэба азвацца цяпер, каб адказаць на пастаўленае пытанне, Зазыба праціснуўся наперад, сказаў зусім спакойна і гэтак жа не надта гучна, акурат як гаварыў афіцэр:

— У вёсцы няма яшчэ старасты.

— Чаму?

Зазыба праставата паціснуў плячамі, схіліўшы трохі набок галаву, але раптам спахапіўся, што трымае

перад жандарам па швах рукі, і ў той жа момант прымусіў сябе сагнуць правую ў локці, дацягнуцца ёй да носа, каб пакратаць шчопцем за самы кончык,— гэта было яго заўсёднай звычкай, калі выпадалі раптам раздумлівыя хвіліны.

Афіцэр, мусіць, таксама адчуў Зазыбаву знарочытасць, таму асабліва пільна паўглядаўся ў ягоны твар, які зусім не паказаўся яму праставатым, тады нечага прыжмурыў вочы і сказаў з выразным адценнем паблажлівасці:

— Добра.— Але тут жа паклікаў да сябе сярэднім пальцам левай рукі Брава-Жыватоўскага, які стаяў напагатове непадалёк.— Пан паліцэйскі, хто з вашых людзей заставаўся тут, у вёсцы? — спытаў ён Брава-Жыватоўскага, каб тым часам пачулі іншыя.

— Не ведаю,— адказаў Брава-Жыватоўскі, наперад паказваючы выглядам усім сваю вінаватасць,— маўляў, нечакана гэта адбылося, таму не мог прадугледзець.

— Даведайцеся і далажыце! — загадаў яму афіцэр.

Брава-Жыватоўскі падскочыў бліжэй да натоўпу, крыкнуў віхлястым голасам:

— Каго не было ў Паддубішчы?

— Дакладней, хто быў у гэты час у вёсцы,— паправіў яго жандар, зусім не выдаючы сваёй раздражнёнасці, якая, няйначай, бунтавалася ў ім, нягледзячы на вонкавы спакой.

— Так, хто заставаўся ў вёсцы? — ужо выразна губляючыся, крыкнуў зноў Брава-Жыватоўскі.

— Дак, здаецца, нікога,— зварухнуўся ў натоўпе Сілка Хрупчык, чамусьці ажно прысядаючы.— Усе ж нашы ў Паддубішча хадзілі.

— Ты сам бачыў, Антон,— азваўся нарэшце з-за спінаў вяскоўцаў і Раман Сёмачкін, які пасля здарэння ля крыніцы прыціх надоўга і зусім не выдаваў нідзе сваёй прысутнасці.— Мужыкі ўсе былі на падзеле. Ета можна нават пералічыць цяпера. А бабы... Дык бабы, сам знаеш...

— Ды не маглі нашы бабы забіць чалавека,— падала адразу ж нясмелы голас Рыпіна Ціткова.— Ета ж не певень, што б...

Брава-Жыватоўскі павярнуўся да афіцэра, паціснуў плячамі — маўляў, самі бачыце. Але той усё роўна як не зразумеў гэтага апраўдання. Сагнуў руку ў локці

і глянуў на круглы, падобны на компас, жоўты гадзіннік:

— На роздум вам дзве, не, нават дзве з палавінай хвіліны. Калі за гэты час не будзе знойдзены наш салдат, абвінавачаны будзеце вы. Калі не...— І ён зноў амаль слова ў слова пачаў паўтараць тое, што гаварыў раней.

Дзіва, але нібыта цяпер толькі верамейкаўцы па-сапраўднаму паверылі, што ім нешта пагражае, і не нешта, а самае што ні на ёсць жахлівае.

— А людзечкі, што ж ета будзе! — залямантавала з краю Ганнуся Падзерына, чамусьці адпіхваючы ад сябе шчыльна стаяўшых кабет.

Выходзіла, што верамейкаўцам дасюль нібыта аднаго яе ляманту і не хапала. Натоўп раптам прыйшоў у рух, загаманіў, ажно насцярожыліся канвойныя, пакраталі настаўленымі карабінамі. Толькі ніхто з верамейкаўцаў не асмеліўся зрабіць нават кроку ні ўперад, ні ўзад. Кабеты, як самыя трапяткія натуры, пачалі праклінаць уяўнага забойцу, праз якога немцы збіраліся парашыць усіх. Зазыба пачуў узбураныя галасы, падумаў збянтэжана — што ж гэта робіцца? Сам ён страху не адчуваў, усё роўна як назло, насуперак тым, хто паддаўся паніцы. З усяго, здаецца, хацелася аднаго — засланіць рукамі вушы, каб не чуць галасоў. Але вось нехта крыкнуў:

— Вядуць! Вядуць!

І праўда, па вуліцы да пляца немцы вялі, піхаючы прыкладамі, нейкага чалавека. Аказваецца, увесь гэты час, пакуль верамейкаўцы стаялі пад пагрозай, другія немцы,— а іх там было нямала,— шнырылі па вёсцы, абшуквалі ўсе закуткі. Чалавек спатыкаўся ад моцных штуршкоў, аднак не падаў. Неўзабаве верамейкаўцы пазналі яго. Гэта быў прыдуркаваты Ціма з Прудкоў. Яго ведалі ўсе, ад малога да сталага, і не толькі ў Прудках ды Верамейках. Такіх людзей, як Ціма, звычайна ведаюць па ўсёй акрузе, у кожным разе, у бліжэйшых вёсках напэўна. Гэтага чалавека прырода надзяліла магутнай сілай, але забрала розум, навекі зрабіўшы яго юродзівым. Праўда, да яго таксама часам вярталася здаровая свядомасць, і ён нармальна ўспрымаў усё, што яму гаварылі і чаго ад яго хацелі. Тады нават хоць каму цікава было мець Ціму субяседнікам. Якраз таму хадзілі згадкі, што хвароба з ім прыклю-

чылася пазней, калі ён плаваў недзе на параходзе. Вядома, у саміх Прудках знайшліся б людзі, якія маглі сказаць пра Ціму больш пэўнае што, аднак чамусьці ніхто ўжо і не хацеў іншага тлумачэння. Ціма прудкоўскі ды Ціма. Як звычайна бывае ў такіх выпадках, за ім ганяліся паўсюль дзеці, дражнілі абразлівымі словамі, строілі рожы, паказвалі языкі. Жыў Ціма ў Прудках адзін. Меў яшчэ бацькаву хату. Але ў печы паліў рэдка, можа, калі ў лютыя маразы, а то ўсё ляжаў у лахманах. З усёй жывой гаспадаркі меў адну карову, якую не кожны раз прыгадваў даіць, хоць вельмі акуратна глядзеў за тым, каб хапала ў хляве корму — насіў з калгасных стагоў у парваных рэзгінах сена, клаў адразу ў яслі і супакойваўся да наступнага разу. Сам ён карміўся найбольш па людзях. Прыходзіў у хату, сядаў за стол разам з гаспадарамі, а калі ў хаце не было гаспадароў, сам браўся ў парозе за вілкі, даставаў гаршчок з варывам з печы. Рабіў Ціма гэтак і ў Прудках, і ў Верамейках, нават наведваўся ў Бабінавічы, адным словам, адчуваў сябе вольна ўсюды, куды трапляў у сваім свядомым ці не свядомым бадзянні. І вось цяпер гэтага юродзівага вялі на верамейкаўскі пляц.

Да жандарскага афіцэра пад'ехаў коннік, той самы, што меў вялікі нос, які выступаў амаль з сярэдзіны лоба (яго верамейкаўцы запомнілі яшчэ адтуль, з-за коўрат), і нешта стаў гаварыць па-свойму.

Другія немцы, не чакаючы ніякай каманды, падвялі да штакетніку Ціму і сілай прымусілі павярнуцца да пляца. Нават за тыя дзесяць ці трохі больш крокаў, якія аддзялялі цяпер юродзівага ад верамейкаўцаў, льга было ўбачыць на ягоным твары, што небарака пакуль нічога не разумеў з усёй дзеі, адно талопіў з нейкай нечалавечай злосцю перад сабой як невідушчыя вочы ды раз-пораз хапаўся закарэлай рукой за скіўіцу, няйначай яна садніла ў яго ад удару. Няўходжаны, натапыраны Ціма нагадваў хутчэй чалавекападобную істоту, чым самога чалавека, усё роўна як прымусілі яго стаць на заднія ногі. Але вось раптам ён пазнаў у натоўпе кагосьці з верамейкаўцаў, калі, вядома, зусім не ўсіх і яўна што з радасці разявіў ва ўсмешцы рот.

Тым часам афіцэры — і жандарскі, і той, кавалерыйскі,— скончылі перамову і тады абодва падышлі

да юродзівага. Здавалася, яны загаворацъ з ім. Аднак жандар павярнуўся да натоўпу, спытаў на адлегласці:

— Хто ведае гэтага чалавека?

Але на верамейкаўцаў раптам таксама быццам замарачэнне найшло. Ніхто не адказаў, усё роўна як людзі не зразумелі, чаго цяпер ад іх хацеў гэты немец з голасам то ўкрадлівым, то строгім, нават грозным. Да таго ж, ніхто не верыў, што Ціма наогул здольны на забойства.

— Значыць, не ведаеце? — зларадна ўсміхнуўся жандар.— Тады я скажу. Гэта пераапрануты чырвонаармеец. І гэта ён забіў у вашай вёсцы нашага салдата. Па закону ваеннага часу вы таксама несяце адказнасць за забойства, таму што адбылося яно ў тыле нашай арміі, у вашай вёсцы. Вы хавалі ў сябе гэтага чырвонаармейца!

Трываць далей ужо нельга было.

— Мы ведаем гэтага чалавека!

Амаль з сярэдзіны натоўпу выбіраўся на край Парфён Вяршкоў.

— Мы знаем яго! — загаманілі тады наперабой і другія мужыкі.

Але жандарскі афіцэр глядзеў ужо на аднаго Парфёна Вяршкова.

— Ніякі ён не чырвонаармеец,— ужо амаль злосна сказаў Парфён.— Ета Ціма з Прудкоў. Ён не ў сабе, разумееце, пан афіцэр?

— Што значыць — не ў сабе? — быццам зніякавеў ад Парфёнавай настойлівасці жандар.

— А тое, што ён хворы,— паглядзеў проста ў вочы фашысту Вяршкоў.

— Чым хворы?

— На галаву хворы!

— Ідыёт?

— Так, дурны.

Афіцэр кінуў няверлівы позірк на Брава-Жыватоўскага. Той здалёк пакруціў каля скроні пальцам.

Мусіць, жандар такога павароту ў справе зусім не чакаў. Раптам у яго задрыжаў падбародак — не, ён не засмяяўся, каб хоць гэтак выйсці з недарэчнага становішча; проста яму нарэшце ўсё-ткі здрадзіла яго паказная ўраўнаважанасць. І ён закрычаў на Парфёна Вяршкова ў шаленстве:

— Туды! Станавіся туды! Станавіся побач з гэтым вашым ідыётам!

Але жандара вывела з раўнавагі не толькі тое, што чалавек, якога злавілі салдаты ў нечым двары, аказаўся ўсяго звычайным вясковым ідыётам. Найбольш яго прывяло ў шаленства свядомае і спакойнае заступніцтва вось гэтага пажылога селяніна з упэўненым позіркам у вачах, дзе не было не толькі страху, а нават і знаку на малейшае падлашчванне.

Да таго ж, на жандары ляжала адказнасць высвятліць галоўнае — куды падзеўся салдат вермахта? Не загасцяваў жа ён, урэшце, у кумы!

Між тым, станавілася відавочным таксама, што пошукі нічога не даюць, нягледзячы, што ў вёсцы ўжо мала што не перавернута дагары.

Парфён Вяршкоў не стаў чакаць, пакуль яго падштурхнуць карабінам к штакетніку, сам падышоў да Цімы і стаў па левае плячо.

Жандар таксама прымусіў сябе зрушыць з месца, зрабіць некалькі крокаў па пляцу. Патрэба ў гэтым была, каб супакоіцца. Ужо на чацвёртым ці цятым кроку ў разгарачаную галаву яго чамусьці прыйшла старая прымаўка: «Ман шлегт дэн закт, дэн эзель мейнт ман» *. Прымаўку гэтую часта паўтараў адзін яго таварыш, таксама недавучаны студэнт (іх прызвалі ў палявую жандармерыю з юрыдычнага факультэта), але сам ён, калі гаварыць шчыра, да канца не мог ахапіць яе розумам: адзін раз тлумачыў так, другі іначай. Затое цяпер здалося, што сэнс нарэшце дайшоў да яго, прынамсі, дастасоўна да гэтага выпадку.

Адчуўшы, што зноў здольны паводзіць сябе спакойна, жандар павярнуўся да асуджаных. Адзін з іх, той, што быў злоўлены ў вёсцы, сапраўды меў твар ідыёта, жандару нават дзіўна стала, як ён не зразумеў гэтага раней, з самага пачатку, ужо хоць бы па вачах, зусім адсутных, і па вялікай, занадта вялікай для нармальнага чалавека галаве. А вось другі!.. Гэты пры іншых акалічнасцях не мог бы не выклікаць захаплення нават у сапраўднага арыйца: зграбная пастава (нягледзячы на немалыя гады), сівая галава на жылаватай шыі, спакойныя рысы пачырванелага твару і гэтыя ледзьледзь прыўзнятыя бровы, з-пад якіх трохі скоса гля-

---

* Б'юць па мяшку, а на ўвазе маюць асла *(ням.)*.

дзелі глыбокія цёмныя вочы. Якраз вочы і выдавалі ў ім чалавека моцнага духам і багатага розумам. Аднак жандар не мог дазволіць сабе захапляцца!..

«Небст гефанген, небст геханген» *,— вырашыў ён.

Момант — і салдатам была аддадзена каманда стаць паміж натоўпам і асуджанымі.

Але сёння нібыта і праўда над верамейкаўцамі лунала літасць.

Раптам пачуўся конскі скач, і ўсе ўбачылі, як на пляцы каля жандара асадзіў буланага каня нямецкі кавалерыст. Нахіліўшыся з сядла, ён шапнуў нешта жандару. Той адразу ж павярнуў запытальны позірк да кавалерыйскага афіцэра, які ўвесь гэты час стаяў крокі за чатыры збоч, і, здавалася, безуважна да ўсяго. Прынамсі, ніякай актыўнасці ён пакуль не выяўляў.

— Гевер аб! ** — скамандаваў жандарскі афіцэр салдатам, якія трымалі ўзведзеныя карабіны.

Перасмыкнуўшы ад прыкрасці тварам, ён сарваўся з месца і хутка засігаў да «Хорха», затым рукой паклікаў да сябе Брава-Жыватоўскага.

Таўстун з вялікім носам таксама ўзяў у канавода повад свайго скакуна.

Збоку можна было падумаць, што нечакана здарылася нейкая зусім непрадбачаная акалічнасць, усё роўна як самім немцам ужо нешта пагражала. Але выйшла ўсё прасцей.

Гітлераўцы нарэшце адшукалі прапаўшага кавалерыста. Як ні дзіўна, але выявілі ў вясковым калодзежы, што насупраць Хрупчыкавага двара, выцягнулі адтуль нежывога.

Памог адшукаць гаспадара ягоны конь.

Раптам хтосьці з немцаў, якія гойсалі па вёсцы, убачыў, што ля калодзежнага зруба стаіць і ўсё не адыходзіць засядланы конь, той самы, які належаў іхняму прапаўшаму таварышу. Пры гэтым конь неяк дзіўна ржаў, заглядваючы цераз невысокі зруб у калодзеж. Ягоныя паводзіны і навялі немцаў на думку, што, можа, гаспадар апынуўся нейкім чынам там.

Гэты калодзеж у Верамейках таксама быў з жураўлём, а значыць, глыбокі. Але ён таіў у сабе адну небяспеку — выцягваючы бодню з вадой, трэба было заў-

---

* Разам злоўлены, разам павешаны *(ням.).*

** — Адставіць! *(ням.)*

сёды пільнавацца, каб трымаць у руках, схіляючы да сябе, вочап, бо каля самай паверхні, ужо на ўзроўні апошняга вянка на зрубе, бодня раптам моцна, рыўком тузалася да другой сценкі, і чалавек, які не ведаў пра гэта, мог не ўстаяць на нагах і лёгка пашаснуцца, паляцець галавой уніз. Акурат так і здарылася з немцам.

## IV

Было недзе на пятую гадзіну па поўначы, і Шпакевіч, стоячы ў глыбокім акопе, бачыў па правы бок ад сябе, як на ўсходзе, акурат над зямлёй, ужо нібыта святлела, а на небе, што трапяткая істота, гарэла-міргцела вялікая зорка. Няйначай, Мілавіца.

Па Шпакевічавых разліках ужо час быў прыйсці тым акружэнцам з-за абаранялынага рубяжа, што меліся выйсці тут, на гэтым участку, да сваіх. Казалі, што адтуль сёння прынясуць на насілках нейкага палкавога камісара, які быў паранены ў нагу яшчэ недзе далёка за Дняпром.

Шпакевіч ужо каторы дзень знаходзіўся ў стралковай роце, але пра яго не забываў і старшы лейтэнант з асобага аддзела. Той наведваўся сюды, на пярэдні край, лічы, кожнага дня. Уласна, Шпакевіч нават не зусім выразна ўяўляў сабе, дзе яго цяпер служба — у роце, якая была сфарміравана за Пёклінам на зборным пункце з ліку выйшаўшых за абаранялыны рубеж байцоў, ці ў асобым аддзеле, што размяшчаўся па-ранейшаму ў не далёкім адсюль лесе.

У абавязак Шпакевічу ўваходзіла сустракаць групы, якія выходзілі [redacted] акружэння. Суправаджалі іх у лес, на зборны пункт, у адрыну, другія, а Шпакевіч толькі сустракаў. У гэтае паняцце «сустракаў», праўда, уваходзіла таксама і многае іншае, ажно да арганізацыі сустрэчнага бою.

Калі ён на другі дзень свайго знаходжання на зборным пункце зайшоў у адрыну, дзе праходзілі праверку былыя акружэнцы, і сказаў, што служыў у Мазыры ўчастковым міліцыянерам, старшы лейтенант у каверкотавай гімнасцёрцы, на рукаве якой была нашыта эмблема з залацістым шчытом і мячом, адразу спытаў:

— А чаму цяпер раптам радавы?

— Самі ж ведаеце,— развёў рукамі Шпакевіч,—

нашы наркаматаўскія званні не адпавядаюць агульнавайсковым. Мае кубікі ледзь дасягалі трохкутнікаў сяржанта. Ды і не збіраўся я доўга служыць. Прызываўся ж па ўсеагульнаму. Па ўказу трыццаць дзевятага. Так што.

— Значыць, не захацеў насіць секялі? Спадзяваўся начапіць нанова кубары?

— Не так спадзяваўся на міліцэйскія кубары, як не збіраўся ваяваць.

— Многа хто не збіраўся,— ссунуў свае чорныя бровы старшы лейтэнант.— Я вось таксама... нават не паспеў пераадзецца. Хаджу яшчэ ў наркаматаўскім.

І сапраўды — акрамя каверкотавай гімнасцёркі, якая была на ім і якая сведчыла аб прыналежнасці да Камісарыята дзяржаўнай бяспекі, на стале, па правую руку ад яго, ляжала фуражка з ярка-малінавым аколышкам і васільковым верхам.

— Ладна, давай дакументы і выкладвай усё як ёсць,— агледзеўшы з ног да галавы Шпакевіча, сказаў затым пасля нядоўгага маўчання гаспадар яе.— Дзе адстаў ад сваіх? Па якой прычыне?

Хоць цёмна-карыя вочы ў яго былі жывыя і зачэпістыя — пэўна ўжо адпавядалі службе і паўсядзённаму занятку,— але прадаўгаваты твар з высокім лобам выгляд меў стомлены, нават як не змарнелы. Мусіць, чалавек не ўпраўляўся ні паспаць як след, ні добра паесці. Шпакевіч адзначыў усё гэтае чалавечае ў ім і раптам неяк стаў вальней адчуваць сябе, стоячы пры стале, прынамсі, ужо неўпрыкмет унутрана пераконваў самога, што трапіў сюды зусім не на допыт. Яго не бянтэжылі больш і плакаты, якія адразу кінуліся былі ў вочы, калі ён зайшоў у адрыну. Два з іх віселі на сцяне за спіной у старшага лейтэнанта. На адным была намалявана рука з высунутым указальным пальцам, ад якой па дыяганалі зверху ўніз ішлі прапісныя фіялетавыя літары: «Дэзерцір, баязлівец і панікёр — вораг савецкага народа». На другім малюнак адсутнічаў, затое пасярэдзіне ў два радкі было выведзена зусім не друкарскім чынам — «Бальшавіцкая пільнасць — неабходная ўмова перамогі над ворагам».

Нетаропка, нават вяла Шпакевіч пачаў расказваць, як апынуўся па той бок фронту і як пасля выходзіў разам з Халадзілавым і Чубарам сюды па адрэзанай немцамі тэрыторыі.

— І ўсё-такі я дзіўлюся,— перабіў яго старшы лейтэнант,— чаму вы дасюль радавы?

— Я ж казаў, не збіраўся доўга служыць.

— Ну, гэта ў мірны час. А цяпер?

— Дык, здаецца ж, не да званняў пакуль было. Ваюю ўвесь час.

— Ваюеш! — строга сказаў старшы лейтэнант.— А тут камандных кадраў не хапае. Каму як не табе ўзводам, нават ротай, камандаваць? Якая адукацыя?

— Сем класаў.

— Ну вось, а ў другіх добра калі царкоўнапрыхадская... Не, у дэзерцірах доўга хадзіць мы табе не дазволім.

— Які ж я дэзерцір?

Але асабіст усё роўна як не пачуў яго.

— Ну няхай на абавязковай, там яшчэ куды ні ішло. А цяпер... Сорамна, таварыш Шпакевіч, сорамна! Я вось зараз паперу напішу. Суправаджальную.— Ён выдраў з тоўстага блакнота аркуш, пачаў хутка накідваць літары.— Вось,— склаў ён аркуш,— пойдзеш у Аўчынец, гэта блізка адсюль, кіламетры паўтара, далажышся, як падабае. Туды нядаўна пайшла сфарміраваная намі рота... з такіх вось, як ты. Там якраз і спатрэбішся. Улічы, камандзір роты мой добры знаёмы. Так што пасылаю цябе амаль па яго просьбе. А ў далейшым, калі нічога не здарыцца, то май на ўвазе — у нас тут, у аддзеле, таксама работы хапае.

— Але ж мне трэба свой полк шукаць,— узмаліўся Шпакевіч.— Павінен далажыць, што заданне мы з Халадзілавым выканалі.

— Рабі так, як загадана! — не стаў слухаць старшы лейтэнант.— Дзе твой Халадзілаў?

— Чакае, каб зайсці сюды.

— Канечне, яго толькі тут і не хапала. Не, таварыш Шпакевіч, бяры свайго падначаленага і топай у роту да Зімавога. Урэшце, сам адказвай за свайго Халадзілава. А то і праўда, кубікі пахаваў у кішэнь і прытвараешся ўжо каторы год.

— Ды не хаваў я іх! Проста...

— Ясна, што проста.

Але не паспеў Шпакевіч апынуцца ля варот, як у небе над адрынай спікіраваў нямецкі самалёт. Дзіва, але да той хвіліны, пакуль не зароў ён над галовамі, ніхто не пачуў нават гуку, усё роўна як фашыст пад-

краўся знянацку. Самалёт не застрачыў з кулямёта, не стрэліў з гарматы. Ён толькі скінуў на адрыну бомбу. Адну-адзіную. Але яна не пацэліла ў адрыну. Разарвалася метраў за дваццаць ад яе, раскалоўшы напалам таўшчэзную сасну, якая адна стаяла на колішнім лядзе.

Здавалася, апрача расколатай сасны, скінутая бомба нікога больш не зачапіла, не знайшла сабе іншай ахвяры. Больш таго, было падобна, што яна не паспела напалохаць чырвонаармейцаў, якія яшчэ з начы стаялі і сядзелі вакол адрыны. Ва ўсякім разе так думаў Шпакевіч, калі пасля выбуху выскачыў за вароты. Але тое, што ён убачыў у наступны момант, прымусіла скалануцца. Халадзілаў, яго Халадзілаў, ляжаў ля варот на баку, і са скроні, прабітай асколкам, цякла кроў.

Кажуць, на вайне гінуць самыя лепшыя людзі!..

Невядома, лепшы чалавек з усіх добрых людзей быў Халадзілаў ці не, аднак смерць яго перажываў Шпакевіч моцна. Здаецца, большай страты нават і ўявіць нельга было ў жыцці.

Напаткаў Халадзілава Шпакевіч у пачатку ліпеня, калі 55-я стралковая дывізія пасля баёў у раёне Слуцка нарэшце спынілася на даўкамплектаванне. У лясным лагеры за шэсць кіламетраў ад Чачэрска палкі 55-й папаўняліся адразу і за кошт вайсковага рэзерву, і за кошт мабілізаваных праз мясцовыя ваенкаматы, і за кошт чырвонаармейцаў і камандзіраў, якія адбіліся ад сваіх часцей. Дзеля гэтага прадстаўнікі розных службаў дывізіі гойсалі па наваколлі, накіроўваючы ў лагер тых, хто трапляўся на шляху і каго можна было завярнуць з дарогі. Уласна, там, у Чачэрскім лесе, адбывалася амаль тое ж, што назіралася цяпер на гэтым абараняльным рубяжы, можа, толькі з той невялікай розніцай, што тады справу гэтую ад пачатку да канца рабілі вайсковыя штабы... У адзін такі мітуслівы дзень Шпакевіч вярнуўся ў лясны лагер к позняму абеду — яго браў з сабой у паездку ў якасці байца-ахоўніка афіцэр са штаба артылерыі, і яны дапялі на грузавой машыне ажно да Доўска. Шукалі згублены артдывізіён сваёй жа дывізіі. Дарога выйшла цяжкая, наогул, у франтавых умовах дарогі заўсёды нялёгкія, асабліва ў час адступлення. Артдывізіёна яны не знайшлі: можа, той адыходзіў на ўсход па якой іншай дарозе.

Затое прывялі ў лагер чужую батарэю 76-міліметровых гармат. Камандзір гэтай батарэі даволі хутка, амаль без угавораў, даў згоду «папоўніць» артылерыйскі парк дывізіі. Тым больш што ў зарадных скрынях у яго не было ні аднаго снарада. Добра ці блага, але начальнік штаба артылерыі 55-й вельмі задаволены быў такім набыткам.

Паабедаўшы сухім харчам, Шпакевіч рушыў на пошукі штабной батарэі, дзе служыў кулямётчыкам,— сказалі, што батарэя выехала на палявыя заняткі. Сапраўды, батарэю сваю Шпакевіч убачыў на вялікай паляне, кіламетры за два ад штаба. Спярша на паляну выскачыў з лесу верхам на кані камандзір батарэі, малодшы лейтэнант Макараў, а ўжо за ім вынесліся артылерыйскія запрэжкі. Камандзір махнуў шабляй, і батарэя, зрабіўшы вольт направа, амаль не збаўляючы алюру, развярнулася пасярод паляны фронтам на захад. Ездавыя тут жа адчапілі пастронкі ад станінаў, пагналі коні, уносамі, назад у лес, а разлікі тым часам кінуліся рыхтаваць гарматы да бою, паспешна забіваючы сашнікі ў зямлю і вынімаючы з зарадных скрыняў на перадках латкі са снарадамі.

— Спякта-а-акаль! — раптам пачуў ледзь не над вухам Шпакевіч — побач стаяў малады ўсмешлівы салдат і круціў ад здзіўлення галавой.

Шпакевіча гэта ўкалола. Ён змераў позіркам чырвонаармейца — гэта быў Халадзілаў,— нават апёк яго тым позіркам, тады павучальна сказаў:

— Суворaў гаварыў — цяжка ў навуцы, затое лёгка ў баі!

— Але ж Суворaў і пра другое гаварыў,— запярэчыў чырвонаармеец, працягваючы гэтак жа ўсмешліва пазіраць, як па камандзе камандзіра батарэі артылерысты імітавалі прыцэльны агонь з усіх гармат,— салдат навуку любіць, быў бы толк з яе.— Пры гэтым ён паглядзеў і на Шпакевіча, паставіўшы на нейкі момант ледзь не праўцом светлыя вочы.

Шпакевіч пасля гэтых слоў ажно ўскінуў бровы, здзіўлены найбольш тым, як проста, з нейкай несалдацкай бестурботнасцю разважаў незнаёмы чырвонаармеец.

— Значыць, яны гэта робяць без толку? — усё роўна як заступаючыся за артылерыстаў, раўніва спытаўся Шпакевіч.

— Гм, толк...— адвёў ад Шпакевіча позірк Халадзілаў.— Толк можа быць. Але тады, як на перадавую падвязуць дастаткова снарадаў. За ўсю вайну яшчэ не даводзілася чуць, каб артылерыя наша дрэнна страляла таму, што разлікі не ўмеюць наводзіць гарматы. Наадварот, не хапае снарадаў. А то і проста, здараецца, не бывае іх на батарэях. Таму я і кажу — навошта дарэмна клацаць затворамі? Працуюць жа артылерысты і так, быццам аўтаматы, хоць кожнаму завязвай вочы.

«Разумны які! — з'едліва падумаў Шпакевіч.— Няма на цябе!..»

Але размову ім працягваць не далі — Шпакевічу раптам знайшоўся пільны занятак на батарэі.

Між тым, запомніць Халадзілава з аднаго разу нават ва ўмовах вайны не складала цяжкасці.

Хутка палкі 55-й занялі абарону на ўсходнім беразе Сажа. Якраз галоўныя баі з немцамі тады ішлі ў ваколіцах Магілёва. Аднак неўзабаве дывізія атрымала новы загад — зрабіць трыццацікіламетровы марш і засяродзіцца ў лясах на поўдні ад Чэрыкава. І вось пакуль яна перамяшчалася з аднаго месца на другое, немцы перайшлі Днепр і занялі Прапойск, што ў вусці Проні. Далей на іх шляху ляжаў Чэрыкаў. Дывізію зноў кінулі назад да Сажа. Словам, тэатр ваенных дзеянняў ажыў паўсюль, і салдату стала не да прыватных знаёмстваў, не да ўспамінаў: адно павяртай галаву па баках, кланяйся кулям ды сцеражыся, каб не раструшчыла коламі альбо гусеніцамі дзе-небудзь соннага. І тым не менш Шпакевіч стрэўся з Халадзілавым. Якраз ішоў бой з нямецкімі танкамі на паўднёва-ўсходняй ускраіне Чэрыкава. Сюды найперш быў кінуты з левага берага 111-ты стралковы полк. Шпакевіч таксама знаходзіўся на танканебяспечным напрамку, як гэта прынята гаварыць,— ахоўваў з ручным кулямётам назіральны пункт начальніка штаба артылерыі, які быў вынесены за раку і размяшчаўся за нейкім свіранам. Але артылерыя страляла далёка з-за Сажа, таму непрыцэльны агонь, нягледзячы на ўсё ўмельства памочніка начальніка штаба, мала памагаў батальёнам. Для стварэння ж нерухомага загараджальнага агню ў дывізіі не хапала снарадаў. Тым часам нямецкія танкі не пераставалі страляць на хаду, усё бліжэй падыходзілі да раённага цэнтра. Сярод нашай пяхо-

ты было многа страт. На назіральным пункце памочніка начальніка штаба артылерыі таксама ўжо загінулі тэлефаніст і разведчык-вылічальнік. І калі за свіранам на назіральным пункце паявіўся баец з невялікай скрыняй у брызентавым чахле, Шпакевіч падумаў, што з-за ракі нарэшце прыслалі тэлефаніста. Аднак то быў не тэлефаніст, а сапёр.

— Загадана ўзарваць мост,— далажыў ён памочніку начальніка штаба артылерыі.

— Калі? — адняў ад вуха тэлефонную трубку счарнелы камандзір.

— Як толькі наблізяцца танкі. Загадана не пусціць іх на той бок.

— Ну што ж,— нявесела ўсміхнуўся памочнік начальніка штаба,— дзейнічай. Раз мы сваімі сродкамі не можам стрымаць танкі, дзейнічай ты.

— Падпалкоўнік Тэр-Гаспаран загадаў...

Але побач выбухнуў снарад, і Шпакевіч, які ляжаў за кулямётам, не пачуў у яго грымоце далейшых слоў.

Тым часам сапёр перагаварыў пра ўсё з памочнікам начальніка штаба артылерыі і, сядаючы, прыхінуўся спіной да сцяны свірана, якраз наўскасок ад Шпакевіча.

— Глянь, знаёмы! — пазнаў Шпакевіч Халадзілава і неяк ажно ўзрадаваўся, мусіць, усцешаны тым, што чалавек не аціраўся па тылах за ракой, а таксама сунуўся ў пекла...

Халадзілаў у адказ адно змоўшчыцкі плюснуў вокам.

— Што гэта ў цябе, патэфон? — кінуў на скрыню ў брызентавым чахле Шпакевіч.

— Адгадаў — патэфон.

— Мусіць, у гарнізонным клубе прыхапіў?

— Таксама адгадаў.

— А чаму без зброі?

— Навошта яна мне? Я ўсё больш пад крылцам. Убачу, дзе кулямёт стаіць, туды і сігаю. А вось не прападу: ёсць каму і прыкрыць і засланіць.

— Многа ты разумееш! Ды толькі я стрэлю са свайго кулямёта, як тут жа снарады змяшаюць усё вакол. Кулямёт — гэта першая мішэнь для ворага. Артылерысты толькі і палююць за імі.

— Што ж, ты артылерыст — табе і відней,— махнуў рукою схільны да жартаўлівай размовы сапёр, у якой цяжка было адрозніць сур'ёзнае ад несур'ёзнага.

Зноў разарваўся паблізу снарад, ажно здалося, што пачала спаўзаць бокам страха са свірана.

Хоць Шпакевічу пакуль і не было занятку, бо ён меў загад усяго толькі ахоўваць назіральны пункт памочніка начальніка штаба артылерыі і адкрываць агонь з кулямёта тады, калі будзе пагражаць блізкая небяспека, але размову з Халадзілавым больш не аднаўляў.

К вечару таго дня назіральны пункт памочніка начальніка штаба артылерыі быў перанесены бліжэй да ракі, а к раніцы наступнага дня і зусім зрабіўся непатрэбны: Чэрыкаў занялі немцы.

Між тым, Шпакевіч нечакана стаў сапёрам. Прыняўшы ўдзел ва ўзрыве моста цераз Сож, ён так і пайшоў з Халадзілавым у сапёрную роту, бо нехта сказаў яму, што штабная батарэя лейтэнанта Макарава таксама перастала існаваць.

Разам з Халадзілавым у канцы ліпеня і ў пачатку жніўня Шпакевіч узрываў масты і на Сене, што недалёка ад Пільні, і на Лабжанцы ў Клімавіцкім раёне, каля Лазовіцы, і на Сураве, што з таго боку Забялышана. Апошні мост яны ліквідавалі на Дзяражні, адкуль і прыйшлі сюды па нямецкіх тылах, на гэты абаранчальны рубеж...

Узрываючы масты на рэках і падоўгу застаючыся разам, яны паспелі шмат чаго перагаварыць. Шпакевіч усё ведаў пра Халадзілава, а Халадзілаў пра Шпакевіча. Хоць Шпакевіч гадамі і быў старэйшы, аднак гэтая розніца ва ўзросце не адчувалася...

«Эх, Халадзілаў, Халадзілаў!» — часта засмучаўся цяпер Шпакевіч, усё роўна як той вінаваты быў у сваёй смерці.

Дзіва, але Халадзілаў сам лічыў, што яму наканавана загінуць. І не таму, што напісана было на раду.

Нават у апошнюю ноч, якую яны правялі разам, ужо тут, у лесе каля адрыны, Халадзілаў таксама загаварыў пра гэта.

Як і многія іншыя чырвонаармейцы, што трапілі на зборны пункт, яны абначыліся пад яловымі шатамі, лёгшы проста на зямлю і накрыўшыся адным шынялём, бо Шпакевіч у Пёкліне аддаў свой Чубару. Хоць

абодва і былі зморапы дарогай, але сон да іх не ішоў доўга.

Зусім блізка, крокі за чатыры ад іх, хтосьці бубніў у цемнаце малітву «Ойча наш». Дзіўна чуць было яе тут, між людзей, якія за два месяцы адступлення пазабываліся нават, што побач з апраметнай бывае рай. Няйначай, то маліўся нейкі набожны селянін, якога вайна адарвала ад сям'і і дому. Ад малітвы раптам зрабілася чамусьці ажно вусцішна ў абодвух — і ў Шпакевіча, і ў Халадзілава — на душы. Але вось нарэшце чалавек вымавіў апошняе перад «амінам» «яка жэ твае есць царства і сіла і слава ва векі», і тады Халадзілаў неяк зларадна сказаў:

— От жа моліцца. Відаць, спадзяецца, што ўсявышні выбера з усіх яго, праявіць сваю літасць.— Паляжаў трохі, пасля яшчэ сказаў, але ўжо без жорсткасці ў голасе, раздумліва: — Кажуць, на вайне гінуць самыя лепшыя людзі. А я жыву яшчэ. Значыць, не лепшы!..

Шпакевіч усміхнуўся сабе ў цемнаце:

— Шкадуеш, што цэлы?

— Не, я гэта к слову. Але з гэтай вайны мала надзеі выйсці жывым. Ну, а меркаваць пра нас, мёртвых, будуць пасля тыя, хто ўцалее.

— Скажы яшчэ што!

— Дык яно па логіцы так выходзіць. Калі сапраўды на вайне гінуць самыя лепшыя, значыць, меркаваць пра нас будуць...

— Горшыя? — перахапіў яго думку Шпакевіч.

— Выходзіць, так.

— Глупства! Узяў сабе ў галаву. Рана яшчэ хаваць сябе. Вось адваюемся хутка, дамоў прыйдзем!

— Па-першае, адваюемся не так хутка, як гэтага ўсім нам хочацца. Не тыя маштабы. Не тая вайна. Гэтая малатарня надоўга заведзена. Ты не глядзі, што немцы хутка дапёрлі сюды. Вунь ужо Арол не надта далёка. А там, па прамой, і Тамбоў, і Саратаў... Яныто сапраўды хутка сюды зайшлі, а выганяць іх давядзецца марудна. Гэта заўсёды так, абы пусціў нячыстую сілу ў дом, пасля набярэшся марокі, пакуль прагоніш. Нават папа з кадзілам і таго папросіш.

— Ты, я бачу, таксама прымхлівы. Нячыстую сілу памінаеш.

— Гэта я так. Для большай пераканаўчасці.

— Ну, а калі ўсё-ткі чарцям назло застанешся жыць, га?

— Таксама радасці мала. Сярод нармальных людзей ды быць ненармальным — незайздросны лёс. Бо к таму часу, як вытурым за граніцу немцаў, амаль кожнага па два разы памылкова пахаваюць, па два разы — і таксама, можа, памылкова — да сценкі паставяць, не важна, па два разы... Словам, не будзе канца гэтым «двум разам». Дык дзе ўжо тут, у такой калатэчы, захаваць сябе нармальным чалавекам?

— Нічога. Не журыся. Пераможам фашыстаў, помнікі нам паставяць — жывым і мёртвым, лепшым і горшым.

— Нават тым, хто іншы раз і слова добрага не заслужваў.

— З песні слова не выкінеш.

— Яно так.

— Таксама палёгка для душы.

— А я вось слухаю цябе і думаю — няшчадны ты ўсё-ткі... і да сябе, і да другіх.

— Наадварот, — усміхнуўся Халадзілаў, — апошнім часам я нават падабрэў. Раней, у пачатку вайны, зусім быў жорсткі. А цяпер, як нагледзеўся ўсяго за гэтыя месяцы, то і адпусціўся душой. Адчуў, што лягчэй нават стала жыць. Аказваецца, гэта вялікая справа, зразумець раптам, што горш за смерць для чалавека нічога няма і не будзе. І вось ужо каторы тыдзень і па зямлі я хаджу лёгка і смела, і раблю ўсё амаль з ахвотай, і разважаю пра ўсё без лішняй асцярогі. Так што выбачай, калі надакучыў.

## V

Хтосьці адчыніў з гарода фортку-весніцы, нячутна ўзышоў на Зазыбаў двор. Зазыба пачуў гэта скрозь нямоцны сон — спалася сёння вельмі няроўна, нават у самога было такое ўражанне, быццам зусім і не спаў, а звечара, як лёг упоперак, галавой да сярэдняй сцяны на тапчане, дык тонуў ужо на нейкай густой, акурат зацукраванай альбо засоленай вадзе, то выныраючы на кароткі час прыглушанай, але яшчэ пакуль жывой рыбінай на паверхню, то патанаючы зноў. Пачуў і здагадаўся: узышоў на двор чалавек

свой, а калі і не свой, то, прынамсі, не далёка чужы, бо ведаў някепска дарогу; сапраўды, каб гэта быў хто чужы, то наўрад ці даўмеўся б пайсці па гародзе ды яшчэ праз фортку, якую з таго боку, не ўмеючы, і не намацаеш уначы рукамі ўздоўж суцэльнай сцяны прыбудоў; значыць, усё ж прыйшоў чалавек свой. Можа, гэтая акалічнасць і стала адразу прычынай, што Зазыба прахапіўся ў тую ж хвіліну, не насцеражыўся, як мае быць, не зацікавіўся і не адчуў небяспекі; ён яшчэ даў сабе волю паляжаць, не лішне спяшаючыся выйсці з ранейшага дрэмнага стану, усё роўна як спадзяваўся, што ў хаце ёсць каму мець аб гэтым яшчэ большы за яго клопат. Аднак у хаце, апроч Марфы, нікога не было. Дык не Марфе ж бегчы, глядзець праз тайнае акенца ў сенцах на двор!.. Нарэшце Зазыба свядома адхінуў, як дзяругу, з сябе плыткую дрэмнасць, заварушыўся на мулкім тапчане і сеў неўзабаве, слухаючы адным часам, ці падасць чалавек на двары якія-небудзь іншыя адзнакі сваёй прысутнасці. Ціха было там цяпер. Але ж глухая сцяна таксама для чалавечага вуха перашкода — як не клямкне зноў жалезам там, то і не пачуеш у хаце. Зазыба павёў вострым, амаль заечым позіркам па вокнах: па часе недзе было ўжо многа, хоць месяц, які ці не апошні раз сёння паказваўся поўняй, свяціў на вуліцы. «От жа цыганскае сонца!» — акурат раззлаваўся Зазыба, усё роўна як час карцеў збірацца ў зладзеі, а не ісці правяраць, хто шастае па двары. І адразу чамусьці падумаў, няйначай, то юродзівы Ціма прыблукаў аднекуль, злашча, што пасля таго разу, як яго валачылі па вёсцы немцы, ён і не паказваўся сярод верамейкаўцаў. Але, прыгадаўшы мінулае, дакладней, тое, што адбылося на вясковым пляцы, Зазыба раззлаваўся яшчэ больш, маўляў, носіць гэтага Ціму нялёгкая!.. Зразумела, прыйшло ў галаву і больш таго. Напрыклад, як хваліўся потым цэлага вечара Брава-Жыватоўскі, расказваючы, што гэта ён адвёў бяду ад верамейкаўцаў, даказаўшы немцам, што салдат іхні сам уваліўся ў калодзеж; з яго слоў выходзіла, Брава-Жыватоўскаму ажно колькі разоў дзеля гэтага давялося брацца за вочап ды паказваць, як яно ўсё магло здарыцца — нават жандарскі афіцэр і той мусіў паверыць. Салдата-тапельца закапалі пад плотам Сількі Хрупчыка самі немцы, крокаў за дваццаць ад ка-

лодзежа, без воінскіх ушанаванняў, акурат саромеючыся нечага ды крадучыся, а калодзеж загадалі сялянам разбурыць, каб не паўтарыўся выпадак. Вядома, верамейкаўцы не сталі марудзіць, па-першае, загад трэба выканаць было, а па-другое, у тутэйшых вёсках і без таго спрадвеку засыпалі студні, з якіх даставалі альбо людзей-тапельцаў, альбо проста якую здыхляціну, калі нават і кошку. Ва ўсякім разе вады з такога калодзежа па сваёй ахвоце ўжо ніхто б не стаў піць. Таму Зазыба першы адарваў рукамі дошку, на якую звычайна ставілася бодня, і з прыкрасцю ў сэрцы кінуў яе ў сярэдзіну зруба, у ваду, што гэтак недарэчы была спаганена немцам. Верамейкаўцы тады разыходзіліся па хатах узрушаныя. Вядомая рэч, што і размоў было шмат, бо кожны стараўся прыпомніць штосьці такое, чаго не згледзеў другі. Словам, настрой у верамейкаўцаў быў як найлепшы, калі выйшла ўсё, быццам у той прыказцы — і ваўкі адбегліся прэч сытыя, і авечкі засталіся ў статку непаедзеныя. Натуральна, што і Брава-Жыватоўскі зноў у цэнтры ўвагі стаў, ледзь не ў героях (а яму гэтае «геройства» пасля лупцоўкі, якую атрымаў на сухадоле, якраз дарэчы!). Тым часам пра Парфёна Вяршкова, што кінуўся выручаць прыдуркаватага Ціму, мала хто ўспамінаў, прынамсі, геройства ў ягоным учынку верамейкаўцы не бачылі, скора вяскоўцаў хапала ўсяго на тое, каб паспачуваць Парфёну, маўляў, праз гэтага юродзівага ледзь не атрымалася з табой няшчасце!.. Цяперашняя Зазыбава злосць на Ціму таксама была недарэчная. Зазыба і сам гэта разумеў. Але тлумачэнню яна, гэтая злосць, асабліва не паддавалася, можа, таму, што было проста прыкрае пачуццё, выкліканае жахлівымі акалічнасцямі, незалежна, хто апынуўся вінаваты ў іх. Да таго ж цяпер была ноч, і турбавацца праз нечую несвядомую непрыкаянасць не надта хацелася нават Зазыбу. Тым часам не выйсці ў сенцы ды не прыпасці вокам да акенца таксама доўга не мела сэнсу гаспадару, які павінен клапаціцца пра свой двор. Таму Зазыба нарэшце прымусіў сябе нацягнуць на босыя ногі ялавыя боты ды пашукаць у галавах ватоўку.

Месяцава святло давала магчымасць прайсці невялікі шлях ад тапчана да парога амаль па віднаму, але Зазыба праз гэта раптам занепакоіўся: не шкодзіла б

глянуць і ў завулак перад домам. Так ён і зрабіў — павярнуў да сцяны з вокнамі.

— Дзяніс, ета ты? — пазвала Марфа.

— Вады напіцца хачу,— растлумачыў Зазыба.

— А я падумала...

— Спі. Я нап'юся і таксама лягу.

Тады Марфа зноў спытала, але пазяхаючы ўжо:

— Ці позна ета?

— Другія пеўні спяваць будуць.

— Дак і не дужа ж позна,— нібыта здзівілася Марфа.— Колькі тае начы прайшло, а я паспела сон пабачыць. Што ты надзеўся? Вада ж і ў хаце ёсць. Вядро вунь на ўслоне.

Зазыба крактануў ад жаночай несвядомасці, сказаў:

— Здаецца, на двор да нас хтосьці зайшоў.

— Дак, можа, карова з пуні выйшла? Можа, я забылася зачыніць? Во памяць старая!

— Можа, й карова,— зусім з неахвотаю азваўся Зазыба.

Ватоўка дасюль была накінута наапашкі ў яго, таму ён апрануў яе ў рукавы, пацiскаў плячамі, акурат надзяваў новую, першы раз прымерваючы.

— Не, карова, здаецца, не магла выйсці,— усё яшчэ разважала ўголас Марфа.— Сама ж запірала вароты.

Праверыўшы, колькі хапала вачамі, у абодва канцы асветлены месяцам завулак, Зазыба падаўся на парог.

На двары нічога не ўлоўлівала вуха, і ён з прыкрасцю падумаў, што дарэмна занепакоіўся, ніхто не адчыняў з гарода форткі. Тым не менш, ён выпрастаў у цемнаце рукі, ступіў па сенцах далей збоч чулана, дзе ў сцяне, што выходзіла ў двор, святлела вузенькае, у паўдалоні, акенца, якога хапала адно, каб дапасці вокам.

Частка двара, тая, што ад завулка, патанала ў цяню, бо месяц стаяў насупраць і ўжо нізкавата, прынамсі, вароты не давалі яму высвечваць усю плошчу двара, з канца ў канец; затое другая частка двара праглядвалася добра.

Кінуўшы скоры позірк праз акенца, Зазыба, здаецца, нікога не прыкмеціў. Аднак у наступны момант адчуў, што нехта зварухнуўся на ганку, можа, незна-

рок выдаючы гаспадару сваю прысутнасць на двары. Выходзіла, што Зазыба ўсё-ткі недарэмна прачнуўся ад бразгату клямкі, а яшчэ больш правільна зрабіў, прымусіўшы сябе пераступіць парог у сенцы. Вось толькі малы свет з гэтага патаемнага акенца! Тады Зазыба здагадаўся падняцца трохі вышэй, дзеля чаго ціха намацаў нагамі плінтус, прыбіты ўнізе, і, упіраючыся сагнутай у локці правай рукой у чулан, стаў на плінтус мысамі ботаў. Пратрымаўся ён у такім становішчы аднае паўхвіліны, нават чвэртку яе, але гэтага часу хапіла, каб акінуць двор паўз самыя сенцы, убачыць на ганку чалавека. Ужо толькі па абрысах постаці можна было зразумець, што дарэмна спярша легла здагадка на юродзівага Ціму. То быў хтосьці іншы. Сядзеў ён на ганку, спіной да дзвярэй, а бараду трымаў у складзеных далонях, аблакаціўшыся на калені. Збоку Зазыбу добра былі відаць згорбленая спіна ў лапатках ды ўнураная галава без шапкі. Здавалася, чалавек нават не здагадваўся, што за ім ужо пільнуюць староннія вочы з сенцаў. Прынамсі, знешнім выглядам сваім, тым, як сядзеў на ганку, паставіўшы на драўляную сходку ногі, ён выдаваў сябе супакоеным і нібыта абыякавым. Магло скласціся такое ўражанне, што чалавек вярнуўся аднекуль з вялікай вандроўкі, а гаспадароў не заспеў дома, таму вось і чакае, даўшы сабе адпачынак на ганку. Больш таго, яму хораша сядзець аднаму, думаць... Зазыба і сам часам, здавалася, горбіўся так вось на ганку — узыдзе на двор стомлены, ажно разбіты, з распухлай галавой ад розных лёгкіх і нялёгкіх думак і рады бясконца, што трапіў нарэшце дамоў, тады сядае адразу на ганак, абшчапервае рукамі галаву, быццам дзеля таго, каб не раскалолася ад тых думак, і ў чаканні вячэры, якую гатуе ў хаце Марфа, прасейвае патрохі ўсё, што назбіраў за цэлы дзень і ў душу, і ў галаву. Для яго такія хвіліны заўсёды былі хвілінамі своеасаблівага, усё роўна як малітоўнага роздуму і супакаення. Не дзіва таму, што ў чалавека, якога згледзеў цяпер праз маленькае акенца ў сенцах, Зазыба ўбачыў раптам самога сябе, няхай збоку, але ж такога, якім бываў сам, гэта значыць, у знаёмым яму душэўным і фізічным стане. Зазыбу толькі заманулася яшчэ раз зірнуць праз акенца ў двор, і ён зноў заняў тое нязручнае, амаль вісячае, як у кажана, становішча — ногі мысамі ботаў на плін-

тусе, а локаць правай рукі ўпіраецца ў чулан. Аднак і гэты раз чалавека не пазнаў. Тады падумаў, што варта паклікаць таго і ў хату, калі ўжо здарылася так, што апынуўся ў двары. Ён адарваўся ад сцяны, крутануўся на абцасах, быццам не хапала месца стаць на ўсю падэшву, рушыў да дзвярэй. Цяпер Зазыба не прымушаў сябе стрымлівацца, таму чалавек, які сядзеў там, на ганку, мог свабодна чуць увесь тупат. Звыклым рухам, даўно ўжо, лічы, на памяць, Зазыба саўгануў убок запор, пацягнуў на сябе дзверы, якія раптам чамусьці гучна зарыпелі, акурат рассохлыя вароты. Чалавек пры гэтым ад нечаканасці ажно ўцяў у каўнер галаву, усё роўна як спахапіўся, каб не ўпала што на цемя. Але на ногі не ўскочыў. І нават не памкнуўся зрабіць гэта. Толькі ў наступны момант хуткім рухам кінуў на каленкі рукі і павярнуўся напаўабарота, горбячыся тулавам, да дзвярэй. Зазыба ўбачыў ягоны твар і адчуў, што кроў у гэты момант нібыта прыпыніла бег у жылах. То быў сын, Масей!

Зазыба не даў бы веры іншым разам, што можна страчваць раптам адчуванне самога сябе, сваёй фізічнай важкасці, а тут нібыта ўзяў хто ды выняў з яго ўсё жывое нутро, якім ён дагэтуль адчуваў навакольны свет. Нават скура, асабліва на твары, зрабілася акурат струпянелай альбо змерзлай. Адзін мозг разумеў усё і здольны быў рэагаваць. І гэтым мозгам Зазыба нарэшце вельмі выразна зразумеў, што дамоў вярнуўся сын, адзін іхні з Марфай сын, якога зусім і не марыў дачакацца, нягледзячы нават на вайну, на ваенны час, які звычайна суправаджаецца невытлумачанымі акалічнасцямі, незвычайнымі выпадкамі і самымі, як кажуць, вялікімі нечаканасцямі. Масей таксама пазнаў бацьку, пачаў уставаць. І тады Зазыба ўнутранай сілаю, якая невядома адкуль вярнулася да яго, выбавіў сябе з поўнай здранцвеласці, кінуўся, не, хутчэй паваліўся, нібыта з перабітымі нагамі, адным перадам на Масея, абдымаючы рукамі за шыю. Сын стаяў у той жа нязручнай паставе, напаўабарота і трохі падаўшыся наперад, і Зазыба неўзабаве схамянуўся, што той можа не ўтрымацца на нагах ад гэтай нязручнасці, але не знаходзіў сілы разамкнуць рукі на сынавай шыі, адарвацца ад яго і хоць бы самому трывала стаць на ганку. Твары іх былі прыцісхнуты шчака аб шчаку. Яны не цалаваліся і не абменьваліся

ні шэптам, ні голасам, толькі моўчкі пагойдваліся, быццам у адчаі, з боку на бок, адчуваючы вуснамі, як з вачэй цякуць у абодвух салёныя слёзы. О, гэтыя салёныя мужчынскія слёзы!.. Нарэшце Зазыба сабраўся з сіламі і адпусціў сына, пацiскаў вялікім і ўказальным пальцамі левай рукі ў арбітах свае заплюшчаныя, мокрыя вочы, мусіць, спрабуючы гэтым спыніць слёзы, тады ступіў на ніжнюю прыступку ганка.

— Сядай, сын,— хрыпла сказаў ён, зусім забываючы, што таго найперш трэба весці ў хату.

Масей паслухмяна ўкленчыў побач.

— Чаму ж дасюль не пастукаўся?

— Баяўся будзіць вас. Як мама?

— Нічога. Жывая. Во і не ведае яшчэ, што гэта ты.

Зазыба сціснуў ад непраходзячай радасці галаву рукамі.

— А я чую, быццам нехта ўзышоў на двор з гарода. Дай, думаю, зірну. Адкуль жа ты, сынку?

— Потым, бацька, потым.

— Ну, то і праўда, пачакаем,— згадзіўся Зазыба, зразумеўшы, што сыну таксама нялёгка даецца сустрэча.

— А як вы тут?

— Сам пабачыш, раз ужо прыйшоў. Вайна от!..

— Так, вайна.

— Але што я цябе трымаю на ганку? Хадзем, сынку, у хату, хадзем да маці.

Зазыба адчуў нарэшце, што да яго пастулова вяртаецца ранейшая здольнасць валодаць сабой. Разам з тым, ён зразумеў раптам і тое, што непрыкметна, але неадолена бярэ ў ім сваё старасць. Вядома, цяперашнюю слабасць сваю ён мог яшчэ растлумачыць, напрыклад, хваробай, якая пачалася па дарозе з Арлоўшчыны і потым выпетрала яго як мае быць. Аднак...

Зазыба паспрабаваў падняцца вышэй на прыступку, ды не адразу здолеў — пад каленкамі ногі паздрадніцку трымцелі, не хацелі выпроствацца, усё роўна як іх звяла сутарга і ўсё не адпускала. Тады Зазыба зноў на момант дакрануўся задам да ганка. Масей, мусіць, зразумеў бацькавы пакуты, сказаў амаль летуценна:

— Пасядзім, бацька, яшчэ трохі! Хораша ў вас тут!

— Маці ж чакае...

— А яна не спіць?

— Прачнулася, як выходзіў я.

— Тады пойдзем, тата.

— Ага, сынку...

Яны пабраліся за плечы і так, беражна падтрымліваючы адзін аднаго, пачалі ўзыходзіць па сходках на ганак.

Марфа адразу пачула, што вяртаецца гаспадар у хату не адзін. Але сынава раптоўнае з'яўленне яна перажыла куды спакайней, чым бацька. Яна толькі хваравіта войкнула, угадаўшы сынаў голас, а тады хуценька, акурат з горкі, каўзанула на тапчан і ўжо ў наступны момант была ў Масеевых абдымках — ён не даў ёй нават стаць нагамі на падлогу, перахапіў на краі тапчана. Калі Зазыба сабраўся ды запаліў святло ў лямпе, маці з сынам сядзелі абое на тапчане і не зводзілі адзін з другога шчаслівых вачэй.

«Чыста дзеці!» — таксама ў радасці параўнаў Зазыба.

Ён раптам убачыў, што ў іх аднолькавыя вочы — і ў маці, і ў сына, такія ж цёмныя, як вішнёвыя; і бровы мелі адзін і той жа злом над знешнімі куточкамі вачэй. Гэта адкрыццё нечага ажно здзівіла Зазыбу, бо дасюль ён лічыў, што Масей цалкам падобны на яго, бацьку, што ў ягоным абліччы нават і ў знаку не было нічога матчынага. Выходзіла ж наадварот. Цяпер Зазыба ў сынавым абліччы знаходзіў чамусьці больш матчынага, чым свайго, усё роўна як Масей увесь час рос і выхоўваўся далёка ад дому, і Зазыба не бачыў яго даўно, яшчэ з малых гадоў, таму прапусціў гэтую перамену ў падабенстве.

— А дзіця-я-ятка маё-ё,— як забедавала нарэшце Марфа.— Адку-у-уль жа ты ўзя-я-яўся? Як сне-е-ег на галаву звалі-і-іўся? А я ж цябе толькі што ў сне-е-е ба-а-ачыла!..

— Сціхні-тка на хвіліну,— папрасіў яе Зазыба і звярнуўся да Масея.— Ты вось што скажы мне, сынку,— будзем з тваім прыходам хараніцца ад людзей ці не? Можа, вокны трэба занавесіць? Можа, не кожны павінен ведаць, што ты вярнуўся?

— Што ўжо хавацца!..— нават не адвярнуў галавы ад маці Масей.— Ды і дакуль хавацца? Усё роўна доўга не нахаваешся!

Здалося пры гэтым, што Масей адказваў залішне абыякава, нават у голасе чулася прыкрасць, быццам нездаволены быў бацькавым запытаннем.

— Ну, глядзі, сын!..

Пакуль сын з бацькам перамаўляліся, Марфа на гэты час акурат стаіла ў сабе дыханне, бо выгляд у яе сапраўды быў нейкі надзьмута-сцішаны. Але, як толькі Зазыба вымавіў апошнія словы, яна адразу ажыла, загаманіла зноў, па-ранейшаму звяртаючыся да аднаго сына. Было ў яе захапленні, у яе дарослай гамонцы штосьці зусім бездапаможнае, усё роўна як дзіцячае — хоць ты і праўда падумай, што гэта сустрэліся пасля доўгай разлукі не маці з сынам, а малодшая сястра з братам.

— Дак я бацьку во хацела расказаць пра сон, а цяпер й ты,— ласкава тузанула яна Масея.— Раскажу зараз табе.— Яна больш не расцягвала слоў, гаварыла звычайна, толькі часам збівалася, быццам усё яшчэ ад той радасці, якая была ў ёй.— Дак бачу я...

Зазыба паблажліва ўсміхнуўся, маўляў, вось прывязалася старая са сваім сном!.. А ў душы яго, між тым, крадком варухнулася штосьці падобнае на зайздрасць, быццам ён стаў раптам лішні ў хаце, быццам гэта ўжо была не агульная іхняя радасць, што вярнуўся сын, а толькі матчына...

— Матка наша цяпер самая адгадчыца сноў,— не мяняючыся ў твары, сказаў сыну Зазыба, але яўна дражнячы жонку.— Нават нікуды не ходзіць. Сама разгадвае. Адзін раз дык галаву была адурыла — крычала нейкая курыца пеўнем, дый годзе!..

— Дак то ж не сон быў, а павер'е,— не дала гаварыць яму далей Марфа.— І не к таму тады курыца пела. Я казала, што будзе...— Але схамянулася, не стала перадаваць даўнюю размову паміж імі, каб не сапсаваць сыну настрой.— А сон дак і напраўду выйшаў! Прыйшоў мой Масей. Значыць, сон правільны быў, раз усё спраўдзілася.

Масей перавёў позірк на бацьку, пасля зноў з аднаго на другога — дзяцінствам раптам патыхнула, далёкім дзяцінствам: і тады вось гэтак бацька з маткай раўнавалі яго адзін да другога, балазе адзіны сын на дваіх, адно дзіця. Малым Масей умеў ажно выгадваць ад іхняй такой няхітрай рэўнасці, ад іхняй забаўнай гульні — «мой Масейка!..», «не мой!», цяпер жа яму

чамусьці шкада стала і маці, і бацьку, можа, нават ад дарослай, усё разумеючай сарамлівасці.

Бацька, няйначай, таксама ўгадаў гэтае Масеева пачуццё, пасуравеў у момант і сказаў, як гаспадар, якому нарэшце прыспела распарадзіцца:

— Ты б лепей сабрала, старая, на стол. А то мы сына ўсё байкамі кормім, як таго салаўя.

Маці вінавата пляснула ў далоні, пабегла па хаце, як па розум, нькаючы з кутка ў куток.

— А дзіця-я-ятка ж маё-ё-ё,— зноў забедавала яна, акурат галосячы.— Можа ж, ты і праўда гало-о-одны прыйшоў, можа ж, і е-е-естачкі хочаш, а я ўсё галаву табе тлумлю-ю-ю!..

Але Масей кінуўся супакойваць усіх:

— Не трэба, не трэба! Я — сыты.— І калі маці азірнулася ў яго бок, затрос галавой і заплюскаў вачамі, усё роўна як гэтым дадаваў сваім словам большай веры.

— Дак...— Марфа збянтэжана застыла ля шкапчыка, што вісеў на сцяне паміж парогам і крайнім акном, тады кінула няверлівы позірк на Дзяніса, які ўсё яшчэ стаяў пасярод хаты, лічы, з таго моманту, як прывёў сына.

Муж у адказ маўчаў, здавалася, яго не датычыла тое, што сын адмаўляўся ад вячэры — хоць якая цяпер вячэра!..

Сын тым часам, не ўстаючы з тапчана, наадварот усім неспакойным выглядам, рухамі паказваў, што ён сапраўды есці не хоча і не жадае таксама, каб маці нагул праз яго лішне турбавалася.

А тая ўзяла ды не паверыла: махнула на абодвух рукой, маўляў, а ну вас! Затым расчыніла шкапчык, пачала вымаць адтуль посуд.

— Я праўду кажу! — ужо быццам узмаліўся Масей, звяртаючыся цяпер да бацькі; тым часам ён зразумеў, што трэба ўсё-ткі растлумачыць, чаму адмаўляецца ад вячэры, бо вясковыя людзі нават чужога чалавека, у які б час, позні ці ранні, ні папрасіўся той у хату, не пакладуць спаць не накарміўшы, а тут — сын! — Мяне ў Белай Гліне цётка адна накарміла,— сказаў ён.— Хлеба вынесла. Вялікі акраец. Ну і з'еў увесь, бо дзень цэлы перад тым праляжаў у лесе. Так што, есці я, праўда, не хачу. Хіба напіцца дайце.— Ён

стомлена аблакаціўся, упіраючыся самымі локцямі трохі вышэй каленак.

— Дак, можа, малачка тады? — птушкаю страпянулася маці.

— Давай малачка,— ласкава ўсміхнуўся сын.— А то хлеб нейкі ацеслы ў жанчыны белаглінаўскай быў, ажно пячэ нутро. І ваду, здаецца, піў з Бесядзі, а ўсё пячэ.

— Гэта не хлеб вінаваты,— паслухаўшы сына, сказаў Зазыба.— Жывот твой вінаваты. Штосьці ў страўніку парушана. Бо здаровы страўнік і ацеслы хлеб здолее. У здаровага чалавека страўнік, як жорны. Яму толькі падавай.

— Можа, і так,— згадзіўся прыціхлы Масей.— Не на курорце ж столькі гадоў быў.— І глянуў неяк выпрабавальна на бацьку, ажно той нечакана апусціў галаву, быццам таксама віну меў і хаваў вочы.

Трымаючы аберуч, маці ўнесла з сенцаў чорны, з высокім горлам, гладыш малака вячэрняга ўдою — яна заўсёды на ноч пакідала малако ў чулане, каб адразу не пракісала.

Масей перасеў з тапчана к сталу, уціснуўся на той услон, што стаяў паміж унутранай бярвенчатай сценкай і сталом. Пакуль ён ішоў ад тапчана, бацька паспеў агледзець яго, як кажуць, з ног да галавы, бо дагэтуль — і тады, на ганку, і цяпер, на тапчане,— сын увесь час сядзеў. Здаецца, і рост у сына заставаўся ранейшы, і постаць такая ж, але ў абліччы выразна заўважалася новае, і не столькі таму, што сын зблажэў (урэшце, няхітра зблажэць чалавеку ў адной дарозе!), колькі таму, і, можа, хутчэй за ўсё таму, што ён ужо як бы свіціцца тварам пачаў. Зазыба адзначыў таксама і тую акалічнасць, што дзеля такога радаснага выпадку сын і ўсміхаецца замала, найбольш тады, як размаўляе з маці, а то ўсё трымаецца з выглядам, быццам мае ў сабе нейкую пакуту альбо проста балючасць, якія не даюць магчымасці хоць на хвіліну забыць пра іх. І яшчэ Зазыбу здзівіла адно — сын так і не распрануўся ў бацькавай хаце, не скінуў зашмальцаваную апратку, падобную нечым на старую куртку, акурат спадзяваўся толькі на часовы прытулак.

«Нялёгка, вельмі нялёгка гаварыць нам будзе аднаму з адным...» — раптам падумаў Зазыба.

Між тым Марфа спаласнула чыстай вадой медны

карэц, які зняла з цвічка на сцяне, паднесла яго да самага беражка гладыша, каб не праліць коптарак, схоплены жаўтаватай плеўкай, і ўжо затым спакваля нагнула гладыш — белы струмень жвава пацурчэў у літровы карэц, усе ў хаце пачулі гэта.

Бацька сказаў, выразна падбадзёрваючы сына:

— От пажывеш з намі, матка і адпоіць цябе малаком. Пройдзе тады і печая твая, і ўся астатняя трасца мінецца, калі завялася дзе.

Нарэшце Марфа паставіла перад сынам карэц з малаком, сама спынілася насупраць, крокі за два ад стала. Сын тут жа ўзяў карэц з боку за дужку, пачаў прагна піць, адчуваючы чамусьці пры гэтым няёмкасць ад таго, што на яго пільна глядзелі і маці, і бацька. Адпіўшы паўкарца, Масей адарваўся, каб аддыхацца, хвіліну, можа, нават болей, сядзеў пасля гэтага нерухома. Тады зноў узяўся піць. А як выпіў да дна, то ажно засмяяўся ціха нейкім зусім іншым смехам, быццам дасюль няўпэўнены заставаўся, што сапраўды апрастае знаёмы з дзяцінства карэц, даўнюю сваю мерку. Ад гэтага нечаканага яго смеху бацькі, здаецца, яшчэ больш павесялелі.

— Ну, во,— усклікнула маці,— напіўся малачка, а цяпер спаць ляжаш, раз есці не хочаш. Зараз я табе пасцельку збяру. Выспішся, а там бог і раніцу дасць.

Масей зацята, як ад вялікай прыкрасці, паківаў галавой:

— І спаць мне не хочацца!..

— А дзіця-я-ятка маё-ё-ё, дак ноч жа вунь яшчэ ў вокнах стаіць!

— Я цэлы дзень спаў, мама. І вось так колькі часу: дзень ляжыш, зашыўшыся ў кусты падалей ад дарогі, а ўночы тупаеш.

Па гэтай гаворцы Зазыба нарэшце адчуў, што матчына ўлада над сынам канчаецца.

— Ну што ж, папаўночнічаем,— сказаў ён без усялякага клопату.— Яно й праўда, які цяпер сон!.. Ну, хіба яшчэ ты, Масей... А нам з маткай ужо сну не багата і трэба. Часам схопіш адным вокам гадзіну-другую, і дос. Старэем мы з маткай, сын, старэем!

— Ці ж у вашы гады старэць?

— Старэем, старэем!..— не прыняў Масееву далікатнасць Зазыба.— Але, можа, і праўда павесіць коўдры на вокны.

— Дак...— Марфа няўцямліва зварухнулася, маўляў, за чым жа затрымка?

— Як хочаце,— адказаў сын, зразумеўшы, што бацькава настойлівасць невыпадковая.— Урэшце, светамаскіроўка не пашкодзіць.— Спытаўся: — Немцы ў вёсцы ёсць?

— Няма,— адказаў бацька.— Але я гэта к таму гавару, каб завесіцца, што прывыклі мы ўжо.— І пачаў далей тлумачыць: — Звычайна мы нават не запальваем святла. Ну, а калі, здараецца, патрэбна бывае яно, то вокны занавешваем. А немцаў у вёсцы няма. Так што не бойся.

— Ты, мама, таксама сядай,— спахапіўся Масей, што маці дасюль не скранулася з месца.— І ты, бацька, дарэмна не стой,— сказаў ён далей.— А то вы нешта сёння, як перад чужым, са мной.

— Дый ты б скінуў гэтую адзежыну, вальней бы адчуваў сябе дома,— параіў у адказ бацька.

А маці спыталася:

— Можа б, ты, Масейка, малачка яшчэ выпіў, а?

— Не, мама, не.

— А то ж карова дае...

Зазыба не стаў занавешваць вокны. Прысеў на той услон, што быў прыстаўлены да сцяны з вокнамі.

— Адкуль жа ты гэтак ішоў доўга?

— З-пад Мінска.

— Ажно?

— Мала што не ад Мінска. Ад Смалявіч. Якраз там адзін добры чалавек і адпусціў мяне.

— І ні разу пасля не пад'ехаў? — павярнула на сябе гаворку Марфа.

Масей усміхнуўся — яму наогул сёння хацелася ўвесь час усміхацца маці, нібыта задаўжаў у гэтым ёй.

— Здаралася, што і пад'язджаў,— сказаў ён.— Нават немцы адзін раз на машыне кіламетраў трыццаць правезлі. Але больш дабіраўся на сваіх.

— Скажы ты, нават немцы!

— Тылавікі. Ужо як фронт далёка адышоў. Ім абы сунуў што-небудзь смачнае ў рукі. Ну, а ў мяне якраз аказаўся кавалак сала. Дзед адзін пасля начлегу ў дарогу даваў. Я гэты кавалак і паказаў немцам.

— Скажы ты!..— зноў здзівілася Марфа.

— А што гэта за чалавек быў, што адпусціў цябе, як ты кажаш? — праз нейкі момант спытаў Зазыба.

— Канвойны.
— Значыць, ты не па чыстай прыйшоў?
— Не.
Моцна ўражаны, Зазыба апусціў галаву.

Адчуўшы раптоўную бацькаву зніякавеласць, Масей ажно пакратаў ад прыкрасці мышцамі скуру на лобе, каб паганяць маршчыны. Ён зразумеў, што гаворка нарэшце перайшла тую мяжу, за якой ужо ляжала нешта такое, што, няйначай, магло атрымаць у іх успрыняцці зусім рознае тлумачэнне. Можа, ад гэтае думкі, а можа, і яшчэ ад чагосьці, што не было пакуль усвядомлена, раптам яго ўзяла моцная і неадольная, амаль невыносная скруха, якая находзіла часам толькі раней, калі ён пачынаў разважаць сам-насам пра ўсё: справа ў тым, што гэтай недарэчнай сваёй зняволенасцю ён не мог нават пахваліцца; у лепшым выпадку, пры самым шчаслівым зыходзе, яна ўспаміналася б, як штосьці надзвычай кашмарнае і ганебнае. Тым часам вайна яшчэ больш зблытала яго лёс. Масей далёкі быў ад містыкі, аднак другі раз гатовы быў паверыць, што за яго вось ужо каторы год д'ябал спрачаецца з богам. Пра сваё нечаканае вызваленне ён хоць і расказваў спакойна, аднак галавой разумеў, што яно таксама зрабілася адным з тых вузельчыкаў, што хітрым канцом завязваў на яго лёсе д'ябал, бо ў цяперашніх умовах, нават апынуўшыся шчасліва дома, наўрад ці выпадзе магчымасць цалкам разблытаць гэты вузельчык. У кожным разе Масей пакуль не бачыў такой магчымасці. Няйначай, праз гэта і бацька сядзіць перад ім на ўслоне і не хоча падняць галавы, усё роўна як прыйшоў на пахмелле, бо яму ёсць чаго саромецца гаспадароў, у якіх учора буйна гуляў.

Ці то ад скрухі, якая агарнула душу, ці то проста ад бруду, што закарэў на целе, Масей, зусім не заўважаючы таго, зрабіў рукою звыклы рух пад адзенне і зацята стаў шкрабаць па рэбрах. Маці, якая насцярожліва, нават з болем у душы, чакала, калі нарэшце зноў загавораць у ранейшым радасным тоне яе мужчыны, убачыла гэта, сказала ўсцешліва:

— Нічога, сынок, зараз во дзень настане, тады вытапім лазню табе, папарышся...

— А навошта дня чакаць? — быццам прабудзіўся ў гэты момант Зазыба, няйначай, узрадаваны, што зна-

ходзіўся занятак не ў хаце і што ўжо не трэба будзе пакутліва сядзець на ўслоне.— Цяпер от і займуся лазняй. Усё роўна ж не спім. Дзе гэта мае анучы, маці? Падай, абгарну ногі ды пайду. Сапраўды, навошта нам чакаць дня?

* * *

Хвілін праз колькі Зазыба ўжо стаяў пад дашкам на сваім высокім ганку, прыбудаваным да сенцаў з боку завулка, дыхаў начным водарам. З хаты сюды не далятаці галасы, і таму ён не чуў, як Марфа гаварыла сыну:

— Ты, сынок, бацьку таксама спагадай. Яму нялёгка цяпер, ой нялёгка! Здаецца, раней дак і не надта каб прыставала ўсё да яго. Але гэтыя гады, як не было цябе,— сама найгорш. Мы ж нават не ведалі, дзе ты і што з табой. Сказалі яму ў райвоне, што засудзілі цябе, ну, мы й паніклі адразу. Ета ж трэба, каб у такога заслужанага бацькі да такі сын вырас, ажно не кожнаму верылася, што мог ты што-небудзь супроць уласці зрабіць. Але скажу табе... Ну, як я сама думала, ета дзесятае дзела. У маткі заўсёды сваё ў галаве і ў душы. Яе ніхто не пераканае, раз яна не верыць сама. Дык я кажу, бацька твой... Ён таксама не паверыў, што б ты недзе там нешта якое супроць уласці.

— І правільна рабіў, што не верыў,— упэўнена, быццам з нейкім дакорам, сказаў на гэта Масей.

— Праўда, ён усё маўчаў,— кіўнула маці,— але ж ад мяне не схаваешся. Я па вачах убачу і то ўжо буду ведаць. Дак, бывала, прыйдзе ета дамоў ён, сядзе хоць дзе і думае. А тута неўзабаве яшчэ і са старшыні знялі. Таксама, гаварылі, праз цябе. Не, сынок, нялёгка яму было. Але цяпер, кажысь, дык і саўсім цяжэй стала. Вайна ета, скажу табе, таксама вялікім цяжарам легла на яго. Усё ён душой хварэе, бядуе ды хвалюецца. Іншы раз глядзіш на яго і падумаеш — ну ці ж ты вінаваты, што ўбіваешся? Ці ж ты вінаваты ў тым, што немец наступае?..

З тае хвіліны, як Зазыба ўбачыў на двары сына, мінула не дужа багата часу, але месяц паспеў схавацца, і вёска была ўжо атулена цемнатой. Праўда, на небе па-ранейшаму блішчалі зоркі. Іх нават цяпер быццам пабольшала, прынамсі, свяцілі яны ярчэй, зда-

ецца, ужо не чужым, нерухомым святлом, якое адбівалася ад іх, а сваім, трапяткім і зыркім. Гэтае сваё святло перашкаджала і на зямлі зрабіцца цемнаце зусім густой, пра якую кажуць — хоць вока выкалі. У кожным разе Зазыба пэўна ўжо згледзеў бы ў цяперашняй цемнаце чалавека ў сваім завулку, каб той наўдаку стаяў дзе альбо заварушыўся.

Святло гарэла толькі ў Зазыбавай хаце. Выплёскваючыся вонкі праз два акны, яно коса, палосамі высвечвала шэрую дарогу і на тым баку яе, коўзаючыся і ламаючыся, дасягала абшаляваных будынкаў Прыбытковага двара.

Як фронт стаяў на Сажы, то амаль заўсёды чуваць было ягонае дыханне — раптам то сполахі на небе зайграюць, то кананада ўзбунтуе цішыню, а часам тое і другое разам. Цяпер фронту зусім не адчувалася: як адкаціўся далей, хоць на самой справе перадавая праходзіла ў міжрэччы Дзясны і Іпуці, кіламетраў за семдзесят ад Верамеек, проста забяседдзе трапіла ў так званую зону цішыні, калі нават самыя моцныя гукі цалкам губляюцца ў прасторы, бо гукавыя хвалі спярша коса ідуць угору, а потым вяртаюцца на зямлю ўжо далёка ад стрэлу ці выбуху. Аднак ніхто не бачыў сёння і бліскавіц, што паласавалі неба, напрыклад, яшчэ ўчора, акурат недзе там гуляў сухавей і дагрызаў у дубровах арэхі.

Сыходзячы з ганка, Зазыба нібыта міжволі кінуў позірк у крайняе акно сваёй хаты. Масей па-ранейшаму заставаўся за сталом, толькі не сутуліўся больш і не абапіраўся на локцях — сядзеў прытулены спіной да сцяны, а галава яго пахіснулася да левага пляча. Няйначай, Масей ужо спаў. Марфы Зазыба ў пярэдняй хаце не ўбачыў, можа, яна сапраўды збірала на другой палавіне сыну пасцель. Зазыба прыпыніў позірк на сцішаным, акурат распластаным, Масею, зноў падумаў, як і тады, хвілін колькі назад у хаце, што ім сапраўды будзе цяжка разам, здаецца, няхай бы ўжо і не вяртаўся Масей дамоў, раз незаконна. І наогул, Зазыба не хацеў бы, каб у вёсцы цяпер жыў хоць які вяртанец з «тых месц». А то вунь у Гончы... Не паспеў прыйсці туды аднекуль раскулачаны ў пачатку калектывізацыі Шкроб, як адразу паквітаўся з вясковымі актывістамі — першую застрэліў родную цётку, старую жанчыну, якая прысутнічала некалі ў

якасці дэпутата сельскага Савета пры апісанні і канфіскацыі ягонай маёмасці. Хоць, вядома, параўноўваць кулака з Гончы з Масеем!.. Зазыба і сам разумеў, што гэтага і блізка не трэба рабіць, што гэта зусім незраўнаныя рэчы, што сын яго ва ўсякіх адносінах не тое, што Шкроб. Але ж і ён вярнуўся дамоў незаконна!.. «Божа,— акурат на ўсходні лад усклікнуў у душы зусім не набожны Зазыба,— дай мне сілы!..»

Яшчэ яму прыйшла ў галаву думка, што варта як хутчэй пагаварыць з Масеем адзін на адзін. Яму здавалася, што ў такой справе, як іхнія будучыя ўзаемаадносіны, іхняе будучае ўзаемаразуменне, нават Марфа, ад якой ён, бадай, толькі не таіўся,— нават Марфа можа стаць перашкодай, бо гэта ўзаемаадносіны, бо гэта ўзаемаразуменне не чужых ёй людзей, а бацькі і сына, мужа і сына.

«Добра, што падказала яна вытапіць для Масея лазню,— пачаў супакойваць сябе Зазыба.— Якраз у лазні мы і пагамонім, а калі спатрэбіцца, то і парахуемся».

Ужо ідучы па завулку, Зазыба адчуў моцны пах нейкай расліны. Пах гэты быў знаёмы, яму не аднойчы даводзілася дыхаць ім, і кожны раз на пачатку восені, у канцы свайго завулка. Але зазірнуць хоць адным вокам у той куток, дзе расла гэтая пахучая расліна, ён чамусьці ніколі не знайшоў часу, бадай, не ўзнікала і думкі такой — паглядзець, што духмяніла ў завулку. Пах быў прыемны, а галоўнае — незадушлівы, ніколькі не замінаў дыхаць чалавеку, прынамсі, Зазыбу.

Паўз плот, ужо як павярнуць на парослую палыном і быльнікам пустку, у Зазыбаў была дрывотня, у якой яшчэ з леташняга выпетрываліся паколатыя сасновыя абапалкі, знарок складзеныя ў шурку, каб хутчэй напаліць у лазні каменную печку. Далей трохі стаяла сама лазня, невялікае, аршыны на чатыры ўдоўжкі збудаванне з уцепленым прылазнікам: улетку мыйся ці ўзімку — аднолькава. Лазню гэтую некалі яны з бацькам будавалі на адну сваю сям'ю, але потым пачалі прыходзіць да іх памыцца і суседзі. Складалася лазня з дзвюх частак — уласна лазні і прылазніка, які адыгрываў перш за ўсё ролю адпачывальні; тут звычайна распраналіся, сюды ж выскоквалі пасля апарні паляжаць на ўслоне альбо проста на шчыльнай падло-

зе, аддыхацца, абдацца вадой, тым больш што якраз у прылазніку змяшчалася патрэбнае для ўсяго гэтага начынне — шайкі, карыты, бодні. У другой частцы, дакладней, у самой лазні, былі разам і парыльня і мыльня. Тут жа знаходзілася ў адным радзе з палком паўз сцяну печка. Печка была складзена з буйнага камення, якога хапала вакол вёскі на крушнях. Палок тым часам нагадваў звычайны хатні тапчан, але збіты з асінавых дошак, бо сасновыя і яловыя не падыходзілі для такой справы праз сваю смольнасць, якая пякла голае цела. Печку ў Зазыбавай лазні палілі па-чорнаму, таму дым з яе вытыкаўся праз дзверы і два акенцы — верхняе і ніжняе. Словам, то была самая звычайная вясковая лазня, такой яе ведалі ў забяседдзі, бадай, не толькі прадзеды, але і далёка ранейшыя продкі. Праўда, з'яўлялася думка ў асобных гаспадароў удасканаліць што-кольвеч у такіх лазнях, напрыклад, умазаць за печкай чыгунны кацёл для гарачай вады, вывесці праз страху комін. Але якраз гэтыя спробы і пераканалі нанава верамейкаўцаў, што дзяды іхнія нездарма некалі выбралі менавіта такі вось тып лазні: аказалася, што пасля ўдасканалення лазня адразу страчвала сваё другое прызначэнне, у ёй ужо нельга было адмыслова сушыць лён, рабіць вяндліну і гэтак далей...

Зазыба падышоў да шуркі, садраў з яе задубелую кару, якой укрывалі дровы ад макрэчы; пры гэтым штосьці варухнулася жывое на шурцы. І Зазыба ажно адхапіў руку, якой пачаў выцягваць паленне. Але дарэмна палохаўся — толькі і страху, што разбудзіў спаўшага ў шурцы вожыка, які невядома як забраўся на самы верх, пад гарбатую кару: можа, выпадкова абначыўся, а можа, і зусім даўно палюбіў гэтае ўтульнае сухое месцейка. Спуджаны вожык сярдзіта фыркнуў, быццам толькі што вылез з вады, у якую яго злаўмысна таўханулі, каб пацешыцца, адкінуў ножкі назад і, выпростваючыся, кульнуўся на бок. Зазыба здагадаўся, што гэта быў вожык, тады толькі, як звярок тыцкнуўся мордачкай у яго між ботаў. Кажуць, вожыкі добра бачаць уначы, аднак гэты чамусьці ўсё тыцкаўся ў Зазыбы між ног, акурат нюхаў там ваксу, якая прыйшлася даспадобы яму, альбо проста быў сляпы. Зазыба нейкі час ажно не адрываў ад зямлі ногі, каб не зачапіць дарэмна звярка, не адтаптаць яму

што. Але вось вожык нарэшце выбавіўся з-паміж Зазыбавых ног, шмыгануў кудысьці, як з таго палону, у новы зацішак. Тады Зазыба набраў на левую руку дроў, каб пасля ашчапіць іх і правай зрабіць бярэма, і звыкла, як і належыць гаспадару, накінуў назад на шкурку яловую кару. Пры ўваходзе ў прылазнік ляжала на зямлі спластаваная яшчэ з леташняга кастра, якая нападала тут, калі трапалі лён,— звычайна ў Верамейках развозілі калгасны лён да прыватных лазняў, і тут ужо, па нарадах брыгадзіраў, бабы мялі яго на самаробных альбо куплёных мялках. Зазыба самахоць, з добрай сялянскай ахайнасцю, выцер аб кастру ногі, адну за адной, усё роўна як з нейкай асаблівай здаволенасцю, тады зняў з прабоя чэп, таўхануўшы вызваленай на час рукой дзверы. З лазні патыхнула насустрач пэўна што нежылым і горкім, таму Зазыба ажно плаксіва зморшчыў твар, акурат падаспела чыхнуць. Дровы ён пакуль скінуў з рук у прылазніку, а сам прайшоў далей праз адчыненыя дзверы ў сярэдзіну, лазні, дзе на дошчачцы, прымацаванай унізе да сцяны, стаяў у яго ліхтар — «лятучая мыш». Намацаўшы ў цемнаце пад жалезнымі рэбрамі пукатае шкло, Зазыба прыўзняў яго на колькі вяршкоў, паднёс да кнота запалку. Перад тым як запаліць дровы ў печы, яму трэба яшчэ было падмесці падлогу і выграбці [illegible] печкі старое вуголле. Што ён і зрабіў даволі хутка, выкарыстаўшы спараны венік і рыдлёўку, якая стаяла ў прылазніку. Такім чынам, не прайшло і дваццаці хвілін, як з лазні паваліў праз дзверы і акенцы густы дым. З дымам, нібыта выгнаны д'ябал, выйшаў адтуль і Зазыба. Ён пастаяў трохі зводдаль ад лазні, быццам непакоячыся, што дровы кожную наступную хвіліну могуць патухнуць, затым рушыў ад плота, каб прынесці з шуркі дадаткова сухіх абапалкаў.

Па сцежцы насустрач ішла Марфа. Яна несла на каромысле два поўныя вядры вады, мусіць, тыя, што стаялі ў сенцах яшчэ звечара.

— Як ён там? — глуха спытаў Зазыба.

— Дак жа сцішыўся,— адказала Марфа, акурат з неахвотаю, падстаўляючы па чарзе абодва канцы каромысла, каб муж здымаў з вушак вёдры.— Але ці заснуў, не ведаю.

— Ты ж хоць паклала яго на ложак?

— Не, сядзіць за сталом.

— То распранучца б прапанавала!

— Дак...

— Ладна, ідзі дамоў. Я сам упраўляцца буду. Во зараз выллю ў чыгуны твае вёдры, а тады сам пайду па ваду. Якраз і нанашу, пакуль развіднее, ды і венік трэба звязаць,

— Ты б узяў лепей гатовы.

— Хто цяпер гатовымі парыцца!

— Але ж восень, ліст аблятае.

— Нічога, на маладых бярозках яшчэ ёсць зялёны і трымаецца моцна. Думаю, што наламаю на венік.

— Ты ж хоць далёка не йдзі тады па яго,— паспачувала Марфа.— Во тута, за глінішчам, адразу бярозкі маладыя стаяць. Дак ты абапал і наламай.

— Ладна, ідзі ўжо, а то без тваёй навукі не наламаю веніка.

Але Марфа не спяшалася адыходзіць ад лазні.

— Дак што ж ета цяпера з Масеем будзе? — раптам спыталася яна зрушаным голасам, быццам праз боль.

— Як гэта — што будзе? — сурова глянуў на яе муж.

— Дак ты ж сам чуў! Кажа, бытта!..

— Нічога ён яшчэ не сказаў нам такога, каб... Словам, ступай туды да яго і не рві душу сабе.

Нягледзячы на мужаву непрыступнасць, Марфа ўсё яшчэ мулілася, маючы намер не маўчаць і далей. Але Зазыба панёс вёдры з вадой у лазню. Няйначай, ён лаштаваў там чыгуны ў печцы, бо доўга не выходзіў назад. Нарэшце Марфа зразумела, што не дачакаецца мужа, бо нездарма той гэтак трывае дым у лазні. Ад прыйшоўшай думкі ёй зрабілася прыкра, яна пакрыўджана ўздыхнула і з раўнівай крыўдай у сэрцы падалася ад лазні, каб па завулку вярнуцца дамоў. Чым далей яна адыходзіла ад лазні, тым мацней адчувала адтуль пах дыму; дым быў без дамешкаў, чысты ад непрыемнага смуроду, таму ёй як гаспадыні здалося, што гэта ўжо запалілі па ўсёй вёсцы бабы ў печах. На Каспераковым гародзе, туды, пад хлявы, нешта шмякнулася аб зямлю, усё роўна як споўз зімою са страхі ў адлігу лапік снегу. Дробязь, але гэта затрымала на колькі часу Марфіну ўвагу, прымусіла губляцца ў здагадках.

Ужо ўзыходзячы на ганак, Марфа зразумела па

водсвету на сценах сваёй хаты, што загарэлася святло і ў Прыбытковых. Мусіць, Кузьмовы нявесткі падмануліся святлом насупраць, страцілі, як гэта здараецца ў вёсцы, без гадзінніка, адчуванне часу і прахапіліся, пачуўшы да таго ж тупат чалавечых ног у завулку. «Во, дарэмна збілі са сну маладзіц!..» — пашкадавала Марфа, але тут жа супакоіла сябе, маўляў, тае бяды, што цяпер і праўда баба раней управіцца з хатняй гаспадаркай, застанецца больш светлага дня на работу ў полі. З гэтым адчуваннем, з гэтай няхітрай жаночай здаволенасцю яна і зайшла ў сваю хату. Масей за яе адсутнасць так і не пакінуў застолле, сядзеў у той жа паставе, нібыта прыбіты лапаткамі да сцяны, нават галаву трымаў схіленай да таго ж левага пляча.

Назад выкручваць кнот, каб дадаць на хату святла, Марфа не стала — няхай пабудзе сын непатрывожаны, бо святло ўдарыла б яму ў твар. Цяпер ніщто не замінала ёй глядзець на сына, бачыць яго схуднелы, з упалымі шчокамі твар, высокі лоб, на які звісала пасмачка русых, не, бадай, толькі русявых, калі гэтае слова перадае дакладнае адценне валасоў; некалі ў маленстве, калі Масей бегаў падлеткам, на месцы гэтай пасмачкі тырчаў віхор, таму, можа, і не прылягала шчыльна пасмачка да галавы, а нязгодна матлялася ад кожнага руху ва ўсе бакі; сынаў твар быў як расслаблены, адзін момант Марфе нават здалося, што Масей патаемна ўсміхаецца, аднак не, проста ён не хмурыўся і не перажываў нічога ў сне, мусіць, здаволіўшыся нарэшце, што трапіў дамоў, гэтага прыгожага і адухоўленага спакою на Масеевым твары не псавалі нават цені ад прыцемак у хаце. Усё, да драбніц, усё было знаёмае ёй у сынавым аблічча! Але чым даўжэй узіралася маці ў яго, тым больш знаходзіла, што сын неяк дзіўна перамяніўся, стаў падобны нечым на таго самога сябе, якім быў у дваццаць гадоў.

Марфа прайшла ад парога на хату і села на тапчан, улюбёнае сваё месца, не столькі ўлюбёнае, колькі назаўсёды абранае,— яна і уявіць не магла, каб сядзела вось гэтак без справы яшчэ дзе-небудзь у хаце сваёй. «Дасталося, відаць, Масею недзе, раз етак зблажэў і здзяцінеў з твару!..» Услед за гэтай думкай ёй нібыта ўкалола ў сэрца, яно зазнібела адразу; Марфе да слёз зрабілася шкода сына, акурат як і тады, калі стала вядома пра суд над ім, спярша вырасла злосць на ка-

госьці незнаёмага і ні разу не бачанага, хто вінаваты быў у сынавых пакутах, але вось яна прыгадала зусім нядаўнюю размову, якую вяла з мужам ля лазні, і ўся яе неакрэсленая злосць чамусьці перакінулася на яго, з'явілася такое адчуванне, быццам бацька хацеў сыну нядобрага, і яна унутрана, у пачуццях сваіх, апынулася раптам недзе на мяжы, калі недалёка і няцяжка ўзненавідзець блізкага чалавека той сляпой і зацятай нянавісцю, якая наўрад ці была зразумета кім нават ва ўраўнаважаным стане.

Зазыба тым часам таксама не забываў пра Масея, дакладней, не мог не думаць пра яго, бо што б ні рабіў — ці тады, як снаваў па завулку з вёдрамі ад калодзежа і назад, ці тады, як вязаў бярозавы венік за глінішчам,— заўсёды яго думкі кружыліся вакол сына. Па-першае, сынава з'яўленне было зусім неспадзяванае, а гэта ўжо адно не магло не выклікаць моцнага ўражання, нават узрушэння, якое не так сабе мінаецца, добра, калі на змену прыйдзе другое, яшчэ мацнейшае, а па-другое, у сувязі з незвычайным сынавым вяртаннем наогул было над чым падумаць. Іншая справа, што Зазыба гнаў ад сябе нядобрыя думкі, свядома абрываў іх яшчэ ўпачатку, як разважлівы чалавек, якому мала аднаго схопленага, краем пачулага; яму неабходна ўнікнуць у сутнасць справы, каб зразумець, а тады ўжо рабіць вывад. Паколькі гнаць прэч думкі пра сына, пра акалічнасці яго вяртання ў вёску рабілася з кожнай хвілінай цяжэй, то ён стараўся ўхапіцца ў галаве абы за што, каб толькі замясціць ім папярэдняе. Пры вольным часе такім вось чынам можна багата што чалавеку перабраць у памяці. А ён такі ў Зазыбы цяпер і сапраўды быў, гэты час, бо тое, што рабіў Зазыба рукамі, ніколькі не замінала галаве, наадварот, нават спрыяла сваёй размернасцю і няспешнасцю.

Але чалавек так ужо складзены, што адным сучасным ці толькі будучым не можа доўга жыць. Усё часцей прыходзіць на памяць што-небудзь з таго, што было перажыта даўно, таму, лічы, ужо як адрэзанае, бо чалавек, які б вынаходлівы ён ні быў, не здольны вяртаць наяве мінулае, ён мае ўладу над ім толькі ва ўспамінах.

Прыходзіла на памяць Зазыбу мінулае таксама цяпер, бадай, лягчэй таму, што і сучаснае, і будучае, як

людзі кажуць, пакуль далей носа цяжка было згледзець.

Можа, таму што ішла вайна, дык і ўспаміналася найбольш ваеннае — і, няйначай, што самахоццю: трохі з часоў імперыялістычнай, калі Зазыба карміў у акопах вошы на Румынскім фронце, а то ўсё з грамадзянскай. Балазе, было чаму — імперыялістычную ён скончыў у пятнаццатым, калі прыехаў далечвацца ў вёску, грамадзянскую ж прайшоў без малога ад пачатку да канца, трапіўшы да Шчорса. Шчорс наведаўся ў васемнаццатым у забяседдзе не выпадкова, не праездам — ён стаяў тады на Унечы, вузлавой чыгуначнай станцыі, фарміраваў Багунскі полк. Нарадзіўся Мікола Аляксандравіч, ці, як яго, мала больш дваццацігадовага хлопца, называлі байцы,— «бацька Шчорс», на Чарнігаўшчыне, у Сноўску, але не менш шанаваў ён і Беларусь, зямлю, дзе некалі жыў бацька яго. Сам Шчорс часам жартаваў — маўляў, я адным разам і хахол, і кацап, і беларус. Словам, беларусаў, якія траплялі ў полк, ён таксама называў землякамі. У Зазыбы выйшла выпадкова, што запісаўся ў Багунскі полк, але пасля ён ніколі аб гэтым не шкадаваў. Толькі з Багунскага неўзабаве перайшоў у Таращанскі. То быў час, калі з акупіраванай і гайдамацкай Украіны выходзілі на Унечу адданыя Савецкай уладзе партызанскія часці. Трапілі туды і таращанцы, ад якіх перад тым збег іх першы камандзір Грабёнка. Замест царскага афіцэра атрадам камандаваў цяпер рабочы чалавек Бажэнка. (У адрозненне ад Шчорса гэты сапраўды ўжо быў па гадах бацькам.) І вось у тыя дні сярод таращанцаў Зазыба сустрэў свайго аднапалчаніна па Румынскім фронце. Само сабой, зноў пасябравалі. Ну, і застаўся Зазыба з ім у таращанцаў, тым больш што ніякая канцылярыя не затрымлівала. З таращанцамі браў Зазыба Кіеў, удзельнічаў у баях за Фастаў, Бярдзічаў, Ноўгарад-Валынск, Гошчу... Незадоўга перад тым як атрымаў рану за Шапятоўкай-Падольскай, яму пашчасціла пабываць у Верамейках. Склікаў тады іх, ветэранаў брыгады, у штаб «бацька» і сказаў: «Людзей нам стала не хапаць. У каго ў палку дык яшчэ так-сяк, а ў каго і па сто чалавек не набярэцца ў ротах. Надумаў я такую справу, браткі. Падавайцеся вы ўсе ў свае вёскі, у гарады. Збірайце там людзей — маладых, сярэдніх, старых, якія захочуць

пайсці да нас. Але глядзіце, каб добраахвотна было. Не трэба скандалу. Уладу савецкую шануйце. А ўжоткі папоўнім зноў брыгаду новымі байцамі». Хоць і далёка было Зазыбу ехаць да Верамеек, але падаўся ён у родныя мясціны з ахвотай. У штабе брыгады выдалі адпаведны мандат з такім штампам: «Украінская Савецкая рэспубліка. Першая Украінская армія. Першая Украінская савецкая дывізія. Штаб другой Таращчанскай брыгады. Дзеючая армія».

З гэтага свайго наведвання Зазыба добра помніў, як ужо на другі дзень пасля прыезду ў Верамейкі падаўся са сваім мандатам у Бялынкавічы, да вайсковага камісара таварыша Алейнікава. Браў ён туды і малога Масея...

Але зноў Масей!..

Акурат схапіўшыся, Зазыба ўтапіў у шайку, поўную гарачай вады, бярозавы венік, і ўзяўся заліваць карцом вуголле ў печы. У твар адразу патыхнула гарачынёй і попелам, адно Зазыба засланіўся сагнутай у локці свабоднай рукой. Нарэшце Зазыба адставіў ад сябе карэц, пасядзеў трохі на дыбачках перад печкай, чакаючы, што недзе ў сярэдзіне яе бліснe незаліты вугельчык. Але дарэмна. Тады Зазыба другі раз сёння падмёў у лазні падлогу, агледзеўся — здаецца, можна было ісці клікаць сына.

Быў досвітак.

Хоць Зазыба наперад і не разлічваў, аднак лазню падрыхтаваў акурат, быццам па сталай дамоўленасці, адно прачынайся пасля начы ды ідзі мыйся.

Зазыба ўвайшоў у сваю хату, апусціўся стомлена на ўслон. Ад яго ціхага шуму зварухнулася, як закапашылася, на тапчане Марфа,— яна ўсё-ткі прыкархнула пад самае ранне, бо не вытрымала глухой цішыні, якая ўсталявалася ў хаце, злашча, боязна было разбудзіць няўрокам сына. Бадай, вось гэтае, апошняе мерканне і прывяло да яе насцярожаны сон.

— Ты б цішэй хоць, а то...— занепакоілася яна.

— Нічога,— гучна, зусім не сцішваючы голасу, адмахнуўся ад яе папярэджання Зазыба.— Лазня ж гатова!

— А яму цяпер, можа, і не патрэбна наша лазня,— зноў шэптам сказала Марфа.

— Ну, трэба — не трэба, а я кажу, што гатова,—

здаецца, яшчэ гучней сказаў Зазыба, усё роўна як прыйшоў з далёкай дарогі і заспеў дома непарадак.

Цяпер ужо не мог не расплюшчыць вачэй і Масей, як бы ён моцна ні спаў. Аднак прачнуўся спакойна, гэтак людзі звычайна прачынаюцца альбо на кароткі час, маўляў, вось гляну толькі вакол, а тады зноў засну, альбо тыя, хто прывучаны да ўнутранай насцярожанасці, калі трэба ўвесь час заставацца пільным і не лішне выдаваць сваю прысутнасць.

Зазыба ўбачыў, што Масей прачнуўся, нават узрадаваўся, што не трэба будзе тармасіць за плечы ды шкадаваць.

— Кажу, лазня гатова, сын! — паведаміў і яму Зазыба.

— Ужо? — нібыта здзівіўся Масей.

— Дак ранне ж,— лагодна сказала з тапчана маці.

— А можа, ты перадумаў,— спытаўся Зазыба,— можа, дарэмна тапілі?

— Наадварот!

— Тады будзем збірацца. Давай-тка нам, маці, чыстую бялізну.

Масей лёгка, рыўком адхінуўся ад сцяны і так жа лёгка адвёў назад сагнутыя ў локцях рукі.

— Дарэмна праспаў,— пашкадаваў ён.— Трэба было спаліць там, у лазні, усё гэта.— І паказаў на куртку, таксама на штаны, пашытыя ці то з таннага сукна, ці з пафарбаванай зрэбніны.

Зазыба ў адказ усміхнуўся, сказаў:

— Агонь можна будзе развесці зноў. Спаліш, раз ужо табе хочацца зрабіць так. Тым больш што касцюм твой у нас захаваўся.

— Дак ляжыць твой касцюм! — узрадавана сказала і Марфа.— Зберагла!

— То дзякуй,— усміхнуўся сын.

— Можа, дастаць? — усхапілася маці.

— А і праўду, сын,— падтрымаў Марфу Зазыба,— навошта гэтымі трантамі ўжо трэсці? Панасіў недзе, і дос!

Калі ўсё патрэбнае для лазні было складзена гаспадыняй на ўслоне ў адзін стос, а тады закручана, як і належыць у такім выпадку, у палатняны ручнік-уціральнік, Зазыба сказаў Марфе:

— Ты глядзі, таксама не баўся. Можаш паклікаць да пары Прыбыткову Анэту, каб адной не быць у лазні.

— Не, не! Я сянні і саўсім не пайду.

— Як сама знаеш,— паціснуў плячамі Зазыба.— Хадзем, сын.

Дзіва, але разгарачаны ў лазні Зазыба нават не адчуваў, што досвітак выдаўся сёння ўжо зусім па-восеньску золкі, нездарма ж Масей, як толькі выйшаў з хаты, адразу пачаў пацепвацца і неяк смешна сутуліцца.

— Калі не забыў,— сказаў сыну Зазыба,— дык завярні за лазню, заткні пакуллем акенца.

— Ды не забыў.

Масей тут жа рушыў за вугол лазні, кінуў па баках вачамі, шукаючы тое пакулле, а як знайшоў яго бліз-ка ля сцяны, у самым равочку, выбітым капяжом, пачаў сілай піхаць у акенца — квадратную адтуліну, выразаную пілой на ўроўні паднятых рук паміж бёрнаў. Адтуль моцна патыхала гарачынёй, ды Масей не зважаў на гэта, старанна выконваючы бацькава даручэнне. Дзеля большай пэўнасці ён яшчэ некалькі разоў падносіў да акенца руку, трымаў яе насупраць, каб вызначыць, ці не струменіць пара. Дзіва, але пакуль Масей не атрымаў ад бацькі гэтага даручэння, чамусьці было такое ўражанне, што ён не адчуваў сябе цалкам дома, нібыта толькі цяпер бацька нарэшце далучыў яго да ўсяго хатняга, што зноў мелася стаць блізкім, а найбольш, мусіць, зварухнуў сынаву душу проста бацькаў голас, якім той паслаў затыкаць пакуллем акенца. Здаволены Масей з палёгкай уздыхнуў і ў дадатак уголас засмяяўся, усё роўна як убачыў раптам тое, чаго не хапала яму і што ён даўно шукаў, альбо разгадаў нешта такое, што надта непакоіла дасюль.

— Заткнуў! — ажно не ўстрымаўся ён пахваліцца бацьку, калі праз хвіліну зайшоў у прылазнік.

Бацька тым часам стаяў у адных падштаніках, атрэсваў над шайкай з гарачай вадой свежы бярозавы венік.

— Добра,— азваўся ён здаволена,— тады раздзявайся, кладзі свае лахманы, дзе ўпадабаеш, а хочаш — вешай на гэтыя рагачы.— Ён паказаў венікам на ўбітыя ў сцяну жалезныя крукі.— А я пайду ўжо рабіць дух.

Неўзабаве праз зачыненыя дзверы пачуўся моцны трэск у апарні, акурат выбух, і Масей зразумеў, што бацька сапраўды пачаў «рабіць дух»: ад першага ж карца халоднай вады нейкі распалены камень на печцы не вытрымаў, уздыхнуў і раскалоўся, стварыўшы гук, падобны на лёгкі выбух.

Як помніў Масей, бацька ягоны не надта вытрымліваў у лазні гарачыню, раней лазню для ўсіх рыхтаваў дзед Яўмен, пачынаючы з таго моманту, як засоўваў у печку дровы, і канчаючы вось гэтым развядзеннем пары; звычайна дзед і на палок першы лазіў — насоўваў на пляшывую галаву суконны картуз, стаўляў побач драўлянае вядро з халоднай вадой, замест карца — алюмініевую місачку, з якой зручней паліваць на гарачае каменне, і пачынаў апрацоўваць бярозавым альбо дубовым венікам сваё старэчае цела, робячы пры гэтым малыя ці вялікія перапынкі. У такія хвіліны не лішне хто мог уседзець у лазні, мужыкі звычайна збіраліся ў прылазніку, чакалі пакуль дзед Яўмен раскашаваў на палку...

Нарэшце Зазыба ўзліў на бунтоўную печку апошні карэц вады, піхнуў локцем дзверы, ступіў у воблаках пары цераз парог адтуль. Папярод чым сказаць слова, ён косым позіркам акінуў з ног да галавы голую сынаву постаць — няйначай, хацеў пераканацца, ці прынёс Масей дамоў на касцях яшчэ што, акрамя жывой душы, затым утапіў прыгаршчы ў шайку з халоднай вадой, спаласнуў сабе твар.

— У-у-уф-ф-ф!.. — выдыхнуў ён пасля гэтага і спытаўся ў Масея: — Ці вадзілі ж там у лазню, дзе ты быў?

— Вадзі-і-ілі,— чамусьці расцягваючы словы па складах, адказаў Масей.

— Значыць, вадзілі? — здзіўлена перапытаў Зазыба, усё роўна як не спадзяваўся пачуць ад сына станоўчага адказу.

— Вадзілі,— ужо зусім коратка пацвердзіў Масей.

— Ну, то і добра,— таксама не надта распаўсюджваючыся, сказаў на гэта Зазыба.— Ступай у лазню, раз не адвык, ды папацей там, а тады пачнём.

Масей паслухмяна склаў крыжам на грудзях рукі, быццам не ў апарню збіраўся ўвайсці, а па меншай меры, у купель, тады звёў павекі і, сляпуючы, пераступіў парог, за якім адразу захлынуўся гарачынёй.

— Носам дыхай, носам,— пакуль не зачыніліся за сынам дзверы, паспеў кінуць услед яму бацька.

Але дзе там! Масей толькі паспрабаваў зрабіць так, як раіў бацька, а ўжо зліпліся ноздры, і ён зноў пачаў быў хаўкаць ротам. Тады нанава перасіліў сябе. Можа, паўхвіліны душыўся так у парозе, можа, даўжэй, аднак неўзабаве адчуў на сабе, што дыханне сапраўды становіцца раўнейшае, і яму ўжо нават не пякло ўсярэдзіне.

— Я цябе папару сам,— сказаў, зайшоўшы ў апарню, бацька. Ён змачыў з карца ўвесь асінавы палок, пасунуў бліжэй к сцяне драўлянае вядро з халоднай вадой.— Кладзіся! — загадаў сыну.

Памагаючы сабе рукамі, Масей забраўся на палок і лёг трохі наўскасок, галавой у самы кут. Але бацьку не спадабалася гэта. Камлём веніка той адразу даў адчуць сыну, каб павярнуўся больш на сярэдзіну, выставіў падэшвамі к печцы ногі. Масей прыўзняўся на руках, перанёс цела на другое месца. Тады бацька зусім зухавата, акурат напаказ, узмахнуў пад самай столлю венікам і, дробна-дробна патрэсваючы, пачаў апускаць яго над распластаным сынавым целам, потным, але яшчэ не чырвоным.

Чым ніжэй апускаўся венік, тым мацней Масей адчуваў спіной апякаючую гарачыню яго. Здавалася, яна дыхала, асядаючы са столі. Лежачы на жываце, Масей чакаў, што бацька пачне секчы венікам адразу, аднак той не спяшаўся рабіць гэтага, ён яшчэ пранёс — і таксама дробна патрэсваючы — венік уздоўж цела, ад самых пятак да патыліцы, і толькі затым хваснуў з працягам па правай лапатцы. Наогул Масей дарэмна напружваўся: у бацькавых ударах нічога балючага не было, добра распаранае бярозавае вецце мякка сцёбала па спіне, па ягадзіцах, па лытках, пры гэтым нават тушыла сухую гарачыню.

Шлёп-шлёп-шлёп... Плясь-плясь-плясь... Шлёп-шлёп...

І чым мацней бацька аходжваў яго венікам, тым болей сыну хацелася, каб ён рабіў гэта: ва ўсім няўходжаным, брудным целе вырастаў нейкі нясцерпны сверб, а пад скурай варушыўся халадок.

— Ну як, сын? — перахопліваючы левай рукой венік, гарэзліва спытаў Зазыба.

— Цярплю-ю-ю,— амаль філасофскі выгукнуў з-пад сябе Масей.

Тады бацька здаволена кіўнуў галавой і па-ранейшаму гарэзліва сказаў:

— Гэта яшчэ што? Гэта яшчэ так сабе! А вось зараз як паддамо трохі, тады і праўда давядзецца табе пацярпець!

Ён намацаў побач з вядром карэц, зачэрпнуў вады ім і апрастаў увесь на печку. Цяпер каменне не трашчала і не разрывалася, аднак пара адтуль адразу як выбухнула ўгору, пругка ўдарыла ў столь, распаўсюджваючыся пякучымі хвалямі над палком.

— У-у-уф-ф! — звыкла выдыхнуў Зазыба і зноў, усё роўна як нанава пачынаючы ўсё, стаў дробна патрэсваць венікам.

Шлёп-шлёп, шлёп-шлёп... Плясь-плясь, плясь-плясь... Шлёп-шлёп...

— А спераду я сам,— раптам нібыта ўзмаліўся Масей.

— Што ж, паспрабуй,— лёгка згадзіўся Зазыба, але перад тым як выпусціць з рук венік, паклаў яго яшчэ пад каленкі сыну, па самае сухажылле.

— Ну, от,— нарэшце ўсклікнуў бацька, кінуў на край палка венік і, згінаючыся ў плячах, вываліўся ў прылазнік.

Масей крутануўся на мокрых асінавых дошках, якія хоць знізу ратавалі яго ад гарачыні, звесіў уніз ногі. Але доўга парыцца самастойна не здолеў. І не таму, што зрабілася зусім горача сядзець на палку. І, вядома, не таму, што вельмі часта даводзілася апускаць руку, у якой трымаў венік, у халодную ваду, каб не дазволіць апёкаў. Справа ў тым, што праходзіла ўжо тая зацятасць, ад якой, здавалася, не будзе спакою ні душы, ні целу. Наперакор сабе, Масей пратрымаўся без бацькі на палку хвілін колькі, тады адкінуў убок, быццам непатрэбную рэч, венік і рынуўся ў прылазнік, гатовы выбіць галавой дзверы.

— У-у-уф-ф! — пераймаючы бацьку, выдыхнуў ён за парогам: з сіняга цела зрабілася малінава-чырвоным.

Зазыба таксама з падкрэсленай цікавасцю каўзануўся вачмі па ім, спытаў з добрай усмешкай, у якой усё-ткі адчулася трохі і паблажлівасці,— не быў бы ён бацька!

— Ну, як яно?

— Уф!

— Абмый во твар, вада ў шайцы,— прапанаваў бацька,— ды кладзіся на падлогу, аддыхацца трэба.— І, убачыўшы, што сын нібыта асцерагаецца, пачаў супакойваць: — Не бойся, не забрудзішся і не застудзішся. Маснічыны тут шчытна падагнаны. Я нават летась яшчэ раз клінам падціскаў кожную. І загавальня добра абкопана. Так што не прадзьме сыспаду. Кладзіся. А хочаш, дык я цябе і вадой абдам. Праўда, доктар Каласоўскі казаў, што гэта шкодна, нібыта скура нанава закрываецца ад халоднай вады і не дыхае. Але дзед твой не страшыўся. Заўсёды пасля парыльні тут вось, у прылазніку, абліваўся халоднай вадой. А зімой — дык і зусім у снег цаляў. Бывала, ужо нямоглага выведзеш з лазні, а ён так і наравіць з парога нырнуць у сумёт. Знарок шчыт ставілі з шалёвак, каб сумёт паўза сцяну надзімала. Ну дык як, абліць?

Масей адмоўна пахітаў галавой.

— Дзед! — амаль летуценна сказаў ён.— Што дзеду?

— Тады кладзіся проста,— пацягнуў яго за руку Зазыба.

Спярша Масей укленчыў на падлозе побач з бацькам, а ўжо затым дапаў грудзьмі да маснічын.

Здавалася, пасля доўгага знаходжання ў апарні будзе грукаць і біцца сэрца, але не, яно паволі ўжо супакойвалася, і, наогул, уся істота Масеева сцішвалася, а ў вачах з'явіўся сон, праўда, не той, ад якога адразу правальваешся ў небыццё; гэты, наадварот, калом распіраў вейкі, не даваў зліпнуцца ім. Масей склаў адну на адну перад сабой далоні, прытуліў да іх правай шчакой галаву. Бацька таксама пасунуўся бліжэй да сына.

— Значыць, рашыў дамоў прыйсці? — спытаў ён праз нейкі момант. І Масей раптам зразумеў, што бацька ўвесь час насіў гэтае пытанне ў сабе.

— Дамоў,— быццам скрозь сонную млявасць, адказаў ён.

— А чаму ў Чырвоную Армію не паступіў?

— А хто б мяне ўзяў? — трохі абыякава адказаў Масей, але ўжо як знарок.

— Ну, як гэта — хто б узяў? — не зразумеў бацька.

— А так,— адарваў шчаку ад тыльнага боку далоні Масей і падняў галаву.

— Трэба было растлумачыць добра, хто ты і чаго хочаш.

— А хто б мяне слухаць стаў? Хто б слухаў маё тлумачэнне?

— Ці ж мала разумных людзей?

— Разумных людзей сапраўды нямала,— згадзіўся з бацькавым довадам Масей.— Але раз не паслухаліся... раз не здолеў растлумачыць у мірны час, дык няўжо думаеш, што ў ваенны да кагосьці б дайшло?

— А можа, якраз і дайшло б?

— Не, бацька, усё абстаіць трохі іначай, чым ты ўяўляеш сабе гэта. Здавалася б, хто мае права адмовіць чалавеку са зброяй у руках абараняць айчыну? Але ж адмаўляюць.

— Дык табе і праўда адмовілі ці ты гэта толькі кажаш так?

Размова стала рабіцца падобнай на допыт, і Масей быццам у адчаі наморшчыў лоб.

— Кажу, бацька, толькі кажу,— тужліва прамовіў ён, усё роўна як нічога не мог знайсці ўжо супраць бацькавай пераканаўчасці; ды надоўга не змоўк, набраўся цярплівасці, потым пачаў: — Але я кажу таксама і тое, што з гэтай справай усё абстаіць іначай, чым ты сабе ўяўляеш, бацька, а можа, проста хочаш выдаць жаданае за сапраўднае. Так, ніхто мне не адмаўляў, бо як можна адмовіць, калі ты не прасіўся?

— Сапраўды, як?

— Але ты ўзваж тым часам, хто добраахвотна стане з-пад вінтоўкі ды адразу пад вінтоўку? Не паспеў бы я нават заікнуцца ў ваенкамаце, што з турмы, ды па якім артыкуле быў, як у момант апынуўся б ля сценкі. Не толькі што разбірацца, але і размаўляць далей не сталі б. Гэта калі армія паспяхова наступае, то ўсе, пачынаючы ад палкаводца да шарангоўца, лагодныя і пры цвярозым розуме. Тады кожны паспачуваць згодны. А калі адступае, то ўсё атрымліваецца якраз наадварот. Ну, а тут у нас нават не адступленне, хутчэй суцэльнае бегства.

— Дапусцім, у вайне па-ўсякаму бывае,— няпэўна кіўнуў галавой Зазыба.— Гэта як і ў звычайнай бойцы, калі абодва моцныя, нябось, сам не раз бачыў — то спярша адзін зверху, то, глядзіш, ужо другі на ім...

— Але ж гэта не простая байка, гэта — вайна!..

— Вайна,— разважліва згадзіўся бацька.— Таму

я і гавару, што за адступленнем будзе наступленне. Ай, не верыш?

— Не верыць, бацька, я не маю права,— адказаў Масей.— Гаворка ж наша, здаецца, не пра гэта?

— І пра гэта,— настойліва ўдакладніў старэйшы Зазыба.— Але, добра. Мяне хвалюе, што ты не па чыстай вярнуўся да нас.

— Фармальна, па чыстай. Тэрмін мой ужо выйшаў.

— Тады ў чым справа?

— А ў тым, што... Словам, па чыстай, бацька, адтуль апошні час, здаецца, нікога не выпускалі. Проста прывозілі назад, адкуль некалі бралі, і давалі новы тэрмін.

— Ну, а табе новы далі?

— Не паспелі.

— А што гаварылі на судзе?

— Гаварылі на следстве,— усміхнуўся Масей.— А на судзе было проста: прыводзілі ў залу, старшыня спецкалегіі зачытваў пастанову, і на этап.

— Я тады ж, у той год, пацікавіўся ў раёне табой, дык мне сказалі, што ты адбываеш тэрмін па семдзесят другой стацці. Растлумач мне, што гэта такое?

— Мяне судзілі за антысавецкую агітацыю.

— Ясна. Ну, а правіннасць якая?

— Хіба ж не помніш, які снежны ком тады каціўся з гары. Абы данос на каго паступіў!

— Значыць, на цябе таксама быў?

— Перад тым мы вечарынку наладзілі. Прафесара свайго ўшаноўвалі. Якраз дзень нараджэння ў таго быў. Ну, мы і сабраліся разам, былыя студэнты. Аднак не ўлічылі аднаго. Трапіў на вечарынку сярод нас хлопчык адзін. Све-е-етленькі такі, чы-ы-сценькі, роўна з іконы за гадзіну да таго сышоў. Здаецца, пляменнік асістэнта нашага прафесара. Вось ён і нашрайбаваў на нас.

— Дарэмшчыну?

— Ты, бацька, як следчы мой! — засмяяўся Масей.— Той таксама вось гэтак шчыра здзіўляўся — маўляў, і што, нічога такога не гаварылі вы між сабой? Дык вось, як на споведзі гавару — ані блізка! Справа ў тым, што сярод высокаадукаваных людзей зачасаўся чалавек, бачыш, я не гавару, што нягоднік, нават больш, дык вось... сярод высокаадукаваных людзей зачасаўся чалавек, які толькі што скончыў у вёсцы сямігодку.

Можна ўявіць сабе, чым здалася яму размова разумных людзей? Вось ён і выклаў яе па свайму разуменню, няйначай палічыўшы сябе большым патрыётам, чым кожны з нас.

— Ну, а следства? Няўжо следства не магло разабрацца?

— Вось у тым жа і загадка часу! Я ж недарэмна кажу, што нібыта сляпы снежны ком з гары каціўся. Аказваецца, абы данос паступіў. А той ужо, як след, зачароўваў усіх.

Масей раптам пачаў кашляць, чамусьці ажно да гідлівасці ў жываце. Зазыба дакрануўся да яго рукой:

— Ты не хвалюйся, сын!

— Я ўжо даўно не хвалююся з гэтай прычыны,— нарэшце пракашляўся Масей.— Усярэдзіне ў мяне — горка і пуста.

— Але ж горыч таксама ачышчае чалавека.

— Чым?

— Сваёй гаркатой.

— Але ж яе замнога ў людзей. Толькі цяпер яна разбаўлена другімі якасцямі, урэшце, у час вайны інакш і быць не можа. Разбаўлена, але не знішчана.

— Нічога, усё мінецца, сын. Горыч — яна таксама абуджае ў чалавеку новае веданне жыцця. Вось толькі з вызваленнем тваім трохі не так выйшла. Таму я ўспомніў адразу пра армію — гэта якраз самы выхад з твайго становішча быў. Нездарма ж кажуць,— пераможцаў не судзяць.

— Думаеш, я сам не разумею, у які капкан трапіў? — сумна паглядзеў на бацьку Масей.

— Ага, у капкан наогул, хоць у які, няма зайздрасці трапляць, а ў гэтакі, дык і зусім ужо няварта было б.

— Ён усё роўна як забыты. Можа, ніхто ўжо не прыйдзе праверыць яго.

— Нічога, сын, неяк жа будзе!.. Абы за табой не было...

— А што за мной магло быць? — ускінуўся Масей.— Хіба ад цябе я хаваўся б? — Ён зноў пачаў кашляць, хоць і не так надрыўна, як мінулы раз.

Зазыба сказаў:

— Хадзем, сын, яшчэ раз на палок. Пагрэемся. А то і праўда — разлегліся тут. Даўно ў цябе гэты кашаль?

— Было неяк, а тады само прайшло.

— Можа, грудзі?

— Не-не, мусіць, не.

— То і добра. Хадзем. Больш парыць венікам не буду. Пагрэю так.

У лазні ўжо дыхалася вальней, гарачыня амаль не даймала, аднак Зазыба расчыніў на вуліцу і зашклёнае ніжняе акенца.

— Кладзіся зноў на палок,— сказаў ён.— Ды павярніся галавой да печкі. З правай рукі мне зручней будзе.

Пакуль Масей мулка ўкладваўся на асінавых дошках, асцерагаючыся нарабіць сінякоў, Зазыба ўправіўся прынесці з прылазніка вядро з варам, накрытае драўляным вечкам. Паставіўшы вядро на падлогу, ён падняў кінуты Масеем венік, агледзеў яго, каб не тырчалі голыя пруты, тады тапляну́ў у гарачую ваду.

— Вось аб чым я прасіць цябе мушу, сын,— сказаў раптам ён, кладучы на спіну Масею нанава распараны венік.— Не гавары ты з мужыкамі пра ўсё гэта ў вёсцы. Я разумею, ты цяпер пакрыўджаны. Табе і праўда не соладка. Але павер мне, свайму бацьку, што Савецкая ўлада ў тваёй бядзе не вінаватая. Ты ж сам кажаш, ком з гары каціўся. Было, адмаўляць нельга. Але ж... не ўсюды аднолькава. У нас, напрыклад, дык ніводнага і пальцам не кранулі. Ды і не толькі ў нас. Значыць, самаўпраўства на месцах тварылася. А зверху за ім недагледзелі.

— Дзіўныя ў мяне бацькі,— пацепваючыся скурай ад пякучага бярозавага лісця, горка ўсміхнуўся Масей.— Маці ўвесь час на госпада бога спадзяецца, а бацька — на вышэйшую ўладу!..

— Іначай мне нельга, сын,— тапляючы зноў венік у вядро, крактануў Зазыба.— Бо што я варты сам тады. А ў жыцці ці мала што здараецца. Тым больш калі гэтае жыццё нанава будуеш. Тут і памыліцца не цяжка, не тое што недагледзець. Сам разумееш.

— Вопыту няма — таму рабі што хочаш, набірайся вопыту. Памыляешся? Ну што ж, не памыляецца той, хто нічога не робіць. Таму рабі памылкі, хутчэй навучышся. Папомніш мяне, бацька, пра гэта яшчэ скажуць, ой, скажуць!

— Я і сам разумею, што скажуць! — незалюбіўшы сынаву зласлівасць, павысіў голас Зазыба.— Бо не раз

ужо гаварылі! У калектывізацыю наварочалі лішняга — паправілі, галавакружэнне ад поспеху выйшла. У трыццаць восьмым таксама паправілі. Яжова пакаралі. На пленуме парушэнні асудзілі. Так што...

— Святы чалавек ты ў мяне, бацька,— уздыхнуў Масей.— За гэта я і паважаю цябе. За тваю веру, якая не дае зразумець, дакладней, прызнаць нават самае жахлівае.

— І на тым дзякуй, сын. Другім разам, можа б, і не сказаў, а сёння — прымаю нават пахвалу. Прыемна. Асабліва калі сын хваліць, а ты добра ведаеш, за што ён хваліць.

Гэтыя словы прагучалі для Масея адным часам і як дакор, і як схаваная іронія. Таму ён, сумеўшыся, змоўк.

Бацька таксама не пачынаў нанава гаворкі.

Тапляючы раз-поразу венік у вар, ён патрэсваў яго над сынавай спіной, праносіў уздоўж хрыбціны і кожны раз на момант спыняўся ў якім-небудзь адным месцы, прыціскаў бярозавае вецце да цела. Масею моцна пякло ад гэтых дотыкаў, але ён пакорліва маўчаў, нават не варушыўся, толькі часам пацепваўся скурай.

...Надзеты ва ўсё новае, Масей неўзабаве ступіў на парог у прылазніку, глянуў наперад сябе ў шырокі прасцяг, дзе над гарбатым полем узыходзіла чырвонае сонца, і адчуў раптам, як моцна, нібыта перад самымі маразамі, патыхала палыном.

## VI

Баі на абараняльным рубяжы, што перасякаў тульска-арлоўскі тракт, як пачаліся амаль нечакана, быццам знянацку, калі яшчэ не ўсе палкі 284-й дывізіі занялі траншэі перад вялікім супрацьтанкавым ровам, так і спыніліся, дакладней, не спыніліся, проста аціхлі на нейкі час. Уласна, зацятых абараняльных баёў, як гэта мела месца на ранейшых рубяжах, напрыклад, на Дняпры, пасля і на Сажы, тут пакуль наогул не завязалася. Немцы спачатку мелі намер разбурыць новую паласу «абароны рускіх» проста з паветра. Над супрацьтанкавым ровам, над траншэямі і акопамі, што загадзя, яшчэ ці не ў канцы ліпеня, былі падрыхтаваны амаль уздоўж усяго абараняльнага рубяжа ў некалькі ліній, ад самага віднага віселі гарбатыя «юн-

керсы», сыпалі ўніз, вывальваючы з чэрава бомбы. Бамбёжцы былі падвергнуты таксама ўсе блізкія вёскі, у тым ліку і Пёкліна, лясы і пералескі па левы бок ад супрацьтанкавага рова, на адлегласці трох-чатырох кіламетраў. Нямецкаму камандаванню здавалася, што пасля такой стараннай авіяапрацоўкі дастаткова будзе адразу пусціць танкі, каб прабіць новую, неўстаялую абарону яшчэ да падыходу асноўных, матарызаваных сіл. Але надзеі аказаліся дарэмныя. Задума немцаў была разгадана ў час, і на танканебяспечных напрамках артылерыя паспяхова адбіла варожыя атакі. Тады немцы супакоіліся, рашылі пачакаць свае асноўныя сілы, якія яшчэ рухаліся к фронту. Таму ўсё і аціхла вакол. Разам з тым кончыўся і паток акружэнцаў, што адступалі ад папярэдняга абараняльнага рубяжа. Такім чынам, Шпакевічу таксама нібыта не стала чаго рабіць. Апошняя група байцоў і камандзіраў на гэтым участку перайшла лінію фронту няўдала, якраз то была група, у якой адну ноч у лесе каля Шыраеўкі гасцінна правёў Чубар і вельмі хораша пагаварыў з палкавым камісарам. Але пра гэта Шпакевіч не ведаў. Ды яму і не належала надта пытацца ў акружэнцаў, нават калі б увесь час і рупіла. У перастрэлцы, якая раптам пачалася з абодвух бакоў, загінуў паранены палкавы камісар, якога чырвонаармейцы прынеслі на насілках у траншэю па ўзбалотку ўжо мёртвага... Вядома, сустракаць акружэнцаў, наладжваць праход цераз лінію фронту, было справай надзвычай турботлівай, шмат даводзілася напружвацца і мала спаць, таму Шпакевіч з ахвотай вярнуўся да выканання сваіх непасрэдных абавязкаў у роце: з самага пачатку яго прызначылі памкамузвода.

Улічваючы, што абараняльны рубеж быў падрыхтаваны зараней, салдатам тут мала даводзілася капацца ў зямлі, адно папраўляць калі траншэю пасля бамбёжкі. Ну, а раз не трэба кідаць рыдлёўкай на бруствер зямлю, значыць, і работы, лічы, сапраўднай салдату няма. Таму Шпакевіч дамовіўся з камандзірам узвода, што адлучыцца сёння на нейкі час у Пёклінскі лес, туды, дзе нядаўна размяшчаўся зборны пункт.

— Трэба на магілу адну схадзіць,— сказаў ён, каб і праўда не выглядала гэта звычайнай прагулкай.

Узводны не пярэчыў.

Шпакевіч паклікаў з сабой яшчэ і чырвонаармейца, уральца, які назваўся цесляром. Справа ў тым, што

ўвесь гэты час, як знаходзіўся на перадавой, Шпакевічу рупіла дагледзець па-чалавечы магілу Халадзілава.

Хаваў забітага ён сам, але паспешліва, амаль як папала, бо пасля таго налёту было загадана не дэмаскіраваць зборны пункт і, наогул, не надта затрымлівацца каля адрыны, бо на пазіцыях чакаюць пустыя акопы. І вось цяпер Шпакевіча непакоіла, што ён таксама паддаўся спешцы і не зрабіў нават людскай магілы — ледзь паспеў выкапаць ямку, глыбінёй ці не ў звычайны салдацкі акоп для стральбы лежачы.

Пісьмо на радзіму Халадзілава Шпакевіч паслаў раней. Ён правільна разважыў — Халадзілаў быў тут нічыйны, яшчэ не прыпісаны ні да якой часці, таму і паведаміць пра яго смерць афіцыйна не было каму. Значыць, зрабіць гэта належала Шпакевічу. І не толькі па дружбе, але па абавязку, няхай не афіцыйнаму. Адрас Халадзілава ў Шпакевіча быў, ён дастаў яго разам з іншымі дакументамі, якія ляжалі ў кішэні гімнасцёркі. Але што напісаць, якімі словамі апавядаць бацькам пра гібель сына? Спярша яму хацелася расказаць пра ўсё, што наогул можна было прыгадаць з іх сумесных вандраванняў, з іх вайсковай службы — хоць, вядома, якая служба на вайне, на вайне проста салдаты ваююць, а не служаць! — але нават у думках ліст выходзіў доўгі, амаль бясконцы, на яго не хапіла б паперы, таму Шпакевіч пасля разваг напісаў самае простае: маўляў, дарагія бацька і маці (бацька ў Халадзілава з яго ж слоў быў чалавек не старога веку, але інвалід — на плытах некалі па Чусавой застудзіў нагу ды так і не вылечыўся), сёстры і браты, ваш сын і брат Халадзілаў Валянцін Тарасавіч загінуў геройскай смерцю ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі за гонар сацыялістычнай айчыны і пахаваны ў лесе, што за паўтара кіламетра на паўночны ўсход ад вёскі Пёкліна... А раптам адтуль, з Уфы, калі і праўда здарыцца, што затрымаецца тут надоўга фронт, прыедуць на магілу?..

Дарогі ад перадавой у той Пёклінскі лес было не багата. І Шпакевіч з цесляром хутка ўзяліся за справу: з узаемнай згоды рашылі не пашкадаваць якую гадзіну-другую ды перазахаваць Халадзілава.

Адмераўшы крокаў дзесяць ад першай магілы, Шпакевіч пачаў капаць рыдлёўкай другую, глыбокую і не цесную, тым больш што зямля была пясчаная і да-

зваляла гэта. Чырвонаармеец тым часам стаў вычэсваць з расколатай сасны надмагільны абеліск, каб пасля выразаць на ім і прозвішча загінуўшага: ён быў з нядаўна мабілізаваных, трапіў сюды, на гэты абарайльны рубеж, з дывізіяй, якая яшчэ не ўдзельнічала ў баях, і таму не бачыў, як хавалі салдат дасюль — абы паспець ды зямлёй прысыпаць, яму хацелася зрабіць усё па-сапраўднаму, зусім без сакрэтнасці, як трэба; Шпакевічу толькі і ўдалося пераканаць яго, што Халадзілаву нельга ставіць крыжа, чырвонаармейцу на магіле належыць мець звужаны кверху гранёны слупок, які завецца абеліскам.

Рабіць справу ім ніхто не замінаў: у адрыне нікога не было, з учарашняга дня яна наогул стаяла пустая, бо і старшы лейтэнант з асобага аддзела, і тыя вайсковыя службы, што займаліся тут пасля так званага «прапускніка» фарміраваннем новых баявых падраздзяленняў, перабраліся непасрэдна ў штабы, дзе ім і належала быць.

Пакідаўшы з паўгадзіны зямлю з ямы, Шпакевіч выпрастаўся — было па грудзі ўжо, абапёрся далонямі на берагі і выкінуў на паверхню ногі, каб перадыхнуць.

Чырвонаармеец убачыў гэта, таксама перастаў ляпаць сякерай.

— Я, канечне, не ведаю,— сказаў ён, сядаючы на пень,— але часта думаю і хачу ўсё спытаць. Займае маю галаву і цярэбіць адна думка. Ад самага пачатку вайны.

— Што ж гэта за думка такая, што вы ўсё не можаце спытаць? — прыязна азваўся Шпакевіч, які ўжо тым часам таксама паспеў сесці сабе на пень, якраз насупраць.

— А вось якая,— салдат зняў з галавы пілотку, паклаў блінам на правае калена; мусіць, яго і праўда даўно цікавіла штосьці, бо ён і цяпер не спяшаўся гаварыць пра тое, быццам узважваў ці прыглядаўся да чалавека, якому збіраўся даверыцца.— Помню, у дзевятнаццатым годзе збіралі для немцаў сухары. Самім есці не было чаго, а немцам збіралі.

— Я малы тады быў, не ведаю,— сказаў на гэта Шпакевіч, усё роўна як паспрабаваў адмежавацца.

— А я помню, хоць таксама не ў вялікіх гадах быў...

— Цікава, колькі вам цяпер? — спытаў Шпакевіч.

— Дык няўжо не відаць?

— Ну...— няпэўна вымавіў Шпакевіч.

— А ўжо багата,— сказаў, каб не рабіць лішняй затрымкі, цясляр.— Як па-нармальнаму, дык у запечку павінен сядзець ці на чаране грэцца. Ну, а па цяперашняй вайне... Але я не пра гэта. Праўда, збіралі для немцаў тады сухары. Гэта я помню. А самім тым часам не было чаго есці. Добра, калі па паўвасьмушцы на дарослага чалавека ў Маскве і Петраградзе прыпадала. Ды і ў іншых гарадах не смачней было. У саміх людзі паміралі з голаду, а чужым сушылі сухары. Казалі, нямецкім рабочым, іхнім дзецям падмога трэба. Моў, пралетарыят не забудзе пасля. Таксама салідарнасць праявіць, калі спатрэбіцца.

— Што ж, правільна,— пацвердзіў Шпакевіч.

— Але гэта яшчэ як паглядзець,— нібыта з дакорам зірнуў на яго чырвонаармеец.— У мяне тады браценнік у Піцеры з голаду памёр. Малы, сапляк яшчэ быў. Але сірата. Ну, і паехаў к дзядзьку, на завод уладкавацца ці так у горадзе прыжыцца. Прыехаў, а дзядзькі няма. Дзядзька недзе ваюе. Я ўжо не помню, з кім тады ў дзевятнаццатым вайна ішла. Але пэўна, што не з немцамі. У іх тады, пісалі, рэспубліка была. Баварская.

— З Юдзенічам,— падказаў Шпакевіч.

— Дык вось я і гавару... браценнік мой... Пабадзяўся бяздомны ды галодны па Петраграду і здырдзіўся недзе на вакзале. Ну, а каб наадварот было, каб не немчык якісьці тыя сухары з'еў, а мой браценнік? А іх з'еў немчык. І, няйначай, цяпер па нас страляе.

— А чаму раптам страляе той, што еў сухары? — паціснуў плячамі Шпакевіч, які нарэшце зразумеў, куды прыйшла гаворка.

— Не абавязкова, канечне, аднак...

— Справа якраз у гэтым вось «аднак»! А чаму не дапусціць, і гэта будзе хутчэй за ўсё так, што немчык той сядзіць цяпер у гітлераўскім канцлагеры? А можа, у падполлі з фашыстамі змагаецца?

— Дапусціць, вядома, можна,— зноў тымі ж дакорлівымі вачамі зірнуў на Шпакевіча цясляр.— Ну, канцлагер, канечне, ясна, турма. А што яму рабіць там, у Германіі, у падполлі?

— На заводзе бомбы псаваць, кулі...

— Дзе ж тады яны, тыя псаваныя бомбы? Здаецца, увесь час усе разрываюцца. Як каторая падае на зямлю, то і разрываецца. Ды і кулі сапраўдныя!

— Фронт жа не толькі тут! — усё роўна як абражаны, запярэчыў Шпакевіч.— Фронт жа вялікі! Дык чаму трэба лічыць, што там?..

— Ат, бачу, не варта было пачынаць мне пра гэта? — ужо выразна шкадуючы, паморшчыўся ад прыкрасці пажылы чырвонаармеец.— Думаў бы сабе і думаў, як раней, а так...

— Чаму не варта? — ускінуўся Шпакевіч, а сам у гэты час прыгадаў, як нядаўна вось тут, у адрыне, дапытвалі збітага над абараняльным рубяжом нямецкага лётчыка, які з двухкрылага самалёта раскідваў лістоўкі. «Я — рабочы!» — чамусьці ўсё паўтараў той, быццам меў за гэтым нейкі асаблівы сэнс, быццам шукаў нейкай еднасці з тымі, хто дапытваў яго. Але калі ў яго спытаў цераз перакладчыка старшы лейтэнант з асобага аддзела, чаму ён, рабочы альбо сын рабочага, ды ваюе з рабочымі, палонны адказаў: «Бо вайна!» Тады яму адразу ж другое пытанне паставілі: «А чаму вашы фюрэры наогул пачалі вайну супраць Савецкага Саюза?» Адказ быў блытаны, пэўна, што не зусім прыдуманы, хоць адчувалася, што завучаны, зводзіўся ён да наступнага: маўляў, мы б не прыйшлі сюды, каб вы самі адмянілі савецка-марксісцкі камуністычны лад, прагналі камуністычны інтэрнацыянал за межы краіны; словам, ён разумеў задачу так, што ім, немцам, нічога не заставалася, як толькі з рабочай салідарнасці ўмяшацца ў справы Расіі...

Шпакевіч цяпер разумеў, што з пажылым чалавекам неабходна было пагаварыць абдумана, растлумачыць яму, што тут да чаго, яго памылку, хоць разумеў ён і тое, што не надта проста зрабіць будзе гэта, бо вайна сапраўды моцна парушыла шмат якія ўяўленні, асабліва тыя, што лічыліся дасюль як бы непахіснымі ўжо, аднак прадоўжыць гаворку не далі ім. Раптам на паляну, дзе яны размаўлялі, седзячы адзін супраць аднаго на спілаваных пнях, прыбег запыханы пасыльны, чырвонаармеец з іхняга ўзвода, і яшчэ крокаў за колькі крыкнуў Шпакевічу:

— Узводны загадаў прыбыць вам у размяшчэнне роты!

— Калі?

— Неадкладна.

— А чаму?

— Не ведаю.

— Аднаму ці з ім? — Шпакевіч кіўнуў галавой на пажылога чырвонаармейца, які паспешліва надзяваў пілотку, топчучы яе зверху рукой.

— На гэты конт нічога не сказана!

Шпакевіч з неахвотаю падняўся з пня, пашкроб пальцамі за вухам, усё роўна як расцягваў гэтым час, тады сказаў цесляру:

— Вы вось што... Дарэчы, як вас завуць?

— Тарасам. Тарас Якаўлевіч.

— Яго бацька таксама Тарас,— сказаў Шпакевіч, маючы на ўвазе Халадзілава.— Так што сынам мог быць.

— А малады? — павярнуўся цясляр у той бок, дзе трохі гарбацілася на магіле зямля.

— Студэнт. Таксама любіў пагаварыць. Я нават падумаў — сысціся б вам раней, вось нагаварыліся б адны, можа б, і мне тлумачыць пасля не трэба было. Самі б разабраліся, што да чаго на гэтым узбураным свеце. Але, як кажуць, не лёс. Я вось аб чым папрашу вас, Тарас Якаўлевіч, вы тут ужо не кідайце пачатае справы. Яму я амаль што выкапаў. Засталося толькі падчысціць дно. Ну, а...

— Ладна, камандзір,— узяўся за тапарышча цясляр,— ідзіце ўжо, раз завуць. Нешта ж не так сабе, можа, што здарылася. А без вас не могуць абысціся. Не турбуйцеся. Зраблю тут усё акурат. Я такі, я падвесці хоць каго не магу. Раз трэба, дык трэба!

— А то, можа, пакінуць і яго! — паказаў на пасыльнага Шпакевіч.

— Не, я адзін спраўлюся. Вы скажыце толькі... Прозвішча таварыша свайго забітага скажыце...

— Ах, так. Ледзь не забыў. Халадзілаў. Валянцін Тарасавіч Халадзілаў.

— Запомніў.

— Так і напішыце: «Чырвонаармеец Халадзілаў Валянцін Тарасавіч, загінуў...»

— Кажаце, напісаць? Не, аловак першы ж дождж размые. І знаку ніякага не застанецца. Шкада, што стамескі няма. Ну, ды ладна. Ножыкам паспрабую. Словам, не турбуйцеся, усё зраблю акурат.

Быццам прадчуваючы наперад, што гаворыць з ча-

лавекам апошні раз, а можа, ад звычайнай удзячнасці, якую хацелася паказаць хоць бы чым, Шпакевіч моцна пацісную чырвонаармейцу руку і хуценька пашыбаваў услед за пасыльным, якому не стаялася на месцы.

Камандзір узвода чакаў яго, таму адразу пачаў ледзь не з парога, хоць ніякай віны за Шпакевічам не бачыў.

— Прыходзіў Зімавы, загадаў расшукаць цябе, нават калі пад зямлёй. Добра, хоць яшчэ не папала.

— А навошта я спатрэбіўся яму? — спытаўся Шпакевіч.

— Каб жа яму! А то некаму ў штабе дывізіі!

Шпакевіч падумаў — зноў кліча старшы лейтэнант з асобага аддзела.

— Дык куды мне цяпер ісці — адразу ў штаб дывізіі ці да Зімавога?

Узводны пацісную плячамі.

— Ну, раз прыходзіў сюды Зімавы, значыць, да яго і трэба. А там ужо высветліцца ўсё як ёсць.

— Слухай,— сказаў Шпакевіч,— я там, у лесе, пакінуў байца, ну, таго...

— А-а, Святлічнага?

— Так. Дык ты яго не лай, калі трохі запозніцца. Магілу ён там робіць.

— Дарэмна ты гэта задумаў, Шпакевіч,— паківаў галавой узводны.— Трэба было пахаваць свайго таварыша ў брацкай магіле. Хацяя, між іншым... ці не ўсё адно, дзе ляжаць забітаму? А наконт Святлічнага — няхай у цябе галава пра яго не баліць. Ну, давай развітвацца. Адчуваю, не вернешся ты да нас. Мусіць, забіраюць цябе назаўсёды. А шкада, добры памочнік быў.

— Напамага-а-аў я табе! — зрабіў расчараваны твар Шпакевіч.— Толькі і лічыўся, што памкамузводам у цябе.

— Нічога, усе мы тут пакуль што лічымся. Галоўнае пачнецца тады, як немцы папруць. А яны восьвось збяруцца з сіламі.

Амаль гэта ж праз якія паўгадзіны гаварыў Шпакевічу і камандзір роты Зімавы. Напаследак спытаўся:

— Рэчы ж хоць з сабой?

— Якія ў мяне рэчы!

Падышоў нампаліт, сярэдніх гадоў чалавек, з круглым, добрым і трохі здзіўленым тварам. Гэты дык і зусім у роце знаходзіўся з учарашняга дня — працаваў недзе загадчыкам парткабінета, пакуль раён не падпаў пад акупацыю. Але паколькі ўся рота складалася з людзей выпадковых, гэта значыць, з тых, каго ўдалося звесці ў адно падраздзяленне на зборным пункце, то байцы і камандзіры прывыкалі ў ёй адзін да аднаго хутка, дастаткова было часам перакінуцца спагадлівым словам ды адсыпаць у дзвюхрогую масцёнку лішні шчопаць махоркі. Нампаліта таксама адразу прынялі ўсе ў роце, як свайго, нават ужо хадзіў сярод узводных анекдот, які той расказаў у першы дзень знаёмства: нібыта ўвосень цераз сялянскія палосы спяшаўся заяц і сустрэў на мяжы вожыка. «Куды гэта, касы?» — пытаецца вожык.— «А за тым вось пагоркам,— адказвае заяц,— вярблюдаў валашаць».— «Дзе ты вярблюдаў бачыў у нас? Здурнеў?» — «А мне другія зайцы казалі!» — «Ну, а табе які страх? Ты ж не вярблюд!» — «Ну так, але як адрэжуць прымусію, тады позна ўжо будзе даказваць, што ты не вярблюд».

І цяпер, убачыўшы нампаліта, Шпакевіч чамусьці перш за ўсё і прыгадаў гэты анекдот, усміхнуўся ўнутры сабе: от жа і чалавек, здаецца, не з боўталаў, а таксама выдумае...

Нампаліт, мусіць, адчуў ягоную ўнутраную ўсмешлівасць, пажартаваў зусім па-таварыску:

— Глядзі там, у штабе, кіруй ды не вельмі тузай. Асабліва нас з Зімавым.

У Шпакевіча, таксама як і ў цяперашніх камандзіраў яго, прадчуванне было недарэмнае: наперадзе сапраўды яго чакала заданне, якога ён і ўявіць дасюль не мог.

Са штаба дывізіі, куды ён трапіў неўзабаве, яго накіравалі ў палітаддзел, які займаў хату ў гэтай жа вёсцы, але насупраць, вокны ў вокны.

За сталом у сялянскай хаце з дзвюх палавін сядзелі трое. Аднаго Шпакевіч пазнаў адразу, яшчэ са спіны, бо то быў знаёмы старшы лейтэнант з асобага аддзела, хоць ужо і пераадзеты ва ўсё вайсковае, а на пятліцах замест сваіх трох наркаматаўскіх шпал меў кубікі. Другі сядзеў начальнік палітаддзела дывізіі. Дагэтуль начальніка палітаддзела Шпакевічу даводзілася бачыць усяго адзін раз, і то мяльком, калі той не-

чага наведваўся дзён колькі таму на зборны пункт у Пёклінскім лесе. Трэцяга чалавека, які прысутнічаў тут і сядзеў за сталом тварам на хату, Шпакевіч зусім не ведаў і нават не здагадваўся, хто ён і адкуль, тым больш што на адзенні яго знакі адрознення адсутнічалі напроч. А справа якраз і была ўся ў гэтым чалавеку, камандзіры спецыяльнага разведвальна-дыверсійнага атрада, створанага з добраахвотнікаў у Маскве па ініцыятыве народнага камісарыята дзяржаўнай бяспекі і накіраванага сюды, у размяшчэнне дывізіі, каб у вёсцы Белагалоў атрад мог пераправіцца на той бок лініі фронту. З выгляду ён адразу здаўся Шпакевічу чалавекам прыемным — хоць і сядзеў, але постаццю быў рослы, з чорнай, яшчэ не моцна адрослай барадой, з густымі брывамі, і цёмнымі праніклівымі вачмі. У жыцці нярэдка сустракаюцца людзі, якія сваёй пранікілівасцю звычайна спрабуюць разгадаць патаемныя думкі другіх, каб нагнаць жудасць на іх і гэтым узвысіць сябе. Але гэты быў не такі. Адчувалася ў ягонай пранікілівасці адным часам штосьці вострае і далікатнае, нібыта ён баяўся дарэмна ўкалоць чалавека сваім позіркам.

Пасля, тыдняў праз колькі, калі яны будуць ужо па той бок фронту, у тыле ворага, Шпакевіч па-належнаму ацэніць гэтага выключнага чалавека і шмат чаго даведаецца пра яго ад іншых, асабліва ад Ерафеева, былога інструктара фізкультуры на адной з прадзільна-папяровых фабрык Падмаскоўя; і пра тое, што камандзір іхні — кадравы чэкіст, які васемнаццацігадовым юнаком удзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі, разганяў паліцыю ў Бежыцы і Бранску, і пра тое, што потым ён пайшоў добраахвотна на фронт супраць Юдзеніча, нарэшце, і пра тое, што пасля грамадзянскай вайны доўга змагаўся з бандытызмам і контррэвалюцыяй на Украіне... А цяпер яны адкрыта, а то і ўпотай пазіралі адзін на аднаго — Шпакевіч і яго будучы камандзір — ды вывучалі пакуль: камандзір спецатрада таму, што меўся прапанаваць Шпакевічу адказнае заданне ў сваім атрадзе, а Шпакевіч у сваю чаргу таму, што адразу адчуў гэтую няпростую зацікаўленасць да сваёй асобы.

Але першы ў хаце палітаддзела загаварыў старшы лейтэнант.

— У нас тут новая акалічнасць з'явілася,— пачаў ён здалёку.— І вось таварышы хочуць паслухаць, як вы з акружэння выходзілі сюды. Маршрут апішыце, розныя там падрабязнасці. Словам, паспрабуйце ўсё выкласці так, як тады, у нас.

Шпакевіч насцярожыўся — з вопыту ведаў, калі два разы пытаюць пра адно і тое ж, значыць, нешта не так. Але не адказваць не мог. Нібыта збіраючыся з думкамі і прасочваючы ў іх свой шлях сюды з забяседдзя, які давялося пераадолець у самае дажджлівае надвор'е па нямецкім тыле разам з Чубарам і Халадзілавым, Шпакевіч найперш, вядома, прыгадаў, што ён ужо гаварыў старшаму лейтэнанту з асобага аддзела там, у адрыне. Выходзіла, што тады ён дык і не надта ўдаваўся ў падрабязнасці. Гаварыў усё, як было, аднак збольшага, акурат баяўся заняць многа часу. Між тым, камандзір спецатрада, няйначай, зразумеў яго ную затрымку па-свойму, бо паспяшаўся на выручку.

— Карту чытаць умееце? — спытаўся ён.

— Так,— адказаў Шпакевіч, нарэшце выразна зразумеўшы, што гэта той чалавек, дзеля якога за сталом сядзелі і начальства палітаддзела дывізіі, і старшы лейтэнант з асобага аддзела і дзеля якога паклікалі сюды яго, Шпакевіча.

Камандзір спецатрада задаволена кіўнуў галавой, дастаў з-за спіны ў сябе разбухлую вайсковую торбу, якая ляжала на ўслоне паміж сцяной і ім, і выняў адтуль складзеную гармонікам тапаграфічную карту. Старшы лейтэнант з асобага аддзела пры гэтым паслужліва пацягнуўся рукамі да яе, памог раскласці на стале — і гэта таксама не засталося па-за ўвагай Шпакевіча, значыць, сапраўды нейкая важная шышка!

— Падыдзіце бліжэй,— сказаў Шпакевічу партызанскі камандзір.

Шпакевіч ступіў два крокі да стала, якіх не хапала, каб апынуцца побач з астатнімі, хто знаходзіўся ў хаце, і, не чакаючы далейшай каманды, дакладней, далейшага запрашэння, схіліў галаву над картай.

— Ну, а цяпер пакажыце нам, як вы ішлі сюды і адкуль?

Шпакевіч зусім без цяжкасці адшукаў па звілістай лініі Бесядзь, паказаў пальцам, у якім месцы ўпадае ў яе Дзеражня, дзе быў узарваны апошні мост,

і ўжо адтуль, даючы сапраўды падрабязныя тлумачэнні, пачаў паступова набліжацца да Пёкліна.

— У вас там знаёмыя засталіся? — спытаў камандзір спецатрада, як толькі палічыў, што Шпакевіч дакладна паказаў увесь маршрут ад Бесядзі.

— Не.

— Ну, а тыя?.. Словам, вы ж па дарозе з кімсьці сустракаліся... Такія знаёмыя засталіся?

— Такія былі,— памуліўся Шпакевіч.— Вядома, і есці ў людзей даводзілася прасіць, і начлегу. Але ж гэта так. Як кажуць, паеў, паспаў дый дзякуй на тым.

— Добра,— ссунуў густыя бровы партызанскі камандзір.— А гэты, Чубар, з якім вы ішлі сюды, дзе ён цяпер?

— У Журынічах, там, кажуць, апалчэнне збіраецца.

— З якой ён вёскі быў?

— Дакладна цяпер не помню, але гэта недзе недалёка ад Белай Гліны.

— І кім ён там працаваў?

— Старшынёй калгаса.

— Таксама не лішні чалавек,— падумаўшы трохі, сказаў камандзір спецатрада,— але... гэта так, дзеля цікавасці. Тым больш калі яго цяпер знойдзеш?

— А Халадзілаў загінуў,— дадаў Шпакевіч,— ужо тут, ад бомбы.

У хаце настала цішыня. Але не таму, што Шпакевіч раптам нагадаў пра гібель свайго таварыша. Не. І начальнік палітаддзела дывізіі, і старшы лейтэнант уставіліся на трэцяга — на партызанскага камандзіра, які задумліва кратаў, акурат пагладжваў знізу тыльным бокам правай далоні сваю чорную бараду, і цярпліва чакалі, што скажа нарэшце ён, ці здаволіць яго іхняя кандыдатура. А справа была вось у чым. У самы апошні момант, калі партызанскі атрад ужо гатовы быў пераправіцца з Белагалова ў варожы тыл, захварэў праваднік, нават не захварэў у поўным сэнсе слова — яго пакусалі пчолы... Тады камандзір атрада і звярнуўся ў палітаддзел дывізіі, каб тэрмінова памаглі падшукаць яму другога надзейнага праваднікa, бо зрывалася дыверсійная аперацыя, якую доўга і дэталёва распрацоўвалі яшчэ ў Маскве. І вось старшы лейтэнант з асобага аддзела зноў успомніў пра Шпа-

кевіча: «Сапраўды, а чаму не параіць яго». Пазваніў начальніку палітаддзела: «Ёсць такі чалавек!»

Нарэшце маўчанне ў хаце было парушана.

Той, ад каго чакалі рашаючага слова, перастаў кратаць рукой бараду, неяк прасветлена ўсміхнуўся цёмнымі вачамі, быццам зваліў з сябе вялікі цяжар, і спытаў, пранікаючы тым жа далікатным, але вострым позіркам Шпакевічу ў душу:

— А яшчэ раз не хацелі б прайсціся па тых сцежках і дарожках?

— Як гэта? — не ўцяміў Шпакевіч.

— Проста. Прарабіць прыкладна той жа маршрут, але ў адваротным напрамку. Тады вы ішлі адтуль сюды, а цяпер пайшлі б адсюль туды.

Шпакевіч схіліў набок галаву, спытаў:

— Адзін?

— Не.

— Вялікая група?

— Ну, пра гэта даведаецеся пасля. Цяпер жа ад вас нам патрэбны адказ — згодны ці не? Пакуль у прынцыпе. Таварышы вось за вас ручаюцца.

— А ўсё-ткі,— быццам ад прыкрасці, паморшчыўся адной шчакой Шпакевіч.— Хацелася б і ад вас пачуць што-небудзь пэўнае.

— Пачуеце ў свой час і больш пэўнае,— з сур'ёзным выглядам, але мякка сказаў камандзір спецатрада.— Але я кажу, нам перш за ўсё патрэбна ваша прынцыповая згода. Я разумею, для вас гэта нечакана, псіхалагічна вы не гатовы для такой дарогі і нагул, але не ўтаю ад вас, у нас таксама свае цяжкасці, можа, для нас сёе-тое больш нечаканае, чым для вас. Так што, я нават не маю магчымасці даць вам дастаткова часу падумаць.

Тады падаў свой голас начальнік палітаддзела дывізіі:

— Загадваць мы таксама не маем права. Не той выпадак.

«Але што гэта за выпадак такі, што?..» — падумаў Шпакевіч.

Ды начальнік палітаддзела паспяшыў дадаць:

— Так, не можам!

— Ладна,— нарэшце рашыўся Шпакевіч, хоць у душы да канца і не перамог насцярожлівасці.— Лічыце, што ўгаварылі.

— Значыць, згодны.
— Так.
— Ну што ж, я рады! — Чалавек, які настойліва і разам з тым цярпліва дамагаўся гэтага адказу, устаў і падаў цераз стол Шпакевічу трохі кашчавую руку.— Але тое, што зараз пачуеце, пакуль у вялікім сакрэце. Уначы сёння на той бок фронту, у тыл акупантам, са спецыяльным і адказным заданнем пераправіцца партызанскі атрад. У ім будзе трыццаць тры чалавекі. Вы пойдзеце праваднiком. Зразумела?
— Так.
— Ну, а цяпер трэба рыхтавацца ў дарогу,— згортваючы карту, сказаў партызанскі камандзір.— У нас з вамі,— паглядзеў ён на Шпакевіча,— ёсць яшчэ трохі часу, думаю, што мы паспеем хоць збольшага абмеркаваць некаторыя дэталі будучага паходу і ўдакладніць асобныя рэчы. Таму зараз, хвілін праз дваццаць, паедзем з вамі ў размяшчэнне атрада. Гэта недалёка. У суседняй вёсцы. А пакуль — вы пачакаеце мяне на вуліцы, там, здаецца, ёсць лаўка на ганку, дык вы і пасядзіце на ёй: мне тут з таварышамі трэба штосьці абгаварыць.
Шпакевіч выйшаў.
Лавак на ганку было ажно дзве. Але на іх адзін супраць другога сядзелі два незнаёмыя камандзіры — зусім пажылы і маладзейшы, але таксама ў гадах; мяркуючы па знаках адрознення, яны былі ў аднолькавых званнях, насілі на каўнярах па дзве шпалы; камандзіры былі захоплены размовай, і Шпакевічава з'яўленне на ганку не выклікала ў іх ніякай цікавасці, быццам ён тут ужо даўно мазоліў ім вочы.
Каб не замінаць ім, а найбольш, каб не мець якоганебудзь лішняга клопату потым ад такой блізкасці, Шпакевіч казырнуў згодна статута і пастараўся хутчэй сысці з ганка.
Паколькі адлучацца далёка ён ужо не меў права — сказана было чакаць на ганку, таму нічога лепшага не прыдумаў у сваім становішчы, як сіратліва прыхінуцца бокам да тэлефоннага слупа, што стаяў супраць хаты, дзе размяшчаўся палітаддзел дывізіі.
Якраз тут, ад гэтай хаты, шырокая вясковая вуліца рабіла паварот і выходзіла праз колькі двароў у поле, дзе справа ад дарогі стаяла пад вязам грузавая машына, уторканая зверху зялёным хмызам.

У тым баку, недзе высока, ляцеў самалёт, вакол якога раз-поразу разрываліся снарады зенітак; гукі адтуль слаба даносіліся сюды, але затое добра было відаць, як у небе раптам узнікалі маленькія белыя аблачынкі, быццам гэта лопаліся там бутоны.

## VII

Ужо колькі дзён на Зазыбаў двор прыходзіў Кузьма Прыбыткоў. Вялікая ахвота ў яго была пагаварыць з Масеем. А сёння дык і наогул Прыбыткоў памеў надзею пачаставацца ў Зазыбаў, бо адна нявестка, Анэта, спяшалася ў Яшніцу разам з іншымі верамейкаўскімі бабамі і амаль не гатавалася, а другая ўжо каторы дзень моцна хварэла, ажно не падымалася з ложка да печы.

Між тым Зазыба раўніва сустракаў Кузьму па гэты бок сваіх варот, бо і ў думках не даваў месца старому затрымлівацца доўга побач з сынам,— не хапала яшчэ, злаваўся ён, каб з выпадку Масеевага вяртання тоўпіўся тут народ!.. Стары Прыбыткоў недзе таксама ўгадваў Зазыбаў настрой. Але дужа не далікатнічаў. Можа, лічыў, што старасць мае і на гэта не меншае права.

— Дык прачнуўся Масей ці не? — заўсёды пытаўся Кузьма; пры гэтым і выгляд у старога, і голас былі такія, быццам да Зазыбавага сына ў яго з'явілася пільная патрэба.

— Не,— кідаў у адказ гаспадар адкуль-небудзь з-пад павеці, і Прыбыткоў зусім без шкадавання паварочваў назад, тэпаючы раскірэкаю следам за сваім дубцом да форткі, высокі парог якой рабіўся для яго не такой ужо і малой перашкодай.

Гэты раз Кузьма не вытрымаў да канца сваёй ролі — чамусьці закаціў пад лоб вочы, як умеюць рабіць адны старцы, калі прыходзяць з павадыром у вёску, і сказаў:

— От колькі я да цябе, Дзяніс, ні хаджу цяператка, а ўсё на пачостку не траплю. Здаецца, і сын цэлы вярнуўся, а ты ўсё куксішся.

— Анягож, кукшуся,— лёгка згадзіўся Зазыба, акурат яму даспадобы прыйшлося гэтае «куксішся»,— бо не маю частаваць чым.

— Ну во, ты не маеш,— выкаціў Прыбыткоў назад вочы,— а некаторыя нашы мужыкі етыя дні, можа, і з-за сталоў не вылазяць. Усё частуюцца. Хіба ж ета не дзіва — з'есці цэлага ляся?

— Ну, а што іначай рабіць з ім было, з тым лясём? — абыякава ўсміхнуўся Зазыба.

— Дак... Але ж каб толькі аднаго лася,— сказаў далей Кузьма Прыбыткоў, усё роўна як падначваючы Зазыбу.— А то Брава-Жыватоўскі і свінчо яшчэ з калгаснай фермы прыхапіў — бытта без свойскага мяса дзікае і ў шлунак ужо не лезе.

— А вось за гэта, што незаконна бяруць парсюкоў з фермы, некаму і па руках варта было б...

— Гм, некаму!

Нарэшце Кузьма Прыбыткоў палічыў, што пасля такой размовы яму ўжо, няйначай, і зусім затрымацца на Зазыбавым двары можна. Таму падышоў бліжэй да аплеценай загавальні, сеў на дашчэчку, якая знарок была пакладзена тут.

Выйшаў на сярэдзіну двара з свайго заценю і Дзяніс Зазыба.

— Бытта не ведаеш, каму па руках цяпера даваць трэба? — хітра паглядзеў на яго Прыбыткоў.

— Я-та ведаю,— адказаў насмешліва Зазыба,— але ці ведаюць другія?

— Дак...

Больш пэўна азвацца на Зазыбавы словы Прыбыткоў не здолеў, дакладней, ён ажно знарок не стаў гаварыць, бо разумеў, што ў Зазыбы таксама вырвалася тое хутчэй у запальчывасці, чым ад усведамлення рэальнай улады; проста, ніхто цяпер у вёсцы не адважыцца, и тым больш за парсюка, стаць упоперак Брава-Жыватоўскаму з яго кампаніяй. Іншая справа раней, няйначай, да самага таго моманту, калі ў вёсцы з'явіліся немцы. Датуль яшчэ нібыта не верылася, што яны наогул дабяруцца да Верамеек. Таму нават Брава-Жыватоўскі ў ролі паліцэйскага ўспрымаўся не сур'ёзна. Але пасля, як верамейкаўцы прайшліся пад канвоем у вёску ды пастаялі пад страхам на пляцы, шмат што змянілася ў іх свядомасці, калі зусім не перайначылася.

Вядома, падумалася верамейкаўцам, Брава-Жыватоўскі атрымаў ля крыніцы лупцоў ад фашыстаў, але ён не стаяў разам з усімі сялянамі на пляцы і яму не

пагражаў жандарскі афіцэр расстрэлам. Значыць, колькі ні кпі з яго, колькі ні здзекуйся ў думках ці на словах, а ён ужо не раўня табе!..

— Я ета к таму,— нарэшце зварухнуўся на прызбе Прыбыткоў,— што ў цябе во зараз сын, так табе таксама б ласіны тае не лішне было б узяць. Тады б і пачостку, як ета водзіцца, наладзіў. Сын жа вярнуўся. А то я ўсё хаджу, а ніяк не дачакаюся, пакуль ты за стол запросіш.

— А-а, вунь ты пра што! — прытворна засмяяўся Зазыба.— І праўда, ёсць з чаго ўспомніць пра свежыну. Дык яна ўжо, мусіць, паспела прасаліцца?

— Саланіна б таксама прыйшлася да стала.

— Нічога, Кузьма,— палагаднеў Зазыба,— абыдземся неяк за сваім сталом і без ласіны. А вось што яны незаконна ўзялі з фермы жывёліну, дык за гэта трэба было б спытаць у сяго-таго.

— Ат,— махнуў рукой Прыбыткоў,— не вяжыся ты з імі, гіцлямі! Ты лепей скажы мне, як табе паказаліся немцы?

— Сам жа, нябось, таксама бачыў?

— Але ж ета, здаецца, яшчэ не немцы, што ўзялі ды праехаліся па вёсцы з канца ў канец. Сапраўдныя немцы ўжо, мусіць, тыя будуць, што прыедуць аднойчы і больш не паедуць нікуды.

— Гэтыя таксама ледва не пастралялі мужыкоў.

— Дак хто вінаваты?

— Ага, хто вінаваты?

— Каб не салдат той, што ў калодзеж уваліўся, можа б і не было зусім страху. Але як я цяпера ўжо думаю сабе, дак яны дарэмна не будуць людзей чапаць.

Зазыба ад прыкрасці ўздыхнуў.

— Але як гэта, скажы мне, чапаць не будуць?

— А так,— калі іх не зачэпяць, то і яны нічога не будуць мець да цябе.

— Гм...

— Мы ж — мірныя. Да мірных і адносіны павінны быць свае.

Пачуўшы гэта, Зазыба доўгім позіркам, нібыта ўпершыню, паглядзеў на Прыбыткова, дакорліва паківаў галавой.

— Ну і мудрэц ты, Кузьма,— сказаў ён.— Спярша спадзяваўся, што немцы зусім не пойдуць у Верамей-

кі, бо дарогі да нас дрэнныя, а цяпер, калі яны ўсё ж завіталі і к нам, ты другое пачаў выдумляць. Ну і што, калі мы мірныя?

— Мірныя і мірныя!

— Мудрэц! Мудрэц!

— А што, можа, і мудрэц?

— Тады адкажы мне, мудрэц, на такое пытанне — вось ты лічыш, што мы мірныя людзі. Сапраўды, мы з табой — мірныя. І нявесткі твае таксама мірныя, і ўнукі. А што ты думаеш пра сваіх сыноў, якія ваююць?

— Значыць, яны не мірныя. Яны — вайсковыя.

— Але ж і Раман Сёмачкін быў вайсковы!

— Рамана туды не трэба ў разлік браць.

— Не, ты ўсё-такі Рамана бяры ў разлік. А то, па-твойму, выходзіць, што яго ніколі не было і цяпер не існуе. Але ж гэта не так. Ён ёсць, незалежна ад таго, хочаш ты гэтага ці не. Раман жыве ў вёсцы сярод нас. А сыны твае тым часам ваююць. Яны таксама маглі б вось так, як Раман — кінуць вінтоўку, дый дамоў, да жонак, мы, моў, таксама хочам мірнымі стаць. Дык не ж! Сыны твае ваююць! І ты думаеш, ваююць таму, што не пускаюць з фронту? А можа, думаеш, што не выберуць выпадку дэзерціраваць? Такі выпадак заўсёды можа быць, я гэта ведаю, бо сам ваяваў. Асабліва цяпер, калі па той бок фронту і па гэты бок тыл вялікі. А Цімох твой не кідае вінтоўкі, бо разумее, што ад немцаў трэба абараняць і цябе, старога, і дзяцей сваіх малых, і жонку маладую. Іван таксама не кідае. Мусіць, яны не лічаць вось так, як ты,— раз вы мірныя, значыць, вам нічога не пагражае. Мусіць, яны лепей за нас з табой ведаюць,— Зазыба нават сябе не пашкадаваў побач паставіць,— што такое вайна і дзеля чаго яна развязана!

— Што гаварыць пра маіх сыноў! — незалюбіў Прыбыткоў.— Хто ведае, дзе яны цяпера? Можа, ваююць, а можа, і зусім ужо няма на свеце? Добра, калі яшчэ ў палоне. Пайшла ж Анэта разам з другімі кабетамі ў Яшніцу. Кажуць, тама ваеннапалонныя нашы ўтрымліваюцца, дак тады, няйначай, прывядзе.

— На вайне па-ўсякаму здараецца,— нібыта суцяшаючы Кузьму Прыбыткова, кіўнуў галавой Зазыба.— Тут на адлегласці не ўгадаеш. А зачараваць ад кулі ніхто не можа. Ну, а наконт палону... Дык... Тут

таксама не заспрачаешся. Вайна без палону не абыходзіцца. Таму і бабы нашы думаюць — а раптам і праўда ейны трапіў? Іх, баб, зразумець можна. Асабліва цяпер, калі ўсе столькі гавораць пра палон ды палонных. Вось яны і пакідалі гаспадарку на дзяцей, а самі ў Яшніцу. З другога боку, хто іншы пабяжыць туды, як не яны?

— Да ўжо ж...

— Але няхай, бабы і ёсць бабы, але ж мы пра жывых тваіх сыноў гаворым. Таму мяне проста абурае, як ты разважаеш пра ўсё. Ну, а калі раптам сёння ці заўтра прыйдуць зноў немцы ды скажуць табе — сыны твае ваююць на фронце, значыць, яны нашы ворагі. А раз яны твае сыны, значыць, і ты наш вораг. Такім чынам, і ўнукі твае ворагі ім, і нявесткі!..

— Ты ўжо як скажаш, Дзяніс!..

— Н-не-е,— пакруціў галавой Зазыба,— гэта не я кажу. Гэта мы з табой так гаворым. Бо якраз да гэтага вось і павінны былі дагаварыцца, пачаўшы дзяліць людзей на мірных і немірных, дурных і кемлівых, жывых і мёртвых. Проста, трэба нарэшце зразумець усім, што гэта вельмі адноснае цяпер — мірны, немірны... Сам падумай, што было б з намі, каб тады немцы не вылавілі ў калодзежы свайго тапельца? Усё ж высветлілася выпадкова. Добра, што конь падышоў да калодзежа. А калі б не конь? Могілак вайсковых не хапіла б, дзе хаваць нас. Ды і хто б хаваў? Адзін Брава-Жыватоўскі? Не, тут іначай трэба разважаць. Я разумею, што гаварыў ты без злога намеру. Проста табе хочацца суцешыць і сябе вось, і мяне, і другіх. Да таго ж, табе хочацца яшчэ і ўжыцца...

— Куды ета мне хочацца ўжыцца?

— У новае жыццё, вось куды!

— Яснае дзела, што жывы чалавек пра ета найперш мусіць думаць.

— Але ж гэта падман. Дакладней, самападман. Пакуль ідзе вайна, наогул трэба забыць пра гэта. Сама вайна ўжыцца хоць каму пашкодзіць. Ці то знарок, ці то выпадкова, але пашкодзіць. Гэта ўжо як правіла, бо на тое і ўзрушэнне вялікае, на тое і бура, каб карнямі адразу не даць прырасці да зямлі. Ну, а суцяшацца таксама вельмі не варта. Бо нездарма разумныя людзі гавораць: абяцаюць зямлю, а надзяваюць пятлю.

— Але ж гавораць таксама і па-другому. Нябось, чуў — адным вайна, другім войначка?

— Як жа не чуць? Чуў. Ведаю нават яшчэ больш трапнае, але таксама ў тваім духу: моў, вайна — каму вяроўка, а каму — дойная кароўка. Толькі ўсё гэта глупства. Не трэба забываць, што любая вайна перш за ўсё кроў людскую п'е і жыцці чалавечыя забірае. Яшчэ ні адзін чалавек, якога калі закранала вайна, наперад не мог знаць, чым яна для яго скончыцца.

— Ладна, Дзяніс, хопіць нам пра гэта,— неяк зусім проста, быццам дасюль усяго толькі дурыў Зазыбу, сказаў Прыбыткоў, але не ўсміхнуўся.— А то выходзіць, што я самы горшы з усіх людзей. І дарэмна ты вучыш мяне. На маім вяку ета ўжо таксама каторая па ліку вайна. Аднак не трэба рабіць выгляду, што ў вайну абавязкова павінны ўсе загінуць.

— Дапусцім, гэтага я не казаў.

— Можа, і не гаварыў, але падумаць льга было з некаторых тваіх слоў. А я ўсяго толькі за тое, каб людзі таксама асцерагаліся. Самі глядзелі, што і як. Бо навошта гінуць тым, каму не трэба, ад каго, як кажуць, карысці няма. Ну, які сэнс можа быць для вайны, калі раптам загінуць мае малыя ўнукі? Якая карысць ад іх?

Зазыба пакруціў галавой:

— Мудрэц ты ўсё-ткі, Кузьма! Але юродстваваць таксама не варта. Грэх.— Зазыба хоць і гаварыў увесь час не вельмі голасна, але ўнутры ўзрушана, таму ажно стаміўся, усё роўна як пранёс на сабе немалы цяжар.

Здавалася, Прыбыткоў узбурыцца. Але апошнія Зазыбавы словы, мусіць, зусім не зацялі яму. Прынамсі, на жылкаватым твары яго не адбілася ніякіх прыкмет унутранай усхваляванасці. Як і хвіліну назад, стары абыякавым голасам сказаў:

— Ладна ўжо, хопіць. А то вэн ці не прачнуўся Масей. Чуеш, з маткай у хаце гамоняць?

Пры гэтым хоць каму старонняму магло б падацца, што якраз ён, Кузьма Прыбыткоў, найбольш пільнаваўся тых галасоў у хаце.

Трохі збянтэжаны сваёй размовай, якой не хапіла, бадай, у канцы пераканаўчасці, Зазыба падумаў, што трэба і яму ісці ў хату — урэшце, усяго за адзін раз не абгаворыш, асабліва з такім дамарошчаным філо-

сафам, як Прыбыткоў. Але як быць з ім? Па праўдзе кажучы, Зазыба ўжо і не супраць быў, каб Кузьма пайшоў куды ў іншае месца. Аднак праганяць не станеш.

Выручыў бацьку Масей, які неўзабаве, амаль у наступны момант, выйшаў на ганак.

За гэтыя дні ў бацькавым доме ён ажно пакруглеў з твару і, здаецца, павесялеў, ва ўсякім разе, у паходцы яго і ў рухах з'явілася ранейшая маладая жывасць, нават порсткасць.

— Можа, умывацца тут будзеш,— адразу падступіўся да сына Зазыба,— дык вядро з сенцаў вынесу?

— Дзякуй, бацька, не клапаціся.

— То як знаеш,— паціснуў плячамі Зазыба, акурат не здаволены, што Масей гэтак лёгка адмовіўся ад яго паслугі.

Масей сышоў з ганка, стаў пад вокнамі.

— Што новага сёння, дзядзька Кузьма? — спытаў ён Прыбыткова з нейкай незразумелай, акурат змоўніцкай усмешкай.

— А нічога,— быццам з неахвотаю адказаў сусед.

— Ну, а жыццё як?

— Дак... ты сам ведаеш. Як учора, так і сёння. Здаецца, нічога не мянялася. Галоўнае цяпера — ноч пераспаць. Бо дзень ужо неяк навідавоку пасля нехітра перакідацца. Але цішай-тка!

Сапраўды, у завулку, як пачуць вухам, раптам загрукатаў і спыніўся воз.

— Пацікавіўся б, Дзяніс, ці ета к вам хто, ці, можа, нават ка мне? — глянуў на Зазыбу Кузьма Прыбыткоў.

Зазыба кіўнуў згодна галавой, але пастаяў яшчэ колькі часу, нібыта ў нерашучасці, і толькі пасля няспешна падаўся да форткі.

Да палісадніка, збітага з пілаваных дошчачак, прывязваў лейцы Брава-Жыватоўскі. Рабіў ён гэта марудна, акурат прыехаў надоўга, тады вярнуўся да воза, забраў на злямцаванай траве вінтоўку.

З'яўленне Брава-Жыватоўскага ў завулку, а тым больш за варотамі, было нечаканым. Таму Зазыба, убачыўшы паліцэйскага праз расчыненую фортку, адразу прыкінуў у галаве, што б магло значыць яно.

«Ат!» — нарэшце махнуў ён ад прыкрасці рукой

і перастаў кідацца ў здагадках, бо ўсё роўна ні к чаму пэўнаму ў іх не прыходзіў.

Брава-Жыватоўскі тым часам узышоў на высокі ганак, узяўся за клямку.

— Мы тут, на двары,— гукнуў з-за форткі Зазыба.

— А-а-а,— здагадаўся Брава-Жыватоўскі, але не павярнуў назад, клямкнуў дзвярамі і праз сенцы, акурат у сваім доме, дзе ведаў усе закуткі, хады і выхады, выйшаў на другі, падворны ганак. Няйначай, ён таксама чуў, што ўжо каторы час у вёсцы знаходзіўся Зазыбаў сын, тым больш што ні Зазыба, ні сам Масей не скрывалі ад людзей гэтага, аднак, апынуўшыся цяпер на двары і ўбачыўшы там Масея, Брава-Жыватоўскі чамусьці зніякавеў на момант, нібы для яго такая сустрэча была зусім непажаданай.

— Добры дзень,— не забыў прывітацца паліцэйскі.

Паколькі глядзеў ён пры гэтым на аднаго Масея, то і адказаў яму на прывітанне Масей.

Але Брава-Жыватоўскі хутка саўладаў з сабой.

— Прашу даравацъ мне,— жадаючы паказаць сябе далікатным, пачаў ён.— Не хацелася б разлучаць вашу добрую кампанію, але мушу.— І, павярнуўшыся тварам да Зазыбы, амаль урачыста аб'явіў: — Нас клічуць з табой у воласць.

— Чаму раптам мяне? — уталопіўся на паліцэйскага Зазыба.— Якое дачыненне маю да воласці я, і наогул... да ўсяго?..

— Не аднаго ж цябе,— прытворна усміхнуўся Брава-Жыватоўскі.— Нас з табой завуць разам.

— Ну, а ўсё-такі, чаму раптам і мяне? — пытаўся Дзяніс Зазыба.

— Такая каманда,— развёў паліцэйскі рукамі.

— Дык раз каманда... Тады, мусіць, пад канвоем мяне павядзеш?

— Пад канвоем — не пад канвоем, але загадана даставіць.

— Ну што ж...— перастаў унутрана супраціўляцца Зазыба.

Брава-Жыватоўскі адчуў гэта, таму адразу дадаў:

— Нараду камендант збірае. Ну, а... што канкрэтна там будзе, сказаць не магу.

— Дык няхай бы пачакаў трохі твой камендант, га, Антон? — кінуў раптам з прызбы Кузьма Прыбыткоў.— А то ж мы не паспелі дайжа паснедаць.

— Якое вам снедаць? Трэба хутчэй ехаць,— зрабіўся няўмольным Брава-Жыватоўскі.

Масей зразумеў, што бацьку не так сабе змушаюць ехаць у Бабінавічы. Няйначай, штосьці пагражае яму. Таму рашыў і сам умяшацца ў справу: «Трэба запрасіць Брава-Жыватоўскага ў хату, пасадзіць разам з усімі снедаць, а там ужо і выпытаць». Ён збіраўся звярнуцца да паліцэйскага па імені і па бацьку, каб запрашэнне хоць знешне выглядала пачцівым, аднак дарэмна прабаваў успомніць, дадаць да ўласнага імя — Антон — бацькава: у галаву яно ніяк не прыходзіла. Тым часам Кузьма Прыбыткоў, якому паліцаева з'яўленне таксама магло каштаваць — стары трациў сняданак у Зазыбаў, не ўсядзеў на загавальні, пачаў станавіцца на ногі, памагаючы дубцом сабе.

— Ты ўжо ўваж нас, Антон,— сказаў ён, паддобрываючыся, Брава-Жыватоўскаму.— А то і праўда — як ета застацца чалавеку без сняданку?

Паліцэйскі засмяяўся:

— У людзей, відаць, ужо абед паспеў уварыцца, а вы нешта... А ты пры чым тут? — ва ўпор паглядзеў ён на старога і паморшчыўся, можа, хутчэй нават таму, што гаворка выкіроўвалася не па душы — здавалася, што магло прасцей быць, як забраць Зазыбу ды рушыць у мястэчка; а тут пачынаюцца тары-бары... Маўляў, чаму, навошта? Асабліва недарэчы апынуўся на Зазыбавым двары гэты ўедлівы Прыбыткоў.

— Я пры тым, што сусед! — сапраўды незалюбіў Кузьма.— Але мы не шкодзілі вам, калі вы лася таго елі. Да й парсюка яшчэ з фермы забралі. Таксама не ішлі да вас.

— Ну і дарэмна! — зусім спакойна пацісну́ў плячамі Брава-Жыватоўскі.— Мы нікому не адмаўлялі. Хто прыходзіў, той і еў з намі ласіну. Маглі б і вы прыйсці.

— Я не пра ета,— нецярпліва махнуў рукой Прыбыткоў.— Я пра тое, што мог ты яшчэ даўжэй пасядзець недзе за сталом. Якраз мы таксама ўправіліся б пачаставацца. Нябось, не ўсю стравілі ласіну?

— Ды, лічы, ужо ўсю.

— А хто быў? — не адставаў Прыбыткоў.

— Я ж кажу — хто прыходзіў, той і каштаваў!

— Так ужо і прыходзіў, так ужо і каштаваў!

— А табе, бачу, зайздросна?

— Можа, й зайздросна. Толькі я не пра ета. Я пы-

таюся, хто прыходзіў на ласіну? Ну, Мікіта, ета ясна. Тады, мусіць, Раман Сёмачкін. Таксама Рахім. Але сволач твой Рахім! Ета ж трэба паквапіцца на рэдкага звера! Яшчэ ніхто не паспеў убачыць, нагледзецца, як следавала, а ён раптам узяў дый бах.

— Ты думаеш, я абараняю яго? Канечне, Рахім зрабіў глупства. Але ж выкідваць дарэмна ласіну таксама не мела сэнсу. Таму мужыкі і разабралі тушу. А Рахім ніякі не мой.

— Дык ён жа толькі і ведае, што ад твайго двара да к Раману Сёмачкіну бегае.

— Бегаў,— усміхнуўся Брава-Жыватоўскі. — Кажу, бегаў. Бо ў яго пад Барысавам зямляк аб'явіўся, Ахмет. Забірае Рахіма туды.

— Ну, дак і слава богу. А то выдумалі, Рахім — паліцэйскі. Бытта не хапае сваіх мужыкоў.

— Бачыш,— зноў усміхнуўся Брава-Жыватоўскі,— а ты ўсё нездаволены. Усё табе не так.

Дзіўна, але Прыбыткоў таксама нязлосна ўсміхнуўся яму, быццам праз усю размову толькі і дамагаўся, каб сказаў гэта Брава-Жыватоўскі.

Між тым, Кузьмова гарачнасць, ажно зацятасць, з якой ён гаварыў з паліцэйскім, спярша насцярожыла Масея — не хапала, каб у выніку спрэчкі ўзнікла якая-небудзь непажаданая акалічнасць. Але чым даўжэй ён услухоўваўся ў яе, тым выразней адчуваў, што насцярожанасць дарэмная. Аказваецца, не такі просты гэты Прыбыткоў,— здаецца, і гаворыць рэзка, аднак увесь час пільнуецца, каб не давесці спрэчку да крайнасці, хоць амаль у кожным слове яго і гучыць маральная грэблівасць да субяседніка.

Дарэчы, якраз гэтак вось паводзіў сябе Прыбыткоў перад тым і ў размове з Зазыбам.

Тым часам на двары не хапала адной Марфы, якая ўпраўлялася ў хаце. Але неўзабаве і гаспадыня выйшла на галасы. Яна акінула зрокам мужыкоў, якія стаялі ў двары, і найперш здзівілася прысутнасці Брава-Жыватоўскага. Аднак яна не падумала, што Брава-Жыватоўскаму патрэбны Дзяніс. Матчына сэрца адразу страпянулася ў трывозе за сына.

— Дык што вы стаіце тута? — памкнулася з ганка яна, выціраючы фартухом рукі.— Масей? Дзяніс? Кузьма? Антон Ігнатавіч? — выгукнула яна ўсіх па чарзе.— Ідзіце ў хату. Тама і пагамоніце. Бо я снядана на стол паставіла. Стыне.

«Выходзіць, бацьку ягонага звалі Ігнатам»,— чамусьці як не ў здзіўленні падумаў Масей, пачуўшы матчын заклік, але адкрыццё цяпер, бадай, не мела значэння для яго, дакладней, для таго, што ён збіраўся нядаўна зрабіць: у кожным разе, Масей не кінуўся дапамагаць маці, не стаў запрашаць у хату гасцей — тая маральная грэблівасць, якую адчуў ён у голасе Кузьмы Прыбыткова, нібыта ўжо цалкам авалодала ім таксама.

Марфа зразумела, што паміж вяскоўцамі няма згоды і што, няйначай, яна не дазавецца ўсіх іх у хату, яшчэ больш страпянулася, спалохана глянула на сваіх — на сына і на мужа.

Тады загаварыў Зазыба, які дасюль стаяў, быццам не ў сваім двары:

— Чаго ўжо тут расседжвацца? — пакратаў ён пазногцем кончык свайго носа.— Ехаць трэба.

— Каму трэба ехаць? Куды? — адразу замітусілася Марфа.

— Па мяне вось прыехаў Антон,— паспяшыў супакоіць яе Зазыба, зразумеўшы, што Марфа ўстрывожылася гэтак праз сына.— Кажа, трэба ў мястэчку неадкладна быць.

Кузьма Прыбыткоў таксама не змоўчаў, незадаволена кракітануў:

— Бытта і праўда нешта гарыць тама!..

— Дак... Ігнатавіч? — з выразнай надзеяй у вачах глянула на паліцэйскага гаспадыня, адчуўшы за ім усю ўладу.

Гэты яе зварот, несхаваная збянтэжанасць усцешылі Брава-Жыватоўскага. Нарэшце ён па-сапраўднаму адчуў сваю вышэйшасць.

— Сёння нарада ў каменданта збіраецца, дык склікаюць у Бабінавічы паліцэйскіх і стараст з усёй воласці,— літасціва пачаў тлумачыць ён Марфе.

— Дак Дзяніс пры чым тама? — не зразумела яна.— Навошта ён спатрэбіўся?

— Так, пры чым я? — быццам схамянуўся Зазыба і паглядзеў спярша на Брава-Жыватоўскага, пасля на Марфу, усё роўна як хацеў і ёй нешта давесці.

— Якія вы сталі непанятлівыя! — узбурыўся Брава-Жыватоўскі.— Правільна, старасты ў нас яшчэ няма. Не выбралі. Але ж... Словам, пакуль не выбралі старасту, грамадзянскую ўладу ў вёсцы выконваеш ты. Таму загадана даставіць і цябе на нараду.

— Ну, калі так!..— замест Зазыбы з палёгкай уздыхнула Марфа.

Кузьма Прыбыткоў таксама хутка ўцяміў паліцаева тлумачэнне, пачаў падахвочваць суседа:

— То з'ездзі, Дзяніс! — яму раптам ажно прыемна зрабілася, што і Зазыбу клічуць на нараду да камендаита ў воласць, усё роўна як гэтым нарэшце вырашалася штосьці вельмі важнае, ад чаго цалкам будзе залежаць далейшае ў жыцці вёскі; яму толькі край хацелася высветліць, хто над кім пасля стане — Зазыба над Брава-Жыватоўскім альбо наадварот; між тым, калі меркаваць нават па старым часе, ужо не кажучы пра савецкі , думаў ён, то заўсёды выходзіла, што грамадзянская ўлада ў вёсцы мела перавагу — і стражнікі, і міліцыянеры падпарадкоўваліся ёй; ад гэтага ўсведамлення Прыбыткову і зусім ужо стала весела, маўляў, дарэмна Брава-Жыватоўскі столькі дзён важнічаў; таму і ўпрошваў Зазыбу: — Не адмаўляйся, Дзяніс, з'ездзі.

Зазыба тым часам стаяў пасярод двара, бы апантаны — тое, што плявузгаў некалі Брава-Жыватоўскі, было неразумна наперад браць у разлік, але сёння яно ўсё роўна як пачало спраўджвацца!..

Цягнуць далей час не было сэнсу, тым больш што Зазыба не хацеў садзіцца ў хаце разам з Брава-Жыватоўскім за стол, таму ён вінавата зірнуў на сына, акурат непакоячыся, каб той правільна зразумеў яго, і рушыў праз фортку з двара.

Масей таксама памкнуўся следам за бацькам, хоць і не меў якога-небудзь аднаго цвёрдага намеру. Аднак дарогу нечакана заступіў Кузьма Прыбыткоў.

— Не трэба, Дзянісавіч,— неяк незразумела, быццам укладваючы ў гэта асаблівы сэнс, заплюскаў вачамі стары, а тады і руку ўпоперак далоняй выставіў, маўляў, не ўстравай.— Няхай бацька едзе ў мястэчка, а я табе ўсё растлумачу. Няхай толькі бацька едзе, не замінай.

— Я не збіраюся гэтага рабіць,— ■ прыкрасцю сказаў Масей, нездаволены перашкодай.

— Тым лепш,— лагодна, з прыкметай ліслівасці кіўнуў яму Прыбыткоў.

Масей адышоўся да ганка, дапытліва глянуў на маці. Здавалася, яе нават ані крыху не ўзрушыў нечаканы бацькаў ад'езд — стаяла спакойная і, мусіць, у галаве не мела, што муж едзе ў Бабінавічы не корм-

лены. Наогул, ёй не прывыкаць было, што Дзяніс вось так, як і сёння, альбо сам зрываўся куды з дому ў непадыходзячы час, альбо яго клікалі па справе. Але спакойная заставалася яна не таму. Прычына яе цяперашняй стрыманасці заключалася ў іншым — як толькі зразумела, што Брава-Жыватоўскі нічога дрэннага не мае да Масея, так адразу і супакоілася, тут жа адлягло ад сэрца ёй, прынамсі, гэты раз на большае яе не хапіла.

Пакуль яны стаялі кожны на сваім месцы ды ўзважвалі ў галовах тое, што адбылося на двары пасля прыходу Брава-Жыватоўскага, з-за варот пачулася, як загрукатаў коламі воз, паступова аддаляючыся да павароту на вясковую вуліцу.

— Пае-е-ехалі! — усклікнуў Кузьма Прыбыткоў, праводзіўшы па завулку на слых заціхаючы грукат колаў; голас у яго і выгляд у гэты момант былі такія, нібыта дасюль яшчэ ўсё не верыў, што Зазыба з Брава-Жыватоўскім паедуць на адным возе ў занятае немцамі мястэчка; таму ён і расцягнуў з асаблівай здаволенасцю гэтае «паехалі».— Я табе вось што мушу сказаць, Дзянісавіч,— ступаючы да ганка, загаварыў далей стары,— справы ў нас, у Верамейках, на лад пойдуць, раз твайго бацьку германцы на нараду паклікалі. Цяпера й праўда ўжо спадзявацца можна на штосьці пэўнае. Значыць, і новая ўлада без такіх, як твой бацька, не можа абысціся. Ну што ж, чым раней, тым лепш. Дайжа для саміх немцаў. А то ўсё еты Жыватоўшчык. Як ні кажы, а чорт яго саўсім зразумее. Здаецца, ціха сядзеў, гаспадар някепскі ўдаваўся, а тута раптам папрасіўся сам у паліцыю — да немцаў. Значыць, у галаве ўвесь еты час, як жыў у Верамейках, нешта меў сабе. Значыць, таксама не без цара ў галаве хадзіў. Ну, а яно калі да канца не ведаеш, што ў сабе носіць чалавек, дак ажно страшна тады. Таму я і кажу: няхай Дзяніс едзе ў Бабінавічы, раз спатрэбіўся. А то я ўжо грэшным дзелам думаў — давядзецца ўсім мірам етаму Жыватоўшчыку кланяцца.

## VIII

Кузьма Прыбыткоў праўду сказаў — верамейкаўскія салдаткі яшчэ на досвітку выбраліся ў Яшніцу, што знаходзілася, бадай, ужо ў самым вярхоўі Бесядзі. Дарогу туды з Верамеек мала хто не ведаў, бо

мястэчка было кірмашовае. Наогул, у прыбяседдзі з даўняга, мястэчкі, таксама як і сёлы, вызначаліся не колькасцю двароў, нават крам, а найбольш тым, ці многа на год прыпадала кірмашовых свят. У Бабінавічах, напрыклад, кірмаш збіраўся тры разы — на стрэчанне, калі паводле народнага календара сустракаюцца зіма з вясною, тады на Іллю, што за два тыдні да вялікага спаса, ну, і на Змітрака, у самую халодную восень. У Бялынкавічах кірмаш адбываўся на прачыстую, у канцы жніўня. У Сілічах — на Юрыя. Словам, па той і па гэты бок Бесядзі, здаецца, не было ніводнага вялікага ці малога мястэчка, ніводнай вёскі з царквой (іх называюць тут сёламі), дзе б не ладзіўся кірмаш. Праўда, не кожны мясцовы кірмаш мог раўняцца з Хіславіцкім альбо Любавіцкім, якія шумелі звычайна па два тыдні запар. Затое ў Яшніцу вакольныя людзі сыходзіліся і з'язджаліся за год ажно пяць разоў: у так званы «красны торг», які выпадаў на апошнюю нядзелю перад калядамі, на зборную, што перад вялікаднем, таксама на абодва Міколы — на вясенняга і на зімняга, і ўвосень, ужо на ўздзвіжанне.

Верамейкаўскія кабеты выбраліся ў дарогу сёння акурат як і ў тыя добрыя часы, калі спяшаліся на кірмаш,— да сонца заўсёды можна прайсці нямала шляху без гарачыні і пылу. Замінка была толькі адна, у самым пачатку, яшчэ на вясковай вуліцы, калі вырашалі, якою дарогай ісці — брукаванай ці старым трактам. Але тады апошняе слова сказала нявестка Антона Жмэйды, Анюта, якая да замужжа жыла ў вёсцы за Вялікім Хоцімскам.

— Хадземце старым шляхам, бабы. Тама й родзіну сваю пакажу вам. А то на брукаванцы, можа, немцаў цяпера багата. Дык будзем увесь час трапаць уздоўж па канавах да па ржышчу — і абутак да рэшты стопчам і ногі ў кроў паб'ём. Ну, а па старым шляху, можа, нікога й няма.

Таксама прычына. Асабліва калі мець яшчэ на ўвазе тую акалічнасць, што вялікая дарога заўсёды засмучае, як не ведаеш наперад, дзе начаваць будзеш.

Словам, згадзіліся бабы.

Здавалася, спярша яны нават не ішлі, а ляцелі па бальшаку, быццам птушыная чарада — таксама, як і птушкі, салдаткі то разляталіся па адной ва ўсе бакі, то збіраліся зноў разам, выцягваліся ў шнуркі на абочынах.

Пакуль за спіной былі Верамейкі, гаварылі мала, рэдка хто кіне слова ці войкне, аступіўшыся раптам, а так усе — і гаваркія ад прыроды, якіх іншым разам хоць і не кармі, толькі пасакатаць дазволь, і негаваркія — імчалі па бальшаку, бы зацятыя. Іх, вядома, зразумець можна: адна дзяцей як след не накарміла, другая пакінула сваіх адных, без нагляду, трэцяя забыла да канца распарадзіцца па гаспадарцы і цяпер непакоілася, што без яе там непарадак будзе, чацвёртая... Але, бадай, мацней за ўсё думалася кожнай наперад — а ці пашанцуе, а ці знойдзецца ў тым Яшніцкім лагеры ейны?

Звычайна падарожныя верамейкаўцы снедалі ў Ключы — каля невялікай празрыстай крыніцы, што бруілася ўніз з высокага берага старога рэчышча Бесядзі. Справа ў тым, што за Ключом гэтым раскрыжоўваўся бальшак — на Калодліва і на Бялынкавічы, і пешаходы звычайна прымяркоўвалі адпачынак, каб канчаткова вызначыць сабе далейшы шлях.

У Калодліве здавён праз Бесядзь хадзіў паром. У Бялынкавічах, наадварот, дзейнічаў мост, бадай, адзіны на ўсёй рацэ, калі браць ад вытоку яе да сярэдняга цячэння. Нават не адзін, а два, бо далей вісеў над ракой і чыгуначны мост. Аднак па ім не толькі не ездзілі, акрамя, вядома, на цягніку, а і не хадзілі, бо моцна ахоўваўся. У кожным разе, і пешаходы, і вазы, і машыны, каб трапіць на супрацьлеглы бок, павінны былі альбо пераправіцца цераз Бесядзь на калодліўскім пароме, альбо перайсці ці пераехаць яе па бялынкавіцкім мосце, асабліва калі кіравацца ў вярхоўе, на стары тракт.

Дык вось...

На пачатку дарогі рэй увесь час вяла Жмэйдава нявестка, якая нечага ажно баялася, што за Ключом спадарожніцы яе перадумаюць ды пойдуць на Крутагор'е, а не з ёю, прыбяседскімі вёскамі.

Пакуль панавалі прыцемкі і не загарэлася неба на ўсходзе, мала што прыкметна было на далёкіх і блізкіх пагорках. Але неўзабаве па правы бок вачам адкрылася Курганне — каля паўсотні старадаўніх валатовак. Праўда, гэтыя валатоўкі не ішлі ў параўнанне з тымі, што ўзвышаліся за Белай Глінай, аднак і яны з'явіліся тут, няйначай, вельмі даўно, можа, за дзесяткі тысяч гадоў. Тым не менш у Верамейках Курганне, як выдатная мясціна, звязвалася не з муцверскай эпо-

хай. Яго ведалі больш як «страшнае месца»: нібыта раней мала не за кожным, хто праходзіў паўз яго ноччу, каціўся адтуль жывы клубок блакітнага агню; нібыта чалавек, за якім следаваў агонь, альбо паміраў неўзабаве, альбо трапляў у няшчасце; прынамсі, верамейкаўцы маглі нагаварыць нямала прыкладаў, пасля якіх няцяжка паверыць не толькі ў звычайную містыку, але і ў самую найгоршую чартаўшчыну.

Вядома, расказвалі рознае. Ды найбольш людзі сыходзіліся на тым, што гэта блукае па Курганні нейкая непрыкаяная душа, пільнуецца на дарозе жывых сясцёр, маўляў, калі нават і не здолее заманіць да сябе ў цянёты чыю душу, то ўжо накліча бяды.

Але вось у тую вайну ў Верамейкі прыехаў першы настаўнік, бежанец аднекуль з Віленскай губерні. Дакладней, не сам прыехаў, у вёску яго прывёз з Клімавіч староста Ігнат Кажанаў. Дагэтуль верамейкаўцы дзяцей сваіх вучылі то ў Бабінавічах, то ў Машавой — там працавалі школы першай ступені. Зразумела, што верамейкаўскія мужыкі ўзрадаваліся выпадку, маўляў, свой настаўнік у вёсцы — гэта таксама нечага варта, балазе зусім нядорага каштуе: яшчэ ў Клімавічах староста згаварыўся, што сяляне будуць карміць яго падворна. Скарбу ў настаўніка з сабой не было, затое верамейкаўцы вельмі здзівіліся, калі ў Хвядосавай хаце (а староста паставіў настаўніка на кватэру да свайго жанатага і аддзеленага сына) той расчыніў скрыню, напакаваную пад самае пукатае вечка рознымі кнігамі. Спярша настаўнік жыў, як і пасяліў яго староста, у Хвядоса Кажанава. Аднак неўзабаве гаспадар пачаў пярэчыць — не хацеў, каб хату ператваралі ў грамадскую школу, толькі і глядзі, што зачыняй за падшыванцамі дзверы. Тады настаўнік пачаў вучыць верамейкаўскіх дзяцей там, дзе сталаваўся: сёння ў Халімона, заўтра ў Трышкі, а паслязаўтра ў старасты, і так на ўсёй галоўнай вуліцы, потым заварочваў у Падліпкі, пакуль не даходзіла чарга да апошняга двара. Дык гэты настаўнік нібыта і стаў ахвярай «страшнага месца». Але, здаецца, апошняй. Прынамсі, так лічылі ў Верамейках. Аднак ён, казалі, быў сам вінаваты, бо ўздумаў нечага капацца з рыдлёўкай на Курганні: можа, золата шукаў у валатоўках. Чым канкрэтна паплаціўся настаўнік за свой неразважлівы ўчынак, верамейкаўцы не ведалі. Справа ў тым, што яго хутка выклікалі з вёскі ў павятовы горад. У Вера-

мейкі ён больш не вяртаўся. Але, бадай, з таго часу перасталі хадзіць чуткі пра розныя жахі, якія здараліся з людзьмі на бальшаку супроць Кургання, няйначай, вогненны клубок пакаціўся кудысь за настаўнікам, каб адпомсціць яму, што патрывожыў зачараванае месца. Такім чынам паступова людская гамана пра здані ды непрыкаяныя душы пачала аціхаць. Аднак не настолькі, каб верамейкаўцы, праязджаючы альбо праходзячы міма Кургання ўначы, не адчувалі самае меней вусцішнасці ў сабе.

Зразумела, што сёння салдаткам знутры таксама гукнулася тое, калі ў шэрані імклівай раніцы яны ўгледзелі паміж каржакаватых соснаў гэтыя валатоўкі. Прынамсі, ніхто з таго моманту, як сталі падыходзіць да Кургання, не сказаў слова. Маўчалі знарок, быццам сапраўды баяліся патрывожыць нячыстую сілу.

Бальшак тут рабіў круты паварот, акурат быў на зломе, тады шырокім ахонам агінаў з левага боку Курганне. З гэтага павароту пачыналіся вялікія пяскі. Бадай, ужо да самай Бесядзі нельга было сустрэць глыбейшых на ўсім бальшаку. Таму абапал тут, за прысадамі, былі наезджаны яшчэ дзве дарогі, але цалкам калёсныя. Яны і ратавалі коні, бо чалавеку нічога не каштавала збочыць, каб дарэмна не борсацца.

Пакуль жанчыны спяшаліся моўчкі абмінуць Курганне, на макушках далёкіх і блізкіх дрэў затрымцела, быццам нагрэтае паветра, ранішняя чырвань, пачала пераліваццца ясвамі навокал.

Прачыналася рэдкае ў гэтую пару птаства.

Вядома, цяпер ужо не маглі стрымліваць сябе і нашы кабеты.

— Ці праўда ета,— спытала Анюта Жмэйдава,— што баба адна з Гончы прывяла прымака з лагера?

— А няўжо ж, прывяла,— з ахвотай адказала ёй Дуня Пракопкіна, якая перад тым як пайсці ў Яшніцу, ажно колькі дзён збірала розныя такія чуткі.

— Што яна, удава была ці так?

— Пра ета я не пыталася. Кажуць, прывяла ды прывяла.

— Можа, удава, дак...

— Во, ты таксама ішла б да канца з намі ў Яшніцу. Якраз нічога не здарылася б з тваёй маці ў тым Трасцяне. Ну, захварэла, дак ці трэба яшчэ з такой далечыні дачку клікаць?

— Не, я матку так не магу пакінуць! — запярэчыла Анюта.

— Ета ж калі тое было, што перадказвалі табе? Здаецца, яшчэ ці не ў тым месяцы?

— Няхай сабе. Але адведаць матку трэба. Яны, старыя, доўга хварэюць. Ім толькі і ляжаць.

— Калі ёсць за кім?

— Дак мы ж у яе ўдзвюх. Сястра старэйшая да я во. Так што...

— Ну, і няхай бы сястра глядзела тама.

— Дак... Але ж у мяне таксама сэрца ўвесь час не на месцы. Як пачула, што матка захварэла, то і пяклуюся з таго разу.

— Ну, то як хочаш сама,— перастала нарэшце ўгаворваць Анюту Жмэйдаву Дуня Пракопкіна, але дадала яшчэ яўна знарок: — А то ўдовам таксама трэба, каб нехта пожню касіў. Нездарма ж пяюць — на ўдоўчыным полі сабраліся работнічкі: мядзведзь карчом арэць, а воўк барануе...

— Ну, яе пожню дык яшчэ і Жмэйда старэйшы пакосіць. А вот нашы хто касіць будзе?..— з нейкай непрыязнасцю падала голас Прося Рацэева, жонка таго самага Міколы Рацэева, што некалі пагнаў у Арлоўскую вобласць калгасных кароў ды так і не вярнуўся ў вёску.

— Не такі ўжо ён касец, як вам думаецца! — сказала на гэта Анюта.

Тады загаварылі іншыя кабеты. Але так, быццам употай адкусвалі па кавалачку ад грэшнага яблыка.

— Да ты не надта шкадуй яго,— пачала Гэля Шарахоўская,— свайго Жмэйду. У іхнім раду мала хто адну жонку меў за жыццё. Ета твой Ляксей чамусьці рана памёр, а то б і ён, можа, цябе перажыў некалі.

Але Анюта рашыла да канца бараніць мужаў род, нягледзячы, што жыла ў ім мала.

— Хто ета ў іх такі жанаты-пераражанаты быў? — незалюбіла яна.

— Бытта не знаеш?

— А і не знаю!

— То папытайся во ў баб. Яны скажуць.

— Дык гавары ўжо сама, прасвяці, раз пачала.

— І скажу.

Але Шарахоўскай не давялося прасвятляць Анюту Жмэйдаву, якая, дарэчы, не горш за астатніх ведала, што наважвалася сказаць Гэля. Яе апярэдзіла Варка

Касперукова, маленькая постаць якой кінулася на галасы сюды ажно з другой абочыны.

— Дак вунь хоць бы й дзядзька нябожчыка твайго, Ладымер. Не паспеў на кладзішча занесці адну, як у Гончу паехаў па другую,— сказала яна грэбліва, акурат Анюта сапраўды была вінаватая ў гэтым.— А назаўтра нават хваліцца стаў, моў, пажыву цяпера з маладою, дак пажыву! А то і смаку таго, жанатага, не знаў дасюль.

— Во, чаго захацеў, стары корч! — пырснула смехам ад нечаканасці Роза Самусёва.— Ужо амаль канае, а зелле хапае.

— Дзе тама? — смыкнула шчакой Варка Касперукова.— Ладымер той яшчэ зямлі пад сабой не чуе.

— Ат, Ладымер вам, бачу, свет засланіў,— нездаволена крутнула плячамі маладая ўдава, але ўжо без ранейшай зацятасці.— Калі моцны ды дужы, дак што яму? Свёкар вунь мой...

— А навошта твайму свёкру яшчэ адна, калі аўдавелая нявестка ў доме? Ты думаеш, людзі не чуюць і не бачаць? Ты во цяпера ідзеш матку праведаць. А чаму не саўсім да яе ідзеш? Што, цябе ў Верамейках дзеці трымаюць? Дак няма іх у цябе, дзяцей. А можа, вёска наша дужа спадабалася табе? Дак праверым во, ці горш тваё Трасціно за нашы Верамейкі.

— Ах вы вон пра што? — здзіўлена ўскінула вочы на Варку Касперукову Анюта, але не паспела абурыцца. З імклівага натоўпу вынікла ў першы рад Палага Хахлова, кабета намнога старэйшая, чым астатнія салдаткі, якая таксама ішла ў Яшніцу вызваляць з лагера свайго Івана.

— Во, нездарма кажуць,— сказала яна,— вушы завянуць у таго, хто падслухае бабскую размову. Што ета вы сянні, бытта здурнелі? Ай гаварыць няма больш пра што?

— Дак галоднай куме...— узрадавалася была гэтай абароне Анюта Жмэйдава.

Але Палага працягвала ўшчуваць сваіх спадарожніц, можа, нават не пачуўшы яе голасу:

— Ідзіцё ж сабе на добрую справу, дык і ідзіце. А то і праўда можна падумаць, што... Ажно смешна! Знайшлі каму пазайздросціць. Накінуліся на бедную ўдаву!

— Ну, во,— сказала, усё роўна як апраўдваючыся, Гэля Шарахоўская,— сама пачынала гаворку, а мы ця-

пера аказаліся вінаватыя. Ета ж ёй нечага зарупіла прымака мець. Ета ж яна хацела ведаць, ці праўда, тая баба з Гончы прыняла з Яшніцкага лагера ў дом сабе прымака.

— А чаму б ёй і на самой справе не пацікавіцца? — ужо да канца беручы ўдовін бок, азірнулася назад Палага, каб чулі ўсе спадарожніцы.

Яна ўшчувала кабет зусім без пагарды, нават без высакароднай злосці, зусім як дзяцей, якія адурылі ёй галаву.

Палага была не толькі старэйшая з усіх салдатак. Справа ў тым, што сама прысутнасць яе тут здавалася як бы незвычайнай, прынамсі, мала хто думаў, што ёй край трэба ісці ў Яшніцу, бо жылі яны са сваім Іванам вельмі нямірна. Біў ён яе часта, так часта і люта, што і ўявіць сабе цяжка. Грозіўся нават зусім забіць. А яна толькі цярпела ды пакуты зносіла, звычайна не праходзіла тыдня, каб з іхняй хаты не чуўся лямант. Дзеці ў іх таксама часцей паміралі, чым заставаліся жыць, можа, праз пабоі. Казалі, што муж нібыта ўзненавідзеў яе за віну, якую яна мела перад ім. Але гэта толькі казалі, бо ніхто не ведаў нічога пэўнага — ні Палага, ні сам Хахол нікому не адкрыліся ў вёсцы з той віной. Зразумела, што ў Верамейках глядзелі на Хахловых, як на дужа нешчаслівую пару — чым ужо гэтак жыць разам, дык лепей разысціся. У кожным разе, калі й сышлі сінякі з яе цела, то ўпершыню цяпер з таго часу, як пагнаў Хахол разам з Зазыбам і Міколам Рацэевым кароў у савецкі тыл. І вось, нягледзячы ні на што, бітая-перабітая Палага ішла разам з іншымі салдаткамі, кіравалася ў Яшніцу, думаючы, што яе забіяка-муж таксама недзе пакутуе сярод палонных.

Дзіва, але калі б пачаў ушчуваць гэтак, сарамацячы, тую ж Дуню Пракопкіну або Варку Касперукову хто-небудзь другі, а не Палага Хахлова, то наўрад ці змоўчала б каторая, не стала гаварыць насуперак. Палазе ж ні Варка, ні Дуня, ні Гэля Шарахоўская не запярэчылі. Толькі паглядзелі на яе, быццам здзіўлена, бадай, нават з адценнем нейкага прыкрага шкадавання, як глядзяць увогуле на няроўню. Да таго ж і выгляд кабета мела варты спагады: ішла босая, і ногі, зусім высахлыя, ужо амаль без лытак, былі па шчыкалаткі ў мокрым пяску. Мусіць, не сытае было і цела яе, бо ні спераду, ні ззаду нічым не выдавалася пад адзеннем — вылінялай васільковай блузкай і саматканай,

акурат андарак, спадніцай, пашытай у дзве палы. Пра такіх жанчын звычайна гавораць — бы дошка. Але вочы ў яе былі надзвычай жывыя, а на немаладым твары (мела яна за сорак гадоў) не адбілася ніводнай рэзкай маршчыны, усё роўна як лёгка давалася ёй дасюль жыццё.

Палага недарэмна ўмяшалася ў гаворку маладзейшых кабет, якая раптам зрабілася амаль непрыстойнай,— неўзабаве ўсе яны, здаецца, нават забыліся пра яе. Толькі стрыечная сястра Сілкі Хрупчыка, Сукліда, спыталася яшчэ:

— Дак ці ўдава ўсё-ткі тая кабета з Гончы, што прымака з лагера прыняла?

— Удава, удава,— акурат супакойваючы яе, сказала Палага Хахлова,— жонка лесніка, што наскочыў пазалетась на лыжах пад нечае ружжо ў Прудзішчы. Ставілі на звера, а трапіўся чалавек.

Гісторыю гэтую з гібеллю лесніка з Гончы ведалі ўсе ў Верамейках, і не толькі ў Верамейках, а і ў іншых навакольных вёсках, якія размяшчаліся на тэрыторыі Панькаўскага лясніцтва, таму кабеты не сталі абмяркоўваць яе, хапіла аднаго ўдакладнення.

Першай вёскай па гэтай дарозе з Верамеек былі Заборцы, аднак мала хто з верамейкаўцаў наведваўся туды, тым больш — лічыў двары. Па-першае, хоць і стаяла яна ўскрай дарогі, але была аслонена лесам. А падругое, не любілі ва ўсім наваколлі, як узяць вёскі па гэты бок Бесядзі, саміх заборцаўцаў. З іх і смяяліся, і злавалі на іх. Злавалі, бадай, найбольш. Вядома, былі на тое падставы. То каля Заборцаў раптам «лясун» аб'явіцца, які хапае па дарозе маладых баб з другіх вёсак ды гвалціць, зацягнуўшы падалей у лес, то ў саміх Заборцах які-небудзь прайдзісвет наробіць дурнога пагалосу. Асабліва трапілі заборцаўцы пасля аднаго выпадку. Праўда, даўняга. Было так. У Заборцах раптам аб'явіўся «каровін доктар». Сам ён называў сябе інача́й, нават не «вецінарам», а «ветхвельчарам». Аб'явіўся і адразу паказаў сваё майстэрства, бо якраз у аднаго заборцаўскага гаспадара захварэла карова: удзень зрабілася смутная, а к вечару пена вяроўкаю пайшла з рота, язык стаў вывальвацца. Гаспадыня, канечне, уголас, гаспадар таксама цямней за хмару ходзіць. Тады і прыйшоў на дапамогу той «ветхвельчар». Быў ён мясцовы, з Заборцаў, але не ў прыклад іншым пахадзіў на свеце — спярша працаваў на шахтах, падаў-

шыся ў Юзаўку, каб зарабіць грошай ды паправіць дома гаспадарку, пасля служыў недзе. Словам, гаспадар ён аказаўся бесталковы, а чалавек і зусім шалапутны, бо вельмі хутка забыў і пра гаспадарку, і пра сям'ю. Што змусіла яго вярнуцца нарэшце ў Заборцы, угадаць цяжка. Тым больш што ён сам чужаўся людзей. Сказаў толькі неўзабаве, што вывучыўся на ветфельчара. А тут якраз надарыўся выпадак паказаць умельства — карова захварэла ў вёсцы. Зразумела, што лячыць яе гаспадары паклікалі яго. Прыйшоў ён на двор, зачыніўся адзін у хлеве і пачаў нешта рабіць там з хворай жывёлінай. І праўда, карова хутка паздаравела. Дзён праз колькі ўжо выйшла ў агульным статку на пашу. Пасля гэтага заборцаўскія мужыкі, вітаючыся, пачалі шапкі здымаць пры сустрэчы з ім. Тым часам слава пра яго з Заборцаў шырыцца далей. Ну, а раз ідзе слава, то знаходзіцца і справа. Праз тыдзень здарылася такая ж каровіна хвароба ў Гончы. Затым у Верамейках, у Гутцы, у Кавычачах і г. д. І ва ўсе двары гаспадары клікалі «вецінара» з Заборцаў. Лячыў ён удачна кароў ад адной і той жа хваробы з год ці болей, аж пакуль не падпільнаваў хтосьці — аказваецца, сам «вецінар» і ўганяў жывёлу ў хваробу: зловіць за вёскай употай Ласюту ці Чарнаўку ды натрэ мылам язык. Чаму тады не быць карове смутнай, чаму не давіцца мыльнай пенай, якая цягне за сабой вонкі і вантробы?

А то здаралася і так. Ідзе за нейкай патрэбай чалавек праз Заборцы, а пасярод вуліцы спыняе пешахода мужык і б'е навотліў па вуху. «За што?» — пазірае на яго ледзьве не са слязамі недаўменны чалавек. «А ні за што,— спакойна адказвае яму тубылец.— Проста, каб ведаў, што пабыў у Заборцах».

Затое калі ўжо трапляў з Заборцаў хто ў смешнае становішча, нават у бяду, то гаворкі ды смеху сапраўды хапала, лічы, на ўсё забяседдзе. Асабліва выклікаў рогат нядаўны выпадак. Высветлілася раптам у адзін цудоўны дзень, што з Заборцаў выйшаў у вялікае начальства сын былой панскай чалядкі, здаецца, намеснікам наркома стаў. Правільна, што захацеў прыехаць і ў вёску. Ну, а заборцаўцы рашылі ў дошку расплюшчыцца, толькі як след прывеціць знакамітага земляка. Калгаснае кіраўніцтва, вядома, з дазволу раённага, нават сталы загадала накрыць пад соснамі, пры гэтым не шкадаваць ні пітва, ні закусі. Сын былой панскай

чалядкі сапраўды ўсцешыўся, убачыўшы, як сустракаюць яго вяскоўцы. Але доўга не затрымаўся ў вёсцы, адно гадзіны са дзве пасядзеў разам пад соснамі, пакаштаваў і пітва, і адмысловай сялянскай закускі. Пасля яго ад'езду заборцаўцы, вядома, працягвалі банкетаваць, балазе, хапала на сталах усяго, да таго ж дарэмшчына кругом. «Во,— хваліліся захмялелыя мужыкі,— як добра мець земляка ў вялікім начальстве». Думалі, што п'юць ды ядуць калі не за яго кошт, то не за свой ужо напэўна. Але не. Заборцаўцы падмануліся ў сваім найлепшым жаданні. На другі дзень сабралася калгаснае праўленне і расклала выдаткі па дварах — і на тых, хто сядзеў за святочным сталом, і на тых, хто стаяў зводдаль ды аблізваўся...

Сёння таксама не абышлося без здарэння. Раптам з-за дрэў, якраз насупраць Заборцаў, усё роўна як вышаснуў на дарогу з вінтоўкай за плячыма нейкі таўсманы дзяцюк. Верамейкаўскім салдаткам яшчэ крокаў за дваццаць кінуліся ў вочы яго вусы і ліслівая ўсмешка. Што дзяцюк быў паліцэйскім, таксама стала зразумела адразу — гэтакую блакітную павязку на рукаве ўжо каторы час насіў Брава-Жыватоўскі.

Між тым, паліцэйскі стаў брыгадзіравым «казлом» пасярод дарогі і чакаў, пакуль зусім не наблізяцца жанчыны. Пры гэтым ці то знарок, ці то само выйшла, але месца ён выбраў спыніцца супраць невялікай прагаліны, якая, быццам прасечаная лінка, адкрывалася па лесе з правага боку, таму постаць яго была высвечана ранішнім сонцам. Ліслівая ўсмешка і шчодрае сонца рабілі чалавека як не падобным на ката-мурлыку — вось-вось выгне спіну, а тады пакратае лапай за вус.

— Куды гэта вы? — акурат здзівіўся паліцэйскі, вымаўляючы першыя словы амаль нараспеў.

— А нікуды! — у тон яму адказала Дуня Пракопкіна.

— Так ужо і нікуды? — не паверыў паліцэйскі, але сказаў усё роўна як дзеля забавы.

— Ну, тады на кудыкіну гару,— для адчэпкі сказала Дуня Пракопкіна і паспрабавала абмінуць на дарозе паліцэйскага, каб ісці далей.

Але паліцэйскі і не думаў прапускаць верамейкаўскіх жанок міма сябе. Ён распасцёр рукі, гатовы забегчы ў той бок, куды памкнуліся яны.

— Значыць, на кудыкіну гару? — пасмешліва спытаўся ён.— А чые будзеце?

— Свае,— кінула з натоўпу Палага Хахлова.

— Ну, што ж,— сказаў паліцэйскі,— пакуль не прызнаецеся, далей не пушчу.

— От я зараз так не пушчу табе, — нарэшце выбілася наперад Палага Хахлова,— што глузды пасля збіраць давядзецца!

Мусіць, паліцэйскі быў чалавек здагадлівы, таму пасля яе слоў адразу сцяміў — гэтая сухарэбрына сапраўды на адной пагрозе не спыніцца. Зарагатаў:

— Я і так ведаю, чые вы. У мяне ў самога ў Верамейках радня ёсць.

Але колькі ні намагаліся салдаткі ўспомніць, хто мог быць у Верамейках яму раднёй, так і не здолелі прыгадаць: здаецца, не было такога выпадку, каб хтонебудзь жаніўся на заборцаўскай нявесце альбо наадварот — верамейкаўская выходзіла туды. Тым не менш, Дуня Пракопкіна сказала:

— Раднёй лічышся, а таксама палохаеш.

— Гэта я для парадку. Службу нясу.

Паліцэйскі тут жа ступіў на абочыну, вызваліў дарогу.

Хоць і незразумела было, чаму ён рушыў у адну дарогу з імі, але салдаткі неўзабаве ўжо нібыта перасталі і зважаць на яго; прынамсі, паліцаева прысутнасць больш не выклікала ні ў кога насцярожанасці; хто ведае, можа, у яго таксама з'явілася патрэба адлучыцца з вёскі па нейкай справе? Так і ішлі яны колькі часу лясной дарогай — кабеты па сабе, а ён па сабе.

З жоўта-зялёнай папараці, што расла тут скрозь па сасновым лесе, нечакана выскачыў белалобы сабака з жоўтымі, акурат апаленымі плямкамі над вачамі і з нейкімі дзіўнымі, невыразнага колеру пежынамі па баках. Убачыўшы незнаёмых кабет, сабака вякнуў на іх, быццам таксама дзеля парадку,— маўляў, іначай нельга, бо што падумае гаспадар пра мяне; усё-ткі я перш за ўсё павінен гаўкаць,— тады кінуўся паліцэйскаму ў ногі, пачаў радасна лашчыцца. Вядома, нікога сваім нечаканым з'яўленнем не спалохаў. Ды і ці магла цяпер палохаць людзей такая істота, як сабака?! Тым больш што верамейкаўскія кабеты па-сапраўднаму спяшаліся, таксама, як спяшаліся б звычайна на кірмаш. Надзетыя, бадай, у самае лепшае, з хатылькамі ў руках, яны ўсе і выгляд мелі кірмашовы. Не хапала толькі, каб на сённяшні дзень прыпала храмавое свята.

Здавалася, паліцэйскі ўзрадуецца, што на падмогу яму прыбег сабака, але дарэмна. Наадварот, вусаты таўстун раптам узлаваўся нечага, выказваючы рукамі, жэстамі, выглядам прыкрую нецярплівасць, пачаў праганяць сабаку дамоў — спярша адпіхнуў ад сябе нагой, праўда, не тупым, зношаным наском ялавага бота, а шырокай, ссунутай гармонікам к нізу, халявай, але сабака зноў кінуўся яму ў ногі, тады ён зрабіў страшны твар і схапіўся за вінтоўку: «Пшоў! Пшоў адсюль!» Як і кожны разумны сабака, гэты таксама зразумеў, што гаспадару чамусьці не падабаецца ягоная прысутнасць, таму ён пакрыўджана падтуліў пад сябе хвост паміж задніх ног і зноў ціха гаўкнуў: уставіўшыся на чужых кабет, ды цяпер ужо, няйначай, у адчаі, што праганяюць. Але ў наступны момант увагу яго адцягнула на сябе вялікая шэрая птушка, што ўсё роўна як нежывая ўпала на дарогу, быццам ашмёткак які, з падсечанай у камлі, таму аплыўшай смалою, сасны. Птушка гэта нагадвала нечым балотнага мышалова, мела такую ж, як і ён, загнутую кнізу дзюбку і доўгія ногі. Хоць яна і выклікала ўражанне, што падае ўніз, быццам амярцвелая, але як толькі апынулася на зямлі, дакранулася да яе нагамі, то адразу страпянулася, распасцёрла на ўсю шырыню крылы і зусім зварушліва, падскокваючы, пабегла ўперад па дарозе. Згледзеўшы яе, сабака тут жа забыўся і на гаспадара, і на кабет, кінуўся з усіх ног даганяць. Птушка таксама адчула небяспеку, таму не стала лішне выпрабоўваць лёс — ударыла аб зямлю крыламі і гэтак жа імкліва, як падала з дрэва, узляцела ўгору, але не памкнулася ў бок ад дарогі, а зноў села на самы макуш крайняй сасны. Падмануты паліцаеў сабака закруціўся каля сасны, і гучны брэх яго адзінока абудзіў ядраную цішыню ў лесе.

Да Ключа заставалася ўжо не так многа прайсці, калі на дарозе, якая выбілася левым бокам на край лесу, быццам грыб з-пад зямлі, вырасла чалавечая постаць. То быў немец. Няйначай, ён стаяў даўно тут, але верамейкаўскія салдаткі чамусьці ўбачылі яго толькі цяпер, калі апынуліся зусім блізка. Стаяў ён у кароткай, непрамакальнай куртцы з башлыком за плячамі, у суконных штанах, вузкія, амаль у абліпку калашыны якіх былі ўсунуты ў бліскучыя боты, і ў цёмна-сіняй пілотцы. На жываце вісеў аўтамат. Што гэта быў немец, кабеты здагадаліся адразу, бо паліцай

ледзь не подбегам кінуўся да яго. Няйначай, што для паліцая знаходжанне тут гэтага немца наогул не з'явілася нечаканасцю. У кожным разе па тым, як прывычна і без насцярогі паводзіў ён сябе, можна было пэўна меркаваць толькі так. Значыць, гіцаль знарок суправаджаў іх сюды. Пакуль увішны паліцэйскі нешта тлумачыў немцу, паказваючы на жанчын рукой, тыя паспелі прыкмеціць непадалёку, крокаў за трыццаць ад крутога схону, за якім пачынаўся луг, самалёт з чорна-белым, нібыта рассечаным крыжам на фюзеляжы. Далей трохі вяла дымілася вогнішча, блізка ля якога знаходзіліся яшчэ два лётчыкі — адзін сядзеў, абхапіўшы каленкі рукамі, а другі напаўляжаў, падпёршы далоняй галаву.

Самалёт гэты — лёгкі бамбардзіроўшчык — сеў на касагоры ўчора, амаль ужо пад вечар. Атрымаўшы ў паветраным баі, што адбыўся недзе ў лукавіне Дзясны, некалькі вялікіх прабоін, ён не дацягнуў да аэрадрома, які размяшчаўся за Бялынкавічамі, недалёка ад вёскі Канічы, і сеў абы-дзе, нягледзячы, што наперадзе, за якога паўкіламетра, пачынаўся скошаны луг. Цяпер лётчыкі вартавалі бамбардзіроўшчык, чакаючы, пакуль прыедуць з аэрадрома авіятэхнікі. Наогул-та ім пашанцавала тут. Адразу, яшчэ ўчора, прыбег сюды гэты паліцэйскі, які, будучы на лузе, бачыў, як прызямліўся самалёт. Таму ноч яны правялі каля вогнішча, не зазнаўшы ні галаду, ні смагі. І ўжо зусім былі здзіўлены лётчыкі, згледзеўшы цяпер, як знаёмы паліцэйскі вяртаўся пасля начы на чале немалога гурту жанчын.

«Зі маль айнэн ан,— раптам ажно сеў, раскінуўшы ледзь не абапал вогнішча ногі, той лётчык, што трымаў галаву на далоні,— унзэр поліцыст хат унс айнэ унмасэ фон вайбэрн аўфгетрыбен. Е фюнф про латэ» *. Другі зарагатаў і сказаў: «Айн дынстайфрыгер нар іст гефэрліхер альс айн файнд» **. «Ляс, дас. Ды русэн хабен воль ір шпрыхворт ніхт аўф унс гемюнцт. Дэр флінке Ганс, пас нур аўф, лект зіх шон ды ліпен унд іст цум хартэн айнзац бэрайт. Гешвінд, гэр друдэр, дас вір пюпхен ніхт ферзоймен. Штэ аўф, зонст біст ду ам шайтэргаўфэн фэртыг геростет. Нун рыхтэн вір

* Глянь, наш паліцэйскі набраў нам процьму жанчын. Па пяць штук на... прыпадзе *(ням.)*.

** Паслужлівы дурань — горай за ворага *(ням.)*.

айнэ грандыозэ людэрцэмунг айн...» * Але другі лётчык толькі паморшчыўся ад гэтых слоў, сказаў як не з гідлівасцю: «Дас паст мір ніхт ін дэн крам. Славішэ дорфмэдэльс зінд рехт шмутцых. Зіхер хабэн зі ніхт айнмаль хозэнцойг ам штайсэ ан. Штрайхт міх альзо аўз дэр лістэ, іх махэ ніхт міт. Ду унд Ганс аляйн, ір цайгт ойх ганц геваксен ойэр грандыозэн... Ін айнэм монат райзэ іх нах хаўзэ, да мус іх этвас гедульд хабэн. Эс вэрэ айнэ шайсэкле захэ майнэр Эльзэ вас унэрвюнштэс ін ды ташэ цу легэн» **.— «Ляс дас айнэ зорге зайн,— пацісnуў плячыма яго таварыш.— Дас ду эс шпэтэр ніхт бедаўэрст.— Ён пружыніста ўскочыў на ногі, сунуў за шырокі рамень шлемафон і паблажліва ўсміхнуўся: — Інцвішэн муст ду вахэ шыбен» ***.

Аднак дарэмна ён палохаў таварыша — у каравул таму станавіцца не давялося. Пакуль вялася ля вогнішча гэта размова, на дарозе ўсё было скончана.

Аказваецца, паліцэйскі там усяго толькі падбіваў вартавога адабраць у верамейкаўскіх кабет харчы, якія яны неслі з сабой, загарнуўшы хто ў каляровую хустку, хто ў вышываны ручнік. Вартавы хоць і не разумеў чужой мовы, але словы — сала, яйкі, мёд — хутка дайшлі да яго свядомасці. «Гут, гут»,— паляпаў ён весела па плячы паліцэйскага і жэстам паказаў жанчынам, каб тыя выкладвалі ўсё на травяністую абочыну. Аднак ніхто з салдатак не спяшаўся рабіць гэтага. Яны адно пазіралі то на вартавога, то на паліцэйскага, быццам і сапраўды не здагадваліся, чаго ад іх хочуць. Тады паліцэйскі сам пачаў вырываць з рук хатылькі. Жанчыны не супраціўляліся. І толькі Жмэйдава нявестка кінулася тлумачыць паліцэйскаму, што яна не мае з сабой прысмакаў, бо ідзе да хворай маці.

---

* — Дарэмна ты. Мусіць, рускія прыдумалі сваю прымаўку не для нас. Спрытнюга Ганс, бач, ужо аблізваецца і гатовы да рашучага штурму. Паспяшайся, пане браце, каб не праваронiць лячак, уставай, інакш ты тут, ля вогнішча, правэндзішся наскрозь. Ну, зараз мы наладзім вялікую... *(ням.)*

** Гэта не па мне. Гэтыя вясковыя славянскія дзеўкі даволі брудныя. Яны, здаецца, не носяць ніякіх рэйтузаў... Таму выкрэсліваймце мяне са спісу, я не ўдзельнік вашай грандыёзнай муштроўкі. Праз месяц я еду дамоў, таму трэба крышку патрываць. Было б дзікай бестактоўнасцю падсунуць маёй Эльзе ў кішэню што-небудзь непажаданае *(ням.)*.

*** Ну, як ведаеш. Але не шкадуй пасля. Прыйдзецца пастаяць табе ў каравуле *(ням.)*.

— Не хлусі, паказвай і ты, што нясеш,— не паверыў той.

Але ў Анюцiным ручніку і праўда нічога асаблівага не было, акрамя падгарэлай скваркі ды праснака.

Не вытрасеным пакуль заставаўся маленькі хатылёк велічынёй з прыгаршчы ў Палагі Хахловай. Яна трымала яго аберуч, прыцiскаючы да жывата, і выглядам усім паказвала, што не збіраецца расставацца з ім. Да таго ж, і паліцэйскі ўсё роўна як не спяшаўся падступіцца да яе.

— Ну, а цябе я даўно прыкмеціў,— нарэшце сказаў ён.— Зараз паглядзім, якая ты смелая, ці будзеш глузды выбіваць.

Ён выставіў рукі, каб забраць і ў Палагі тое, што яна прыцiскала ў хатыльку. Але Палага расшчапіла на жываце рукі і закінула хатылёк за спіну.

— Ну, ну! — пагразіў ёй паліцэйскі.

— Адыдзі! — узбурылася Палага.

— Зараз жа аддай, сцерва!

— Не чапай, а то! — абурана захітала галавой кабета.— Сыдзі з дарогі!

— Ах, так? — паліцэйскі паспрабаваў зайсці ёй ззаду.

Але дзе там! Палага раптам крутанулася і тыцнула хатыльком проста ў вусаты твар яму.

Адчуўшы моцны ўдар, які прыйшоўся акурат ніжэй лоба, паліцэйскі схапіўся рукою за нос.

Нехта з кабет утарапела войкнуў — ну і Палага!..

— Уцякайма! — крыкнула тады, як не сваім голасам, Роза Самусёва, і ўсе кабеты, акрамя Палагі, кінуліся спалоханай чарадой у лес.

Між тым Палага стаяла натапыраная, гатовая яшчэ раз ударыць паліцэйскага, калі той паспрабуе сунуцца да яе: нездарма ж яна вяла зацятую бойку з мужам! Ды і не спалохалася яна зусім, проста не думала, што трэба і ёй некуды бегчы адсюль.

Тым часам паліцэйскі агоўтаўся ад нечаканага ўдару і ўжо гатовы быў у шаленстве накінуцца на жанчыну. Яму нічога не складала ў момант расправіцца з ёю, прынамсі, так яму здавалася, бо якая б задзірыстая ні была гэтая кабета, а сілы на яе ў яго хапіла б. Але раптам вартавы немец, на вачах якога адбылося нечаканае здарэнне, гучна зарагатаў і стаў паміж Палагай і паліцэйскім. Што ім кіравала пры гэтым, сказаць цяжка. Можа, проста зрабілася смешна, што

пажылая і вельмі нехлямяжая баба адважылася на ўчынак, які дагэтуль яшчэ ніколі не даводзілася бачыць яму. Тым больш што побач, на траве, ляжала даволі розных прысмакаў, якіх хапіла б нават на цэлую эскадрыллю, а не тое, што на трох.

— Вэг *,— адпіхнуў ён паліцэйскага і, павярнуўшыся да таго лётчыка, што якраз падыходзіў у гэты момант к дарозе, зноў зарагатаў.

— Хаст ду гезен, вас да лёс іст? **

— Айн шёнэс хандгемэнге. Да хаст ду кайн Ойропа. Ды зітэн зінд хірцуляндэ толь фэрлецт. Іх унд Вольфганг майнтэн, дас эр унс лібе дынге ін райхер аўзваль цум гекнуч геліферт ***.

— Эс іст эбэн зовайт,— зусім весела сказаў вартавы.— Вас хіндэрт ойх дэн дран цу шпайзэн, да эс ойх шмэкт? ****

— Ду дарфст дан зэльбер дызэ альтэ кахель кляінкрыгэн.— Ён сеў на дыбачкі і пачаў перабіраць рукамі слоікі, кавалкі сала, яйкі і іншыя смачныя рэчы.— Іх абэр хабэ вас андэрэс цу тун. О, гут, гут! *****

— Ге шон вэг! ****** — зрабіў злосны твар вартавы, паказваючы Палазе, каб тая выбіралася прэч.

Не выпускаючы з рук хатылёк, за які яна здолела ўсё-ткі пастаяць, Палага была памкнулася назад, але хутка абдумалася і рыўком, усё роўна як з неймавернай лёгкасцю, можа, не чуючы пад сабою і ног, кінулася паўз небяспечнае месца па дарозе наперад.

Паліцэйскі, вядома, не разумеў, чаму раптам немец не дазволіў яму даць сапраўднага пытлю гэтай задзірыстай сухарэбрыне (іначай ён і не думаў цяпер пра яе), аднак ад далейшай спробы адпомсціць ёй адмовіўся — збянтэжаны, ён зацяў у сабе злосць, якая ажно распірала яго, адно крыкнуў з абуранай прыкрасцю наўздагон:

— Нічога, я цябе яшчэ перастрэну, паскудніца! А не — дык і ў Верамейках адшукаю!

---

* — Прэч *(ням.)*.

** — Бачыў, што тут было? *(ням.)*

*** — Здаецца, мардабой. Гэта табе не Еўропа. Тут норавы дзікія. Мы з Вольфгангам думалі, што гэта ён навыбор для ўцехі столькі кабет прывёў *(ням.)*.

**** — Яна, пацеха, і была толькі што. Але за чым затрымка, раз у вас жаданне з'явілася? *(ням.)*

***** — Ты ўжо гэтую бабулю сам... А я займуся вось чым. О, добра, добра! *(ням.)*

****** — А ты — ступай *(ням.)*.

Здавалася б, чаго ўжо лепей — уцякай сабе як па-далей ад заборцаўскага злыдня, таксама і ад немцаў, але не, Палага і тут не прамінула паказаць свой харак-тар, павярнулася і гукнула зусім па-вясковаму ў адказ:

— Пацалуеш ты мне..! — Пры гэтым яна не паса-ромелася ўслых дадаць і апошняе слова.

Ад бездапаможнасці, што нічога не можа зрабіць ёй, паліцэйскі прытворна хіхікнуў, маўляў, што ты з дуры бабы возьмеш, а тады паспешліва замітусіўся, кідаючыся памагаць немцам пераносіць да вогнішча нарабаваны ў верамейкаўскіх кабет харч. Ён нават знарок не глядзеў у той бок, дзе шыбавала па дарозе Палага, даганяючы збегшых таварышак.

К гэтаму часу тыя ўжо таксама ўзбіліся на дарогу, балазе, за паваротам з-за дрэў не было відаць ні немцаў з іх падбітым самалётам, ні паліцэйскага.

— Заб'юць тама адну Палагу, яй-богу заб'юць! — спахапілася, ледзь не ламаючы рукі, Гэля Шарахоў-ская.

Тады і другія кабеты занепакоіліся, хоць у саміх страх таксама яшчэ не прайшоў.

А Варка Касперукова з дакорам сказала:

— Ну, што ў яе тама ўжо было такое, што не заха-цела аддаць?

— Ага,— падтакнула ёй Анюта Жмэйдава,— доб-ра, калі хоць скаромніна, а то й зусім, можа, гуркі-насеннікі.

Салдаткі гаварылі так — то асуджалі, то шкадавалі Палагу, а самі чуйна, з кволай трывогай, ад якой зні-белі сэрцы, услухоўваліся, каб, не дай бог, і праўда не грымнуў у тым баку стрэл. Адбегліся яны не зусім далёка ад таго месца, дзе іх затрымаў немец, таму і Па-лазе Хахловай не складала цяжкасці дагнаць іх.

— А мы думалі...— убачыўшы нарэшце яе жывую і цэлую, толькі і сказала Гэля Шарахоўская, але пры гэтым чамусьці запытальна паглядзела на сваіх спада-рожніц, быццам хацела, каб тыя пацвердзілі гэта.

Палага нікому не адказвала, толькі цяжка дыхала.

Кабеты памаўчалі колькі часу, усё роўна як даючы магчымасць ёй прыйсці ў сябе, аддыхацца, затым Дуня Пракопкіна сумна сказала:

— Давайце падумаем, бабы, як нам ісці далей.

— Дак мы ж дамовіліся,— насцярожылася Анюта Жмэйдава.— Пойдзем на Канічы, тады на Батаева.

— Я не пра ета!..— не паглядзеўшы на яе, нахмурыла твар Дуня.— Я пра тое, ці варта нам цяпера зусім ісці ў тую Яшніцу.

— Як ета? — не зразумела яе Варка Касперукова.

— Дак,— Дуня паказала пустыя рукі.— Самім дайжа нічога няма на зуб пакласці, не тое, што мужа накарміць да выкуп за яго даць.

— Дуня праўду кажа,— як не ў адзін голас адразу загаманілі кабеты, быццам чакалі зручнага моманту, але, мусіць, не толькі таму, што немцы з дапамогай заборцаўскага паліцая нечакана адабралі ў іх прыпасы, разлічаныя на лагерную ахову; пасля таго, што здарылася з імі ў гэтым лесе, найбольш бянтэжыла невядомасць, якая чакала наперадзе; каб павярнуць назад, здавалася, не хапала аднаго прыкладу.

Гэля Шарахоўская выразна адчула гэта і памкнулася адвесці небяспеку. Чамусьці звяртаючыся толькі да Пракопкінай Дуні, яна з запальчывай горыччу, акурат моцна пакрыўджаная, сказала:

— А я пайду! Пайду хоць і ні з чым! А раптам Андрэй тама? Дак хоць пагляджу на яго, буду ведаць, што жывы, што не забіты. Тады другі раз прыйду.— Яе ўпартасць была больш чым пераканаўчая, і калі яна пасля кароткага перапынку, выкліканага ўнутранай усхваляванасцю, зноў кінула з дакорам:— Вы сабе як хочаце, а я пайду! — салдаткі зрушылі з месца.

Спыняцца на сняданак у Ключы не было з чым. Прыпадаючы на руках да крыніцы, жанчыны адно па чарзе напіліся халоднай вады, ад якой заходзіліся зубы. Латвей было тым, хто не пакладаўся цалкам на дарогу, ды яшчэ дома перахапіў чаго наперад, гэтыя і пілі цяпер з большым смакам.

Дагэтуль ніхто не ведаў, што брала каторая з сабой, а тут раптам, напіўшыся вады, пачалі як ні хваліцца.

— Мне ж свякруха напакавала-ткі торбу,— уздыхнула, выдаючы сакрэт, Галя Шарахоўская.— Здаецца, усяго хапала тама. Усе леташнія і сёлетнія прыпасы сабрала. Нават груздоў салёных слоік не пашкадавала. Во недзе раскашуюць цяпера немцы!

— Да й паліцай, мусіць, не застанецца ў накладзе,— акурат зайздросцячы, сказала Анюта Жмэйдава.

— Ну, тваім ужо дак наядуцца яны,— насмешліва кінула ёй Анэта Прыбыткова, помнячы, як тая паказвала паліцэйскаму акраец з падгарэлай скваркай.

А Гэля Шарахоўская раптам прызналася:

— Добра, што немцы хоць не здагадаліся пра мае залатыя пяцёркі. Я іх пад цыцку сунула, дак дзе тама здагадацца. Столькі берагла!.. Яшчэ матка, нябожчыца, на пасаг давала.

— Ну во, аказваецца, у Гэлі і золата ёсць! — павяла па ўсіх прыжмуранымі вачамі Анюта Жмэйдава.

— Дак у Шарахоўскіх, можа, яшчэ і не ета знайшлося б, каб добра пакапацца,— засмяялася Варка Касперукова, але без асаблівага намеру, проста так.

— Нягож, цэлыя гаршкі ў бяросце з золатам стаяць! — смыкнула ад прыкрасці Гэля, ужо не радая, што прызналася.

— Ета міліцыянеры не ведалі, каго на вочапе ў калодзеж апускаць,— азвалася тады Прося Рацэева.— Трэба было адразу за Шарахоўскіх брацца, а яны дзеда майго ў калодзеж пасадзілі.

— Але ж таксама не дарэмна! — усклікнула Анюта Жмэйдава.

— А табе адкуль ведаць? — незалюбіла Прося.

— Дак расказвалі ж...

— Ці мала чаго могуць нагаварыць. А ты плявузгаць будзеш.

— Сціхніце вы, бабы,— нарэшце не ўцерпела Палага Хахлова і чамусьці нахіліла да пляча галаву, зрабіўшы пры гэтым пакутлівы твар.— А то дагаворыцеся, што адна адной пасля голае месца паказваць будзеце. Усяго вам шкода. Усяго ў вас хапала. А мне вось свайго,— паказала яна вузельчык,— дык і нічуць не шкода, хоць я яго і не аддала немцам. Бо няма тут нічога такога, каб шкадаваць. Адзін кавалак сала і той без хлеба. Цяпера як будзем есці яго? Не панясу ж я ў Яшніцу яго, раз усе галодныя будуць. Нябось, самі хутка вырвеце з рук.

— Ну што ты, Палага! — паспрабавала суняць яе Анэта Прыбыткова.

— А то я сама не ведаю, што трэба падзяліцца. Зараз во зойдзем за Бялынкавічы да й падсілкуемся разам. Балазе і вада тама ў Бесядзі знойдзецца.

— Вады і етай, што ў Ключы напіліся, ужо да самага вечара хопіць,— засмяялася раптам Роза Самусёва, здаволеная Палагінай пакладзістасцю.

— Нічога, яшчэ не раз захочаце. Вечар далёка. А сала маё, каб ведалі, леташняе. Солі на ім столькі, што й нажом не саскобліш. Так што...

Ужо на выхадзе з лесу, якраз як збочыць на другую дарогу, што вяла паўз Калодліва на Бялынкавічы, вачам кінулася дашчэчка, прыбітая ў чалавечы рост на бярозе. Завостраным канцом дашчэчка гэта паказвала ў той бок, куды кіраваліся верамейкаўскія жанчыны. Рускімі літарамі ў некалькі радкоў на ёй паведамлялася, што бліжэйшыя лагеры «для чырвонаармейцаў і камандзіраў, якія не паспелі здацца ў палон», размешчаны ў бліжэйшых населеных пунктах. Другой сярод іх была ўказана Яшніца.

— Ну во,— зніякавела ўскінула бровы Дуня Пракопкіна,— тута будзеш тыдзень шлындаць па етых лагерах і ўсе не абыдзеш!..

## IX

Торгаючы лейцамі, Брава-Жыватоўскі выкіраваў каня на вясковую вуліцу і павярнуў яго налева, каб ехаць у Бабінавічы па канаплёўскім канцы. Спярша ў Зазыбы з'явілася жаданне паправіць Брава-Жыватоўскага, бо не хацелася разам з ім ехаць на віду ўсёй вёскі, да таго ж і дарога сюды была даўжэйшая, акурат на такую адлегласць, колькі займала вуліца, аднак у час перадумаў — можа, паліцэйскі меў намер па шляху забегчы яшчэ дамоў. Але дарэмна. Той не спыніў каня насупраць сваёй хаты. Значыць, ён проста спачатку ўзяў сабе ў галаву ехаць у мястэчка кружна, паўз Халахонава хацішча. Праўду сказаць, у выбары дарогі не апошнюю ролю магла адыграць і прывычка, бо канаплёўцы заўсёды кіраваліся ў Бабінавічы гэтым шляхам.

— Сын твой таксама павінен будзе з'явіцца ў валасную ўправу,— буркнуў паліцэйскі, калі яны з грукатам пераехалі першы масток за вёскай.— На ўлік трэба стаць, і ўсё такое.

— Ага,— думаючы пра другое, кіўнуў Зазыба.

Тады Брава-Жыватоўскі павярнуўся тварам да Зазыбы і ўсміхнуўся, акурат падахвочаны.

— Якраз дарэчы ён дамоў прыйшоў.

— Адбыў сваё, то і прыйшоў.

— А мне не абавязкова ведаць, адбыў Масей свой тэрмін ці не. Урэшце, сам скажа дзе трэба. Але што дамоў вярнуўся, не стаў бадзяцца, гэта добра. І бацьку выгада будзе, і самому можна ўлаштавацца як след. Немцам таксама адукаваныя людзі патрэбны.

— У яго свая галава на плячах, няхай сам думае. А выгады мне ад яго прыходу ніякай. Іншая справа — радасць.

— Не скажы. Выгада ёсць.

— Штосьці мне няўцям яна.

— Ну, а хоць бы ўжо тое, што Масей вярнуўся з турмы?

— Гм, вялікая ўцеха! Ды і пры чым тут турма?

— Гледзячы якая. Ён жа не злодзей і не забойца, а палітычны. Значыць, у яго разыходжанне з савецкай уладай было. Ну, а цяпер такія людзі ў цане.

— Вунь ты пра што? — нявесела ўсміхнуўся Зазыба.— Значыць, за сына і мне цана вышэй будзе? Так я цябе зразумеў?

— Так.

— Але ж немцы, мусіць, яшчэ не ведаюць пра Масея?

— Чаму гэта не ведаюць? — усё роўна як абурыўся Брава-Жыватоўскі.

— Адкуль жа ім стала вядома? — кінуў цікаўны позірк на свайго субяседніка Зазыба.— Сам кажаш, яму трэба яшчэ з'явіцца ў воласць, адзначыцца.

— Ну і што? Гэта ж адзначыцца, але.... Словам, ты, Зазыба, не думай, што новая ўлада нічога пра нас не ведае. Ведае, ды яшчэ і як.

— Выходзіць, ты мой дабрачынец? — насмешліва спытаў Зазыба.— Значыць, табе трэба дзякуй сказаць?

— Ну, з гэтым яшчэ паспееш,— паблажліва адказаў Брава-Жыватоўскі.

— Праўда, паспею,— не мяняючы насмешлівага тону, згадзіўся Зазыба.— Але датуль давай мы з табой, Антон, дамовімся так: ты не робіш мне ніякай дабрачыннасці, а я не маю патрэбы ні ў чыім даверы. Па-першае, я ўжо не такі малады, каб думаць аб кар'еры, асабліва пры новай уладзе, а па-другое, для мяне цяпер важней не тое, хто мне давяраць збіраецца, і як, галоўнае, каму давяраць думаю я. Скажу шчыра, да цябе ў мяне даверу няма.

— Дарэмна.

— Не ведаю, але сказаў я, што думаў.

— Дарэмна,— паўтарыў Брава-Жыватоўскі і дадаў: — Цяпер табе не абысціся без мяне.

— Бачу, табе нечага дужа хочацца павязаць адной вяроўкай з сабой і мяне, і сына майго.

— Вяроўкі я не ўю, ты тут памыляешся, але кампаніі тваёй не цураюся.

— Вядома, не з Драніцай жа ўвесь час якшацца? Хопіць таго, што ён падвёў цябе каля крыніцы. Усё хваліўся, што можа па-нямецку, нашы мужыкі нават паверылі, што ён перакладчыкам пры табе, а як да справы дайшло, то лупцоў паспытаць давялося. Ды і немец той таксама нейкі шалапутны — не пазнаў свайго. Помніш, як у тым жарце?..

— Ну, чыя карова мычала, а твая маўчала б,— стараючыся быць спакойным, сказаў Брава-Жыватоўскі.— Твае таксама не меней шалапутныя. Мяне хоць плёткай, а цябе дык і зусім ледзьве са свету не зжылі. Так што дарэмна папікаеш.

— Ды я гэта к слову,— быццам і праўда пашкадаваў Зазыба, што неўзнарок напомніў паліцэйскаму непрыемнае.

— Дык у мяне таксама к слову прыйшлося,— прытворна, але яўна з іроніяй, павініўся Брава-Жыватоўскі.

— Будзем лічыць, што мы квіты.

— Квіты дык квіты,— лёгка згадзіўся паліцэйскі.

Але дарэмна ён спадзяваўся на квіты. Праз нейкі момант Зазыба сказаў:

— А парсюка з фермы вы няправільна ўзялі з Драніцам. Не мелі права.

— Глупства,— паспрабаваў адмахнуцца Брава-Жыватоўскі.— Лася ж неяк трэба было ўпарадкаваць.

— Калгасная ферма — не ўласны хлеў. З такой ахвоты кожны мог бы.

— Дык ты ж распусціў калгас.

— Але гэта яшчэ не значыць, што кожны можа хапаць, што задумае.

— Ат,— смыкнуў шчакой Брава-Жыватоўскі,— не пра гэта сёння трэба гаварыць нам! — І выраз твару свайго зрабіў ледзь не пакутніцкі, усё роўна як і сапраўды ён дамагаўся ў гаворцы нечага такога, што ніяк не даходзіла да Зазыбы.

«Эйш,— насмешліва падумаў Зазыба,— смуткі паліцая бяруць. Але гэта толькі начынка, а будзе цэлая аўчынка. Давядзецца шыла з перцам паспытаць». Тады сказаў:

— А гэта праўду гавораць нашы мужыкі, Антон, што ты ў Махно служыў?

— Служыў,— як ні ў чым не было, адказаў Брава-Жыватоўскі.— А што?

— Дык мы тады і раней, аказваецца, маглі сустракацца з табой? Я ж свой ордэн атрымаў за махноўцаў.

— Ну, пра гэта я, дапусцім, чытаў у раённай газетцы.

— Мог і ты апынуцца сярод іх. І табе б галаву адсек шашкай.

— Ну, гэта яшчэ бабка на два варажыла. Мог ты мне галаву адсекчы, а мог і я табе. Хіба не верыш?

— Але, мусіць, ажно зямлю са злосці грыз увесь час, пакуль жыў у нас ціха.

— Я, як ведаеш, зямлю араў,— сказаў на гэта Брава-Жыватоўскі.— Навошта мне было грызці зубамі яе? Ды мяне тады ўжо ў Махно і не было, як ты шабляй махаў там.

— Ці нарабаваў жа ты хоць золата, будучы ў Махно? — спытаўся Зазыба.

— Канечне, цэлы воз. Няўжо не бачыў, што на маёй хаце страха золатам крыта.

— Ну, дапусцім, хату накрыў яшчэ сам гаспадар.

— Але хто перакрываў яе?

— Перакрываў ты. Але чамусьці ажно не верыцца, што ты без золата. Бо вядома ж, якія вы, махноўцы, рабаўнікі.

— Я, мілы мой, прывык чэсна служыць.

— За ідэю?

— А калі не за ідэю, то ўсё роўна чэсна. Ты думаеш, я ў аднаго Нестара Іванавіча служыў? Я і ў Чырвонай Арміі быў.

— Калі — перад тым, як да Махно перабегчы, ці пасля Гуляй Поля ўжо?

— Што цяпер спавядацца! Трэба было раней цікавіцца.

— Але дзіўна ў цябе выходзіць — служыць служыш, а пахваліцца нібыта і няма чым.

— Чаму? Я ж адкрыта служу.

— Дык гэта цяпер. Але што скажаш, як немцаў прагоняць?

— А ты ўсё яшчэ спадзяешся, што бальшавікі твае вернуцца?

— Спадзяюся, Антон, спадзяюся!

— Але прызнайся, Зазыба, ты б са мной вось так, па-чалавечы, размаўляў, каб за табой верх быў, каб ты на маё месца стаў?

— Па-першае, я на тваё месца не пасягаю. А па-другое, ты таксама хутка іначай запяеш. Гэта пакуль няма канчатковай пэўнасці, што ўлада твая надоўга зачапілася ў нас, дык ты анёлам прыкідваешся.

— Ну, ты гэта мне гаварыў ужо,— запярэчыў Брава-Жыватоўскі,— але, як бачыш, я ўсё яшчэ не спраўдзіў тваіх спадзяванняў. Ніхто ў Верамейках не можа паскардзіцца, што я зрабіў шкоду яму. І справа зусім не ў тым, што нечага чакаю. Тут, здаецца, ужо ўсё ясна. Чакаць лішне не трэба. Улада памянялася назаўсёды. Не ведаю, ці доўга будуць у нас самі немцы. Гэта ўжо справа іхняга ўрада. Аднак бясспрэчна адно — савецкай улады яны больш не дапусцяць. Сам ведаеш, сіла салому ломіць. Так што дарэмна ты спадзяешся на бальшавікоў. Не вернуцца яны.

— Дурны ты ўсё-такі, Антон,— цярпліва даслухаўшы да канца паліцая, усміхнуўся Зазыба.— Бальшавікі — гэта людзі. Жывыя людзі. І ніякая ўлада не прымусіць іх адмовіцца ад сваіх перакананняў. Паспрабуй выкінь з чалавека душу. А перакананне — гэта і ёсць душа. Ну, а паколькі людзі жывуць паўсюль, паколькі без людзей на зямлі немагчыма, значыць, і бальшавікі будуць заўсёды сярод іх.

— Ну от, я табе пра Хаму, а ты мне пра Ярому,— пацікнуў плячамі Брава-Жыватоўскі.— Пры чым тут душа, пры чым перакананні? Я гавару пра бальшавіцкую ўладу. А хто пра што думае — чорт з ім, млын, як сам бачыш, вялікі, усё перамеле. Не ў адных жа бальшавікоў перакананні. Былі свае перакананні некалі ў кадэтаў, у эсэраў, у меншавікоў, у анархістаў. Бальшавікі перамалолі іх на сваім млыне. Цяпер чарга настала за самімі бальшавікамі. Дасць бог, нацыянал-сацыялісты перамелюць іх.

Задаволены сабой, што гэтак грунтоўна давёў Зазыбу свае меркаванні, Брава-Жыватоўскі колькі часу ехаў моўчкі.

Дарога ўжо ішла па краі тарфяніка, дзе першы год высаджвалі кок-сагыз. Расліна гэтая для тутэйшай зямлі была невядомая, пра яе, здаецца, наогул ніхто не чуў дасюль не толькі ў Верамейках, а і па ўсёй Бесядзі. І вось сёлета ва ўсім раёне пачалі прапагандаваць яе яшчэ з самай зімы. Крайне патрэбна была гума. У земаддзеле быў уведзены нават асобны аграном па кок-сагызу, а ў калгасах створаны брыгады, якім цалкам належала займацца вырошчваннем новай сель-

скагаспадарчай культуры, якая мела стратэгічнае значэнне, прынамсі, прапагандуючы яе сярод калгаснікаў, усе, хто меў дачыненне да гэтага, націскалі на патрэбу ў ёй іменна са стратэгічнага боку. Зразумела, што ў Верамейках таксама была створана такая брыгада. І праз усю сёлетнюю вясну верамейкаўскія калгасніцы не паспявалі выводзіць цыпкі на руках і нагах. Але дарэмна стараліся. З вайной неяк адразу прапала цікавасць да кок-сагызу. Пра яго забыліся. І тады па тарфяніку зноў пайшоў расці пырнік, за ім — балотны перац і розная іншая трава, якая заглушыла кволыя парасткі новай расліны. Так што, лічы, кок-сагызу ў Верамейках ніхто і не бачыў. У кожным разе, у густым зарасніку балотнага перцу ды пырніку адшукаць яго цяпер немагчыма было. Выходзіла, што верамейкаўцы ў выніку гэтага дарэмна страцілі ладны кавалак сенажаці, бо датуль як узараць трактарам урочышча, тут кожны год буяла лугавая трава, бывала, аўсяніца высыпала чалавеку па самыя клубы і залівала пасярод лета фіялетавай паводкай увесь прасцяг, што пачынаўся ад гэтай дарогі і распасціраўся да новых калгасных лядаў, на якіх сеялі проса, авёс і грэчку.

Гледзячы цяпер сумнымі вачамі на заглушаны пустазельнымі травамі тарфянік і шкадуючы пра згубленую сенажаць, Зазыба прыгадаў нечага, як першы раз прывозіў сюды гадоў колькі назад Чубара. Тады яны таксама ехалі з Верамеек вось гэтай дарогай. Чубар толькі што прыняў ад Зазыбы калгасныя справы, але паколькі па намаганню Маштакова Зазыба заставаўся ў калгасе загадчыкам гаспадаркі, а гэта значыць, фактычным намеснікам старшыні, то яму выпала паказваць новаму старшыні і арцельныя ўгоддзі. Здаецца, якраз тымі днямі ваўсю цвіла тут лугавая аўсяніца. Паставіўшы ў алешнік ад сляпнёў жарабка-куплёніка, яны доўга хадзілі спярша па сенажаці, затым па лядах, балазе было чым захапляцца. Тут жа абодва сталі таксама міжвольнымі сведкамі, як па-над лядам з аўсом ястраб напаў на перапёлку...

— Дык а ўсё-ткі,— адарваў Зазыбу ад гэтых думак Брава-Жыватоўскі,— ты не адказаў мне. Што б ты рабіў са мной, каб раптам апынуўся цяпер на маім месцы, а я вось гэтак, як ты, палохаў цябе?

Зазыба націскаў вялікім і ўказальным пальцамі левай рукі на вачах павекі, быццам тыя пяклі ад бяссонніцы, тады перастаў і глыбока ўсміхнуўся.

— А нічога,— сказаў ён роўным голасам.

— Няўжо?

— Можаш паверыць. Бо навошта б мне было гэтым займацца. Ты ж дэзерцір, ну, а дэзерціры падлягаюць вайсковаму трыбуналу. Так што, я проста быў бы пазбаўлены нават магчымасці прымаць удзел у вырашэнні твайго лёсу.

Дзіва, але Брава-Жыватоўскага гэта нікольки не збянтэжыла, няйначай, за час акупацыі ён паспеў ужо грунтоўна абдумаць сваё становішча, прызвычаіцца, таму гатовы быў да любога павароту падзей, цалкам пакладаючыся на шчаслівую планіду.

— Значыць, ратунку не будзе? — валодаючы сабой, спытаў ён яшчэ, але адказу чакаць не стаў, пачаў, акурат зняверана, успамінаць: — А на спаса ты не такі катэгарычны быў, Зазыба. Помніш, нават надзею нейкую наперад даваў?

...Гэты раз народу на вуліцах у Бабінавічах было больш чым калі. Мусіць, мястэчка пастуова прызвычайвалася да жыцця ў акупацыі, прыціралася да новых умоў. Але што адразу запала Зазыбу, дык гэта адсутнасць на выганах, у прамежках паміж дварамі хатняй жыўнасці — не тое, што раней, калі толькі і асцерагайся, каб не наехаць неўзнарок то на свінню з плоймай тлустенькіх парсючкоў, якая магла разлегчыся карміць іх проста на дарозе, то яшчэ на якую-небудзь жывёліну, якая таксама вольна адчувала і паводзіла сябе, не кажучы пра курэй ды гусей, якім і зусім ніякай забароны не было. Нават сабакі і тыя не кідаліся сёння з падваротняў услед.

Немцаў верамейкаўскія вазакі ўгледзелі тады, як уз'ехалі на галоўную мястэчковую вуліцу, што вяла з гэтага боку паўз вялікі, яшчэ ад панскіх часоў сад на кірмашовую плошчу, што ля царквы. Немцы таксама ехалі на возе, але насустрач. Было іх тры. Адзін, седзячы з нагамі ў перадку, паганяў лейцамі вялізнага каня, які ледзьве ўмяшчаўся ў аглоблях, а два другія сядзелі паабапал і размаўлялі паміж сабой, часам паварочваючы да фурмана галовы. Прыкмеціўшы немцаў, Брава-Жыватоўскі яшчэ здалёку заварушыўся на возе, сунуў у рукі Зазыбу лейцы.

— Цяпер ты,— сказаў ён.

Зазыба ўзяў лейцы, але з усмешкай падумаў, што Брава-Жыватоўскі, няйначай, гэтым хоча зрабіць выгляд перад немцамі, паказаць сябе як мае быць аж да

таго, што мае ўласнага фурмана. Але па тым, як паліцэйскі пачаў адстаўляць далёка ад тулава локаць з павязкай, стала неўзабаве зразумела, што яго непакоіць зусім іншая рэч. Аказваецца, Антон баяўся, каб немцы не палічылі яго з вінтоўкай за выпадковага, варожа настроенага да іх чалавека. У сувязі з гэтым на памяць Зазыбу прыйшло здарэнне ля верамейкаўскай крыніцы. Тады Брава-Жыватоўскі ўвесь час таксама стараўся трымаць на віду гэтую руку з паліцэйскай адзнакай. Аднак абачлівасць яго не дапамагла. Ад цяперашняй згадкі Зазыбу зрабілася яшчэ больш смешна, але, каб дарэмна не злаваць Брава-Жыватоўскага, ён не падаваў адкрыта выгляду, смяяўся ў душы — маўляў, сапраўды свае свайго не пазнаюць!..

Тым часам вазы размінуліся на шырокай местачковай вуліцы, і Зазыба з раўнівым пачуццём, быццам яго знарок і неспадзявана ашукалі, адзначыў для сябе, што немцы нават вокам не кінулі ў іх бок, а праехалі міма, бесклапотныя, цалкам захопленыя сабой.

Калі Брава-Жыватоўскі з Зазыбам пад'ехалі да камендатуры, якая размяшчалася ў былым будынку сельскага Савета, там ужо сядзелі на лаўках, што па два бакі высокага, крытага ганка, выкліканыя на нараду да каменданта з мястэчка і навакольных вёсак старасты, таксама старшыні калгасаў, дзе такія засталіся, напрыклад, бабінавіцкі Абабурка, і іншыя добраахвотныя і прымусовыя чыны валаснай управы. Усяго тут, разам з паліцэйскімі, сышлося чалавек дваццаць. Як меркавалася немцамі, яны павінны былі дапамагаць устанаўліваць у вёсках па два бакі Бесядзі «новы парадак».

Акрамя Абабуркі, якога Зазыба добра ведаў па даваенных нарадах, ён убачыў яшчэ Захара Доўгаля, што быў старшынёй калгаса ў Гончы, таксама даўняга актывіста Аўдзея Хрупака з Ніжняй Варонаўкі. Наогул, знаёмых твараў кінулася ў вочы нібыта і больш, чым два гэтыя, але хто яны, Зазыба пэўна сказаць не мог, каб спыталі, хоць пераконаны заставаўся, што яму раней усё-ткі даводзілася сустракаць іх. Затое Зазыба мог пацвердзіць адно: гэтыя людзі, акрамя трох — Абабуркі, Доўгаля і Хрупака, не мелі дачынення раней ні да кіраўніцтва гаспадаркай, ні тым больш да актыўнай грамадскай дзейнасці. Мусіць, належалі яны да такіх добраахвотнікаў, што і Брава-Жыватоўскі, калі,

вядома, не да такіх, як сам Зазыба. У кожным разе, гэтую акалічнасць, хто і як тут апынуўся, можна было высветліць і пасля.

Абабурка, між тым, згледзеў Зазыбу таксама хутка, яшчэ тады, як той лаштаваў каня паміж вазоў, але нібыта спалохана тут жа адвёў вочы, няйначай, не хацеў сустрэчы пры гэтакіх абставінах. Затое Захар Доўгаль падышоў адразу, па старой звычцы, зусім без унутранай скаванасці, паважна падаў руку для вітання.

— Цябе таксама паклікалі? — спытаў ён, але як пра штосьці звычайнае.

Хаваючы супраць свайго жадання вочы, Зазыба адно кіўнуў у адказ галавой.

Было чуваць, як на ганку, смеючыся, нехта расказваў:

— Дык я й кажу, едзе ета Адольф па дарозе за нашай Слабодкай, а тама мужык поле арэ пад зябліва. Дуцік, можа, чуў? Ну, і як бывае звычайна, на заваротах плуг на руках патрымаць не хоча. Лянуецца. Дарогу таксама калупае. Вядома, што Адольфу дрогка па такой дарозе ехаць. Вось ён і падзывае Дуціка да сябе. Кажа: «Я цябе зараз навучу, як поле араць, маць твою так!» — ды шомпалам, шомпалам.

— Ну, што шомпалам з'ездзіў, ета не дзіва,— згаджаўся другі хтосьці,— з шомпалам ён не расстаецца, можа, нават і спаць кладзецца, а вось што па-мацеры... У немцаў жа не такая лаянка, як у рускіх.

— Затое другая ёсць. Як ета?..

— Ат, у іх адно гунд ды гунд, швайн ды швайн *.

Захар Доўгаль прыслухаўся да галасоў на ганку, задзірліва ўсміхнуўся:

— Вось як легенды складаюць. Звычайны садыст і самадур, а яго авечыя душы за руплівага гаспадара выдаюць, за настаўніка.

— Ладна, няхай байдуны захапляюцца, няхай цешацца, пакуль самім не папала ад Адольфа,— падміргнуў яму Зазыба і мякка ўзяў за локаць: — Лепей скажы, як вы там у сваёй Гончы?

— Ды, мусіць, горш, чым вы ў Верамейках. Мы ж не паспелі падзяліць гаспадарку. Так і жывём калгасам. А я, бачыш, старшыня. От зараз паслухаем, што нам Гуфельд скажа, якія ў яго планы на наш конт. А цябе што, старастам верамейкаўцы выбралі?

---

* Сабака, свіння *(ням.)*.

— Не, бог мілаваў. Ды і наогул не займаліся яшчэ такой справай, як выбары новай улады. Абыходзімся адным паліцэйскім.

— Але пасля нарады ты не спяшайся, пабудзем недзе разам,— у мяне справа да цябе, ды не для чужых вушэй.

Прыехаўшых на нараду паклікалі ў камендатуру.

— Хадзем і мы,— сказаў Захар Доўгаль.

— Няхай другія зойдуць, а мы паспеем.

— Не баішся, што пазаймаюць месцы? — жартам спытаў Доўгаль.

— Нічога, пастаім.

Некалі, гадоў пятнаццаць таму, будынак гэты перавезлі ў Бабінавічы з Палужа, правага прытока Бесядзі, дзе яго абсталёўвалі пад млын. Але не скончылі. Калі ў мястэчку спатрэбіўся другі будынак для сельскага Савета, амаль ужо гатовы млын разабралі і перавезлі на конях сюды, пераабсталяваўшы яго знутры паводле новага плана. Цяпер у ім была вялікая зала, у якой праходзілі сесіі сельскага Савета і розныя іншыя ўрачыстасці, таксама меліся прыёмны пакой, дзе сядзеў сакратар Савета, і кабінет старшыні — прасторны пакой на тры акны па адной сцяне. Перш чым трапіць у залу пасяджэнняў, дарэчы, як і ў кабінет старшыні, належала прайсці праз прыёмны пакой, перагароджаны, акурат у ашчаднай касе ці на пошце, лесвіцай-парэнчай [redacted] адмыслова вытачанымі драўлянымі балясінамі.

Немцы таксама не памянялі ўнутранага абсталявання ў будынку, пакінулі ўсё ў ім без змен. Розніца была толькі ў тым, што за перагародкай у прыёмным пакоі цяпер сядзеў немец у чыне унтэр-афіцэра, а кабінет старшыні займаў Гуфельд.

З боку новых гаспадароў будынка адчувалася ветлівая ласкавасць, нават пры ўваходзе ў залу пасяджэнняў стаяў малады салдат, паказваў рукою дарогу гасцям, маўляў, не саромцеся, праходзьце.

Рассаджваліся тубыльцы па радах доўга і шумна, тым больш што ніхто не падганяў і не перашкаджаў. Нават і тады, як усе расселіся і, здавалася, угаманіліся ўжо, а ў зале запанавала адносная цішыня, ім яшчэ доўга давялося чакаць каменданта. Нарэшце парог пераступілі адзін за адным два чалавекі. Адзін быў у цывільным — сярэдняга росту, таксама, мусіць, сярэдніх гадоў, прынамсі, маладым назваць яго нельга было

ні ў якім разе, нават з першага, вельмі кароткага знаёмства. Здавалася, ён зусім без цікавасці павёў цёмнымі вачамі па зале. Але абыякавы выгляд яго быў падманлівы, бо ўважліваму чалавеку хапіла адно злавіць на сабе гэты нібыта не цікаўны позірк, каб пераканацца ў адваротным — за вонкавай абыякавасцю, нецікавасцю ў глыбіні вачэй яго хавалася жывая думка і тая асаблівая ўчэпістасць, тая праніклівасць, што дазваляе ў адзін момант багата што ацаніць і зразумець. Другі немец быў у вайсковым. У адрозненне ад цывільнага, гэты вылучаўся вонкавай сабранасцю, вядома, як і належыць вайскоўцу, нягледзячы на саракагадовую паўнату, у ім нават па выгляду можна было адчуць рухавасць і спрыт чалавека, які пакуль ні ад чаго не збіраўся адмаўляцца ў жыцці. Зайшоўшы ў залу, ён адразу нечага ўсміхнуўся і першы рушыў ад дзвярэй па вузкім праходзе з левага боку да доўгага стала на памосце, які нагадваў заніжаную сцэну. Па тым, што ў руцэ вайсковец трымаў, быццам стэк, звычайны шомпал ад пяхотнай вінтоўкі, няцяжка было здагадацца — камендант Гуфельд.

Не адрываючы вачэй ад каменданта, Зазыба раптам успомніў, як у пачатку акупацыі палічыў быў Гуфельда за... нямецкага камуніста. Магло ж такое прыйсці ў галаву!.. Ад гэтай колішняй недарэчнасці сваёй яму нават зрабілася горача ўсярэдзіне, быццам што разлілося нечакана пад дыхавіцай.

Тым часам камендант спыніўся за сталом, акурат пасярэдзіне, і ўзмахнуў зусім над стольніцай шомпалам, мусіць, ім гэтакі жэст узяты быў за звычай, але прысутнымі ён успрыняты быў, як для постраху.

— Добры дзень, панове,— картава прывітаўся па-тутэйшаму камендант, сабраўшы на сярэдзіну свайго ледзь не квадратнага лоба глыбокія маршчыны, усё роўна як яму каштавала вялікага намагання сказаць гэта; няйначай, ён збіраўся і далей гаварыць па-тутэйшаму, але не здолеў адшукаць у сваёй памяці патрэбныя словы, можа, нават першае з іх, таму бездапаможна засмяяўся і павярнуўся да цывільнага, які выбраў месца збоч, сказаў штосьці па-свойму.

— Камендант вітае вас усіх у гэтай зале,— не ўстаючы з крэсла, пачаў добра-ткі гаварыць па-руску цывільны; тое, што ён не даў сабе цяжкасці падняцца ў прысутнасці каменданта, які стаяў за сталом, сведчыла аб нейкай ягонай незалежнасці, а можа, чалавек

хацеў падкрэсліць гэтым нават сваю непрычыннасць да таго, што мелася быць тут.

Прынамсі, Зазыбу ажно заманулася хуценька ўбачыць, як ставіцца да гэтай самастойнасці цывільнага камендант. Але дарэмна. Той не падаваў ніякага выгляду, каб зразумець, падабаюцца яму паводзіны перакладчыка ці не. «Хто іх тут, чарцей, разбярэ!» — з прыкрасцю падумаў у наступны момант Зазыба. Аднак цікавасць яго да чалавека, які зусім няблага размаўляў па-руску, ужываючы часам нават мясцовыя словы, і які пэўна што выпадкова апынуўся ў перакладчыках, засталася. Таму не больш як праз хвіліну Зазыба пачаў усё часцей пераводзіць позірк з каменданта на цывільнага, хутчэй наадварот, бо зразумелы сэнс зыходзіў ад апошняга; пры гэтым ён, відаць, рабіў свае назіранні занадта падкрэслена, бо неўзабаве і сам адчуў на сабе не менш зацікаўлены позірк цывільнага, дарэчы, які ўжо не пакідаў яго без увагі да канца нарады.

Камендант, між тым, паклаў упоперак стала шомпал, усё роўна як надакучыла страшыць і забаўляцца ім, памацаў вызваленай рукой, не паварочваючы галавы, спінку крэсла ззаду, пасунуў па дашчаным памосце трохі да сябе, каб акурат прыйшлося па задзе, і сеў. Пры гэтым ён неяк рэзка адкінуўся на спінку крэсла, можа, яшчэ не дакрануўшыся ягадзіцамі да цыраты, якой было абабіта сядзенне, міжволі стварыўшы смешнае ўражанне. Але на тварах прысутных не адбілася яно, дзіва што — не тыя абставіны, не тыя ўмовы і не тое месца, каб дазволіць сабе хоць незнарок зубаскаліць. Тубыльцы паводзілі сябе стрымана, нават з паважнасцю: у каго яна была прытворная, у каго палахліва-неўразумелая, а ў каго, натуральна, адкрыта вернападданіцкая.

— Перш чым гаварыць пра нашы мясцовыя справы, я зачытаю вам, панове, зварот генеральнага камісара да жыхароў Беларусі.— Камендант рыўком выструніўся за сталом і ўзяў з тоўстай папкі, якую прынёс [illegible] сабой, аркуш сіняй паперы.— Вызвалены з-пад бальшавіцкага ярма,— пачаў ён чытаць,— неперawможнай сілай пераможнай нямецкай зброі беларускі край вольна ўздыхнуў. Прагучаў і змоўк бразгат зброі на Беларусі. Пад надзейнай апекай нямецкіх узброеных сіл можна зноў узяцца за адбудову зруйнаваных дамоў, майстроўняў і гаспадаркі. Следам за нямецкім

салдатам прыйшоў сюды нямецкі ўрадовец, каб абняць кіраўніцтва краем. Мэтай ягоных, слаўных ува ўсім свеце і прызнаных нават зайздроснымі ворагамі, здольнасцяў з'яўляецца стварэнне для вас дабрабыту і забяспечанай будучыні ў межах новага вялікага нямецкага парадку, які ўсталюецца ў Еўропе. Ён прыйшоў, як прыяцель ахвочага да супрацоўніцтва народа, як вартаўнічы справядлівага парадку і спрактыкаваны будаўнік агульнага дабрабыту. Край павінен зноў адрадзіцца. Вам і вашым дзецям будзе забяспечана спакойная будучыня дзякуючы нямецкаму парадку... Беларусы, першы раз у вашай гісторыі перамога Германіі дае вам магчымасць забяспечання вашаму народу свабоднага развіцця і спакойнай будучыні без расейска-азіяцка-бальшавіцкага ўціску і чужанацыянальнага панавання. Я спадзяюся, што кожны з вас зразумее, што ягоныя інтарэсы сцісла звязаныя з інтарэсамі Германіі і што вы будзеце вернымі паслядоўнікамі і памочнікамі нямецкага кіраўніцтва.

Услед за камендантам цывільны скончыў перакладаць, тады ў зале пачуліся воплескі. Для Зазыбы гэта настолькі было нечаканым, што ён спачатку нават не ўсвядоміў сабе, чаму раптам узніклі яны. Сам ён не стаў пляскаць у далоні, але каб не мецъ пасля клопату, заварушыўся на месцы, быццам таксама ў радасці з поваду зачытанага камендантам звароту генеральнага камісара Беларусі. Вачэй ён пры гэтым не ўзнімаў, глядзеў на свае каленкі, адчуваючы на сабе ад стала праніклівы позірк немца ў цывільным.

Камендант тым часам зноў нязручна апусціўся задам на крэсла і яшчэ пад воплескі нешта сказаў перакладчыку.

— У цэлым насельніцтва вашага раёна,— пачаў ён зноў праз нейкі момант,— сустрэла нашы войскі лаяльна, у некаторых вёсках нават па добраму вашаму звычаю з хлебам-соллю. Напрыклад, у Забычанні такім чынам сустрэлі танкавую калону Якіменка Павел і Каплунова Настасся, у Белым Камені — Прывалаў Трыхван, а ў Арцюхах селянін Лахманоў спыніў артылерыйскую батарэю і паказаў міны, якія былі закладзены на дарозе савецкімі сапёрамі. Разам з тым сёння я асабіста атрымаў загад ад ваеннага каменданта раёна, у якім указваецца, што ёсць выпадкі, калі асобнымі злаўмыснымі ворагамі новага парадку распаўсюджваюцца ложныя весткі з фронту, а дзве сям'і з

Прудзішчанскай воласці пакараны за адданасць нацыянал-сацыялізму. Акрамя таго, маюцца выпадкі нападу на нямецкіх салдат. Так, каля Прусінскай Буды ўзброеныя незнаёмыя напалі на аўтамашыну, у якой ехаў начальнік палявой жандармерыі раёна. Паколькі вінаватыя не былі выяўлены, давялося ўзяць з кожнай навакольнай вёскі па заложніку. За сем прабоін, якія аказаліся ў борце аўтамашыны, расстраляны сем чалавек мясцовага насельніцтва. У загадзе ваеннага каменданта раёна спецыяльна падкрэсліваецца — за кожны падобны выпадак, калі не будуць выяўлены сапраўдныя злачынцы, палявая жандармерыя і паліцыя парадку мусіць расстрэльваць заложнікаў. Мы таксама аб'яўляем бальшавіцкім агентам: кроў за кроў, а смерць за смерць. А вы непасрэдна павінны давесці загад у сваіх вёсках. Акрамя таго, мы сёння дадзім кожнаму прадстаўніку адозву, атрыманую ад дзяржаўнага камісара ўсходняга абшару ў застэмпоўстве пана Фрындта, якую вы старанна перапішаце ад рукі зразумелым почыркам у некалькіх экземплярах і вывесіце на самых людных месцах, каб кожны селянін ведаў, як яму паводзіць сябе і за што ён пасля мецьме адказваць. Гэта што датычыць распараджэнняў і загадаў вышэйстаячых улад. Разам з тым вам неабходна растлумачыць таксама сваім аднавяскоўцам, што ўсяму насельніцтву воласці належыць цяпер абавязкова вітацца з нямецкімі салдатамі і афіцэрамі — мужчынам і жанчынам. За непавагу да афіцэраў арміі вялікага фюрэра вінаватыя будуць карацца. Гэта, між іншым, датычыцца і чыноў паліцыі. Пры сустрэчы з нямецкім афіцэрам чыны паліцыі павінны аддаваць чэсць, беручы пад казырок, мужчыны — здымаць шапкі, жанчыны — гаварыць «добры дзень!». Зразумела?

— Так, так,— заківалі галовамі найбольш вернападданыя, а можа, і ўтарапелыя тубыльцы, акурат коні ў гарачы дзень.

Тым часам Захар Доўгаль, які сядзеў побач з Зазыбам, непрыкметна піхнуў ботам яго нагу. Шапнуў:

— Дажылі, брат!.. Спярша кось-кось, а тады лазінай па баку, лазінай!..

— Баюся, што адной лазінай не абыдзецца,— не паварочваючы галавы да суседа, ціха азваўся Зазыба.— Чуў жа, як зрабілі ў тых вёсках, што вакол Прусінскай Буды. У нас таксама ўжо ледзьве такое не здарылася.

Як і кожны спрактыкаваны дакладчык, які, акрамя ўсяго іншага, разлічвае яшчэ і на эфект ад сказанага ў аўдыторыі, Гуфельд даў трохі часу паварушыцца тубыльцам у мулкіх крэслах, нават перамовіцца, падумаўшы сабе — няхай-тка і яны пабрэшуць на свой хвост, а то некаторыя ваўком падшыты, тады пачаў гаварыць зноў:

— Тут, у зале, знаходзяцца, за малым выключэннем, нашы сябры, якія ўжо далі згоду супрацоўнічаць з новай уладай. Я спадзяюся, што заклік генеральнага камісара знойдзе адпаведны водгук і сярод іншых прысутных. Мы сабралі вас сёння, мужы даверу, каб адным часам і паразумецца і вырашыць надзённыя справы, якія датычаць шырэйшага распаўсюджання новага парадку ў воласці. Вы амаль усе тут сяляне. Таму і гаворка ў першую чаргу будзе пра зямлю. Ад савецкага рэжыму атрымана цяжкая спадчына. Зямля, як вы самі ведаеце, была размеркавана па калгасах. Сяляне ў выніку калектывізацыі перасталі быць сялянамі ў поўным сэнсе гэтага слова. Вы зрабіліся па-сутнасці наёмнымі вясковымі рабочымі. Мэтай германскіх улад стане хутчэйшая і радыкальная ліквідацыя савецкай недарэчнасці, якой з'яўляюцца вашы калгасы. Аднак кожнаму разумнаму селяніну павінна быць зразумела, што цяпер няма магчымасці адразу, без правядзення значных падрыхтоўчых работ, ліквідаваць калгасы і перайсці да індывідуальнай гаспадаркі. Таму калгасы пакуль будуць захоўвацца, каб затым паступова пераходзіць да абшчыннага гаспадарання. Успомніце, што было з сельскай гаспадаркай, калі савецкая ўлада без паступовага пераходу, адным росчыркам пяра, усюды заснавала калгасы?.. Гэтак сама здарылася б і цяпер, калі б адбыўся раптоўны падзел калгасаў. Сельскагаспадарчая вытворчасць моцна скарацілася б, чаго ні ў якім выпадку мы не можам дапусціць.— Тут камендант запнуўся на момант, яўна спахапіўшыся, затым папраівіўся, дадаўшы: — У вашых асабістых інтарэсах. Як разумееце, усяму свой час. Але вы дачакаецеся, што нарэшце будзе выдадзена распараджэнне дзяржаўнага міністра аб адмене калгасаў. Будзе ўведзены новы парадак землекарыстання.

«Значыць, вось дзеля чаго прывёз мяне Брава-Жыватоўскі сюды,— наперад падумаў Зазыба, бо ў Верамейках усё зроблена наадварот.— Значыць, адказваць давядзецца?» — Але ні страху, ні нават слабай утра-

пёнасці ён чамусьці не адчуў, можа, таму, што камендант і перакладчык усё яшчэ працягвалі гаварыць і сваімі няроўнымі галасамі перашкаджалі, каб гэтая думка цалкам авалодала Зазыбавай свядомасцю, хоць на правай скроні, бліжэй да віска, і запульсавала ў яго здрадлівая жылка.

А вось і тое галоўнае, што павінен быў пачуць на гэтай нарадзе Зазыба, уласна дзеля чаго яго і выклікалі ў мястэчка.

— У сувязі з гэтым я мушу сказаць, што ў некаторых вёсках воласці, асабліва па той бок ракі, адбываецца самачыннасць. Не чакаючы распараджэння, там пачалі дзяліць калгасную маёмасць, пасевы і гэтак далей. Напрыклад, у Верамейках.— Камендант павёў вачамі па зале, адшукаў сярод мужоў даверу Брава-Жыватоўскага і даў знак рукою падняцца з крэсла.— Правільна я кажу, што ў вашай вёсцы без дазволу пачалі дзяліць калгас?

— Так,— ускочыў Брава-Жыватоўскі.

— Хто ў гэтым вінаваты?

Брава-Жыватоўскі паглядзеў на Зазыбу.

Тады і камендант перавёў свой позірк у той рад крэслаў, дзе сядзеў Зазыба.

— Хто вінаваты? — ужо з разлікам на Зазыбу гукнуў зноў Гуфельд, хоць яшчэ і не ведаў, хто мусіць падняцца на яго запытанне са свайго месца.— Адкажыце, хто вінаваты?

Зазыба зразумеў, што трэба адказваць. Паволі, быццам замінала што паміж крэслаў, выпрастаўся.

— На якой падставе вы зрабілі гэта? — выразна злуючыся, уставіўся на яго камендант.— Хто вы?

— Загадчык гаспадаркі.

— Заўхоз? — удакладніў перакладчык.

— Так.

— А старшыня дзе? — спытаўся камендант.

— Пайшоў разам з фронтам.

— Ён камуніст?

— Так, камуніст.

— А вы?

Зазыба змоўчаў.

Дзіва, але камендант таксама не настойваў на адказе, усё роўна як штосьці ведаў ужо пра Зазыбу і цяпер успомніў тое.

— Дык навошта вы без дазволу падзялілі калгас? — зноў задаў ён першае пытанне.

— Так рашыла праўленне,— адказаў Зазыба і нават сам здзівіўся, што зусім супакоіўся.— У нас па арцельнаму статуту ў гаспадарцы адзін чалавек нічога не рашаў. Ні старшыня, ні загадчык гаспадаркі, ні брыгадзіры, ніхто іншы. Для вырашэння калгасных спраў мы выбіралі праўленне. Праўленне ўсё і рашала. Так што...

— Ну, мы з гэтай граматай вашай трохі знаём мы,— незалюбіў такога абцякальнага і, па сутнасці, безадказнага тлумачэння Гуфельд.— Вас не папярэджвалі аб асабістай адказнасці?

Зазыба неўразумела паціснуў плячамі.

Тады камендант перавёў колкі позірк на Брава-Жыватоўскага.

— Не паспеў я, пан камендант, папярэдзіць яго,— нечакана схлусіў той, хоць, вядома, ні ён сам, ні Зазыба не забыліся пра размову на возе, што адбывалася на спаса, а пасля і назаўтра, ужо ў полі.— Пакуль прыехаў ад вас у вёску, там усё пачалося. Сапраўды праўленне рашыла. Праўда, яно цяпер не ў поўным складзе, не хапае членаў праўлення, таму пасяджэнне можна лічыць непаўнамоцным.

Мусіць, гэтая, апошняя акалічнасць не мела для каменданта ніякага значэння, бо ён тут жа няверліва глянуў на цывільнага, штосьці абурана сказаў. Але той не стаў тлумачыць камендантавы словы мужам даверу, толькі ўсміхнуўся.

— У якім стане цяпер гаспадарка? — хутка пераклаў ён наступнае камендантава пытанне.

— Усё падзелена,— адказаў Зазыба.— Калгаснікі працуюць аднаасобна.

— Але не думайце, што мы не высветлім, хто вінаваты ў гэтым,— папярэдзіў камендант, і па тым, як паглядзеў таксама і на Брава-Жыватоўскага, стала зразумела, што цяпер ён ужо меў на ўвазе не аднаго Зазыбу.— Дарэчы, гэта датычыць не адных верамейкаўцаў. Я адзначаў, што без нашага дазволу пачалі дзяліць калгасы і ў іншых вёсках. Таму каб ведалі — вінаватых будзем шукаць паўсюды. А вы можаце сесці,— літасціва дазволіў ён верамейкаўцам.

Тыя апусціліся на свае крэслы.

Пакуль Зазыба рыпеў ды ўладкоўваўся на месцы, Захар Доўгаль паспеў нахіліцца да пляча яму, прамовіць шэптам:

— Нездарма кажуць — раз не здолеў адсекчы руку свайму ліхадзею, то мусіш цалаваць цяпер яе.

— Нам засталося абгаварыць з вамі яшчэ некалькі важных пытанняў,— перабіраючы паперкі, сказаў, між тым, камендант.— Хутка вы пачнеце атрымліваць ад нас розныя цыркуляры, згодна якіх будзеце дзейнічаць. Адміністрацыйная будова па воласці зацверджана такая: у самой воласці — управа, у якой бургамістр, пісар, рахункавод, аграном, таксама валасная паліцыя парадку; у вёсцы — стараста, намеснік валаснога агранома, адзін паліцэйскі з разліку на дваццаць — трыццаць двароў. У нас ужо ёсць бургамістр. Гэта — пан Брындзікаў. Прывітайце яго.

На сваім месцы ў першым радзе заварушылася і ўстала на ўвесь рост ссутуленая постаць бургамістра, былога старшыні сельспажыўсаюза.

— Ёсць пісар,— працягваў камендант,— ёсць рахункавод. Прыйшлі добраахвотнікі ў паліцыю. Такім чынам, што належыць валасной управы, то тут у нас усё як мае быць. Але яшчэ не ў кожнай вёсцы па воласці ёсць старасты. Не выбраны намеснікі валаснога агранома. Праўда, мы з гэтым свядома затрымаліся трохі, бо там, дзе засталіся на месцы старшыні калгасаў, усё кіраўніцтва па адміністрацыйнай частцы выконваюць яны. Цяпер неабходна паскорыць выбранне старастаў там, дзе былі распушчаны без дазволу калгасы. Трэба таксама ўлічыць, што не хапае і паліцэйскіх. Я падкрэсліваю, на кожныя дваццаць — трыццаць двароў для аховы парадку трэба мець па адным паліцэйскім, значыць, на вёску ў сто двароў у выніку неабходна набраць не менш як пяць. Парадак павінен строга захоўвацца. Нездарма ж мы назвалі паліцыю — паліцыяй парадку. На гэтым я скончыў.

Перакладчык мала пазніўся паўтараць за ім па-руску, таму цішыня ў зале ўсталявалася ледзь не адразу.

— Калі ёсць пытанні,— сказаў ён пасля ўсяго,— пан камендант з задавальненнем адкажа вам.

Першы памеў цікавасць да нечага смуглявы чалавек, што сядзеў побач з Абабуркам.

— Скажыце,— адкашляўся ён,— а якая адміністрацыйная будова ўлады ўстаноўлена ў раёне?

— Я адкажу,— выслухаўшы пераклад, кіўнуў галавой камендант.— Па-першае, раённая ўправа, якая мае аддзелы — народнай адукацыі, фінансаў, а такса-

ма сельгасгрупу, якой падпарадкаваны нарыхтоўчыя і падаткавыя органы. Па-другое, у раёне функцыяніруюць вайсковыя ўлады, якім падпарадкавана і грамадзянская адміністрацыя.

— Тады скажыце, пан камендант,— не садзіўся Абабуркаў сусед,— як будзе падатак цяпер устанаўлівацца, па якіх нормах?

— Гэтае пытанне яшчэ як след не распрацавана,— адказаў камендант,— але хутка і тут будзе ўнесена яснасць. Хутчэй за ўсё для большай зручнасці, пакуль не адбыўся пераход на індывідуальнае землекарыстанне, будуць выкарыстаны матэрыялы савецкіх камітэтаў па нарыхтоўках, у аснову якіх лягуць нормы былых дзяржаўных паставак па ўсіх відах падатку. Разам з тым я хацеў бы сказаць, што найбольш востра цяпер стаіць пытанне не аб падатках, а аб уборцы ўраджаю. Асабліва ў калгасах. Што ж датычыць аднаасобных гаспадарак, як тых, якія дасталіся нам ад Саветаў, так і тых, што ўтварыліся ўжо ў новых умовах, то і тут будуць вызначаны адпаведныя нормы. Зразумела?

— Так.

У другім канцы залы, ці не з самага апошняга рада крэслаў, таксама пачуўся голас:

— Я так зразумеў вас — раз у раённай управе створаны аддзел народнай адукацыі, значыць, і вучоба ў школах будзе адноўлена. Калі гэта можа адбыцца? Звычайна ў нас у школах заняткі пачыналіся з першага верасня, а тут ужо тэрмін даўно сышоў.

— Так, сапраўды,— паслухаўшы пераклад, усё роўна як узрадаваўся Гуфельд.— Новая ўлада адукацыі вашага народа будзе надаваць не менш значэння, чым гэта рабілі бальшавікі. Але больш падрабязна вам на гэта пытанне можа адказаць ваш бургамістр. Пан Брындзікаў, падыдзіце сюды, да стала, і раскажыце мужам даверу ўсё як ёсць. Вы ж, здаецца, былі ўжо на школьнай нарадзе ў Крутагор'і?

Бургамістр выйшаў наперад, паказаў прысутным свой чырвоны, добра адкормлены і адпоены ў спажывецкіх крамах твар.

— Так,— паспешліва пачаў ён старацца, быццам нечага непакоіўся,— мы ў управе ўжо маем сякія-такія інструкцыі на гэты конт. Пачатковае і народнае школьніцтва мае быць цалкам бясплатным. Належная ўвага будзе нададзена таксама разбудове і ўдаскана-

ленню агульнага і спецыяльнага сярэдняга навучэння. Што ж датычыць тэрміну, то тут сапраўды мы ўсе ў раёне спазніліся. Давядзецца пачаць вучобу ў школах пазней: калі не да першага кастрычніка, то недзе ў лістападзе ўжо абавязкова трэба правесці ўкамплектацыю школ і настаўнікамі, якіх, дарэчы, мала засталося ў раёне, і навучэнцамі.

— Тады скажыце яшчэ,— пачуўся другі голас, ужо бліжэй да Зазыбы; належаў ён смугляваму чалавеку ў цёмна-сіняй сацінавай кашулі са стаячым каўняром.— Якія прадметы будуць выкладацца ў школах?

— Нямецкая мова, гэта найперш,— пачаў пералічваць бургамістр,— затым закон божы, хімія, фізіка, батаніка, заалогія, арыфметыка з алгебрай і геаметрыяй, ну, і руская мова, вядома.

— А беларуская?

Мусіць, бургамістр не меў на гэты конт пэўных інструкцый, бо адразу павярнуўся да каменданта. Той доўга, ажно занадта доўга слухаў перакладчыка, некалькі разоў нават перапытваў яго пра штосьці, нарэшце з ухвалой заківаў галавой.

— Пан камендант лічыць,— глянуў у залу перакладчык,— што з боку германскіх улад, як і паабяцана ў звароце генеральнага камісара Беларусі, не будзе рабіцца перашкод, каб у школах вывучалі мясцовую мову. Але вам усім трэба ведаць, што раён ваш пакуль што належыць да вобласці ваенных аперацый.

— Зразумела,— сумеўся смуглявы чалавек, але не сеў на крэсла.

Зазыба раўніва ўсміхнуўся сабе:

«Падлавіў жа, халера!»

— І апошняе пытанне,— сказаў смуглявы.— Па якіх падручніках будзе весціся ў школах навучанне? Якога можна чакаць матэрыяльнага забеспячэння настаўнікам?

— Пакуль не выдадуць новых падручнікаў,— узяў на сябе тлумачэнне бургамістр,— выкладанне трэба ажыццяўляць па савецкіх. Але загадана назаўсёды выкінуць з іх словы «савецкі», «бальшавік» і гэтак далей. Партрэты бальшавіцкіх правадыроў таксама неабходна выкасаваць. Што датычыць матэрыяльнага забеспячэння, то тут захоўваецца ранейшы, у савецкім размеры, аклад, акрамя таго, будзе выдавацца паёк — па дзесяць кілаграмаў збожжа на месяц самому настаўніку і па пяць кілаграмаў на ўтрыманца ў сям'і.

Другім прысутным таксама закарцела даведацца ў камендаента пра што-кольвеч, напрыклад, ці адчыняцца магазіны, якое мяркуецца лячэнне для мясцовых людзей?

— Платнае,— цярпліва адказаў той,— па пяць рублёў за прыём у доктара ў вясковым лячэбным пункце і па дзесяць у гарадской бальніцы альбо амбулаторыі. Ну, а наконт магазінаў, дык тут і сумнявацца не трэба. Без камерцыі яшчэ ні адна ўлада не абыходзілася.

Тады падняўся са свайго крэсла Захар Доўгаль.

— А ў мяне такое пытанне,— выразна хвалюючыся, пачаў ён.— Калгас, як ён задуманы адразу, вымагае калектыўнай працы. Але ж калектыўная праца патрабуе ў сваю чаргу выкарыстання на вялізных палях тэхнікі. Савецкая ўлада давала нам такую тэхніку. Гэта вам кожны пацвердзіць. Таму цікава ведаць — ці забяспечыце вы нас трактарамі, пасяўной і ўборачнай тэхнікай? Асабліва калі ўлічыць, што ў вёсках няма коней?

— Дзе ж вашы тыя, савецкія, трактары? — нездаволена свідрануў камендант вачамі Доўгаля.

— Эвакуіраваны.

— А навошта вы дазволілі эвакуіраваць?

— Дапусцім, у нас асабістага дазволу не пыталіся,— пераадольваючы сябе, каб таксама не адвесці ад каменданта вачэй, адказаў Доўгаль.— Тым больш што трактары, малатарні і іншая такая тэхніка належала дзяржаве ў асобе машынна-трактарных станцый, якія апрацоўвалі калгасныя палеткі па дагавору.

— Не пыталіся! — паморшчыўся Гуфельд.— У вас не пыталіся! І разам з тым раптам высвятляецца, што ў Ніжняй Варонаўцы эмтээсаўскі, а гэта значыць, як вы кажаце, дзяржаўны трактар быў закапаны тайным чынам у лесе, у зямлі. Добра, што знайшліся лаяльныя нам людзі ды выдалі схованку. Так што, не дужа рабіце з сябе прасцячкоў. Мы яшчэ паглядзім, куды што сапраўды падзявалася. Ну, а наконт таго, ці будзе новая ўлада забяспечваць вас тэхнікай, то скажу пэўна — пакуль ніякай сельскагаспадарчай тэхнікі, таксама аўтамашын мы не маем магчымасці выдзеліць. А вось наконт коней?.. Тут мы можам даць вам верную параду. Скарыстоўвайце ў гаспадарцы як цяглавую сілу кароў.— І, убачыўшы, што тубыльцы недаверліва, нават з іроніяй заўсміхаліся, строга павысіў голас: — Так, так, кароў! У Пратэктарацце, напрыклад...

— Дзе, дзе? — не зразумеў хтосьці ў зале.

— У Чэхіі,— растлумачыў перакладчык.

— У Пратэктарацe, напрыклад,— працягваў тым часам камендант,— даўно на каровах выконваюць усе палявыя работы — ворыва, сяўбу, баранаванне, вазавіцу і гэтак далей. Мяркуйце самі, конь працуе ў гаду на ўсю моц трыццаць — сорак дзён, не болей, а харчу на яго трэба запасці на ўсе трыста шэсцьдзесят пяць. Таму замест каня там многія сяляне цяпер трымаюць адну-дзве дойныя каровы. Паколькі ў гаспадарцы каня няма, каровам дастаюцца ўсе кармы. А добра кормячыся, каровы, не зважаючы нават на працу, даюць больш малака. Таму і вам варта пераняць гэты вопыт. Выкарыстанне кароў на самых розных работах — гэта вельмі рацыянальны спосаб вядзення гаспадаркі. Разумееце?

— Да ўжо ж,— муляючыся, пачухаў патыліцу Доўгаль,— але як паарэш на карове, то ўжо... наясіся малака, акурат як з той казы.

Пачуўшы гэта, хтосьці гучна хмыкнуў у сярэднім радзе, здушваючы ў сабе адкрыты смех, але дарэмна — чалавек не стрымаўся, даў сабе волю, а за ім нечакана зарагаталі амаль усе, хто сядзеў на задніх радах: сапраўды, кожнаму дзіва, каб на карове араць!..

Зазыба ад гучнага рогату ажно сумеўся — накліча на сябе Захар няміласць. Але камендант, слухаючы, што даводзіў яму з Захаравых слоў перакладчык, раптам таксама пачаў смяяцца, ці то робячы адно выгляд, ці сапраўды паддаўшыся агульнаму настрою.

Тубыльцы між тым парагаталі, ужо нібыта з дазволу, ды сціхлі.

— На гэтым нарада наша, уласна, скончана, панове,— адразу за цішынёй абвясціў камендант.— Але не спяшайцеся — ёсць адна неадкладная справа, пра якую таксама трэба дамовіцца. Яшчэ ў жніўні каля вёскі Белая Гліна ў часе адступлення Чырвонай Арміі быў спалены на Дзяражні мост. Цяпер ад вайсковага каменданта раёна і начальніка дарожнага аддзела паступіў загад — неадкладна адбудаваць гэты мост. Таму я ў сваю чаргу таксама загадваю — на адбудаванне маста накіроўваць кожнага дня з вёскі па дзесяць падвод з возніцамі і адмысловымі цеслярамі. За гэта адказваюць перад камендатурай чыны паліцыі і старасты.

Па тым, як Гуфельд узяў у рукі свой шомпал, усе ў зале зразумелі, што цяпер нарада сапраўды вычарпала сябе.

* * *

З камендатуры Зазыба выходзіў у ліку апошніх. Нават Захар Доўгаль, які ўсю нараду прасядзеў поплеч, цяпер чамусьці памкнуўся наперад, акурат у яго была задума перастрэць кагосьці на ганку. У душы ў Зазыбы было такое адчуванне, быццам яго толькі што ашукалі альбо, яшчэ горай — незаслужана збэсцілі ўшчэнт, хоць, вядома, нічога асаблівага за ўсе гэтыя паўтары гадзіны, пакуль ішла нарада, не адбылося, урэшце, Зазыба і дасюль усведамляў, куды ехаў сёння з Верамеек, з кім і да каго!.. Але тым не менш душу смактала прыкрасць. І, можа, якраз таму, што нічога падманнага, таксама абразлівага не адбылося: дзіва, але факт, ад якога ні рукамі, ні нагамі, ні галавой — нарада прайшла, як некаторыя людзі любілі раней гаварыць, на высокім узроўні. Галоўнае, ніхто асабіста нікога не лаяў, ніхто нікога не палохаў, не спрабаваў падвесіць на дыбу нават вінаватых, як Зазыба,— а Зазыбу чамусьці хацелася думаць, што сёння ў мястэчка ў якасці адказчыка не толькі ён быў пакліканы, дакладней, прымусова дастаўлены,— дык нават вінаватых усё роўна як знарок памілавалі, няважна, што трохі прыгразілі. Выходзіла, што камендант сапраўды збіраў з навакольных вёсак мужыкоў дзеля таго, каб паразумецца разам, як весці ў воласці ў новых умовах гаспадарку, як ладзіць парадак. Але, ступаючы цяпер за натоўпам па прыступках ганка, Зазыба падумаў і пра тое, што за гэтыя паўтары гадзіны, як слухаў каменданта — прамову яго і адказы на пытанні, неяк зусім не даў сабе цяжкасці ўнікнуць у сутнасць таго, пра што гаварылася на нарадзе, асэнсаваць усё і ўзважыць у галаве. Адно сядзеў на мулкім драўляным крэсле ды слухаў, акурат баяўся прапусціць што. Праўда, была прычына, якая ўвесь час перашкаджала яму перайсці ад крытычнага ўспрымання да аналізу, да асэнсавання камендантавай прамовы і наогул усяго, што давялося чуць: гэта прысутнасць у зале цывільнага, камендантавага перакладчыка, якому Зазыба адразу ўпаў у вока і які потым ужо не губляў яго з-пад увагі, нібыта правяраў па ім, як рэагуюць на ўсё

мясцовыя «мужы даверу». Выйшла, што Зазыба першы пачаў прыглядацца больш да цывільнага, чым да каменданта, хоць, вядома, цікавасць да апошняга павінна была б праявіцца мацней — Гуфельд зрабіўся адыёзнай асобай. Але гэтага не здарылася, бо Зазыбу ўжо здавалася, што камендант для яго страціў цікавасць, прынамсі, тую, што ў іншых падтрымлівалася рознымі чуткамі яшчэ з таго, як немцы заснаваліся ў Бабінавічах. Яму толькі заставалася адчуваць нездаволенасць, што іншы раз даводзілася думаць пра каменданта нават супраць жадання, усё роўна як хто помсціў яму за ранейшыя ілюзіі. Між тым, іначай і быць не магло, бо Гуфельд з'яўляўся той новай рэальнасцю, якая нікольк і не залежала ад Зазыбавага жадання, гэта па меншай меры. Словам, Зазыба, калі разважаць паслядоўна, не так сабе звярнуў увагу на цывільнага, калі той паявіўся разам з камендантам. Але ён не чакаў, што гэтым у адказ выкліча да сябе не меншую цікавасць. Пільная, хоць і не адкрытая чужая ўвага неўзабаве пачала непакоіць, і Зазыба не мог пазбавіцца ад гэтага пачуцця да канца нарады...

Сышоўшы з ганка, тыбульцы не спяшаліся аддаляцца ад камендатуры. Збоку можна было падумаць, што яны гэта вывалілі гурмой на вуліцу ў часе перапынку, каб неўзабаве зноў вярнуцца ў будынак. Пастаўшы ў купкі пад вокнамі чалавек па пяць-сем, курцы пачалі рабіць самакруткі, частуючы адзін аднаго самасадам, а тыя, хто не ўжываў смуроднага зелля, проста далучаліся да знаёмых, калі не пагаварыць, то хоць бы паслухаць. Пры гэтым нехта сказаў, смеючыся:

— Што мне спадабалася сянні, дак ета што баб не было сярод нас. Адны мужыкі засядалі. А то раней панавыклікаюць розных актывістак, а тады за імі і слова ніхто не дасць табе.

— Ну, а як жа без актывістак? — падтрымаў яго другі ахвотнік пагаварыць.— Спярша — прамовы, моў, трэба і нада, а пасля — шуры-муры.

Недзе ўжо наставаў час абеду. Густая і цяжкая духата вісела над мястэчкам — дзіва, але і ўвосень хапала сонца, каб стварыць яе.

Было чуваць, як за садам на бальшаку то заціхалі, то зноў пачыналі гусці машыны. Паслухаўшы няроўны, аслонены дрэвам гул, Зазыба ўспомніў, што ўранні ім з Брава-Жыватоўскім пашанцавала пераехаць баль-

шак свабодна, мусіць, тады яшчэ не паспеў аднавіцца рух. Прыгадаў ён і той раз, калі вёз у мястэчка Марылю, і нібыта нанава пачаў перажываць усё, ведаў, нялёгка даліся тыя хвіліны не толькі яму, а і дзяўчыне; нарэшце ён разважыў, што абавязкова павінен наведацца да яе ў Хоніну хату, балазе недалёка, адразу за пошты, бо Марфа таксама спакою не дасць яму, будзе пытацца, чаму не схадзіў, але тут жа і пашкадаваў, што ўжо зусім па-бацькоўску,— ехаў сюды на пустым возе і нічога не ўзяў з сабой, каб даць Марылі; ды і Марфа чамусьці не здагадалася пра гэта.

Упэўніўшыся канчаткова ў сваім рашэнні, Зазыба пачаў шукаць вачамі сярод «мужоў даверу» Брава-Жыватоўскага. Але той, няйначай, не выходзіў яшчэ з будынка. «От ёлуп,— узлаваўся Зазыба,— прымушае чакаць, бо не кінеш без нагляду каня, тады і праўда на каровах давядзецца яму ў валасць ездзіць». Не было відаць у купках і Захара Доўгаля. «Ну от,— зноў застаўся нездаволены Зазыба,— а казаў, што справу мае, ды каб адзін на адзін». Зазыба не здагадваўся, якая ў таго з'явілася справа да яго, але і без яе не лішне было б пагаварыць з разумным чалавекам, які, па ўсім відна, таксама цяпер пакутуе і трывожыцца не менш за астатніх сумленных людзей.

Цяпер, як ніколі, патрэбны аднадумцы. Так, трэба шукаць аднадумцаў!

Але дзе яны?

У сярэдзіне адной з жывых купак на дарозе Зазыба раптам згледзеў таго самага смуглявага чалавека, які на нарадзе пытаўся ў бургамістра, ці будуць выкладаць у школах беларускую мову. Здавалася, сярод іншых спраў не такая ўжо ўрэшце важная гэта, калі ідзе наўкол вайна і калі на парадку дня наогул стаіць пытанне аб існаванні народа, які гаворыць на той мове, у кожным разе, як думалася Зазыбу, не самая важная, але тым не менш чалавек сваім пытаннем выклікаў у Зазыбы сімпатыю. Цяпер смуглявы чалавек таксама быў у цэнтры ўвагі. Ён нешта расказваў, а тыя, хто стаяў вакол яго, гучна смяяліся. Зазыба ажно пазайздросціў ім і, можа б, не ўтрымаўся ад спакусы дапасці хоць вухам да чужой гаворкі, аднак на гоман з камендатуры якраз выйшаў Брава-Жыватоўскі. Ён трымаў у руцэ трубкаю ўніз вялікі скрутак папер. Па ўсім было відаць, што адчуў верамейкаўскі паліцай тут сябе, як дома, нават лепей, чым дома, калі меў на ўвазе адно-

сіны, якія склаліся паміж ім і жонкай: пасля спасаўскай вечарынкі, на якой ён адкрыўся мужыкам са сваім махноўскім мінулым, Параска зрабілася, як чужая... Брава-Жыватоўскі, між тым, падышоў да воза, нечага запусціў руку глыбока ў сена, быццам правяраў, ці ляжыць што пад ім, тады з захапленнем сказаў, патрэсваючы перад Зазыбам папяровым скруткам:

— Будзем дома развешваць на хатах плакаты! Няхай нашы верамейкаўцы прывыкаюць да новых правадыроў і да розных новых карцінак-малюнкаў.— І, каб не пакідаць Зазыбу ў сумненні, раскруціў верхні вялікі аркуш гладкай паперы і разгарнуў яго на вачах, адстаўляючы ■ адным краем далёка ў бок левую руку.— Вось якую форму неўзабаве будуць насіць чыны паліцыі парадку! — пахваліўся ён, скіроўваючы Зазыбаву ўвагу на плакат, дзе каляровымі фарбамі былі намаляваны нямецкі афіцэр інтэнданцкай службы — чамусьці ў белым мундзіры, з маленькімі, амаль цалкам чырвонымі пагонамі, і паліцэйскі, апрануты ў цёмна-сіні, з шырокім чорным адкладным каўняром фрэнч, і таксама пры пагонах, але без сярэбраных кубікаў на ім; і нямецкі афіцэр, і паліцэйскі, трохі схіліўшыся насустрач, ветліва паціскалі адзін аднаму руку.

Унізе цераз увесь плакат па белай паласе Зазыба прачытаў: «Форма і знакі адрознення для чыноў паліцыі ў вызваленых усходніх абласцях».

Вядома, плакат не мог застацца не заўважаным на вуліцы. Брава-Жыватоўскага адразу абступілі, пачалі разглядваць плакат, а тады і зусім выхапілі яго з рук, і ён паплыў далей. Як падахвочаны, Брава-Жыватоўскі ўзяўся адгарнуць са скрутка другі плакат, пасля трэці, здымаючы іх адзін з другога, бы кашулі. На ўсіх наступных плакатах быў намаляваны ў розных іпастасях Адольф Гітлер. На адным трохі ссутулены фюрэр трымаў за плечы дзяўчынку, усміхаючыся камусьці наперадзе. Подпіс гаварыў: «Вярхоўны правадыр германскага народа праяўляе вялікі і пяшчотны клопат аб дзецях».

— Дык будзем, Зазыба, сёння наклейваць замест Сталіна новага правадыра? — Паліцэйскі сказаў гэта з выразным разлікам таксама на тое, што яго чуюць навокал, і, можа, нават найбольш дзеля гэтага.— Будзем наклейваць ці не?

Зазыбу яго абразлівая знарочнасць абурыла, але ён не паддаўся злосці, кінуў няпэўна:

— А ці трэба?

— Думаеш, рана? — адгадаў, чаго не сказаў адкрыта ён, паліцэйскі, і зарагатаў: — Будзь пэўны. Сваімі вачамі карту ў каменданта бачыў. Якраз не рана. Ужо даўно, больш за месяц, як немцамі пройдзены Смаленск, вароты на Маскву. Украіна таксама амаль уся пала. Засталося толькі Кіеў узяць па той бок Дняпра. Так што, не бойся, сябрам тваім кранты, таму свабодна развешвай плакаты.

— Не, ты ўжо сам рабі гэта,— моцна крутануў галавой Зазыба, дадаўшы: — Дый з гэтым можа справіцца любы малы падшыванец. Адно цукеркі пааб'яцай.

— Адкуль яны цяпер, тыя цукеркі? — зусім сур'ёзна паглядзеў на яго Брава-Жыватоўскі.

— А ты патроны ад вінтоўкі раздай,— кепліва параіў Зазыба.— Яны гэтым цяпер толькі і займаюцца, што самастрэлы робяць. А не, дык сам дай каму пастраляць з вінтоўкі.

— Патроны на ўліку.

— Ну тады, як знаеш. Але што гэта мы сабралі тут мітынг? Каменданту, нябось, можа не спадабацца пасля такой нарады?

— Якраз наадварот.

— Ну, от што,— стрымліваючы сябе, сказаў Зазыба, разумеючы пры гэтым, што іначай цяпер ад паліцэйскага не адкараскацца,— ты сабе едзь у Верамейкі адзін, а мне трэба ў Зялёнкавічы яшчэ, да жончыных родзічаў.

— Нешта ты зачасціў да іх,— нездаволена буркнуў Брава-Жыватоўскі.— Можа б, і мяне запрасіў з сабой? А то сам частуешся, а мне ні разу не перапала.

— Значыць, трэба мець сваіх там родзічаў.

— Але ж як выручаць цябе дык я павінен, а не родзічы, а як частавацца...

— Ты ета пра што?

— Ды хоць бы і пра тое, што ад цябе хацеў пачуць камендант.

— А-а,— усміхнуўся Зазыба.— Ну, то мог не выручаць.

—Урэшце, як хочаш,— махнуў рукою Брава-Жыватоўскі.— Я сабе напарніка ехаць знайду. А сам вазьмі вось гэты напамінак, каб не задумваўся над штокольвеч,— і ён сунуў у рукі Зазыбу аркуш паперы.

— Ну й добра,— Зазыба крута павярнуўся і вый-

шаў з натоўпу. Ён яшчэ пачуў, як нешта кінуў наўздагон Брава-Жыватоўскі, можа, пакпіў, аднак цяпер Зазыбу гэта ўжо не кранала. У яго было такое адчуванне, быццам толькі што выйшаў з балота, дзе дурэлі чэрці.

«Цяпер, гіцаль, доўга будзе напамінаць, што дзеля мяне схлусіў каменданту!..» — з прыкрасцю падумаў ён, кладучы ў кішэню атрыманую ад Брава-Жыватоўскага паперку, хоць і не ведаў, чым бы ў адваротным выпадку магла скончыцца ўся гэтая гісторыя з яго выклікам на сённяшнюю нараду.

На кірмашовай плошчы, куды, не азіраючыся назад, нарэшце выкіраваў па местачковай вуліцы Зазыба, каля газетнай вітрыны, што засталася яшчэ ад савецкага часу, стаяла некалькі жаночых і мужчынскіх постацей. На вітрыне нешта бялела. «Мусіць, ужо нямецкія газеты»,— падумаў Зазыба, успомніўшы, што на спаса іх яшчэ не было тут. Падахвочаны цікаўнасцю, ён перайшоў амаль па дыяганалі местачковую плошчу і вельмі здзівіўся, калі ўбачыў на не зашклёнай ужо вітрыне знаёмыя літары — «Правда». Спярша Зазыба ажно не паверыў сабе, але чым бліжэй падыходзіў да вітрыны, то мацней пераконваўся, што не памыліўся. Местачкоўцы сапраўды чыталі «Правду». Збянтэжаны, Зазыба спыніўся ля вітрыны за спінамі нейкіх дзвюх кабет і, стрымліваючы хваляванне, таксама прыпаў вачамі да газеты. Але тут жа патрос, быццам ад наслання, галавой — загалоўкі артыкулаў былі чужыя, варожыя!.. «Больш за 260 савецкіх дывізій знішчана ў пачатку вайны», «Савецкі ўрад рыхтуе знішчэнне Масквы і Ленінграда»... Акурат яшчэ не верачы, што перад ім звычайная фашысцкая падробка, Зазыба глянуў на агульную назву газеты. Загаловак быў такі ж, як і ў маскоўскай «Правде», адціснуты такім жа маляваным паўкруглым шрыфтом. Але пад ім кінуўся зроку зусім іншы тэкст: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся для барацьбы з бальшавікамі».

«Да чаго дадумаліся гіцлі!» — абурыўся ў душы Зазыба, але прымусіў сябе прабегчы вачамі па ўсіх чатырох старонках фашысцкай падробкі. На адной з іх у слупку тлусным шрыфтам былі вылучаны два радкі: «У часе налётаў на Маскву адзначаны пападанні ў Крэмль». Унізе пад раешнікам — «Лорды засядаюць, а немцы наступаюць» — чарнела аб'ява: «Выражце і захавайце гэты пропуск. З адным пропускам на бок германскіх войск можа прайсці неабмежаваная колькасць

байцоў і камандзіраў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі». Тут жа, узяты ў рамачку, змешчаны быў і тэкст пропуска на дзвюх мовах — па-руску і па-нямецку, маўляў, прад'яўнік гэтага, не жадаючы дарэмна праліваць кроў за інтарэсы жыдоў і камісараў, пакідае пераможаную Чырвоную Армію і пераходзіць на бок германскіх узброеных сіл, за што нямецкія салдаты і афіцэры акажуць перайшоўшаму добры прыём, накормяць і ўладкуюць на працу.

Ніжэй фашысцкай падробкі былі прыклеены дзве аб'явы, надрукаваныя на добрай паперы. Дакладней, першую, мусіць, нельга было назваць аб'явай. Хутчэй то было распараджэнне, хоць подпіс асобы ці ўстановы, ад якой яно зыходзіла, і адсутнічаў. «За няздачу радыёапаратуры,— прачытаў Зазыба,— і прадметаў савецкага вайсковага рыштунку гр-н Карэнін І. асуджаны на 6 месяцаў турмы з 20 дубцовымі ўдарамі штомесяц». «Карэнін?.. Карэнін?..» — пачаў успамінаць Зазыба. У Бабінавічах сапраўды жыў чалавек з такім прозвішчам, але Зазыба добра ведаў, што звалі таго Цімохам. Значыць, гэты Карэнін, што апынуўся ў нямецкай турме, быў хтосьці іншы. Але што ў другой аб'яве? Зазыба прачытаў і яе: «Рыскіна Вольга Рыгораўна, ураджэнка вёскі Малая Ліпаўка, мяняе прозвішча на дзявочае — Тупікава, а таксама мяняе прозвішча свайго сына, Рыскіна Уладзіміра Абрамавіча, нараджэння 1940 года, на сваё прозвішча — Тупікаў, і імя па бацьку дае па свайму хроснаму — Іванавіч». «Ну от,— падумаў Зазыба,— новы парадак у дзеянні!..»

У гэтыя дні, бадай, усім даводзілася шмат чаму здзіўляцца. І шмат што, нягледзячы на ўнутраную падрыхтаванасць, было нечаканым. Нечаканасць наогул выклікае, няхай хоць і часовую, разгубленасць, калі чалавек раптам пачынае не зусім разумець, здавалася б, зусім простыя рэчы. Тым больш калі гэта датычыць ваеннага часу. І не проста ваеннага, а часу варожай акупацыі, калі ўсё, пачынаючы ад грамадска-палітычнага ладу, мяняецца. Таму не дзіўна, што для разумення агульнай абстаноўкі, так званага бягучага моманту, Зазыбу куды больш давалі вось гэтыя дзве маленькія аб'явы, дарэчы, як і загад вайсковага камендантa раёна, што быў зачытаны на нарадзе Гуфельдам, чым нават цэлая газета ў вітрыне, дзе жаданае хутчэй за ўсё выдавалася за сапраўднасць. Тым часам аб'явы

сведчылі пра іншае. Праз іх Зазыба выразна ўбачыў тое пачварнае і жахлівае, чым не толькі пачынала жыць, а і жыло ўжо так званае мірнае насельніцтва, якое не па сваёй ахвоце засталося па гэты бок фронту.

«Але куды ўсё-ткі дзяваўся Доўгаль? — зноў схамянуўся Зазыба.— Якраз пагаварылі б пра ўсё, злашча, што той сам нечага ўгаворваў ехаць у адну дарогу, справу нейкую меў».

Шкадуючы так, ён завярнуўся ад вітрыны, каб зноў перайсці ў тым жа напрамку местачковую плошчу, а тады накіравацца па другой вуліцы за пошту, да Хонінага дома, бо ў яго найбольшая адказнасць у мястэчку цяпер была перад Марыляй. У планах Зазыбу думалася, што ён толькі паглядзіць адно, як уладкавалася дзяўчына, можа, мае патрэбу ў чым, якую здольны будзе ён задаволіць, пасля пехатою пашыбуе сабе па надбяседскай дуброве ў Верамейкі.

Але дарэмна Зазыба непакоіўся. Здаецца, Марыля ні ў чым не мела патрэбы. Прынамсі, на Зазыбу яна ўжо не разлічвала.

Каб убачыць яе, Зазыбу нават не давялося заходзіць у Хонін дом. Марыля выйшла яму насустрач... з нямецкім афіцэрам, перад якім паводле новага парадку Зазыба павінен быў зняць шапку. Дзіва, але якраз пра гэтае новаўвядзенне, пра гэтую старапанскую акалічнасць Зазыба нават не падумаў. А яшчэ большае дзіва было б, каб ён наогул зрабіў так.

Убачыўшы Марылю, якая вяла пад руку па вуліцы афіцэра, Зазыба адразу адчуў, як лінула ў твар яму кроў. Зрабілася і сорамна, і прыкра. Была б магчымасць збочыць куды, то першае, што ў такой сітуацыі належала зрабіць — гэта, нават дзеля таго, каб не даць падставы адчуць такую ж збянтэжанасць ёй. Але збочыць, як на тое, не было куды, адно калі, быццам хлапчуку малому, пераскочыць цераз плот ды схавацца ў сліўніку, што павісаў над вуліцай з гародаў. Тым часам адлегласць паміж імі скарачалася, хутка яна стала такой, што іх ужо аддзяляла паўсотня крокаў. Лаячы ў душы сябе і тую няўдалую хвіліну, якую ён выбраў, каб наведаць Марылю, Зазыба зніякавела пасоўваўся насустрач. Праўда, Марыля жыла ў мястэчку на асобым становішчы, і Зазыба мог даўмецца ўрэшце, што яна цяпер нічога ганебнага не рабіла, ідучы па вуліцы з нямецкім афіцэрам, наадварот, ахвяруе дзеля справы, на якую пакінута тут. Аднак ён чамусьці і не ўспом-

ніў пра гэта, няйначай, як асабістае, акурат бацькоўскае пачуццё замінала ўявіць, чым магла быць Марыля на самай справе. А калі гаварыць далей, то наўрад і ці мела б якое значэнне тое, што Зазыба даўмеўся б да ўсяго, бадай, такая акалічнасць нікольki не зменшыла б вастрыні становішча — сапраўды, а ці ўзрадуецца цяпер яна сама, убачыўшы раптам чалавека, які адзін тут што-кольвеч ведае альбо здагадваецца пра яе. Словам з усёй сітуацыі зразумела адно пакуль — Зазыбу было пакутліва і брыдка ісці вуліцай. У яго ўяўленні ўчынак Марылі выглядаў не толькі не патрыятычным, гэта самае меншае, але і амаральным, маўляў, зрабілася распусніцай!.. «Выходзіць, недарэмна тады папярэджваў Шарэйка?» — падумаў Зазыба. І якраз вось гэту, другую вінаватасць ён чамусьці лічыў ужо зусім недаравальнай — зноў жа, мусіць, па той прычыне, што гэта датычыла яго асабістых пачуццяў.

Не магло быць, каб Марылі таксама дасюль не ўпала ў вочы знаёмая Зазыбава постаць. Тым больш што Зазыба, збянтэжаны такой неспадзяванкай, не скеміў нават перайсці з аднаго боку вуліцы на другі, каб сцежка, што служыла тут тратуарам, не звяла іх з Марыляй твар у твар. Як кажуць, дасюль гатовы быў хоць скрозь зямлю праваліцца, абы не ісці насустрач Марылі, а вось зрабіць самае простае — памяняць абочыны, недадумаўся. Між тым, у наступную хвіліну Марыля прайшла міма, нават вачмі не павяла на Зазыбу. Яна была (ці рабіла выгляд, што гэта так) цалкам занята кавалерам, маладым бялявым обер-лейтэнантам, які таксама здаваўся не менш запалоненым ёю. Выгляд яе ўразіў Зазыбу. Гэта ўжо была зусім не тая мілая ў сваёй сціпласці дзяўчына, якую ён убачыў некалі ў хаце кулігаеўскага Сідара Раўнягіна і якую потым, праз некалькі дзён, прывёз сюды, у Бабінавічы. Цяпер чаго вартыя былі адны, больш чым трэба, паднятыя грудзі, што выпіналі з цеснай блузкі і назойліва лезлі ў вочы. І наогул яна ўся нібыта пакруглела за гэты час, багата што ў ёй цяпер падкрэслівалася знарок, прынамсі, тлумачыць, што азначала тая ці іншая частка яе цела, не трэба было.

Зазыба не здагадваўся, але за тым, як Марыля палюбоўна ішла па вуліцы з нямецкім афіцэрам, наглядаў не ён адзін. Не ведаў ён і пра тое, што яго падапечная рабіла вось гэтак не першы раз. У кожным разе

местачкоўцам, якія жылі на Паштовай вуліцы, яе пагулянкі з немцамі не з'яўляліся навіной, асабліва пасля таго, як незнаёмая дзяўчына, якая невядома адкуль і чаму ўзялася тут, уладкавалася працаваць у вайсковым шпіталі, што не лішне даўно спыніўся ў Бабінавічах і заняў памяшканне местачковай бальніцы, пакінуўшы доктару Каласоўскаму з яго хворымі тубыльцамі месца на пяць стацыянарных ложкаў у старой мураванцы, дзе раней, пры царскім часе, была станавая «халодная», а яшчэ раней царкоўны клір трымаў дары — гаршкі з мёдам, кошыкі з яйкамі, кругі воску, кадкі з насыпаным зернем... Вядома, Марыля не адна такая была ў мястэчку, што кінулася завязваць дружбу з немцамі, аднак на Паштовай вуліцы, апроч яе, яшчэ ніхто не служыў ім, а тым больш гуляў вось так з акупантамі. Праўда, паводзіны чужой дзяўчыны не вельмі каб ужо і дзівілі, дакладней, бянтэжылі тутэйшых жыхароў, бо яна была ўсё ж у мястэчку прыблуднай аднекуль, таму і адносіны да яе склаліся адпаведныя, маўляў, што з чужой возьмеш, хоць тым не менш кожны крок яе не заставаўся без чыёй-небудзь вольнай ці міжвольнай увагі. Адны падпільноўвалі распусную дзеўку проста з абывацельскай цікаўнасцю — а можа, і сапраўды пашанцуе падгледзець нешта такое, што яшчэ не здаралася тут бачыць, словам, падгледзець нештачка, другія наадварот, пазіралі на яе з пагардай, раўніва захоўваючы такім чынам спрадвечную мерку чалавечай ахайнасці ці, як ў дадзеным выпадку, жаночай цнатлівасці, ужо не кажучы пра грамадзянскую годнасць і патрыятычнасць. Гэтыя, апошнія, у сваёй пагардзе не мелі ніякай літасці да прыблуднай дзяўчыны, хоць зноў жа ці варта дзівіцца, бо нават Зазыба, які адзін мог даць рады, і той цяпер не толькі дакараў у думках, а і саромеўся за яе.

Між тым, не з адных вокнаў сачылі за Марыляй і яе кавалерам вольныя ды цікаўныя местачкоўцы. Зазыба раптам змеціў на агародзе, што быў ужо амаль побач з Хоніным дваром, кабету, якая стаяла там, не тоячыся: паклала сагнутыя ў локцях рукі паўзверх паркана, што даходзіў ёй да падпах, і ўсё роўна як чакала Зазыбу, калі той параўняецца. Яна і праўда неўзабаве ўшчала гаворку, але перад тым ажно здзівілася, што пазнала яго. Была кабета гладкая, з круглым незагарэлым тварам, такія гаспадыні звычайна не займаюцца вясковай працай, не капаюцца ў зямлі, няйначай,

гэта належала да так званай местачковай інтэлігенцыі, у якую залічваюць сябе нават школьныя прыбіральшчыцы-тэхнічкі, не тое, што медсёстры ды іншы абслугоўваючы персанал, ці была замужам за чалавекам, за якім не было вялікага ўрону пасядзець і без справы.

— Ну, што? — гукнула кабета насустрач, укладваючы ў гэтыя, пакуль не зусім зразумелыя для Зазыбы, словы столькі з'едлівай іроніі, колькі хапіла б яе на цэлую зацятую сварку.— Нашкодзіў, а цяпер адварочваешся? Гэта ж ці не ты яе прывёз сюды? Думаеш, я не бачыла, як вы з аднаногім краўцом заносілі ў Хоніну хату яе рэчы?

Зазыба маўчаў,— не адказваў і не глядзеў ужо на кабету. А тую ўсё больш зацінала:

— Цяпер хоць ты дзівіся ■ іх! І сучка гэта не пазнае яго, і ён нібыта не рашаецца пазнаць! Можа, дачка нават?

Чуючы перад сабой ледзь не лаянку, Зазыба ішоў па сцежцы з такім адчуваннем, быццам пераадольваў недзе над цёмным вірам высокую кладку, здавалася, ступіш не той крок ці глянеш не ў той бок, як паляціш уніз.

— Гэта я ўсё не пабачу таго Шарэйку,— не сціхала кабета,— а то ён у мяне забраў бы даўно гэтую сучку дамоў к сабе адсюль! А то раптам пасялілі ў чужы дом, а чалавеку цяпер няма дзе жыць! Бачыш, зараз сядзіць вунь Хоня пад плотам з дзецьмі, сіратамі, і страхі над галавой не мае, усё роўна як і хаты не заказваў будаваць сабе, быццам гэта ўжо і не яго дом! Ну і што, калі яўрэй?

Дзіва, але лаянка гэта пастунова пачынала мець адваротнае дзеянне — чым даўжэй кабета знеслаўляла Марылю, а разам і яго з Шарэйкам, тым хутчэй Зазыба мяняўся ў пачуццях да Марылі, на словы яе вырастала ў душы яго супраціўленне, і неўзабаве ён не лішне далёка быў ужо ад таго, каб узбурыцца, хоць, вядома, таксама не дужа будзеш паказваць характар у такім становішчы, бо каму патрэбны цяпер тут шум. Аднак дапярэчанне ўнутры сапраўды з'явілася, і Зазыба ўжо дакладна ведаў, адкуль яно — якраз ад лаянкі гэтай жанчыны. І ён, Зазыба, таксама харош!.. Прывёз ды пакінуў тут, як у лесе сярод ваўкоў, адну... Праўда, не па сваёй задуме прывёз. Але ж нешта думалі тыя людзі, што прасілі зрабіць гэта? І Маштакоў, і той вайско-

вец, няхай што і хлусіў тады пра Масея? Дастаткова было пачаць збіраць у адно думкі так, як зноў нядобрае пачуццё аднекуль стала брацца, тачыць сярэдзіну. Яно было акурат такім, як і ў той дзень, калі яшчэ ў Верамейках ён абураўся, што Марылі знайшлі зусім не дзявочую справу, накіроўваючы сюды, у акупіраванае фашыстамі мястэчка. Можа, і сённяшнія паводзіны яе тлумачыліся гэтым вось, а не тым, што бянтэжыла хвіліну назад яго і што абурала гэтую местачковую кабету, якая лаяла на чым свет стаіць іх абодвух — Зазыбу за тое, што прывёз распусную дзеўку, а Марылю, зразумела, за само яе распусніцтва. І не можа, а хутчэй за ўсё, што так. А калі так, то... Зазыба раптам усвядоміў для сябе прыкрую, нават жахлівую рэч — і той афіцэр, што недзе ішоў з ёю цяпер, Марылі не сябра, і гэта кабета, якая вісне ў з'едлівай злосці на паркане і ледзьве не плюецца ўслед, таксама, лічы, вораг. А тут яшчэ Хоня Сыркін!.. З'яўленне яго ў мястэчку было нечаканым і ўжо, няйначай, што ў пэўнай ступені выпадковым, але аб'ектыўна яно сведчыла пра тое, што Зазыба не зусім дакладна выканаў даручэнне: непрадбачаная акалічнасць, якая выявілася ў Хоніным вяртанні, магла адбіцца — і нават нядробным чынам — на становішчы Марылі, якая заняла пусты яго дом. Сур'ёзна заклапочаны гэтым, Зазыба ў момант забыў пра жанчыну, якая не пераставала кідаць услед яму абразлівыя абвінавачанні, і ледзь не падбегам мінаваў пошту, на ганку якой стаяў немец-вартавы. Зазыба спяшаўся да Хонінага дома не таму, што вельмі закарцела пабачыць гаспадара. Наадварот, у душы яшчэ заставалася надзея, што кабета назнарок абмовілася, каб мацней дапяць яго, і што Хоня-нарыхтоўшчык не вярнуўся ў мястэчка. Але далёка глядзець не трэба было. Сыркін сядзеў з двума сынамі-падлеткамі на мураве паміж сцежкай-тратуарам і парканам, быццам хаваючыся ў цяню: хоць сонца ўжо стаяла насупраць. Усе Сыркіны цяпер нечым нагадвалі кудлатых колішніх старцаў, якія ішлі-ішлі ды здарожыліся, селі адпачыць тут, усё-ткі не ў бязлюдным месцы, можа, хто і падасць міласціну, як звычайна, акраец у торбу альбо медны пятак у шапку. Паўз іх льга было чалавеку прайсці зусім не заўважаным — Хоня трымаў галаву, звешаную амаль на грудзі, акурат у znямозе ці ў адчаі, а хлопцы, хоць і выглядалі жывейшымі за бацьку, аднак былі таксама безуважныя, ні-

быта згубленыя. Тым часам Зазыба не збіраўся цурацца іх. Ён не ведаў яшчэ, пра што загаворыць зараз з яўрэем-нарыхтоўшчыкам, які чамусьці вярнуўся з эвакуацыі ў мястэчка; не здагадваўся ён наперад і пра тое, ці будзе мець гэтая зачэпка яго карысць, прынамсі, для той справы, аб якой ён цяпер хваляваўся, але загаварыць з Хонанам Зазыба край быў павінен, і гэта было не проста чалавечым жаданнем, а патрэбай, неабходнасцю; вось зараз ён параўняецца з Сыркіным і яго дзецьмі і спытае, зразумела, пра Цылю, бо яе няма з імі, ды і кабета тая гаварыла пра нейкае сіроцтва, таму лепшай зачэпкі і прыдумаць не прыдумаеш, калі б нават і знарок шукаў.

— Здароў, Хонан! — спыніўшыся насупраць, мякка гукнуў Зазыба, каб павітанне не было раптам знянацку.

Сыркін адразу пазнаў Зазыбу, хоць вялікага дзіва не было ў тым, бо мала каго наогул яўрэй-нарыхтоўшчык не ведаў з блізкіх і далёкіх вёсак, асабліва такіх прыкметных людзей, як гэты верамейкаўскі.

— Дзе ж твая Цыля? — спытаў Зазыба далей, як і думаў наперад запытацца.

— Няма Цылі,— хрыпла, нават некалькі абыякава адказаў Сыркін і адвёў убок вочы, быццам раней яшчэ правініўся ў нечым перад Зазыбам, але проста адчуваў сваю віну наогул, пра якую кожнаму льга было здагадацца.— Ужо няма Цылі,— дадаў ён, кідаючы словы ў пустату, але цяпер Зазыба выразна ўлавіў скруху ў ягоным голасе, акурат гэта быў моцны, хоць і стоены стогн.

Па ўсім было відаць, што Сыркін не меў патрэбы ў чужой спагадзе, і, можа, не таму, што не хацеў яе ад людзей; няйначай, цяпер ён знаходзіўся ў такім стане, калі проста бывае нават не да гэтага.

У самы момант, калі Зазыба збіраўся з далейшымі словамі, за спіной пачуўся знаёмы голас — аказваецца, тая кабета пералезла на вуліцу са свайго гарода цераз паркан, прыйшла следам.

— Не слухай яго, Хонан,— сказала яна, і Зазыба зразумеў, што голас яе па-ранейшаму здзеклівы, значыць, злосці сваёй кабета яшчэ не растраціла, таму нічога добрага далучэнне яе сюды не абяцала.— Гэта ж яны з тым кульгавым Шарэйкам, што краўцом у мястэчку, зязюлю гэту пасадзілі ў дом табе. Адкуль жа хоць ён, Хонан? Ці ведаеш?

Пачуўшы гэта, Сыркін адразу страпянуўся, павярнуў твар да Зазыбы, аднак не здзіўленне бліснула ў яго паразумнелых вачах, а чамусьці адкрытая няверлівасць, быццам ён да глыбіні душы быў уражаны пачутым і цяпер хацеў пераканацца ў адваротным.

Зазыба не сказаў на гэта Сыркіну ні слова, ён толькі шырэй расплюснуў вочы, акурат баючыся, што іначай нутром выдасць сябе: у ягоны разлік не ўваходзіла гаварыць пра Марылю з кім бы то ні было, таксама як і пра сваю прычыннасць да ўладкавання яе ў мястэчку.

— Дык адкуль гэты чалавек, Хонан? — нібыта спрабавала разбудзіць Сыркіна ўедлівая местачкоўка, няйначай, размова такая кабеце патрэбна была ўжо не столькі дзеля спагады, з якой яна звярталася да бяздомнага чалавека, ганьбячы ягоных крыўдзіцеляў,— колькі для задавальнення звычайнага самалюбства, якое зацяло ёй — от жа Сыркін, нябось, ведае гэтага вяскоўца, а таксама баіцца, не гаворыць!

Зразумеўшы, што местачкоўка не адступіцца лёгка, будзе доўга чаўпсці сабе вось так, пакуль не вырве ў Хоні адказу, Зазыба паспяшыў узяць на сябе размову.

— Не слухай ты яе, Хонан,— сказаў ён, зрабіўшы зморшчаны ад прыкрасці твар.— Табе тут зараз усяго нагаворыць! Ні я, ні Шарэйка не вінаваты, што так выйшла. Ды і ніхто не вінаваты. Цябе не было ў мястэчку, а хата пуставала. Ну, дзеўка і пасялілася ў тваю хату. Так што, бачыш... Магла чыю другую аблюбаваць, а выбрала тваю. І цяпер нічога не зробіш. Не чапацца ж табе праз гэта з немцамі, бо яна ж, мусіць, у іх служыць?

— І служыць, і...

— Ну, от,— нібыта ад радасці перабіў кабету Зазыба,— значыць, не трэба сядзець вам тут. Мазоліць вочы. Раз твая хата занята, перахадзі жыць з сынамі ў другую. Здаецца ж, у мястэчку вольных дамоў хапае.

Сыркін свядома заківаў галавой.

— Ну, то і ступай зараз жа,— падбадзёрыў яго Зазыба,— займай чый-небудзь дом з вашых бежанцаў ды і жыві, а то і праўда наклічаш... на сябе бяду якую.

Мусіць, дагэтуль Хонан нават і ў галаве не меў, што можна неяк абысціся ў мястэчку без свайго дома, што можна знайсці прытулак у іншым месцы, балазе апусцелых дамоў сапраўды хапала, але як сказаў пра гэта Зазыба, дык адразу нібыта павесялеў знутры —

акурат у непагадзь, проці ночы, атрымаў запрашэнне на начлег.

Між іншым, здавалася, жанчыну, якая не толькі прысутнічала тут, а і актыўна ўдзельнічала ў вырашэнні справы, не задавальняў такі зыход, таму яна ажно ступіла ў парыве наперад, стаўшы паміж Зазыбам і Сыркіным.

— Во, ён нарабіў шкоды, пазбавіў чалавека уласнай страхі, а я раптам вінаватая?

— Ніхто цябе не вінаваціць! — паціснуў плячамі Зазыба, акурат выказваючы гэтым сваё недаўменне.

— Не, не абдурыш! — не здавалася тым часам уедлівая местачкоўка.— Не такая я капуха, каб ты мяне вакол пальца абвёў! І ты, Хонан, не вер яму! Сама, на свае вочы бачыла, як вы з Шарэйкам курву гэту прывозілі сюды! Нават магу сказаць, калі гэта было! На спаса, во калі!

— Вярзеш абы-што,— спрабуючы суняць жанчыну, строга але, разам з тым і лагодна сказаў Зазыба.— Усё ты бачыла, усё ты чула. А між іншым, магла і памыліцца. Магла і не даглядзець як след.

— Памыліцца, не даглядзець,— крывячы губы і перадражніваючы словамі Зазыбу, як не залямантавала кабета.— Мне ж пакуль вочы не вырвала і вушы не пазатыкала!

— Ладна, дапусцім,— не губляючы разважлівага тону, паблажліва ўсміхнуўся Зазыба,— думаў, хоць гэтым выкліча ў жанчыны душэўнае ўтрапенне, каб звесці пасля гаворку да звычайнага чалавечага ладу, злашча што як грамадзянін Зазыба не мог не разумець, якія пачуцці кіравалі кабетай,— урэшце, яна гаварыла чыстую праўду; іншая справа, што яе праўда была не да месца, пагражаючы нанесці шкоду; з другога боку, гэтую недарэчную гаворку, якая з кожнай хвілінай перарастала ў звычайны лямант, трэба было край скончыць; таму Зазыба адкрыта спытаў: — Але якая табе карысць? Ну, няхай Хонан, яму ёсць пра што клапаціцца, а табе якая карысць?

— А што чалавеку няма дзе прытуліць дзяцей, дык...

— Вось гэта ўжо іншая гаворка,— паспяшаўся Зазыба,— калі ўжо так выйшла, што гаспадара не пускаюць у хату, то запрасіла б яго да сябе.

— Я? — як не жахнулася местачкоўка.

— А чаму б і не?

— Дык...

— Бачыш, Хонан,— скарыстаўшы яе збянтэжанасць, звярнуўся да Сыркіна Зазыба,— я праўду табе кажу, не сядзі тут, ідзі куды-небудзь са сваімі хлопцамі ў вольную хату, а то гэтыя жаласлівыя местачкоўцы яшчэ доўга будуць душу табе атручваць.

Яўрэй зноў, згаджаючыся, заківаў галавой.

Тады і жанчына акурат спахапілася, што чужы чалавек мае большую рацыю, пачала падказваць:

— Млынароў дом, здаецца, таксама пусты дасюль.— Да таго ж Зазыбава прапанова адпавядала цяпер і яе жаданню — а раптам і праўда давядзецца весці гэтых яўрэяў у дом к сабе?

Не чакаючы бацькавай каманды, Хоніны хлопцы пабралі з муравы рэчы, якія прынеслі з сабой. Адарваўся ад зямлі і сам Сыркін, пакутліва разгінаючы натруджаныя, пабітыя, а за час сядзення і адубелыя, ногі.

— А ведаеш, з кім мы ішлі дарогай? — Выраз твару цяпер у яго быў такі, усё роўна як адно гэта ўвесь час ён і меў у галаве і зусім не слухаў, аб чым спрачаліся над ім і гэты верамейкаўскі мужык, і гэтая знаёмая кабета, лічы, суседка, бо іхнія двары мала што не стаялі страха да страхі.— З Чубарам вашым, вось з кім!

— З Чубарам? — не паверыў Зазыба.— Калі гэта было? Сёння?

— Не, раней. Мы ў Мяльку затрымаліся былі, пажылі трохі, а ён далей пайшоў.

*(Заканчэнне рамана ў III томе.)*

# КАМЕНТАРЫІ

У другі том выбраных твораў Івана Чыгрынава ўвайшлі раманы «Плач перапёлкі» і «Апраўданне крыві» (пачатак).

Раман «Плач перапёлкі» — першы твор з цыкла раманаў беларускага пісьменніка аб Вялікай Айчыннай вайне. Упершыню цалкам пабачыў свет у часопісе «Маладосць», 1970, №№ 10—12. Асобным выданнем выйшаў у 1972 г. (выд-ва «Мастацкая літаратура», Мінск). У 1978 г. на мове арыгіналу выпушчаны другім выданнем (таксама ў выд-ве «Мастацкая літаратура», Мінск).

Гэты раман Івана Чыгрынава неаднаразова выдаваўся на розных мовах. На рускай — «Дружба народов», 1972, №№ 1—2, у выд-ве «Советский писатель» (1972, 1976, 1980), у «Воениздате» (1980), у выд-ве «Известия» (1981). На ўкраінскай — у выд-ве «Художньої літературі» (1980), на літоўскай — у выд-ве «Вага» (1978), на латышскай — у выд-ва «Ліесма» (1980), на армянскай — у выд-ве «Саветакан грох» (1979), на малдаўскай — у выд-ве «Літаратура артыстыке» (1981), на туркменскай — у выд-ве «Туркменістан» (1980). У 1981 г. раман надрукаваны ў Балгарыі (выд-ве «Народна култура», Сафія).

За раманы «Плач перапёлкі» і «Апраўданне крыві» Іван Чыгрынаў Саюзам пісьменнікаў СССР і Галоўным палітычным упраўленнем Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога флоту ўзнагароджаны сярэбраным медалём імя А. А. Фадзеева.

Паводле рамана «Плач перапёлкі» створана п'еса, якая пастаўлена на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў 1980 г.

Раман «Апраўданне крыві» — другі па ліку твор з цыкла раманаў аб Вялікай Айчыннай вайне. (Каментарыі гл. у наступным томе.)

# ЗМЕСТ



**ИВАН ГАВРИЛОВИЧ ЧИГРИНОВ**

**Избранные произведения в трех томах**

**ТОМ 2**

Романы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. Дз. Куліш. Мастак Н. У. Суставa. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар А. В. Барадзіна. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 1914
Здадзена ў набор 06.01.84. Падп. да друку 21.08.84. АТ 01221. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 25,20+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 25,31. Ул.-выд. арк. 26,47. Тыраж 12 000 экз. Зак. 52. Цана 2 р. 10 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.